

В. ЯНУШКЕВІЧ. Памяці Лявона Баразны (бронза, 1989).



ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ

# Маладосць

## 7·90

(449) ЛІПЕНЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

Выдаецца з 1953 года

МІНСК
Выдавецтва ЦК КП Беларусі

# У нумары

## Паэзія • Проза

ЖАЛЕЗКА Юрась. Вершы . . . . . 4
РУБІН Іван. Вершы . . . . . . . . 6
ШАУЦОУ Алесь. Заходзьце, калі ласка... Форма нумар нуль. Апавяданні . . . . 9
ФІЛІМОНАВА Любоў. Вобраз. А ці растуць зімой цюльпаны? Апавяданні . . . 20
МЯТЛІЦКІ Мікола. Вершы . . . . . . 39
КАЦЮШЭНКА Міхась. Сітуацыя. Фрагменты з рамана . . . . . . . 42
МЕЛЬЧАНКА Таіса. Вершы . . . . . . 100
МІНЧАНКА Мікола. Вершы . . . . . . 102
ГІГЕВІЧ Васіль, ЧАРНОУ Алег. Сталі воды горкія. Дакументальная аповесць 104

## Публіцыстыка

ВАЛАСЕВІЧ Ігар. Там, дзе цячэ Бяроза... . . 120
ВАСЬКОУ Мікалай. Не ворагі, а партнёры. . 137
БУЛАЦКІ Рыгор. Мы ў нябёсах лятал адных... . . . . . . . . . . . . 142
ПАУЛАВЕЦ Дзмітрый. «Мілоснік навукі і мудрасці» . . . . . . . . . . . . . 149
КАРОТКІ Уладзімір. Дзве Соф'і і Януш... . . 155
БАГДАНАВА Галіна. Пасля вернісажу . . . 159
Клуб «Ён і Яна» . . . . . . . . . 170
Папытай у кнігарні . . . . . . . . 174
Нашы аўтары . . . . . . . . . . 176

Галоўны рэдактар
**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**

Рэдакцыйная калегія:
**Мікола АЎРАМЧЫК**
**Генадзь БУРАЎКІН**
**Васіль БЫКАЎ**
**Ніл ГІЛЕВІЧ**
**Леанід ДАЙНЕКА**
**Генрых ДАЛІДОВІЧ**
(нам. галоўнага рэдактара)
**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ**
**Аляксей ДУДАРАЎ**
**Васіль ЗУЁНАК**
**Пятрусь МАКАЛЬ**
**Віктар МАРКАВЕЦ**
**Іван НАВУМЕНКА**
**Міхаіл ПАДГАЙНЫ**
**Пімен ПАНЧАНКА**
**Алесь САВІЦКІ**
**Янка СІПАКОЎ**
(адказны сакратар)
**Люба ТАРАСЮК**
**Уладзімір ЮРЭВІЧ**

Вокладка **А. Карповіча.**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы— **Р. Сітніца. Зона журбы. З серыі «Горкі смак палыну»** (алoвак, 1987—1988).

На шмуцтытуле публіцыстыкі—фота **В. Ждановіча.**



# Паэзія Проза





## *Юрась Жалезка*



У гэтую цяжкую хвіліну
Я прыйшоў паразмаўляць з табой,
Сын мой...
Калі цябе балюча раніла
Людская подласць,
Дык ведай:
Яна існуе ў нашым свеце.
Сын мой, ты павінен
Вытрываць гэты боль
І застацца самім сабой...
Хай гэта й цяжка...
Не трэба помсціць.
Паспрабуй паслухаць:
У тым, што іншы раз
Нехта робіць подла,
Ёсць частка віны таксама
І нашай з табой,
І нашых бацькоў...
Вельмі ж мала
Стопрацэнтных нягоднікаў.
І паслухай яшчэ:
Кожны чалавек, сын мой,
Здольны верыць у добрае
І рабіцца лепшым.
Павер у гэта...
Часам вайна выйграецца
Кветкаю ў ствале стрэльбы.
Гэта самая лепшая перамога.



Вельмі старая і змрочная ідэя —
Звязваць моц і мужнасць чалавека
Са здольнасцю перамагчы іншага,
Падпарадкаваць яго,
Узняцца над ім.
Гэтая ідэя дапамагала
Рабіць з чалавека сродак, жывёлу, забойцу.
Разам з іншай хлуснёй
Яна часта дасягала мэты.
Ці не зашмат ужо было праліта крыві?
Ці не зашмат было і ёсць зламаных лёсаў?
І што ў выніку?
Калі ты хочаш праверыць
Сваю моц і мужнасць, хлапчына,
Паспрабуй перамагчы самога сябе,
Усе цяжкасці лёсу,
Паспрабуй кагось ашчаслівіць,
Паспрабуй знайсці добрую справу,
Паспрабуй яе здзейсніць,—
І ты ўбачыш сваю моц.

### РОЗДУМ

Я чалавек
І ты чалавек
У кожнага з нас свой лёс
У кожнага з нас свая праўда
Мы не аднолькавыя
Няма аднолькавых людзей
Але ёсць
Агульначалавечая праўда
І калі дзеля яе
Мы здолеем аб'яднацца
Я адзін магу шмат
Удвух
Мы можам у дзесяць разоў больш.

### БРУД

Ты ляснуўся
Нечакана
З разбегу і тварам у бруд
Табе няёмка і горка
Амаль што адчай
Ты здолей зразумець простую ісціну
Моцны не той
Хто ніколі не падае
Моцны той
Хто кожны раз падымаецца
І крочыць далей.





*Іван Рубін*



Рэлігія любві і брацтва,
Я твой палоннік і святар.
Прымаю гэты боскі дар
Не ў знак прызнання і сваяцтва.
Не ад тэўтонаў і татар
Іх дзіды вострыя і стрэлы,
А камень родны і амшэлы
Кладу ў парог, як на алтар.
Астыне меч у цёмных логнах,
Пакуль шчыруе зноў званар.
Зямля мая ад рабства стогне,
Запалынеў, здзічэў цвінтар.
Прамчацца ўзмыленыя коні.
Застаўся ззаду родны дом.
Трывожны ўзмах святой пагоні —
Узмах параненым крылом.

## РАСКАЯННЕ

Родны парог... Побач вербы... Сула...
Толькі падмурак адзін і застаўся.
Памяць гаркавая зноў паплыла
Выраем познім над ціхай заставай.

Сцежкаю плыткай за лес на клады
Хутар знямелы даўно адышоў.
Выцекла колькі бяды і вады,
Снегу нападала, выйшла дажджоў.

Што ж ты глядзіш з памутнелай слязой,
З сэрцам халодным, душой апусцелай?
Мала сцябалі вось гэтай лазой,
Рана на волю цябе адпусцілі.

Вось і вярнуўся... Ды пуста вакол.
Ледзьве душа твая цепліцца ў целе.
Падае ціха лістота на дол.
Буры прайшлі, і гады праляцелі.

## ДВА БЕРАГІ

Белы бераг надзеі,
Чорны бераг тугі.
Памяць ціха радзее
За наміткай смугі.
Сонца сыдзе у вечар
За акраец сяла.
Прытамілася вечнасць
І ў нябыт паплыла.
Сірацінаю хутар
Дажывае свой век.
Як пракляты, прыкуты
На знявагу і здзек.
Прытамлюся, прысяду
На пахілены плот.
Не прызналі прысады,
Не пазнаў я варот.
І дарога чужая
Зарастае травой.
Дык чаго ж прыязджаю
Я на гэты сувой?
Мо вадзіцы напіцца
Пад старою вярбой?
Ля магіл памаліцца
Хоць счарсцвелай душой?
Ды няма мне нядзелі.
І гады — як кругі.
Дзе той бераг надзеі,
Чорны бераг тугі?



## ВЯСЕЛЛЕ 41-ГА ГОДА

Той вясковы аркестрык —
Цымбалы, гармонік і бубен —
Іграў ён ля новага зруба.
Музычным ягоным рэгістрам
Хвалілася нават акруга.
Іграў на фашысцкім вяселлі
У скон сорак першага года.
Маўчала журботна прырода.
Сяльчане стаялі паўкругам,
А двое на бэльках віселі.
На тым незвычайным вяселлі
Дачку аддаваў за бурмістра
Былы старшыня сельсавета.
Крычаў ён:
«Магіла Саветам!»
І бачыў сябе ўжо міністрам
Той вольнай, як ёсць, Беларусі.
Ківалі галовамі ў скрусе
Бабулі. І дзеці маўчалі.
І з нейкім надрывістым жалем
Ігралі панура музыкі.
Такога не чуў свет вялікі.
Ды раптам усе анямелі.
Матыў загучаў так знаёмы.
І кожны яго распазнаў —
Аркестрык іграў
Ін
тэр
на
цы
я
нал!
На тым незвычайным вяселлі...
...Назаўтра музыкі віселі.

## ЯШЧЭ...

Яшчэ, відаць, жыве той кат,
Які хадзіў ля Курапат.
Як інквізітар, ладзіў плаху,
Народ кляйміў, кадзіліў страхам
Чужую думку і пратэст,
Спраўляў крывавы страшны фэст.
За боты «хром» і галіфэ
Гатовы бацьку быў прадаць,
Хрысціў сваю й чужую маць...
Яшчэ, відаць, жыве той кат,
Які крыві быў вельмі рад,
Выносіў тройкай прыгавор,
Штабеліў з трупаў ён касцёр
І над людскім вялікім горам
Кружыў, як чорны глюга-воран...
Яшчэ, відаць, жыве той кат,
Які судзіў нат дзіцянят
За каласок, падняты ў полі,

За каласочак у прыполе.
Няхай яго унукаў доля
Не стрэне чорная ніколі...
Яшчэ, відаць, жыве той кат,
Які хадзіў ля Курапат,
Які крыві быў вельмі рад,
Які судзіў нат дзіцянят...
Навекі будзе ён праклят...

## ЗЯЛЁНЫ ЛІСТ

Зямны зялёны ліст.
Жыцця зялёны сцяг.
Пачатак і працяг.
Птушыны спеў і свіст.

Празрыстая вада.
Бярозавы прастор.
Хай зломіцца тапор.
І згіне уладар.

А прыйдзе чалавек —
Сапраўдны гаспадар.
Жыцця бясцэнны дар
Ён зберажэ навек.

Нашчадак мой, жыві
І прадаўжай свой род,
Пакуль сярод нягод
Зялёны ліст жывы.

## ВЕНЕРА

Так позна Венера ўзышла.
Скроні даўно пабялелі.
Сумёты зіма намяла
На нашым далёкім вяселлі.

Няўжо гэта толькі быў сон
Сярод белагрудага маю?
Што страціў і што цяпер маю,
Забыты вянчальны мой звон?

Трымае надзейна сіло,
Як тое святое прычасце.
І трэба ж сустрэцца было,
Каб потым назваць гэта шчасцем.

Каб потым узмах ад вясла
Лічыць выпадковасцю лёсу.
У свеце маім безгалосым
Так позна Венера ўзышла.



*Упершыню ў „Маладосці“*

*Алесь Шаўцоў*

АПАВЯДАННІ

# ЗАХОДЗЬЦЕ, КАЛІ ЛАСКА...

Сяржук падыходзіў да інтэрната.

Ён спяшаўся, яму ўвесь час хацелася пабегчы, але штосьці стрымлівала. «А добра ўсё ж такі прайшоў мітынг, як там ні было,— падумаў ён.— Вось толькі Таня, відаць, пакрыўдзілася».

Яму, як піць, захацелася хутчэй убачыць каханую. Ужо блізка свяціліся інтэрнацкія вокны, і Сяржук, узрадаваны, прыпусціў ледзь не бягом.

Перад уваходам у інтэрнат Сяржук на хвілю спыніўся і агледзеўся навокал. Звычайна, каб трапіць сюды незаўважаным, ён прыстройваўся каму-небудзь услед і, пакуль вахцёр звяраў чыйсьці пропуск, паспяваў прашмыгнуць побач. Але ў гэты момант нікога не было відаць, а чакаць яму не хапала цярпення, і ён вырашыў прабірацца адзін.

Адчыніў дзверы і павольна, з выглядам старажыла, зайшоў у вестыбюль. Вахцёрка, старая бабуля ў накінутай на плечы вязанай кофце, сядзела за квадратным абшарпаным сталом і чытала газету. Пачуўшы крокі, яна падняла галаву і праз акуляры, якія трымаліся на самым кончыку носа, прыжмурана ўтаропілася ў Сержука.

— Добры вечар! Што новага, як здароўе?

Сяржук палічыў: чым больш ён нагаворыць бабулі слоў, тым большы шанец, што яна забудзе спытаць пропуск. Але вахцёрка, не звярнуўшы ўвагі ні на прывітанне, ні на тое, што цікавяцца яе здароўем, паднялася з-за стала.

— Ты куды, хлопец?

— Як куды, бабулька? Дахаты,— здзівіўся Сяржук.

— Пропуск свой паказвай,— уладна загадала вахцёрка.

— Пропуск? Ды ёсць у мяне. Я ж тут жыву,— яшчэ больш здзівіўшыся, паспрабаваў растлумачыць Сяржук, але вахцёрка, не даслухаўшы, забурчэла:

— Давай, давай, а то бач ты яго, разагнаўся, шустрэц.

Сяржук зладіў яе радасна-ненавісны позірк і, крыху схамянуўшыся, пачаў корпацца ў кішэнях.

«Што рабіць? Цяпер яна ўжо не адстане. Мо паказаць ёй пропуск са свайго інтэрната?»

Зірнуў на бабулю. Тая ўважліва сачыла за ўсімі яго рухамі. Сяржук памацаў у задняй кішэні і ціха, як бы сам сабе, загаварыў:

— Дзіўна, тут жа быў. Мо ў пакоі забыў?

Ён з надзеяй паглядзеў на вахцёрку.

— Без пропуска не пушчу,— зразумеўшы яго позірк, выказалася тая.

— Я ж свой, адсюль. Вы што, не верыце? — трохі падаўшыся і спадзеючыся, што, можа, пашкадуе злосніца, прапусціць, стаў тлумачыць Сяржук.

— Не,— адрэзала вахцёрка.— Чакайце. Вось хто-небудзь пойдзе, папрасіш, каб прынёс твой пропуск. Ты ў якім пакоі жывеш?

— У шасцісот дванца...

Сяржук асёкся і тут жа пашкадаваў, што назваў нумар Танінага пакоя.

— Ну вось. Зойдуць і прынясуць,— супакоілася бабуля і, сеўшы, зноў узяла ў рукі газету.

— Ды хто тут пойдзе ў такі час? — выкарыстоўваючы свой апошні аргумент, загаварыў Сяржук.— І суседзяў, напэўна, дома няма.

— Чакай!

— Няма калі,— Сяржук пакрочыў да лесвіцы.

— Куды, куды? — закрычала ўслед вахцёрка, а ён ужо з лесвіцы адказаў:

— Дамоў, бабуля. Куды ж яшчэ?

Хутка, на адным дыханні, узляцеў на шосты паверх і пайшоў па калідоры.

«Вось прычапілася,— весела падумаў Сяржук, пачуваючы тут сябе вальней, але, успомніўшы, што назваў нумар пакоя, устрывожыўся.— Дарэмна я ляпнуў, яшчэ пашле каго-небудзь праверыць».

На паверсе было гаманліва. Аднекуль чулася музыка, бразгалі дзверы, у другім канцы калідора некалькі п'яных галасоў гарланілі штосьці падобнае на песню. Каля ліфта ляжаў вялікі груд смецця і разносіўся такі пах, што Сяржук гідліва зморшчыўся.

«Чисто не там, где метут, а там, где не мусорят»,— успомніўся яму плакат на ўваходзе ў інтэрнат, і Сяржук пасміхнуўся. «Чыста там, дзе гаспадар»,— падумаў ён, спыняючыся ля патрэбнага пакоя. Крыху пастаяў перад дзвярыма і ціха пастукаў. Яны адразу адчыніліся, і Сяржук убачыў Таню.

«Чакала!»— хутка пранеслася ў галаве радасная думка, і ён, усміхнуўшыся ёй насустрач, павітаўся:

— Добры вечар!

Таня, адною рукой трымаючыся за ручку, а другою папраўляючы валасы, стаяла на парозе надзьмутая і ўглядалася ў яго твар пакрыўджанымі вачыма. Ні слова не сказаўшы, адышлася на сярэдзіну пакоя і села на ложак. Сяржук прайшоў услед, зачыніў за сабою дзверы і пачаў распранацца.

Пасля халоднай вуліцы ў пакоі было цёпла і ўтульна. Настольная лямпа на тумбачцы цьмяна асвятляла пакой, і ад гэтага па сценах распаўзаліся цені.

Сяржук прыгладзіў узлахмачаныя валасы перад люстэркам на сцяне, павярнуўся да Тані і вінавата загаварыў:

— Пакрыўдзілася, Танюшка? А я ледзь праскочыў,— паскардзіўся ён, але Таня нават не варухнулася. Памаўчаў крыху і дадаў: — Даруй, калі ласка. Я незнарок спазніўся, так выйшла.



— Нібы першы раз,— нарэшце азвалася яна.—Ты ў колькі абяцаў прыйсці, а колькі цяпер? Паглядзі, паглядзі на гадзіннік! А я цэлы вечар адна, як дурніца, павінна сядзець і думаць, што з табой здарылася?

— Я і сам не думаў, што так доўга будзе. А ведаеш, як там цікава было? Дарэмна ты адмовілася пайсці. Што там рабілася. Жах!

— Табе заўсёды цікава там, дзе мяне няма,— у Таніным голасе не прападала крыўда, і Сержуку здалося, што яна зараз заплача. Ён апусціўся на ложак побач і прыхіліў яе да сябе. Таня схавала твар на яго грудзях.

— Я так хвалявалася за цябе,— загаварыла яна.— Думала, што з табой штосьці страшнае адбылося, пабілі ці куды забралі. Тут дзяўчаты раней прыехалі з мітынгу і расказалі, што там дзеецца, а цябе ўсё няма і няма.

— Кінь ты, дурненькая, што са мной будзе? Я шчаслівы. Мне маці казала, я ў кашулі нарадзіўся. Так што мне не страшны ні цар, ні бог і ні герой.

— Ага. Расказвай казкі.— Таня падняла галаву і ўсміхнулася, гледзячы на яго.

— Дарма не верыш, чыстая праўда,— ён пакруціў галавой і раптам, нібы штосьці ўспомніўшы, нахіліўся бліжэй да Танінага вуха і зашаптаў: — А хочаш, скажу па сакрэту нешта цікавае-цікавае?

— Хачу,— Таня заціхла ў чаканні.

— Табе ідзе, калі ты крыўдуеш. Ты такая сур'ёзная і... прыгожая.

Яна радасна засмяялася і ўжо скрозь смех адказала:

— Дык што, раш мне заўсёды такою быць?

— Не, — засмяяўся і Сяржук,— але ўлічы.

— Добра, але і ты ўлічы, што больш я чакаць не буду. Прыйдзеш, а мяне няма,— Таня з загадкавай усмешкай зірнула на яго.

— А куды ж ты дзенешся? — здзіўлена запытаўся ён, зразумеўшы, што гэты пераход на жартаўлівы тон размовы азначае: мір адноўлены. Ён з палёгкай уздыхнуў і дадаў: — Калі хочаш, можаш пайсці да сяброўкі ў госці. Хвілін на дзесяць, але не больш.

— Дазваляеш? Дзякуй хоць за гэта,— усміхнулася Таня і спытала яго: — Есці хочаш?

— Не вельмі,— схлусіў Сяржук: яму не хацелася выпускаць яе з абдымкаў. Паснедаўшы толькі раніцай, ён нікуды не паспеў зайсці падсілкавацца.

— Хлусіш! Я ж ведаю — хочаш,— Таня ўстала з ложка і падалася да тумбачкі, якая стаяла насупраць, ля другога ложка.— Я хуценька,— пакорпаўшыся там, сказала яна.— Схаджу толькі на кухню. Добра?

Сяржук згодна кіўнуў у адказ і, калі Таня выйшла, узяў у рукі часопіс, які валяўся на стале. Пагартаў, але чытаць не хацелася. Прытуліўся да сцяны і пачаў чакаць Таню.

Яна вярнулася хвілін праз дваццаць, несучы перад сабою патэльню, на якой штосьці сквірчэла.

— Зачакаўся? — яна пяшчотна зірнула на яго.— Зараз будзем есці. Нарэж хлеба, калі ласка. Ён у тумбачцы, на самым сподзе ляжыць.

Сяржук перасеў да стала, парэзаў хлеба, і яны пачалі вячэраць. Таня штосьці расказвала, а ён бяздумна слухаў, закаханым позіркам пазіраючы на яе.

...Калі пачуўся стук у дзверы, яны яшчэ не спалі. Таня прыўзнялася на ложку, абапёршыся на локаць, і застыла, услухоўваючыся.

— Хто гэта там? Позна ўжо.

— Так хтосьці цягаецца. Можа, хлопец які да цябе,— пажартаваў Сяржук.

— Перастань. Каму яшчэ не спіцца?

— Хто яго ведае? Мо каму хлеб ці патэльня спатрэбілася? — выказаў здагадку ён.

Стук паўтарыўся. Загрукалі яшчэ мацней, са злосцю.

— Адчыніць ці не?

— Як хочаш.

Таня паднялася. Накінула на сябе халат і выйшла з пакоя ў блок, прычыніўшы дзверы. Сяржук прыслухаўся. Шчоўкнуў замок уваходных дзвярэй, і адразу пачулася:

— Ты чё? Оглохла? — голас быў мужчынскі, і Сяржук пазнаў па ім Вазовіча, старшыню студсавета інтэрната.

«Вось толькі яго тут не хапала. Дурань жа я, ох дурань! Гэта вахцёрка яго паслала, а я зусім забыўся!»

— Я спала. Што вам трэба? — Танін голас даносіўся ледзь чутна.

— Чё надо, то и надо. А чё это ты так испугалась? «Бабки», что ли, печатаешь? А?

Вазовіч засмяяўся, і Сяржук зразумеў, што з ім яшчэ хтосьці. «Чорт. Прынесла іх. Не трэба было адчыняць»,— зноў пачаў сябе сварыць Сяржук, шукаючы ў цемры адзенне.

— Прыходзіць трэба ўдзень, а не ноччу,— загаварыла Таня, але Вазовіч перапыніў яе:

— Калі хочам, тады і прыходзім.— Пакажы-ка, што тут у цябе?

Дзверы адчыніліся. Паласа святла выхапіла з цемры Сержука, які ў гэты момант апранаўся.

— О, дык гэта ў цябе заяц! Вахцёрка казала, а я не паверыў. Паглядзім, хто такі?

Успыхнула лямпачка, і Сяржук прыжмурыў векі. Святло моцна разанула па вачах.

— Ого! Каго мы бачым! Глянь, Віцька, якія людзі. На каго б ніколі не падумаў,— Вазовіч ухмыляўся і паказваў на Сержука пальцам. Услед за ім у пакой уціснуўся Сіверны, які таксама засядаў у нейкім камітэце ў інстытуце. Таня зайшла і стала збоку, прытуліўшыся спінай да сценнай шафы. Вочы яе з трывогай сачылі за Вазовічам.

Сяржук узяў з табурэта кашулю, не спяшаючыся апрануў і прысеў збоку на тумбачку.

«Злодзея злавілі»,— усміхнуўся ён у душы.

Вазовіч прайшоў да стала і, апусціўшыся на табурэт, махнуў рукой Сівернаму:

— Сядай, Віцька. Не саромейся.

Ён выцягнуў цыгарэту з кішэні штаноў, запаліў і павярнуўся да Сержука.

— Рамантычная гісторыя. Ну што, нацыяналіст, днём мітынгуеш, а ноччу з бабамі прапаганду вядзеш,— ён зарагатаў.— Да, распуста — справа добрая, але ты, як я разумею, тут знаходзішся на нелегальным становішчы? Ці не так?

Сяржук маўчаў. Ён крыху ведаў гэтых двух. Неяк на пачатку вучобы яму прыйшлося сутыкнуцца з імі па камсамольскіх справах, і ўражанні ад тых сустрэч засталіся самыя кепскія.

«З'явілася ліха,— падумаў ён.— Заўтра яны данясуць у дэканат, і пачнуцца разборкі. Хто? Як? Як так можна?»





Сяржук дастаў з пачка, які ляжаў побач, цыгарэту і таксама запаліў.
— Ну, што маўчыш? — Вазовіч позіркам пераможцы ўглядаўся ў Сержука.— Давай пагаворым.
— Пра што? — парушыў сваё маўчанне Сяржук.
— Як пра што? У цябе заўсёды адна тэма. Вось і давай.
— Штосьці не хочацца. Лепш другім разам,— прапанаваў Сяржук.
— Чаму другім? Яго можа і не быць. Раскажы ўжо, чаго вы там навыдумлялі? А то ўсе навокал толькі пра вас і гавораць: яны сказалі, яны зрабілі, ой-ёй-ёй, такія людзі... Дык прасвяці ты нас, цёмных, га,— вусны Вазовіча ўздрыгвалі ў іранічнай усмешцы.
— «Вячэрні Мінск» чытай, там усё напісана,— у тон яму адказаў Сяржук.
— Газета — гэта адно, а вось з прадстаўніком пагутарыць — такое не часта даводзіцца.
«Чаго прычапіўся? Ішоў бы ты адсюль»,— злосць усё больш апаноўвала Сержука, але ён стрымліваў сябе. У душы цяплілася надзея, што, можа, як-небудзь абыдзецца па-добраму.
— Ну, што зноў маўчыш? Не бойся, я табе нічога не зраблю.
— А чаго мне баяцца? Я на сваёй зямлі,— пасміхнуўся Сяржук.
— А гэта хто не на сваёй? Можа, мы, Віцька? — Вазовіч павярнуўся да Сівернага, потым зноў да Сержука: — Ну, яшчэ што-небудзь. Ужо цяплей. Прапагандуй далей, можа, і я да вас падамся.
Ён ухмыляўся.
«Патрэбен ты камусьці»,— злосць нарастала, як Сяржук ні спрабаваў супакоіцца.
— Ну, а з моваю вашай як? Усіх прымусіце вывучаць, ці можна будзе і так як-небудзь?
— Жыццё прымусіць, вывучыш. А нам прымушаць? Навошта. Асабліва такіх, як ты,— не ўстрымаўся Сяржук.
— Слухай, ты. Табе не здаецца, што вас сабралася нейкая жменька дзівакоў і патрабуе невядома чаго? А гэта бачылі? Га? — Вазовіч ускочыў і з дзікай злосцю круціў перад Сержуком трыма складзенымі пальцамі. Твар яго ўвесь пакрыўся чырвонымі плямамі.
— Ты — ідыёт, і размова твая ідыёцкая. Пайшоў вон адсюль,— Сяржук падхапіўся і стаў перад Вазовічам, гледзячы яму прама ў вочы.
— Што? Мяне? Ці не забыў ты, хто я такі? — узвыў Вазовіч.— Ды я цябе, цябе...
Сержуку стала агідна. Ён адступіў крыху назад, але Вазовіч нечакана ўдарыў яму пад дых. У Сержука зацяла дыханне, і ён ледзь прадыхнуў, замахнуўся, каб даць у адказ. Але ён не адразу ўцяміў, што яго ззаду абхапілі рукамі.
«Сіверны. Вось гад, скарыстаў момант»,— ён паспрабаваў выкруціцца, але чужыя рукі ціснулі яшчэ мацней.
Вазовіч, зласліва ўхмыляючыся, падскочыў да Сержука і з разбегу ўдарыў кулаком у твар. Удар прыйшоўся па пераноссі, і ў Сержука з воч сыпанулі іскры. Адчуў, як з носа пацякла кроў. Ён тарғануўся, але наступны ўдар пад дых сагнуў яго папалам. Вазовіч адскочыў і нагой пачаў біць у твар.
— Сволач. Я табе пакажу, як мяне абражаць, пакажу, пакажу,— шаптаў ён і біў нагой.— Так размалюю, мама родная не пазнае.
У гэты момант Таня, якая ўвесь час стаяла нерухома каля шафы і па-



зірала на ўсё з жахам у вачах, кінулася да Вазовіча. Схапіла яго за валасы:
— Адпусціце яго. Не чапайце. Звяры, падонкі!
Вазовіч завыў ад болю і, схапіўшы Таню за рукі, шпурнуў яе. Таня ўпала на ложак і скурчылася.
— Усё, Віцька. Кідай гэтага чмура, хопіць з іх. Пайшлі.
Сіверны адпусціў Сержука, і той мяшком споўз на падлогу.
...Ачуняў ён, калі на вуліцы пачало святлець. Таня сядзела ля яго з кубкам у руцэ і пырскала вадой у твар. Ён паглядзеў на яе змарнелы, з чорнымі кругамі пад вачамі твар, хацеў усміхнуцца, але вусны не слухаліся...

# ФОРМА НУМАР НУЛЬ

Юрась сядзеў у вагончыку, дзе іх аддзяленне пераапраналася ў рабочае адзенне, і думаў. Вось толькі малады салдат-першагодак быў тут і, задыхаючыся ад хуткага бегу, сказаў, што яго клічуць «дзяды» да капцёркі, куды хлопцы прывялі аднекуль дзяўчыну.
Ён адразу не ўцяміў, якую дзяўчыну і што гэты зялёны вярзе, але той паўтарыў сваё і выскачыў з вагончыка. Юрась не стаў клікаць назад, усё адно не вернецца. Першагодка, відаць, Сямён паслаў, а таго маладыя вельмі баяліся, бо ён за спазненне на некалькі хвілін ці за недакладна выкананы загад адразу строга караў. Юрась не чапаў маладых, шкада было. У такіх выпадках яму прыходзіў на ўспамін свой першы год службы, калі самому прыйшлося цярпець здзекі «дзядоў» і калі апускаліся рукі.
«Цяпер што, засталося яшчэ сем месяцаў і шаснаццаць дзён да загаду»,— падумаў ён, гледзячы на маленькі каляндар, які быў прыклеены да шыбы і ў якім яны закрэслівалі кожны мінулы дзень. Працаваць ужо не трэба, маладыя ўсё робяць, так што галоўнае цяпер датрываць як-небудзь да «дэмбеля».
Іх аддзяленне цягнула тэлефонную сувязь да нядаўна пабудаванага штаба палка. Працавалі тут ужо трэці месяц, але рабоце канца-краю не бачна. Ніхто не спяшаўся: ні камандзіры, ні яны тым больш. Казалі: галоўнае, каб да зімы ўправіцца, і добра. Камандзір узвода, прапаршчык Саланчук, прыходзіў да іх на аб'ект зрэдку, раз у тыдзень, а то мог і зусім не з'яўляцца месяц.
Юрась да ўсяго даўно звыкся і мала чаму мог падзівіцца. Бывала, выпівалі, хадзілі ў «самаходы», і для іх гэта стала звычайнай з'явай, абы толькі грошы былі. Пітво, а дакладней, спірт, прывозілі два капцёры з суседняй авіячасці. Пад'язджалі да аб'екта на белых «Жыгулях» і бралі па чатыры рэ за бутэльку. Праўда, спірт быў тэхнічны, пасля яго з рота цягнула пахам гумы, але ўсё ж так было і лепш: цяжка ўнюхаць, што яны нешта пілі. З «самаходамі» таксама проста. Раніцай, калі трэба было, пераапраналіся ў цывільнае адзенне, якое многім з іх прыслалі бацькі, і цераз парк, які стаяў

зялёнаю сцяной ля аб'екта, падаваліся ў горад. Галоўнае — не патрапіць на патруль са сваёй часці, але пакуль ім усім шанцавала.

А вось дзяўчына тут, у іх на аб'екце,— гэта было штосьці новае для Юрася. Адкуль яна ўзялася? Моцнае неадольнае жаданне зірнуць на яе хоць краем вока ахапіла яго. Ён падняўся і выйшаў з вагончыка.

На вуліцы было горача. У небе паліла яркае летняе сонца. З раскапанай зямлі вакол новабудоўлі тырчэла прысохлая трава і слалася пажоўклым дыванам. Парк, зялёны і прывабны ў такія дні, бачыўся як на далоні і цягнуўся да самага краю небасхілу.

«Вось бы цяпер паляжаць дзе-небудзь на пляжы ды пазагараць, як робяць усе нармальныя людзі»,— падумаў Юрась.

Ён падышоў да трубы, з якой няспынна выцякала вада, далёка разліваючыся па зямлі, і перасмяглымі вуснамі прыпаў да яе. Абцёрся рукавом гімнасцёркі і пакрочыў да капцёркі.

Капцёрка (ці, лепей сказаць, вагончык, толькі значна меншы, чым той, у якім пераапраналіся) знаходзілася за скруткамі тэлефонных дратоў. Скруткаў гэтых было шмат, іх панапрывозілі сюды яшчэ ранняй вясной, хоць нямала дабра яны паспелі ўжо збыць «налева», тавар быў ходавы. Аб іх капцёрцы мала хто ведае з начальства, акрамя ўзводнага. Яны сказалі, што будуць у ёй хаваць інструмент, каб не пакралі, і той згадзіўся, нават здабыў ім недзе замок, што было вельмі дарэчы. Хлопцы збілі ля сцен нары, панацягалі з роты старых бушлатаў, і атрымалася даволі ўтульная схованка. Калі хацелася паспаць, зачыняліся, ставілі маладога на варце і спакойна адпачывалі.

Каля капцёркі ўжо сабраліся «дзяды», Юрась з'явіўся апошні. На саматробнай лаўцы з цыгарэтамі ў пальцах сядзелі Сямён, Цыган, Эдзік Кісяленка і Валодзя Кузьмянкоў. Усе яны прызываліся з розных мясцін, але трымаліся разам. Бывала, праўда, калі-нікалі не ладзілі, найбольш Сямён з Цыганом. Тыя ўвесь час штосьці дзялілі-перадзельвалі.

— Ты чаго доўга так? Даўно ж па цябе паслалі,— запытаў Сямён і незадаволена зірнуў на Юрася. Ён нічога не адказаў і моўчкі сеў побач з Эдзікам.

— Ну што? Пачнем? Я прапаную так...

— Хлопцы! Можна, я першы, га? — Цыган неспакойна затузаўся на лаўцы. Ён падскочыў, забегаў вакол «дзядоў», потым зноў сеў, ды так, што яны ледзь не паляцелі ўсе з лаўкі.

— А вось гэта ты бачыў? Ён першы. Усе аднолькавыя, і каму пашанцуе, той і пойдзе.

— Хлопцы! — жаласлівым голасам застагнаў Цыган. — Будзьце людзьмі. Што вам — шкада? Я хуценька.

— Сядзі, Цыган, і не тузайся. Усім хопіць, жыццё, ведаеш, якое вялікае,— Эдзік паляпаў Цыгана па спіне.

— Дык вось. Я прапаную так,— працягваў Сямён.— Нас пяцёра. Бяром пяць запалак, і хто выцягвае меншую, той і ідзе першы. А потым з чатырох тое ж самае, і гэтак далей. Згодны?

— Давай.

Усе заківалі ў знак згоды галовамі, толькі Цыган замармытаў штосьці ціха ў нос.

— Чаго ты бурчыш, Цыган? Бачыш, як проста: выцягваем палачку і ідзём па...— рагатнуў Эдзік.

— Давайце. Толькі хутчэй бы.

Голас Цыгана аж задрыжэў ад нецярпення.





Юрась спачатку не зусім зразумеў, што Сямён робіць і што будзе далей, калі пачуў пра палачку, пра якую сказаў Эдзік, уцяміў і адразу спалохаўся.

— Не, хлопцы. Пачакайце. Я... я, напэўна, не пайду.

— Ты што, бульбаш, здурэў? — Эдзік здзіўлена зірнуў на яго.— Ці не здатны?

— Я не магу так.

— Чаго яго ўгаворваць?

Сямён адкінуў убок адну запалку, засталося чатыры, і выставіў руку перад сабой.

Першы цягнуў Цыган. Ён агледзеў кончыкі запалак і, апусціўшы векі, тузануў адну з іх. У гэты час Сямёнавы вочы злосна акругліліся, Цыган выцягнуў якраз надламаную запалку.

Цыган спачатку не паверыў, што яму так пашанцавала. Падхапіўся і пабег да вагончыка. Усе праводзілі яго позіркам, а Сямён са злосцю плюнуў услед і выкінуў адну вялікую запалку. Ператасаваў астатнія за спінаю і трымаў іх цяпер у выцягнутай руцэ перад Эдзікам.

Хутка размеркаваліся і астатнія. Эдзік апынуўся другім, Сямён — трэцім, а Валодзя, які за ўвесь час дзяльбы не сказаў ні слова, быў апошні.

— Слухай, а дзе вы яе ўзялі? — ціха, каб не пачуў Сямён,— спытаў Юрась у Эдзіка.

— Сямён здабыў ва ўзводзе аховы... А хто яна і адкуль, я і сам не ведаю. Дый якая розніца? Абы... Дарма ты адмовіўся. Не часта ж такое бывае.

Юрась маўчаў. Спрабаваў зразумець, што гэта, але нічога талковага ў галаву не прыходзіла. Няўжо можа быць і так? Ды і што за дзяўчына, калі яе можна купіць? Думкі блыталіся, хацелася разабрацца, але як? Юрась сустракаўся з дзяўчатамі да войска, але каб вось так адбывалася, ён не мог сабе ўявіць. І як жа тады быць з каханнем, нейкімі там пачуццямі? Што ж гэта — падман, хлусня ўсё?

Выскачыў з вагончыка Цыган, на хаду апранаючыся. Узбуджана загаварыў:

— Прафесіяналка...

— Усё? Давай, Эдзік, ты!

Сямён, бачна было, нерваваўся; відаць, злаваўся, што не ён першы. Пайшоў Эдзік. Цыган, весела пасвістваючы, пабег да вады, і яны асталіся на лаўцы ўтрох.

— Сямён, а яна нічога хоць, не страшная? — запытаўся Валодзя.

— Нармальная. А што табе?

— Ды так. Думаю вось: цяпер яна тут, а заўтра пазнаёміцца з добрым хлопцам і выйдзе за яго замуж. І ён нічога не будзе ведаць. Мне страшна робіцца, як падумаю — раптам мне такая б... трапіцца. Жах.

— А ты ўсялякі выпадак у кожнае пытайся, ці сустракалася яна з намі,— з'едліва параіў Сямён.

— Так яна табе і скажа.

Юрась уважліва ўслухоўваўся ў размову хлопцаў і ў той жа час думаў пра сваё. Яму ўжо хацелася паглядзець на яе. Што за яна? Можа, сапраўды страшная, на якую там, на «гражданцы», ніхто не звяртае ўвагі? Дык, здаецца, усе прыгожыя, калі захочуць імі быць. Пасядзеў яшчэ крыху і рашыўся. Хацеў спакойна, нібы яму ўсё роўна, сказаць, але голас загучаў усхвалявана:

— Х-хлопцы, я таксама схаджу.



Сямён павярнуўся да яго тварам і, усміхаючыся, прагаварыў:

— Давай. Толькі апошнім пойдзеш.

Юрасёва чарга падышла тады, калі сонца кацілася на захад. У паветры весела шчабяталі птушкі, гулялі адна з адной. Юрась падняўся з лаўкі і, паціху ступаючы, накіраваўся да вагончыка. Сэрца моцна стукала, да горла падступаў камяк, і ён дрыготкімі рукамі схапіўся за ручку дзвярэй. На некалькі хвіляў зноў завагаўся: ісці ці не?

«Не трэба, няма там нічога цікавага»,— шаптаў яму нечы голас.

Адагнаўшы апошнія сумненні, зайшоў. Са святла кепска было відаць, і ён нерашуча спыніўся каля дзвярэй.

— Ну, што спыніўся? Заходзь,— пачуўся дзявочы голас, і Юрась убачыў на нарах дзяўчыну.

Яна ляжала, раскінуўшы ўбакі рукі, і з усмешкаю глядзела на Юрася.

— Чаго ты? Не саромся, падыходзь бліжэй.

Дзяўчына прыўзняла галаў, і доўгія белыя валасы рассыпаліся ў яе за спінай.

«Харошая»,— Юрась нясмела ступіў.

Яна была голая, толькі грудзі былі прыкрыты нечым ружовым, кофтачкай, ці што. Юрась прысеў побач на нары і паглядзеў ёй у твар.

«Што ёй трэба? Такая прыгожая...» — падумаў ён. Дзяўчына назірала за ім, і ў вачах яе ўсё больш выразна адбівалася здзіўленне. Пасля хіхікнула:

— Ты — што? Сарамлівы?

Ён кепска помніў, як усё адбылося. Пазней, калі выйшаў з вагончыка, быццам п'яны, і сядзеў каля бруднага раўчука, схаваўшыся ад хлопцаў, ніяк не мог зразумець, навошта ён гэта зрабіў? Ён сядзеў доўга, потым устаў і самотна пакрочыў у вечаровы змрок. Штосьці новае і не зусім зразумелае з'явілася ў яго на душы.

Мал. **М. Шматавай**



*Любоў Філімонава*

ДВА АПАВЯДАННІ

# ВОБРАЗ

Я люблю гэтую маленькую ўтульную кавярню. Яна побач з кансерваторыяй, дзе я працую. У кавярні заўсёды чыста, светла, утульна, нават у самыя «дэфіцытныя» часы заўсёды можна выпіць кубачак добрай кавы, а таксама перахапіць бутэрброд і дадаць да гэтага раскошнага ленчу яшчэ і малочны коктэйль.

Калі ма́ю трохі часу — вельмі люблю назіраць за людзьмі, стараюся ўгадаць аб іх больш, чым па іх відаць на першы погляд: хто яны, які ў іх характар, звычкі.

Маіх студэнтаў у кансерваторыі зразумець бывае лягчэй, бо мы з імі ідзём насустрач адзін аднаму, а часам нібы гуляем у паддаўкі: глядзіце, вось гэтая мая рыса — самая лепшая, а тут — мой задзірысты характар, прашу не чапаць... Мы з імі, як кажуць, аднаго поля ягады, гуляем у адну гульню.

Перад маімі вачыма ў кансерваторыі штогод праходзіць столькі розных маладых твараў. Усякіх-далей-няма-куды. Разумненькія, дапытлівыя, свежа-наіўныя, з вачанятамі, што ва ўсё вераць, ці зноў жа — іншыя, з мінай штучнай мнагавопытнасці, расчараванасці на тварах. Праўда, так часта гэтая міна ператвараецца ў звычайны чалавечы выраз цікаўнасці, захопленасці, смутку... Ды час ад часу, як спахапіўшыся, яны зноў імкнуцца накласці на твар тую ж рэдзенькую масачку «бывалага». Што ж, гуляйце, дарагія, у гэтае, пакуль не знойдзеце свой сапраўдны твар. Ёсць яшчэ такія: засяроджана-працавітыя, рупна-старанныя. Напачатку ты і сам здзіўляешся: а божа мой, адкуль жа вы такія: нявопытныя, бязгрэшныя ды вядзёныя?! Але як прагна яны ўбіраюць інфармацыю!

Я найбольш люблю гэтых апошніх. Яны трошкі падобныя і знешнасцю і лёсам да «брыдкіх качанят». На першых курсах па спецыяльнасці яны — або чацвёрачнікі, або троечнікі. Ды якая радасць назіраць, як яны нарэшце раскрываюцца як піяністы! Звычайна такое раскрыццё звязана са з'яўленнем у чалавеку асобы. Толькі асоба, што ў поўнай меры пазнала сябе і паверыла ў сябе, вызначае, дыктуе, нават накаюўвае талент. Не веру ў ранні таленты, у вундэркіндаў. Моцарт, Ліст — гэтыя раннія геніі — яны выпадковасці, адхіленне ад нормы.

Рупна-старанныя спачатку ідуць тваім следам, прагна бяруць ад цябе, свайго настаўніка, усё, што можаш ім даць: твой вопыт, майстэрства. І раптам — пераходзяць пэўную мяжу, набываюць раскаванасць, свабоду і ўжо ад цябе не залежаць. Гэта для мяне самы цікавы момант. Я ведаю, што я добры настаўнік, але настае час, калі я пачынаю вучыць гэтых маіх вучняў толькі адной мудрасці: зберагчы ў сабе сваё ды пацiху арыентую на іншыя маякі ў далейшай іх рабоце.

Тое, што я назіраю па-за сценамі кансерваторыі,— зусім іншае. Часам ні твары, ні сітуацыі не паддаюцца лёгкай расшыфроўцы.

Тут, у кавярні, напрыклад, твары, звычкі, сцэнкі — як навелы, часам без пачатку і канца: дэтэктыўныя, фантастычныя, рамантычныя...

Вось перад маім зрокам паступова, як здымак на фотапаперы, праяўляецца трошкі дзівакаватая, крыху паблажлівая ўсмешка. Добрая такая, амаль незямная ўсмешка на маладым хлапечым твары. Прыгожы хлопец у старэнькім паліто нарасхрыст сядзіць праз два столікі ад мяне. Каштанавыя валасы, акуратна падстрыжаныя «пад гаршчок», вусы і кароткая, падковай, бародка. Тонкая бледная скура на твары ледзь адцяняецца далікатным, амаль дзіцячым румянцам. Ну чыста анёлак, які ўжо выйшаў з дзіцячага ўзросту. Ён доўга сядзіць за сталом за адным-адзіным кубачкам кавы, аглядаючы людзей дзіўным незасяроджаным позіркам, па вуснах блукае дзіўнаватая, нейкая нават трохі сарамлівая, даверлівая ўсмешка.

Нічога ў ім асаблівага не было, у гэтым хлопцу, а вось чымсьці ён усё ж выдзяляўся з натоўпу.

Няспешна дапіў каву — і ўжо зноў прыстроіўся да чаргі, што вілася вакол кавярнага аўтамата. Здаецца, вырашыў паўтарыць працэдуру свайго ўрачыстага піцця кавы. Прычым усе людзі як людзі, стаялі ў чарзе акуратна-прывычна: твар да спіны, твар да спіны, а ён — нейкі ўвесь нарасхрыст — стаў спіной да чаргі, як бы зачапіўся за яе крысом свайго вялікаватага, як з чужога пляча, паліто, і здавалася, усім сваім выглядам выказваў, што анёлам стаяць па чэргах непрывычна, не іхняя гэта справа, а яго дзіўнаваты позірк зноў тым часам блукаў па зале.

...Вось за суседнім столікам тройца маладых людзей ляніва абмяркоўвае навіны: «Кажуць, гэтую кавярню неўзабаве перададуць кааператарам... Цікава, які будзе ў людзей даход?..» Гэта зусім яшчэ маладыя людзі, гэта ведаю, нават не гледзячы на іх, па іхніх галасах, маладых, саманадзейных. Яны — з тых маладых прагматыкаў, для якіх паняцці, выказаныя словамі, ужо мала што значаць. Ім трэба справа, рэч, зробленая або тваімі рукамі, або — на тваіх вачах, бо справе, выказанай толькі словамі,— няма веры.

За бліжэйшым столікам — парачка. Такіх у кожнай кавярні і ўдзень і ўночы — як зорак на небе. Ён нешта вуркоча ёй на вуха, яна апускае вейкі, хаваючы пад імі пакуль што не разгаданую хлопцам таямніцу. Усё роўна, што ён там ёй гаворыць. Словы не маюць цяпер сэнсу. Сэнс маюць толькі інтанацыі, дыханне, позіркі. Іншы раз ён змаўкае, глядзіць на яе ўпарта і пільна, «як сапраўдны мужчына», яна адводзіць позірк, і гэтая гульня працягваецца бясконца... Раптам яе вейкі страпянуліся, нібыта яе нехта паклікаў, дзяўчына ўскінула галаву і на імгненне сустрэлася з летуценным, быццам ні на чым не засяроджаным позіркам анёлка. Дзяўчына схамянулася, быццам ачуняла, апомнілася ад прыемнага сну, невялікая вертыкальная маршчынка легла ў яе паміж броваў. Зараз яна ўжо толькі рабіла выгляд, што слухае свайго субяседніка, які нічога не прыкмячаў і, як раней, дэманстраваў ёй прыёмы «мужчынскай абаяльнасці», а яна ўжо думкамі была не з ім. Некалькі разоў, спачатку як бы несвядома, пасля — больш дапытліва, глянула на маладога чалавека. Быццам спыталася ў яго вачыма: што дзеецца? Што?..



Спачатку мне падалося: гэта звычайны «любоўны трохкутнік». Пасля зразумела: яны зусім незнаёмыя, гэтая парачка і той загадкавы хлопец, які сёння ўвесь час трапляе ў поле майго зроку. І ўсё-такі нешта адбывалася. Адасобленасць маёй парачкі, яе ўтульны свет былі разбураны, ён глядзеў на сваю сяброўку з недаўменнем, а яна, здавалася, зусім забылася на яго, раз-пораз пазглядала ў той бок, дзе сядзеў анёлак. Той ужо зусім не зважаў на іх, як і раней, павольна азіраў залу, мройная ўсмешка блукала па вуснах, свяцілася ў вачах.

Мае суседзі неўзабаве пайшлі. Праз тоўстае заінелае шкло вітрыны было відаць, як яны развіталіся і разбегліся ў розныя бакі.

Да майго століка падсеў немалады мужчына з маленькай дачкой. Ён адчуваў сябе тут не надта ўтульна. Так, нейкае бістро́... Музыка нейкая не наша, неразбярысловы, моладзь розная, магчыма, без пэўных заняткаў, дрыстойныя людзі па бістро́ не бадзяюцца. Усё гэта было напісана на яго твары. Ён моршчыў лоб, насцярожана азіраўся, спяшаўся дапіць сваю каву, прыспешваў малую. Усім сваім выглядам паказваў, што ён тут выпадкова, ведаеце, дачцы захацелася піць... Малая ж, наадварот, адчувала сябе тут як рыба ў вадзе, не спяшалася пайсці, утульна ўхапіўшы сваю булачку-падушачку моцнымі пальчыкамі, старанна абсмоктвала яе з усіх бакоў, запіваючы сокам. Мужчына, насцярожана аглядаючы залу кавярні ў пошуках магчымай небяспекі ці якога падэсця, раптам натрапіў на позірк анёлка. Той сядзеў, адхіліўшыся разам са сваім крэслам да сцяны, і, відаць, адчуваў сябе ў гэткай пазіцыі на дзіва зручна. Мужчына за маім столікам чамусьці знерухомеў. Магчыма, яму здалося: вось яно, падэсце, а той хлопец нейкім чынам уявіўся ўвасабленнем невядомага зла, незразумелай, але на ўсякі выпадак падазронай «багемы»? Але ж, сядзіць, час марнуе ў будзённы дзень, калі ўсе савецкія людзі на рабоце даюць план, вочы прыплюшчаныя, усмешачка падазроная, можа, яшчэ «пад кайфам»?

А малады чалавек, глянуўшы на малую, якая таксама аглядалася па зале следам за бацькам, усміхнуўся ёй адкрытай усмешкай і ў дадатак яшчэ падміргнуў. Мужчына ад нечаканасці і абурэння ледзь не падавіўся глытком кавы, малая ж — аж распраменілася ў адказ. Мужчына сарваўся з крэсла, схапіў малую за ручку і пацягнуў яе да выйсця. Дзяўчынка плялася за ім з неахвотай, задам наперад, і ўсё аглядалася на маладога чалавека, і радасная ўсмешка не сыходзіла з яе твару.

Здаецца мне ці не, а выходзіць, што гэты анёлак нейкім чынам уздзейнічае на ўсіх, хто вакол яго? Быццам валодае нейкай здольнасцю адхіляць стрэлкі падзей. (Можна ж дазволіць сабе трошкі пафантазіраваць?) Хаця цвярозая яснасць — аж да звону ў скронях,— дзякуючы двум кубкам выпітай кавы, падказвала: не прыдумка, не фантазія гэта. І раптоўна з нязвыклай выразнасцю я прыгадала, што бачыла тут гэтага анёлка і раней. Ён, як і я,— з заўсягдатаяў кавярні.

Вось так бывае: назіраеш, назіраеш за чымсьці ці за кімсьці, а толькі на соты раз нарэшце бачыш, прыкмячаеш, асэнсоўваеш.

А ўвогуле, да чаго ж мы, людзі, у сваім унутраным жыцці адасобленыя адзін ад аднаго! Чалавек можа доўгі час гаварыць з бліжнім, не гаворачы пры гэтым нічога, можа слухаць, ды не чуць, глядзець — і не бачыць! Нават жыць — нібыта нехаця, як не па сваёй волі.

І толькі, бывае, вясной здараецца — зрух, штуршок, здагадка, праразрэнне...

Цікава, калі змеі мяняюць скуру, што яны адчуваюць?

Чаму я ўвесь час вяртаюся ў думках да гэтага хлопца, шукаю позіркам, стараюся разгадаць яго таямнічую паўусмешку на твары? ...Не, не, я не той інтэрас маю, у мяне ўжо сын дарослы, дзесяты клас канчае, ды і не ў маім гусце гэты маладзён...

Проста цікава, чаму аб гэтую яго ўсмешку спатыкаецца амаль кожны, хто яе заўважае? Што «такога» ў гэтым чалавеку? Наш цвярозы век катэгарычна абвяргае розную містыку, звышрэальнае. І ўсё-такі нават чыста знешне вельмі ўжо не ўпісваецца анёлак ні ў адну знаёмую мне катэгорыю людзей.

Я яго не ўяўляю сярод сваіх вучняў. Такія, як ён, бадай, у любых умовах трымаюцца незалежна. Яны не ідуць ні за кім. І толькі калі ім будзе выпадкова па дарозе з табой, ты яго ледзь убачыш недзе блізка, на ўзбочыне, а пасля — ён знікне па шляху, вядомым толькі яму аднаму. Такія не прыручаюцца. Што ўсё-такі вядзе гэтых дэрвішаў па зямлі? Мабыць жа, ведаюць яны нейкую ісціну, якую нам цяжка спасцігнуць? Якая зорка-блукальніца вядзе іх за сабой?

І адкуль гэты выраз светлага ўсёведання на твары, амаль шчаслівая паўусмешка, падобная на цень празарэння на твары музыканта, што раптоўна разгадаў таямніцу музычнага вобраза?

Пачакайце, але што ж атрымліваецца? Якія ён можа бачыць вобразы, той анёлак? Ствараць вобразы — гэта ўласцівасць творчай натуры, ствараць, увасабляць у музычныя творы, паэмы, карціны... Каб і іншыя маглі ўбачыць створанае табой. Якія ж вобразы стварае анёлак, што ён бачыць у сваім мройлівым спакоі? Вобразы без аніякага ўвасаблення? Вобразы для сябе самога, якія кожны з нас часамі бачыць, зазіраючы ў душу сваю? А што, мо і так бывае. Сядзіць сабе анёлак у паўзмрочнай кавярні за кубачкам кавы, позірк яго шукае зачэпку, штуршок для стварэння свайго вобраза. Там — ён убачыў нязвыклы твар, тут — нестандартную сітуацыю, тут — успышку эмоцый, жэст, усмешку, там — сутыкненне характараў. Жывы людскі вір пастаянна выдае гатовыя загатоўкі для вобразаў. А ён — шчаслівы сузіральнік і стваральнік іх, а ўсе мы — часцінкі гэтых вобразаў...

Хаця... Ёсць у мяне адзін знаёмы, чалавек бадай што такога ж складу. Мой сябар юнацтва. Скончыў тры інстытуты: матэматык, філолаг, філосаф. Дык вось, самы шчаслівы для яго час — час сузірання свету. З гэтага, бывае, нараджаюцца вершы, ён іх, калі ёсць настрой, запісвае, а пасля губляе, дзе прыйдзецца. Каб зарабіць на пражытак, час ад часу працуе гідам у экскурсбюро, пасля — зноў вандруе, зноў сузірае.... Аб заўтрашнім дні не дбае, часта зачыняецца ў сваім старым, напаўразбураным доме, што не ведаў рамонту з таго часу, як памерлі яго бацькі, і піша ў сваім «фамільным фальварку» неверагодныя філасофскія трактаты, якія мала хто чытае і яшчэ менш хто разумее. І што дзіўнае — той чалавек адчувае сябе па-свойму шчаслівым. (Па-свойму, бо — не па-мойму, я б так жыць не змагла, баюся, я для гэтага занадта рацыянальная істота, хоць і музыкант.)

Так што той анёлак з кавярні — бадай, не такая ўжо і неспасціжная з'ява. Выклікала ў мяне шкадаванне і яго безаглядная, безабаронная маладосць, і яго танклявая постаць у старэнькім паліто, пашарпаным, неакрэсленага колеру світэры, і тонкія, амаль дзіцячыя запясці. Ды яшчэ і тое, што яго вонтлыя, празрыстыя вобразы яшчэ не былі пад аховай інтэлекту, мудрасці, што прыходзіць з гадамі. Гэты анёлак, відаць, яшчэ не быў загартаваны вопытам, жыццёвай калатнечай, а яна, здараецца, ламае не толькі тыя празрыстыя шарыкі-вобразы, а і саміх іх аўтараў... Ці хопіць табе адукацыі, ведаў, нарэшце, самаўпэўненасці і таленту, каб увасобіць твае недасягальныя паветраныя шарыкі хаця б у два-тры вершы, каб можна было нядбала згубіць іх між сваіх сяброў?



А можа, усё ж яго лёс нечакана абазначыцца на самым схіле дзён, калі пара-другая яго статуэтак, што ён старанна хавае ў сваім доме за старой, пракаветнай печкай ці на фантастычна захламленым гарышчы, стануць для патомкаў новай эрай у мастацтве? А можа, яго старанна спісаныя школьныя сшыткі раптам азначаць новую эру ў навуцы, як, напрыклад, работы настаўніка з Калугі? А можа, прагучыць пасля яго смерці адна-адзіная сімфонія, якую ён пісаў усё жыццё?..

Хто ты, дэрвіш, анёлак з загадкавай усмешкай? Чаму столькі часу не даюць мне спакою твае няствораныя вобразы?

Усё, вырашана! Што карысці ламаць галаву над загадкай. Можна ж проста паспрабаваць раскусіць той арэшак. Чаму б не дазволіць сабе яшчэ адзін кубачак кавы... у кампаніі з анёлкам? Чалавек я ў прынцыпе камунікабельны, кантактны...

Бяру яшчэ кубачак, лавірую паміж столікамі, шукаю позіркам дэрвіша, каб усесціся побач з ім. Шукаю, не знаходжу. Спыняюся ў разгубленасці. Раптам мяне бы хто штурхануў. Вялізныя, незямныя вочы з трохі расшыранымі зрэнкамі ці то з жалем, ці то з дакорам і расчараваннем угледаліся мне ў твар. Я трохі сумелася, зрабіла нязграбны жэст, каб паставіць на стол кубачак з кавай. Рух мой быў, відаць, занадта гвалтоўны, талерка за нешта зачапілася, кубачак перавярнуўся, паляцеў на стол, я паспрабавала яго злавіць, упусціла ў той час на падлогу і сумачку. Карацей, нарабіла вэрхалу і сполаху. Яшчэ больш збянтэжылася, калі ўявіла, як выглядаю збоку: салідная жанчына ў даволі яшчэ шыкоўным жакеціку з белай футры, запырсканым кавай, ледзь не на каленях поўзае між столікаў, збірае парассыпаныя на падлозе прычындалы з сумачкі. Людзі натыкаюцца на яе, губляюць свае лыжкі, кубкі. Карацей, выглядала я тады, як слон у пасуднай лаўцы.

Нечакана мне на падмогу кідаецца анёлак, са старамодным, але даволі зграбным паўпаклонам паднімае з падлогі і падае мне сумачку. Пільна (з іроніяй?) яшчэ раз угледаецца мне ў вочы, і пасля знікае з кавярні. Я нават не паспела яму падзякаваць. Пачынаю прыводзіць сябе ў парадак, дарэмна спрабую сцерці з жакета бурыя плямы кавы, збіраю з падлогі такуюсякую дробязь з сумачкі і таксама выходжу на вуліцу.

Вось што называецца «не ўпісацца ў вобраз». Так мне і трэба. Гэта пакаранне за недарэчную, бесцырымонную, нетактоўную маю цікаўнасць. Ёсць таямніцы, што павінны заставацца таямніцамі.

На няўтульнай, прадзьмутай вільготнымі зімовымі вятрамі вуліцы не столькі холадна, колькі зябка. Вільгаць прабірае да касцей. Водар кавы праследуе мяне і тут.

Чую міліцэйскі свісток. Аглядаюся за тым небаракам, каму адрасаваны свісток. Бачу, міліцыянер прастуе да мяне.

— Парушаеце, грамадзянка,— яго чырванашчокі твар добразычліва абыякавы.

— Прабачце, задумалася,— кажу я і сама дзіўлюся сваёй прамашцы, бо звычайна, нават і паглыбіўшыся ў разважанні, пераходжу вуліцу разам з натоўпам, амаль аўтаматычна. Усе сунуцца праз вуліцу, ну і я разам з усімі...

Міліцыянер дадае яшчэ нешта пра небяспечныя сітуацыі, якія мы, пешаходы, ствараем на вуліцы, пра прыклад, які мы падаём іншым, маладым

(на мой узрост намякае, сапляк гэткі?). А пасля, як і варта было спадзявацца, прапануе мне заплаціць штраф.

Я пакорліва лезу ў сумачку. Лепш аддаць грошы адразу, каб скончыць гэты спектакль, бо ўжо вунь аматары скандалаў цікуюць за намі. Шукаю кашалёк у бязладнай мешаніне касметыкі, квітанцый, дакументаў, але не знаходжу. Не знаходжу і тады, калі міліцыянер, завёўшы мяне ў сваю паўпразрыстую будку, піша на мяне пратакол. Я яшчэ доўга грэбаюся ў сумачцы. Кашалька няма.

— Няма,— кажу міліцыянеру і ў доказ падсоўваю яму пад нос расчапераную сумачку.

...Цікава, куды маглі падзецца грошы? Толькі сёння атрымала зарплату, несла яе дадому. Вось і данесла...

Я крыва ўсміхаюся міліцыянеру. Ён тым часам заканчвае складаць пратакол. Так, яшчэ і «цялега» будзе на работу. Зусім весела...

Ліхаманкава прыгадваю ўвесь свой шлях з работы і вось да гэтай будкі, гадаю, дзе я магла «пасеяць» свой кашалёк. Сумачку ж ні на хвіліну не выпускала з рук. Прыгадваю, як плаціла за каву. Кашалёк тады быў... Анёлак! Помню, як ён са сваім недарэчным свецкім паўпаклонам падае мне сумачку... Больш яе ніхто чужы ў рукі не браў! Чырвань заліла мне твар. Дык што ж такое атрымліваецца?! Пакуль я, як вар'ятка, ствараю сабе вобраз незямнога летуценніка, высвятляецца, што ён на самой справе — звычайны дробны злодзей? Яго «мройлівы» позірк шукае не вобразы, а магчымыя ахвяры! Сочыць за людзьмі, прыкмячае, што на чыім твары напісана, на каго зручней упаляваць.

Выбіраюся з міліцэйскай «шклянкі» на вуліцу. Паветра здаецца яшчэ больш шэрым, вільготныя воблакі не прапускаюць на зямлю ні сонца, ні снегу. Павольна варушацца, хлюпаюць нагамі па мокрым снезе прахожыя, усё вакол да невыноснасці будзённае і сумнае. Здаецца, усе гэтыя людзі ўжо стагоддзі занятыя толькі адной гэтай справай: месяць і месяць нагамі густую мяшанку снегу і пяску, і гэта адзінае, што ім дазволена рабіць на гэтай зямлі. І яны ўсё ніяк не могуць справіцца з гэтай работай, хоць вядома, што калі нарэшце яе скончаць — выгляне сонца, засвецяцца дамы, дрэвы, твары, — пачнецца вясна.

Я таксама ўключаюся ў гэтую бясконцую работу і думаю: «Што гэта са мной? Як магло мне падацца, што гэты чалавек — злодзей? Гэты чысты, асветлены думкамі твар анёлка, добрыя вочы, шчырая ўсмешка. У даўнія часы натоўп мог учыніць самасуд над такім, калі, зусім азвярэўшы, гнаўся пад крыкі «лавіце злодзея!» за невядомым злачынцам. Такія людзі сваёй безабароннасцю проста правакавалі натоўп, а натоўпу ўсё роўна, на каго абрынуць сваю звярыную жорсткасць. Безабароннасць заўсёды прыцягвае да сябе жорсткасць, як громаадвод маланку. Можа, і ўва мне спачатку варухнуўся гэты старадаўні інстынкт натоўпу?

Але ж мой кашалёк! З усёй маёй зарплатай за паўмесяца! І анёлак, які трымае сумачку ў руках!.. Не магу забыцца на гэтае.

Вечарам, калі ўжо крыху супакоілася, наварыла сабе моцнай гарбаты, каб выседзець перад тэлевізарам праграму «Погляд». Пасядзела, падумала і прыйшла да вываду, што праўды я ўсё роўна не дазнаюся. Магло быць так, а магло — і наадварот. У жыцці здараецца столькі неверагоднага. Можа, гэты анёлак з кавярні і быў самым натуральным дробным злодзеем. А можа, гэта мой кашалёк сам закаціўся дзе падалей з вачэй, калі сумачка ляснулася на падлогу.





Па-першае, калі шчасце не ў грашах, то не варта аб іх так доўга думаць, усё роўна не вернеш.

Па-другое, выпадкова прыкмячаю ў люстэрку свой адбітак. На маіх вуснах, як ні дзіўна, блукае знаёмая паблажлівая ўсмешка, якую я сёння бачыла на вуснах анёлка...

Вось так. Сяджу і ствараю свае вобразы. Вобразы свету, у якім жыву і буду жыць заўтра. Ёсць варыянты: вобраз жорсткасці, недаверу, падазронасці і яшчэ адзін: спагады, дзіцячай веры ў цуды свету, дабрыні і любві.

А можа, не толькі мы ствараем вобразы, але і нашы вобразы ствараюць нас?..

# А ЦІ РАСТУЦЬ ЗІМОЙ ЦЮЛЬПАНЫ?

Апошні тралейбус імчаў па пустой вуліцы на трэцяй хуткасці з патушаным у салоне святлом. Пасажыраў было мала: хто — драмаў, хто — весела ўпаўголасу перагаворваўся з сябрамі, вяртаючыся з прыяцельскай вячэры, хто — спрабаваў пазнаёміцца з дзяўчынай. Усё адбывалася ў вячэрніх прыглушаных танах, інтанацыях, колерах. Шыманскі называў гэткі стан навакольнага свету «пастэльным» і быў сам задаволены з гэтага, як яму здавалася, вельмі трапнага азначэння і таму ў розных варыяцыях ужываў гэтае азначэнне як найчасцей.

Было ўжо за паўночы. Шыманскі, загушканы мернай яздой, знаходзячыся трошкі на падпітку, не супраць быў падрамаць, прытуліўшыся шчакой да акна. Але на крутым павароце ледзь не зваліўся на падлогу, пры гэтым балюча стукнуўся носам аб спінку пярэдняга крэсла. Аж слёзы выступілі на вачах. «Не хапала яшчэ, каб юшку сабе пусціў незнарок, як алкаш які»,— падумаў Шыманскі. Асцярожна азірнуўся, ці не бачыў хто яго-нага пасажу. Не, дзякуй богу, кожны з пасажыраў быў паглыблены ў сваё.

Дзверы тралейбуса з гукам праколатага мяча расчыніліся і выплюхнулі Шыманскага разам з астатнімі пасажырамі проста ў вільгаць і слату вуліцы. Невялічкая купка пасажыраў з аўтобуса імгненна растала ў цемры, як іх і не было, і Шыманскі апынуўся на вуліцы адзін. На ноч пачынала трохі падмарожваць, і імжа калола ў твар дробнымі іголачкамі-сняжынкамі. Шыманскі толькі цяпер адчуў, як яго ў тралейбусе размарыла. Хутчэй дадому — у цёплую пасцель. Добра, што пры гэтым ніхто ў яго не запытаецца: дзе і з кім? Не папракне, што позна з'явіўся. Свабода — гэта, брат, свабода!

Сёння быў, бадай, дзесяты банкет у гонар абароны яго дысертацыі. Першы, той, урачысты — у рэстаране, быў для асоб афіцыйных, апанентаў, кіраўніка і гэтак далей. Пасля — банкеты, банкецікі для сяброў юнацтва, аднакурснікаў, калег, суседзяў, супрацоўнікаў... Парадкам надакучыла ўся гэтая працэдура. І ўсё ж, калі на гарызонце з'яўляўся чарговы сябар, з якім ён даўно не бачыўся, то гаворка неяк мімаволі пачыналася з аднаго: «Як, ты яшчэ не ведаеш?..» Далей — як заведзена...

Вось і сёння, калі Шыманскі сядзеў у свайго сябра, нечакана праездам заявіўся Толя Чэміс, іхні аднакурснік. З радасці Шыманскі збегаў па піва.

Што тут зробіш, калі чалавек радуецца за цябе больш, чым ты сам! Трэба, зразумела, адсвяткаваць гэты факт...

Шыманскі ішоў па пустой вуліцы. Халоднае паветра развеяла яго санлівы настрой, узбадзёрыла, і ён з натхненнем пачаў чытаць уголас вершы, аж рэха разносілася па вуліцы: «Иду, бухой и эпохальный!» — паведаміў ён выпадковаму прахожаму. Той спалохана адскочыў убок і, азіраючыся, прыспешыў крок. Наступнаму прахожаму (гэта была пажылая жанчына з велізарнай торбай, якая, здавалася, магла змясціць у сабе што заўгодна, нават ручны кулямёт) ён у спіну прадставіўся: «Permettez moi... Гена Васільевіч, кандыдат фізіка-матэматычных навук». Але жанчына не спалохалася, ледзь павярнуўшы галаву, нечаканым басам выгукнула: «Хуліган!»

— Не хуліган, а кандыдат,— стаяў на сваім Шыманскі.

— Як лясну зараз,— жанчына нечакана спынілася, і тут Гена Васільевіч убачыў пярэстую бародку і вусы і зразумеў, што за жанчыну ён палічыў служыцеля культу. Ад нечаканасці Шыманскі збочыў каля дзіўнага прахожага і абышоў яго па кругу. Калі азірнуўся, свяшчэннік усё стаяў, паставіўшы вялізную торбу паміж нагамі, і гразіў Шыманскаму кулаком. Шыманскі паскорыў крок.

Вецер узмацніўся, сек па твары льдзінкамі.

Раптам Шыманскаму пачулася: тонкі жаночы голас паклікаў, назваў чыёсьці імя. Шыманскаму здалося, што нават і голас знаёмы. Па спіне прабеглі мурашкі. Чорт, усюды мроіцца голас Таццяны. Здаецца, ніколі не спыніцца гэты тонкі плач у вушах, нават цяпер, праз столькі часу пасля таго, як яны разышліся. Жаночы плач — адзінае, што магло па-сапраўднаму выбіць Шыманскага з раўнавагі.

Ён ішоў па вузенькай стужцы тратуара пад бляднымі ліхтарамі, што свяцілі няроўным зіхоткім святлом над каналам з напаўзамерзлай рачулкай-раўчуком.

Чамусьці цяпер яму ўспаміналася Таццяна, яго былая жонка, такая, якую бачыў апошні раз з дачкой на руках. У глыбокіх цёмных вачах яе — стоены сум і жаль. Жаль, магчыма, па гэтых гадах іхняга няўдалага сумятлівага жыцця, па тым, што яна сустрэла на сваім шляху такога неабавязковага, непрыдатнага да сямейнага жыцця чалавека. А ўвогуле, многае з іх сумеснага жыцця ён не мог зразумець і дагэтуль. Хоць і нясоладка жылося з ім Таццяне, але чаму ён пастаянна адчуваў гэтае яе бязмернае шкадаванне і жаль да яго, бязладнага і бяспутнага?.. Жанчын Шыманскі пабойваўся і да сустрэчы з Таццянай, але не хацеў прызнавацца сабе ў гэтым. (Можа, таму і ажаніўся так позна, калі свяціў чацвёрты дзесятак?)

Цяпер яму жылося куды спакайней. (Ён кожны дзень наноў пераконваў сябе ў гэтым.) Творчая абстаноўка, без цешчы, пялюшак і «схадзі ў магазін», як толькі ён намераны сесці папрацаваць. Ну што зробіш — калі ён такі непрыстасаваны да нармальнага быту, сям'і, хатніх клопатаў! Ён мог гадзінамі знаходзіцца ў «адключцы» ад знешняга свету, у поўнай прастрацыі, асабліва, калі абдумваў чарговую навуковую праблему, мог забывацца на тое, што побач з ім нехта ёсць, часта размаўляў сам з сабой уголас. Так ужо ён прывык жыць і працаваць. Калі, бывала, «урубаўся» і бачыў у цеснаце іх аднапакаёвай кватэры побач з сабой жонку з яе вечным шкадаваннем і жалем у вачах, яму ад нечаканасці рабілася млосна, ён не адразу ўсведамляў, як яна тут апынулася, мог іншы раз вылаяцца, выбегчы з пакоя, нібыта яго толькі што заспелі за нейкай патаемнай справай, якая не цярпіць чужых вачэй. Што тут паробіш? За гады самотнага жыцця набыў прывычкі старога халасцяка. Куды ад іх дзецца?





Ажаніўся ён, калі павінна была з'явіцца на свет Машутка, «як сумленны чалавек». І развёўся таксама, «як сумленны», бо гэта Таццяна сама падала на развод. Так што дакараць яму сябе, бадай, не было за што.

Цяпер справы яго ішлі няблага. Скончыў і абараніў дысер. Амаль без чаргі (пашэнціла!). Шэф хутка будзе загадчыкам новай лабараторыі, бярэ працаваць да сябе. Такім чынам, раней хадзіў Шыманскі ў падручных, цяпер ён сам выдае ідэю, а на яго працуе цэлы штат рэалізатараў.

...Вільготнае паветра ўсё больш ятрала.

Жаночы голас пачуўся зусім блізка. Шыманскі азірнуўся. Ні душы. Праўда, сняжынкі раставалі на твары і праз гэтую вільгаць не было добра відаць. Раптам усёй сваёй істотай ён не ўбачыў — адчуў побач чыюсьці прысутнасць. Прыпыніўся, працёр вочы і твар пальчаткай, агледзеўся. І ясна пачуў аднекуль з-пад ног — у яго пад вушанкай ажно заварушыліся валасы — вокліч «памажыце!». Глянуў уніз, у раўчук, закаваны ў бетонныя спадзістыя беражкі. Нейкі цёмны кшталт варушыўся ўнізе, у самым раўчуку. Шыманскі перагнуўся цераз парапет, каб разгледзець гэта. Бліжэйшыя ліхтары не гарэлі — пабітыя ці сапсаваныя. Паглядзеў яшчэ раз. Угледзеў... жанчыну. Жанчына стаяла проста ў вадзе. Летам тут вады амаль не было, але цяпер, бліжэй да зімы, трохі набягала. Гэтае бетоннае рэчышча было, відаць, разлічана на больш паўнаводную рачулку. Таму ад дна рэчышча да парапета было во-ох колькі... Таму што бераг быў высокі, жанчына, відаць, сама не магла вылезці па мокрым абледзянелым схіле, рукі ў яе былі занятыя, яна туліла да сябе дзіцянё, загорнутае ў шэрую пуховую хусціну.

Калі Шыманскі ўсё гэта разгледзеў і ўсвядоміў,— застыў, ашаломлены, да неверагоднасці разгублены. З хвіліну нічога не мог прамовіць выразнага, настолькі ўсё гэта выглядала жахліва і ненатуральна: жанчына з дзіцем у раўчуку з вадой. Хаця што ж... Усё магло прыдарыцца вельмі проста: ішла па беражку. Было цёмна. Паслізнулася, упала ўніз. А без чужой дапамогі тут і мужчыну не выбрацца. Шыманскі, угледаючыся ў белую пляму твару, нарэшце з цяжкасцю вымавіў:

— Вы мяне чуеце?

— Не стойце, як слуп,— пачуў глухі голас,— дайце руку!

Ён цягнуў руку цераз парапет і з жахам адчуваў, што не дастае. Шыманскі нават лёг усім целам на парапет. Усё роўна... Трошкі, ну зусім трошкі не хапала, каб дацягнуцца да яе рукі. Жанчына безнадзейна апусціла сваю руку і цяжка ўздыхнула (ці гэта яму толькі пачулася?).

Шыманскі невідушча азірнуўся. Хоць бы адна душа жывая прыдарылася! Што рабіць? Здавалася, сэрца ад хвалявання калоціцца ў горле. Ёй жа там холадна, у ледзяной вадзе! Чамусьці менавіта ад гэтай думкі найбольш пакутаваў цяпер Шыманскі.

Па шашы на поўнай хуткасці імчала легкавушка. Шыманскі выбег на сярэдзіну дарогі, замахаў рукамі. Але машына вільнула і, не змяншаючы хуткасці, аб'ехала яго і пашыбавала далей. Бадай, шафёр падумаў, што гэты начны прахожы просіць яго падвезці.

Шыманскі стаяў у перапалоху без адзінай выразнай думкі ў галаве. Вакол было пуста. Толькі з бліжэйшага дома цераз дарогу падала на вуліцу рэдкае святло. Мільганула думка: зайсці ў дом і паклікаць людзей на дапамогу, не ўсе ж спяць. «Я зараз»,— крыкнуў ён жанчыне, перабег вуліцу, ускочыў у пад'езд.



...Чым больш ён аддаляўся ад трыклятага раўчука, тым больш несамавіта рабілася ў яго на душы, быццам уцякаў ад бліжняга, пакідаў яго ў бядзе. Але ж ці мог ён раздваіцца: быць адначасна там і тут?

Пазваніў у першыя ж дзверы першага паверха. Раз, другі. Глуха, як у танку...

За другімі дзвярыма чулася музыка, галасы. Пазваніў туды. Дзверы расчыніліся амаль адразу ж. На парозе стаяла жанчына. Калі б ён быў цяпер у нармальным душэўным стане, ён уразіўся б празрыстай, амаль нерэальнай прыгажосцю жанчыны. У адной руцэ яна трымала напоўнены кілішак, другой паволі праводзіла па сваіх доўгіх светлых валасах, пагойдвалася ў такт музыцы, што гучала з напаўрасчыненага пакоя.

— Хутчэй,— паклікаў Шыманскі, хоць блакітная абыякавасць вачэй жанчыны жахала яго.— Там... памагчы жанчыне трэба... яна ў вадзе... Я хацеў сказаць, у рацэ.

— У якой рацэ? — павольна і ціха, як рэха, запыталася жанчына.

— Паслухайце, трэба неадкладна...

— Што трэба? — пачуўшы размову, з пакоя выйшаў высокі мужчына атлетычнага складу ў расшпіленай на грудзях кашулі.— Што вам трэба? Вы да нас? Калі ласка,— жэстам запрасіў Шыманскага ўвайсці.

— Не, прабачце,— Шыманскі замахаў рукамі.

— Дык што вам трэба? — ужо больш патрабавальна перабіў яго мужчына.

— Трэба дапамагчы жанчыне, яна там, у рацэ,— Шыманскі кіўнуў галавой, як бы намагаючыся паказаць кірунак. Пасля зразумеў, што не ўмее растлумачыць, пераканаць, каб уцямілі, паверылі. Сцяна непаразумення, дый толькі! Празрыстая жанчына загадкава ўсміхалася яму, як быццам западозрыла ў яго словах нейкую хітрую гульню ці жарт.

З пакоя выглянуў яшчэ адзін у стракатым світэры.

— Дзе вы там, Паўлік, Ніна? Давайце сюды, чакаем вас. Што там такое здарылася?

— Ды вось тут з'явішча,— мужчына ў расшпіленай кашулі паказаў на Шыманскага.— Гэта выпадкам не з вашага цырка?

— Мужыкі,— ціха папрасіў Шыманскі, адчуўшы, што ў яго галава пухне ад усёй гэтай бязладнасці,— дайце вяроўку.

— Э, не,— рашуча запратэставаў стракаты,— калі вешацца, то ў іншым месцы!

— Ну, хлопцы, я на сённяшні вечар такіх сцэн не заказваў,— рагатаў расшпілены.

— Нягоднік,— пагойдваючыся, як і раней, у такт музыцы, амаль лагодна сказала празрыстая жанчына.

Дзверы стукнулі перад самым носам Шыманскага. Ён хвіліну аслупянела глядзеў на іх, пасля са злосцю лупянуў у тыя дзверы нагой. Але музыка за дзвярыма зараўла, застагнала, яго проста ніхто там не пачуў.

Наступныя дзве кватэры на званкі і стуканне маўчалі. Ці то спалі там, ці то не было нікога. Шыманскі ўзбег на паверх вышэй. Пазваніў. Званка не пачуў. Не працуе? Націснуў на ручку. Дзверы раптоўна расчыніліся, і Шыманскі літаральна ўваліўся ў цёмную прыхожую. Чыясьці рука моцна ўчапілася ў яго карак.

— Ага, нарэшце! — цішыню прарэзаў мужчынскі голас.— А я цябе, дружа, яшчэ ўчора чакаў!

— А-а-а! — завішчэла ў цемры жанчына.— Віктар! Прашу цябе, Віктар!

Нешта з ляскатам звалілася на падлогу, чыркануўшы Шыманскага па назе. Здаецца, малаток. У той жа час Шыманскага схапілі ззаду яшчэ адны рукі — пацягнулі ў другі бок.

— Я адчуваў, ведаў, што мушу прыехаць на тры дні раней,— роў мужчынскі бас.

Нечакана запалілася святло, і Шыманскі ўбачыў дваіх распатланых, пачырванелых, у нейкім утрапенні мужчыну і жанчыну. Яны цягнулі Шыманскага кожны ў свой бок і крычалі адно на другое.

— Гэта не ён,— крычала жанчына і цягнула Шыманскага да сябе.— Адпусці чалавека, ідыёт!

— Не ён? — дзікам роў мужчына.— Значыцца, «ён» — гэта нехта другі?

— Ды адпусціце, вар'яты! — рашуча рвануўся Шыманскі.— Я — не «ён», зразумела?

— Дык якога чорта! — не супакойваўся мужчына.

— Віценька, супакойся, зразумей нарэшце, што табе ўсё здалося, а гэты чалавек тут выпадкова...

— Канечне, выпадкова,— мужчына штучна засмяяўся,— праездам з Амстэрдама ў Пухавічы.— Што ты робіш тут, у чужой кватэры? — шалёна азвярыўся на Шыманскага.

— Мне дапамога патрэбна... Там жанчына ў раку ўпала...

— Ты навучыся спачатку хлусіць як трэба, а пасля да чужых жанчын хадзі па начах! — мужчына ўжо больш не зважаў на Шыманскага і зноў крычаў на жанчыну: — Я пазнаў яго адразу, хаця і ехаў міма ў тралейбусе, але зрок у мяне пакуль што дай бог... Гэта ён стаяў з табой!..

— Не, не ён,— пасаромейся чалавека,— жанчына падштурхоўвала Шыманскага да выхадных дзвярэй і ў той жа час другой рукой адпіхвала мужчыну ў бок пакоя.

— А, не «ён», значыць, быў другі, каторы — «ён»?! Ясна, вось я цябе і злавіў, вось і прагаварылася,— мужчына па-бабску ўчапіўся рукамі жанчыне ў валасы. Яна зноў закрычала, а Шыманскі, скарыстаўшы момант, выслізнуў з кватэры.

Мабыць, шум авантуры было добра чуваць тут, на лесвіцы, бо з суседніх дзвярэй выглянуў пажылы мужчына ў майцы і трэніровачных штанах, з тых усёведаючых і ўсюдыпрысутных пенсіянераў.

— Што, ізноў? — не дагаворваючы, кіўнуў з усмешкай на дзверы, адкуль чуўся шум лаянкі.

— Паслухайце,— рашуча павярнуўся да яго Шыманскі,— мне трэба толькі вяроўка...

— Э, не,— усмешка знікла з твару мужчыны, і ён хуценька памкнуўся ў сваю кватэру.— Я ў гэтым не ўдзельнічаю. Разбірайцеся тут самі. І амаль прычыніўшы дзверы сваёй кватэры, хуценька прагаварыў у шчыліну: — Калі што,— я нічога не чуў, нічога не бачыў, нічога не ведаю.— Пасля чаго дзверы зашчыкнуліся.

На пляцоўцы былі яшчэ адны дзверы. Адтуль на стукі адказалі не адразу. Старэчы голас праз зачыненыя дзверы доўга распытваў: хто і чаго. Бабуля, мабыць, недачувала і таму разоў з пяць запыталася, як імя. Шыманскаму нічога не заставалася, як прадставіцца. На што бабуля разгублена адказала: «Не ведаю... не, не адчыню... бо баюся» і больш не адзывалася.

На наступны паверх Шыманскі цёгся, як бы ў паўсне. Усё, што адбывалася цяпер, здавалася жахліва нерэальным, неверагодным. І гэтая жанчына з дзіцем на руках, што чакала яго, змерзлая, на дне ручаіны, і гэтыя людзі, якія існавалі нібыта ў нейкім іншым жыцці, іншым сусвеце, і тое, што ён размаўляў з імі, як сляпы з глухімі, і выніку не было. А час, між тым, ідзе, бяжыць, ён адчуваў гэта ўсёй істотай, адчуваў разам з тым і сваё жахлівае бяссілле.



На наступным паверху яму адчынілі толькі ў адной кватэры. Немаладога высокага мужчыну ў піжаме званок, мабыць, пабудзіў. Ён жмурыў вочы на святло і пазяхаў.

«Хоць гэтым разам чалавечы твар,— падумалася Шыманскаму з палёгкай.— Прынамсі, выгляд мае нармальнага чалавека».

— Што? Вы ка мне? — Мужчына ўжо ўцямным позіркам змераў Шыманскага з ног да галавы.

— Прабачце, што так позна,— Шыманскі стараўся гаварыць як мага больш далікатна, лагодна, нават усміхнуўся, каб зрабіць добрае ўражанне на гэтага чалавека. Праўда, усмешка ў яго атрымалася змушаная, крывая.— Тут, разумееце, бяда здарылася...

— Да? — Мужчына яшчэ раз пільна паглядзеў на Шыманскага і нечакана спытаўся: — І таму вы ўсміхаецеся?

Шыманскі разгубіўся.

— Гэта, бадай, ад нерваў...— Ён махнуў рукой, таму што загадзя адчуваў дзіўнасць усёй гэтай гісторыі, яе недарэчнасць і падазронасць свайго позняга візіту сюды, прадчуваў увесь той недавер, які зноў сустрэне... Што, калі і гэты не паверыць?

— Дык што за бяда,— падахвоціў яго мужчына,— пагарэльцы, тапельцы ці што там яшчэ? І, зразумела, не хапае на дарогу да роднага дому пару рублёў? Былі, былі тут учора такія,— яшчэ раз агледзеў Шыманскага з падазронасцю.

— Жанчына там упала ў раку, трэба дапамагчы яе выцягнуць. Я адзін не змог... вось зайшоў, каб каго паклікаць.— Шыманскі намагаўся, каб голас яго гучаў пераканаўча, як стараюцца звычайна гаварыць людзі, калі выдаюць няпраўду за праўду.

— У гэты вось наш ручай? — недаверліва перапытаўся мужчына.— А што адтуль выбірацца, там жа самае большае — дзіцёнку да калена?

— Разумееце, бераг там пакацісты, абледзянеў, тут і дарослы мужчына саслізне, без чужой дапамогі не выберацца. А яна ж з дзіцем на руках...

Шыманскі гаварыў гэта ўжо са злосцю і амаль з нянавісцю сачыў за выразам твару мужчыны. «Няўжо так цяжка паверыць?»

— Жанчына з дзіцем, ноччу? — разгублена разважаў мужчына, дапытліва зазіраючы Шыманскаму ў твар. Усё ж думка, што ўсё расказанае можа быць праўдай, відаць, не дазваляла яму так проста ўзяць дый зачыніць дзверы перад носам дзіўнага начнога госця.

— Як жа яны там апынуліся ноччу?

— Ды не было калі пытацца. Стаіць, ногі ў вадзе, не можа сама выбрацца... Дайце хаця б вяроўку якую.

— Разумееце,— мужчына, даўшы веры ягоным словам, разгублена развёў рукамі.— Жонка ў мяне ў санаторыі цяпер, а я... чорт яго ведае, дзе ў нас што... Я ж да ранку буду шукаць, а не знайду...

— Трэба хутчэй, бо ногі ў халоднай вадзе, цяпер жа восень, разумееце? — Шыманскі зазірнуў мужчыну за спіну, шукаючы позіркам што прыдатнае да справы.— Можа, калі пару шарфікаў увязаць...

Мужчына раптам адступіўся на крок, з шумам уцягнуў у сябе паветра, пасля абурана паведаміў Шыманскаму:

— Вы ж п'яны!

— Я? — ад нечаканасці Шыманскі анямеў. Ён прыгадаў тыя няшчасныя пару бутэлек піва, што выпіў пад вечар з Толем, і зразумеў, штó за «алкаголь» унюхаў мужчына. Усё, што ён, Шыманскі, скажа цяпер у сваё апраўданне,— пойдзе на марна. Алкаголік, і ўсё тут!

Пакуль мужчына ў піжаме кляў усіх алкаголікаў увогуле, а Шыманскага ў прыватнасці, ён павярнуўся да яго спіной і стаў моўчкі спускацца па лесвіцы. Ах, гэты харашыст, узрадаваўся, што не трэба нікуды ісці, нікога ратаваць, а проста, маўляў, прыцёгся такі-сякі алкаш у стане дэлірыўма з нейкімі байкамі. Такая версія табе больш даспадобы, жлоб няшчасны!

Шыманскі бег па сходах усё хутчэй. Выбег у двор. Дом цяпер глядзеў на яго невідушчымі чорнымі вокнамі. Яму хацелася хоць чымсьці адпомсціць гэтаму вар'яцкаму дому з яго абывацельскай абыякавасцю! Шыманскі плюнуў сабе пад ногі, задраў галаву ўгару і закрычаў на ўвесь голас: «Паразі-і-ты!»

Гулкае рэха адбілася ад балконаў дробнымі звонкімі гукамі. Пасля ізноў настала цішыня і маўчанне. Толькі недзе бязгучна адчынілася фортка і ціхі старэчы голас сказаў:

— А вось міліцыю паклічу!

На душы ў Шыманскага панавала глухая бяссільная злосць. Перш за ўсё на сябе. «Падумаеш, герой-адзіночка,— здзекліва думаў ён.— Не змог да людзей дастукацца, дык давай цяпер, ідзі сам, рагамі, нагамі, рукамі, чым хочаш, а даставай чалавека, інакш ты сам — не чалавек, а цвіль...»

Ён завярнуў за вугал і ледзь не наляцеў на ціхую маўклівую кодлу падлеткаў.

— Ану стой! — прапанавалі яму.

Шыманскі прыпыніўся. «Ох, як недарэчы завязнуў... Хаця... чаму не паспрабаваць».

— Хлопцы, жанчыне тут трэба дапамагчы. Непадалёк,— ён адчуваў, што голас яго завісае ў цішыні.— Можа, дапаможаце, а? — ужо амаль жаласна папрасіўся ён. «Ага, гэтыя дапамогуць, як жа, дагоняць і яшчэ раз дапамогуць...»

— А закурыць ёсць? — спытаўся адзін з хлопцаў, хоць сам у гэты час смактаў цыгарэтку.

Шыманскі машынальна паляпаў сябе па кішэнях.

— Не, не куру.— Ну дык як, хлопцы?

Заўважыў, што яго ўжо абкружылі з усіх бакоў. «Зусім завязнуў»,— падумалася, але страху не было. Было толькі балеснае адчуванне жахліва хуткага бегу часу.

— Далі б вы мне, хлопцы, пару шарфікаў, можна было б звязаць іх і дапамагчы жанчыне з рэчкі выбрацца,— працягваў ён, зрабіўшы выгляд, што нічога «такога» не прыкмячае і нічога не баіцца, хаця ніякіх ілюзій наконт свайго становішча ў яго не было.

— Не там іх трэба лавіць. Дык, кажаш, няма закурыць? То блага,— дыхнуў на яго гарэлкай і тытунём доўгі. Пасля дадаў амаль ласкава:— А можа, лепш пашукаеш?

Шыманскі разумеў, што ў такой сітуацыі рабіць яму з сябе героя недарэчна, хлопцаў многа, таму найлепшы для яго цяпер выхад — строіць з сябе дурня.

— Ды што вы, хлопцы! Пачаставаў бы вас з задавальненнем, ды вось сёння з куравам нявыкрутка...



— А ты і не шукай, мы самі лепш... Чэсік! — Высокі звярнуўся да аднаго з хлопцаў.

Той вопытным жэстам спрытна абмацаў кішэні Шыманскага і выцягнуў з унутранай кішэні паліто важкі кашалёк.

— Ой, што вы, таварышы, як жа так...— Шыманскі строіў цяпер з сябе правінцыяла на падпітку,— чацвёра дзяцей, жонка з дому выганіць... грошыкі мае апошнія,— шмаргануў носам, увайшоўшы ў вобраз, хаця сам добра ведаў, што кашалёк важкі дзякуючы таму, што туды засунуў дублікаты да дзвярных ключоў, што атрымаў сёння ў майстэрні. Але дай бог ім гэта заўважыць пазней...

— А зараз па мордзе, ці што? — спыталася цёмная бязвасвая постаць.

Доўгі крыху памарудзіў, пасля спытаўся ў Шыманскага амаль з просьбай у голасе:

— Скардзіцца пойдзеш?

Шыманскі ўжо даўно здагадаўся, што гэта не столькі «прафесіяналы», колькі «аматары», таму працягваў блазнаваць, ужо разумеючы, што ўсё абыдзецца:

— Ну што вы, хлопцы! Якое там! Усё ў парадку, я ж нічога такога... каб дзе, калі...

Сам не стаў чакаць нагоды пакінуць «гасцінную» кампанію, задам, задам, падскокваючы, з блазнаватай недарэчнай усмешкай высмыкнуўся з кола, крутануўся за вугал, адкуль прыйшоў. Абышоў дом з другога боку і выйшаў на дарогу. Пустыя вуліцы зеўралі безвыходнасцю і адчаем. Пуста і пагана было на душы.

— Каго шукаем? — прагучала нечаканае пытанне за спіной. Азірнуўся. За яго спіной стаяў міліцыянер з новенькай рацыяй на баку. Мабыць, участковы з абходу. Шыманскі паглядзеў у той бок, дзе знаходзіліся хлопцы, што «пазычылі» ў яго кашалёк. Наўрад ці яны і цяпер там. Ды і не да таго зараз.

— Прыродай цікавіцеся, начнымі зорамі? — пытаўся міліцыянер.

— Таварыш міліцыянер,— рашуча сказаў Шыманскі.— Вы вельмі дарэчы. Ёсць пільная справа. Хадзем са мной, па дарозе раскажу.

— Ды там, здаецца, шум быў, крычаў хтосьці? — міліцыянер вагаўся, азіраючыся на дом.

— Ды гэта я крычаў, не мог да людзей дастукацца па справе.

Шыманскі падхапіў міліцыянера пад локаць і пацягнуў за сабой. Той усё ж трошкі супраціўляўся. Але, відаць, штосьці ў голасе Шыманскага пераконвала яго.

— Тут у раўчук з вадой жанчына ўпала, магчыма, саслізнула па схіле. Я не змог выцягнуць яе, вось прыбег сюды, у гэты дом, папрасіць дапамогі, а яны...

— Ноч,— неакрэслена зазначыў міліцыянер.

Шыманскі ведаў, што ўжо гэтага хоць за шкірку, але прыцягне да таго раўчука.

— Гэта ваша знаёмая? — пытаўся міліцыянер па дарозе.

— Думаеце, спіхнуў жанчыну ў раку, каб пазбавіцца? — паспрабаваў пажартаваць Шыманскі.— Не, дзякуй богу, ніколі ў жыцці нікога яшчэ не тапіў, ні ў прамым, ні ў пераносным сэнсе. Ішоў сёння, бачу, чалавек у вадзе стаіць, не можа сам выбрацца, ды яшчэ дзіцё на руках. Чужы чалавек, чужы, разумееце?

Шыманскі раптоўна спыніўся, павярнуўся тварам да міліцыянера, той па інерцыі ледзь не стукнуўся лбом аб Шыманскага.

— А што, зразумець можна,— адазваўся спакойна.

Міліцыянер, як і той, у піжаме, раптам уцягнуў носам паветра.

— Ну, выпіў сёння пару шклянак піва, і што з таго? Забаронена? Даўно працверазеў, калі што ў галаве і было, на сто год наперад працверазеў,— з выклікам і злосцю загаварыў Шыманскі.— Ідзем хутчэй, менш слоў, больш дзела.

Ён перабег на другі бок вуліцы. Міліцыянер не адставаў, соп яму ў патыліцу.

Шыманскі прабегся ўздоўж таго месца, дзе была жанчына. Нікога — як ні ўглядаўся ён у цёмную стужку ракі.

— Ну дык дзе ваша жанчына? — сур'ёзна спытаўся міліцыянер.

Шыманскі не адказаў. Разглядаўся навокал, можа, памыліўся ў арыенцірах. Так, насупраць, цераз вуліцу, той дом, дзе не змог знайсці дапамогу, вось разбіты ліхтар... Не магла ж яна ўтапіцца. Тут і праўда дзіцёнку па калена.

Чорт ведае што. Шыманскі прысеў на парапет, выцер шапкай узмакрэлы твар. Сняжынкі падалі проста на разагрэтую яго галаву і раставалі, ператвараліся ў кроплі вады. Але ён гэтага не адчуваў.

— Ну не магла ж яна патануць, ей-богу,— жаласна ці то спытаўся, ці то сцвердзіў ён.— Вось тут стаяла,— паказаў уніз. Паківаў галавой.— Я ж хацеў, як лепш... Прабегаў цэлую гадзіну, шукаў дапамогі. Дарэмна... Што цяпер рабіць?

Міліцыянер, відаць, паверыў у яго шчыры адчай, паспрабаваў супакоіць:

— Ды выбралася яна, відаць. Можа, хто дапамог. Гляньце, той бераг трохі ніжэйшы. Можа, там яна і выйшла.

А Шыманскі ўсё не мог супакоіцца.

— А як жа я?

— А што вы? — Міліцыянер пастукаў яго па плячы.— Бачыце, усё добра скончылася, і вы цяпер ідзіце дадому. Дзе жывяцё?

— Я? — Шыманскі недаўменна паглядзеў на міліцыянера, быццам не разумеў, пра што той гаворыць.— Ды блізка. Паўквартала, пасля цераз двор, карацей, у доме, дзе камісіёнка.

— Во. Акурат нам па дарозе. І мне ў тым напрамку. Пайшлі, а то змерзнем.

Шыманскі нічога не адказаў. Надзеў шапку, захінуў паліто. Сапраўды, трэба дадому, у цёплую пасцель. Трохі пачытаць перад сном і — спаць, спаць... Ну не ўтапілася ж яна, ей-богу!

Ён паспрабаваў забыцца пра ўсё тое, што бачыў за апошнія некалькі гадзін. А і сапраўды, ці была тая жанчына? Можа, і праўда, прымроілася? Адкуль ёй тут было ўзяцца, ноччу?

Ён ішоў па тонкім хрусткім сняжку, што паспеў за гэты час нападаць на зямлю, і яму ўвесь час здавалася, што пад нагамі хрупаюць і крышацца



сцяблінкі нейкіх далікатных кветак. Дзіўнае адчуванне, быццам ідзеш па лілеях ці цюльпанах. Ад гэтага гуку рабілася трохі жахліва.

«Можа, я вар'яцею?» — думаў ён, прыглядаючыся да белага раўнюткага сняжку пад нагамі.

— Што зноў шукаеце? — спытаўся міліцыянер, што неадступна ішоў за ім.

— Ды я ўсё думаю, калі жанчына выбралася з ракі, то і сляды ж павінны былі застацца. Глядзіце, мы ж з вамі пакідаем сляды?

— Павінны, павінны,— цяпер ужо міліцыянер цягнуў яго за рукаў.— Толькі ж снег адразу засыпае сляды. Пяць мінут — і раўнютка.

У душы Шыманскага разлілася цёплая ўдзячнасць да міліцыянера. Што б з ім было, каб ён застаўся цяпер адзін? А што, можа, узяць дый запрасіць міліцыянера да сябе? А што? Пасля такога вечара так хочацца з кім-небудзь пагаварыць.

— Мяне завуць Гена Васільевіч,— працягнуў руку міліцыянеру.

— Серафім,— прадставіўся і той.

— Можа, зойдзем да мяне? Трошку возьмем для сугрэву? Вы ж, мабыць, пасля работы, а?

— Не,— міліцыянер адмоўна паківаў галавой.— Дзякуй, не магу. Ды і вам на сёння хопіць.

Шыманскі рассмяяўся.

— А я прыгадаў, што ў мяне дома зараз якраз ні кроплі «паліва». Так што запрашаю на чай.

— Не баіцёся, што жонка спусціць нас з лесвіцы за такое позняе гасцяванне?

Яны перасеклі двор і выйшлі на пустку.

— Кінула мяне жонка,— Шыманскі дэманстратыўна ўздыхнуў.— Бывае так, як па-вашаму? Любіла, але кінула. (Можа, пашкадуе, зойдзе...)

— Што ж,— паціснуў плячыма міліцыянер.— Чаго толькі на свеце не бывае?

Шыманскі дэманстратыўна шмаргануў носам, паказваючы, як ён перажывае.

Яму трэба было, каб цяпер хто-небудзь пашкадаваў, супакоіў. Так выбілі яго з каляіны падзеі гэтага вечара. І зусім немагчыма было застацца цяпер самому, са сваімі думкамі, перажываннямі. Глянуў скоса на свайго праважатага. З гэтым, мабыць, нічога «такога» ніколі не здараецца. Пойдзе цяпер Серафім да сябе дамоў і праз пару хвілін забудзецца на ўсё. Таццяна, былая жонка, канечне, не пусціць цяпер Шыманскага да сябе. Хаця ён, здараецца, заходзіць да яе праведаць дачку ды і па гаспадарцы чым памагчы. І Машутку шкада будзіць ноччу званком. Зноў жа, цешча...

А вось і яго дом. Вокны таксама сляпыя, цёмныя.

Да каго б з сяброў завітаць? Так неахвота ісці цяпер дадому. Раней, ка-

лі ўсе яны з сябрамі былі маладыя ды нежанатыя — не было праблемы: да каго і калі завітаць. Калі ласка — у любы час дня і ночы.

— Тут жывяцё? — спытаўся Серафім.

— Калі верыць пашпарту, то тут. А можа, зойдзем? — ужо не спадзеючыся на станоўчы адказ, на ўсякі выпадак прапанаваў Шыманскі.

— Выбачайце, дома чакаюць,— развёў рукамі Серафім.

— Нагарыць, што так позна? — не стрымаўся, паіранізаваў Шыманскі.

— Не, у мяне гэтую справу разумеюць. Правесці вас да кватэры?

Шыманскі рассмяяўся:

— Не бойцеся, я не п'яны і не вар'ят.

Але Серафім упарта цягнуўся ззаду. Крокі іх гучалі ў пустым пад'ездзе гучна і гулка.

На душы ў Шыманскага было блага і цьмяна. Ён ішоў па лесвіцы і чуў ззаду, як рэха, водгук Серафімавых крокаў.

Чамусьці прыйшла ў галаву думка: а што падумала пра яго тая жанчына? Што ён нягоднік? Што пакінуў яе і збег?

«А калі разабрацца, то хто ты ёсць на самой справе, чалавек, па-дзіцячы празваны Генам Васільевічам, новаспечаны кандыдат навук? — стомлена думаў ён, ідучы па лесвіцы.— Калі браць у агульначалавечым маштабе — ні чорта не вартыя ні гэтая твая хвалёная дысертацыя, ні ўсё, што ты рабіў дагэтуль, у параўнанні, скажам, з адным чалавечым жыццём».

Раней Шыманскаму ўдавалася шукаць і знаходзіць паратунак ад многіх жыццёвых праблем у рабоце, куды ён і паглыбляўся з галавой. Іншы раз яго заўзятасць у рабоце была проста прапарцыянальная тым жыццёвым непрыемнасцям, якія звальваліся на ягоную галаву.

Толькі сёння, ён адчуваў, і працаваць не зможа...

Таму так страшэнна не хацелася ісці дадому.

Спыніўся перад сваімі дзвярыма. Азірнуўся. Унізе, на лесвічнай пляцоўцы, стаяў Серафім і глядзеў на яго знізу ўверх.

Уздыхнуў. Уставіў ключ у замочную шчыліну.

Мал. **Л. Кальмаевай**



## *Мікола Мятліцкі*



Айчыннага болю стае,
І раны крывяняць скразныя.
Я памяць гукаю, яе!
Палоняць стагоддзі зямныя.

На скронях айчынных дарог
Запалены вочы блакітам.
І тое, што род убярог,
Ці шчодра ўскалошана жытам?

Забаўліва свет не прайсці,
На згубы і звады багаты!
І сёння мы — косць ад касці —
Павечнай Айчыны салдаты.

Высокіх нябёс не ўгняві,
Бяроддзе душу прашывае.
І сёння мы — кроў ад крыві —
Надзея Айчыны жывая.

І шлях скрывянелы зямны
Даўжэе пад зорыстым дахам.
Мы — выдых эпохі,
Званы

Пакуты і мроі над шляхам.
Не скажа нам лёс: нічые,
І доля не скажа: чужыя.
Я памяць гукаю.
Яе
Палоняць стагоддзі зямныя.

### КУКУРУЗНЫ ХЛЕБ

Раллёю прэлай сакавіта восень
Уздыбіць рунь,
Каб хмуры дзень не сlеп!
А памяць на далонях мне прыносіць
З пары маленства кукурузны хлеб.

За вёскаю, ля выцвілай палаткі,
Стаіць, насамі шморгае чарга.
На буравой — сакрэтныя парадкі,
Калючы дрот — і не ступі нага!

Мільгаюць блікі языкатай зваркі.
Пагрозна для дзіцячай таўкатні
Вузеюць вочы строгае татаркі.
І бохан пахкі вось — на далані!

Абдорваў шчодра нас заезджы гандаль,
Бег кожны ў вёску з хлебам у руках.
...З далёкіх вёрст ступлю на матчын ганак,
І сэрца чуе свежы хлебны пах.

Было той здобы ў вёсачцы не густа,
І кукурузны быў яе замес.
Ды кожная адкроеная луста,
Як трэба, спрацавала на прагрэс —

Мы збеглі з вёскі.
Хвост чаргі далёка.
І многія за намі ўслед збягуць.
А памяць светлай даўнасцю галёкае,
Па гэты хлеб нас ставячы ў чаргу.



Пад яблыняй Аркадзю Куляшову,
Як сонца, усміхаецца Кайсын.
Я чую іх дваіх.
І веру слову,
Як верыць маці ачунялы сын.

І неба светла высіцца блакітам,
І воблакі ўвышы, як пікі гор.
Бясконцасцю святла дваім адкрыты
Ўсяе зямлі айчыннае прастор.

Прайшло прастор наскрозь жывое слова
І сэнс жыцця спаўна яму дало.
І ціхі дом, і памяць Куляшова
Сваім дыханнем вечным абдало.

## МАЛАДЫЯ

Ступаеце ад дзедаўскіх магіл,—
І юны крок звініць расой у травах.
Чужая песня і чужая слава
Гадуе прагу неспатольных крыл.

І будзе лёт...
Над ярам і ракой,
Над памяццю,
дзе смутнае сутонне.
Падступіцца бяссонне,
як бяздонне,
І зрыне ўяву
Суднаю рукой.

Тады магутна голасам сваім
Ваш боль зямны гукне у душах востра.
І ацалее веры продкаў
востраў,
І свет жыцця
ўскалосіцца на ім.



Як страшка і зябка ў раз'ятраным свеце,
І хрумсткі сяганняў тваіх п'едэстал.
Вы свету крычыце-пярэчыце, дзеці,
Закуўшы адчайныя душы ў метал.

Уздыбілі прагу шалёныя рытмы,
Адзіны ратунак — ваш «бронежылет».
Ды ў морскай пуціне хаваюцца рыфы...
Інакшым паўстане ваш заўтрашні свет,

Адорыць кашуляю новага крою.
Падхоплены штормам, кусай рукавы!
І вы абжывеце, пакінуўшы мроі,
Суровых рэалій зямных астравы.



У небе воблачка плыло,
Зіхотным воблачка было,
І цень — абсягам бег наўпрост,
Кульнуўся цень
праз ценькі мост,
А потым, быццам цьмяны сцяг,
Ўзляцеў уверх,
на саркафаг.

Куды вандруеш ты, бяда?
Адкуль цярусішся?
Жыву!
Даўно мне здрадзіла вада,
Нябёсы льюць на галаву
Атруты накрап...
На мяжы
Святла і цемры
свет ліпіць.

Маленства чыстыя дажджы,
Сюды мне болей не ступіць.
Палесся горкія дажджы,
Каму ваш сум душой дапіць?!

## ВЫГНАННЕ

У покрыве ночы самотна яны
Ступілі на долі азмрочаны шлях,
Пакінуўшы ў полі цяпло баразны,
Панёсшы зямное цяпло ў мазалях.

Пуцінай выгнання — да ўтомы душы,
Ім крочыць і крочыць ад лёсу наўзбоч.
Ім памяці гойнай касцёр варушыць,
Адчаем сляпіць злeдзянелую ноч.

Як жорстка і люта дарогай зямной
Вядзе іх, бяздомных, абрынуты здзек;
Як хіжа і глуха маўчыць за спіной
Іх болем абпоены ядзерны век.

І там, дзе аблокаў зіхоціцца бель,
Над краем выгнання чароды вядзе,
Пратрубіць астатняй журбой журавель —
І сэрца балесна ўзарвецца ў хадзе.



*І. П. Мележу*

Пудка шапоча на ветры аер,
Спее атрута ў зямным умалоце.
Як жа вам чуецца ў свеце цяпер,
Людзі мае, на палескім балоце?

Чорнае неба сеяла скрозь
Мікрачасцінкі, нябачныя воку.
Вёсак аседласць — вось яна, вось!
Белая згуба ад іх — на паўкроку.

Як жа сабраць вам дарожны хатуль,
Сэрцам знайсці развітальныя сілы,
Каб у выгнанні — далёка адсюль —
Помніць адно пра вяртанне ў магілы?

Як жа забыцца і рушыць, калі
Неба і воблакі быццам бы тыя,
Тыя прадвеснем лятуць жураўлі,
Тыя ж крыжы на магілах святыя?

Як жа паверыць: жахотай-смугой
Доля сірочыя вёсны гартае,
Самай прачорнай, драпежнай шугой
След чалавечы ў палях замятае?

Весняе неба свідруе жаўрук,—
Песня жалосна, тужліва пачута.
Што б ні прыкмеціла вока, бы крук —
Смутна шугае над краем пакута.

Вам безбаязна у прыгаршчы ўзяць
Чорнае глебы — так, на разлуку,
Помнячы вербы і ціхую гаць,
Чуючы сэрцам нязводную муку.

## ВЯЛІКАЯ ПЕЛЬ

Гушкала таемныя здані аблок,
Гукала званочкам крыніцы здалёк,
Мой смех бесклапотны...
І ліпеня спель...
Калыска маленства —
Вялікая Пель.

На жоўтым умытым вадою пяску
Я цісну на ростань каханай руку,
Звінеў каля вуха пагрозлівы чмель.
Сцяжына юнацтва...
Вялікая Пель.

У далях адкрытых чужое зямлі
Ў душы маёй светла, завабна жылі
Чупрыны аблокаў, бярэзніку бель.
Гуканне Радзімы —
Вялікая Пель.

Бядота прыйшла... Заплыла чарнатой.
Гаворыш:
— На ростань, выгнаннік, пастой.
Пагаслі нябёсы. Як чорная мель.
Мой смутак глыбокі —
Вялікая Пель.

Пагаслае неба тваё запалю,
Пунсовай зарою да краю налью,
Прыйду на спатканне з далёкіх зямель
Маленства, юнацтва, каханне
сустрэць.
На промнях тваіх смертаносных згарэць
Яны не пасмеюць,
Вялікая Пель!



Расцвіла сон-трава — нічыя
На сугрэве прачыстых палян.
Дзе ты, весні салодкі падман,
Дзе спатольная сіла твая?
Гарката...
Шызакрылы туман...

Як вярнуцца?
Душа, падкажы.
Як табе родны кут перажыць?
Там у кожным залётным дажджы
Боль і смутак палескі імжыць,
Там душа
на ахвярным крыжы
Просіць неба замглёнае:
жыць!

Там абложа спустошаных дзён,
Кропель смерці спалошлівы звон,
Пасярод трапяткога Жыцця
Там адна з самых жудасных зон —
Зона смутку майго...
Вечны ён...



*Міхась Кацюшэнка*



# СІТУАЦЫЯ

**ФРАГМЕНТЫ З РАМАНА**

1

Ты атрымаў усё, пра што марыў. У цябе салідная зарплата, ты атрымаў кватэру ў самым цэнтры горада з вокнамі на стары парк. У кватэры тры тэлефонныя апараты (памеры плошчы не дазваляюць паспець да тэлефона). Ты не можаш без персанальнай машыны апошняй маркі з салідным нумарам, які выклікае павагу ў вопытных афіцэраў дзяржінспекцыі, не гаворачы пра сяржантаў. Ты кіруеш вялікім штатам супрацоўнікаў, у цябе ажно тры намеснікі, цябе паважаюць, і на ўсіх нарадах ты сядзіш у прэзідыуме. На тваім стале «вяртушка» — і наведвальнікі паглядаюць на стол і на селектарную сувязь са шчырым хваляваннем.

У цябе ёсць Аддзел, твой уласны Аддзел, ты сам стварыў яго, закладваў фундамент, узводзіў гмах, ты не даеш супакою ні сабе, ні сваім супрацоўнікам...

Але хопіць... Пачалося ўсё раніцай, калі ён без усялякай прычыны пасварыўся з жонкай. І наогул, чаму ён павінен суцяшаць сябе?! Ён, Сівалап Мікалай Сяргеевіч, саракатрохгадовы начальнік самастойнага Аддзела, без пяці мінут доктар навук, чалавек, якому многія людзі зайздросцяць. Няўжо па той прычыне, што ён апошнім часам думае толькі пра Цэнтр? Ён вабіць да сябе грацыёзнай высокай вежай з паўпразрыстым шклом, вялізнай (можна сказаць, незлічонай) колькасцю людзей, і ў іх ёсць шанц зрабіцца яго падначаленымі, змогуць пабываць у кабінеце шэфа, які выглядае па лепшых міжнародных стандартах, з фінскай мяккай мэбляй, сценамі, абшытымі чорным дрэвам.

Аднойчы ён нечакана ўявіў сябе на месцы шэфа. Тады яго толькі-толькі прызначылі намеснікам начальніка Аддзела, і тады ад гэтай думкі яму зрабілася проста жахліва, нават далоні ад хвалявання ўзмакрэлі, а сёння, калі галоўнае крэсла раптоўна засталося без гаспадара, думка аб Цэнтры зрабілася рэальнай, апраўданай. А хто, уласна кажучы, больш дастойны, чым ён?! Ёсць, вядома, і другія начальнікі з самастойных Аддзелаў, але ніхто з іх (і гэта застаецца бясспрэчным фактам) не можа скласці канкурэнцыі Сівалапу. Пра гэта неаднойчы казаў у выступленнях на нарадах сам міністр. Ён перш-наперш адзначаў сучасныя Сівалапавы метады работы, яго ўменне дакладна выконваць заданні вышэйшага начальства. Да таго ж ён не слепа, а па-сапраўднаму адчувае сучасныя зрухі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, умее іх заўважаць, не дае сабе спакою і шукае, шукае... Больш таго, Сівалап прымае часта самыя смелыя і рызыкоўныя рашэнні...

Толькі шэф, Генеральны дырэктар Цэнтра, часам паглядаў на Сівалапа з недаверам. Мікалай Сяргеевіч гэта адчуваў, хоць шэф нічым сябе не выдаў, але ён, як здавалася Сівалапу, толькі і чакаў ягонай памылкі. Аднойчы ў кампаніі шэф сказаў, што Сівалап дыхае яму ў спіну, ірвецца на яго месца, але з гэтага нічога не атрымаецца, ва ўсякім разе ў бліжэйшыя дзве пяцігодкі, бо ён, нягледзячы на немалы ўзрост, адчувае сябе выдатна і пра пенсію не думае. Праз некалькі дзён выказванне шэфа было дакладна перададзена Сівалапу адным з тых людзей, якія, відаць, паверылі, што ён і на самой справе можа вось-вось змяніць шэфа і зрабіцца Генеральным дырэктарам Цэнтра. Мікалай Сяргеевіч на шэфа не пакрыўдзіўся, наадварот,— калі ён так думае пра яго, значыцца, як бы там ні было, па-сапраўднаму лічыцца з ім.

Сівалапавы ўласныя думкі і мары пра Цэнтр заставаліся занадта аддаленымі, нерэальнымі, чыста інстынктыўнымі, яны яшчэ не праціналі яго наскрозь...

Упершыню думка пра Цэнтр завалодала ім у тыя дні, калі па самому Цэнтру і па самастойных Аддзелах праслізнула чутка, што шэф цяжка захварэў. Гэта здавалася яму не больш чым плёткай (шэф быў чалавекам здаровым, як кажуць, кроў з малаком, самыя цяжкія хваробы, якія зваліліся на людзей у наша стагоддзе, здаваліся бяссільнымі перад ім). Тым не менш Сівалап адразу ж памчаў у Цэнтр, каб пабачыць шэфа. У яго знайшлася на той час і прычына не абы-якая.

Сакратарка Ніначка паведаміла, што Гаўрыла Іванавіч прыме яго праз хвілін пяць-дзесяць, у шэфа нейкая сур'ёзная размова з Масквой, і ён прасіў нікога не пускаць да сябе. Мікалай Сяргеевіч апусціўся ў мяккае крэсла і пачаў сцішаным голасам кампліментарыць Ніначцы, што яна прыгажэе з кожным днём, што, нават калі ідзеш да шэфа сварыцца, настрой усё роўна імгнення паляпшаецца і ўсё вакол прымае светлыя адценні, таму што існуе на свеце яна.

— Ведаеце, Мікалай Сяргеевіч,— сакратарка перайшла на даверлівы шэпт,— я выпадкова тое-сёе пачула...— Яна ўздыхнула і таямніча зірнула на яго.— Нядаўна Гаўрыла Іванавіч праходзіў прафілактычны агляд. Прыехаў засмучоны. Я ўвайшла ў кабінет, калі ён размаўляў з жонкай па тэлефоне. Аказваецца, яму прапанавалі тэрмінова класціся ў бальніцу на абследаванне. Жах!

— У якую? — спытаў Сівалап.

— У тую самую.

І тут пранізліва прагучаў селектар.

Ніначка сказала, што шэф выклікае Мікалая Сяргеевіча. Сівалап зашпіліў на адзін гузік пінжак і бадзёра ўвайшоў у кабінет Гаўрылы Іванавіча.

Шэф сядзеў у крэсле і, апанураны роздумам, глядзеў перад сабой. Разгубленасці ці нейкіх там іншых змен на ягоным твары Мікалай Сяргеевіч не заўважыў. Шэф не з тых людзей, каб вось гэтак адразу разгубіцца. Некалькі разоў (Сівалап быў тады яшчэ малады, а шэф толькі-толькі прыняў Цэнтр і па ўзросту быў крыху старэйшы ад сённяшняга Мікалая Сяргееві-

ча) ён ледзь не развітаўся са сваёй пасадай, таму што пайшоў на сутычку з тагачасным міністрам. Умяшаўся ЦК. Шэфу напомнілі, што ён яшчэ малады кіраўнік і лепш за ўсё яму згадзіцца з міністрам. Бо міністр не менш яго хвалюецца за справу, да таго ж у яго вопыт і ў кадравых праблемах, якія (што кожнаму зразумела) з'яўляюцца самымі галоўнымі, разбіраецца не горш. Шэф выслухаў, але сказаў, што свайго рашэння не зменіць. Ён зрабіў так, як задумаў. Міністр пры сустрэчы з ім вымавіў толькі адну фразу: «Паглядзім, што з гэтага атрымаецца». Але атрымалася ўсё як след. Чалавек, з-за якога змагаўся шэф, выцягнуў з прарыву самы слабы самастойны Аддзел і даўно ўжо займае адказную пасаду ў Маскве, а новы міністр вымаўляе ягонае прозвішча з павагай. І міністр жа заўсёды адзначае ўменне шэфа ацэньваць па-сапраўднаму таленавітых людзей. Гаўрыла Іванавіч у галоўным ніколі не памыляецца, як у тым самым выпадку, калі ў прэтэндэнта на месца начальніка самастойнага Аддзела развалілася сям'я. Жонка закідала пісьмамі, заявамі высокія і малыя інстанцыі.

...Сеўшы насупраць, Сівалап даў шэфу на подпіс некалькі папер, а пасля, не спяшаючыся, закрануў адну са сваіх нявырашаных праблем. Гаўрыла Іванавіч матлянуў галавой: «Ведаю, ведаю!» І адразу ж паабяцаў звязацца з маскоўскім міністэрствам.

Сівалап зазначыў, што шэф спакойны, ніколькі не разгублены, вось толькі вочы, звычайна ўважлівыя, глядзяць некуды ўбок, быццам шэф бачыць там нешта сваё, нябачнае для другіх.

У канцы гаворкі Гаўрыла Іванавіч кінуў сваё звычайнае: «Больш ніякіх пытанняў?» і паціснуў Сівалапу руку.

Праз некалькі дзён шэф звязаўся па селектары з усімі начальнікамі самастойных Аддзелаў, сказаў, што кладзецца на абследаванне і ўскладае свае абавязкі на першага намесніка Уладзіслава Людвікавіча Сяргейчыка. Усе ведалі, што Сяргейчык трымаецца на рабоце апошнія месяцы, яму багата за шэсцьдзесят, і шэфу ніхто не дазволіць трымаць намесніка-пенсіянера.

І вось тады Сівалап у каторы раз пашкадаваў, што не абараніў да гэтага часу доктарскую, была ж такая магчымасць! Без сумненняў — закончыў бы паспяхова, але заела цякучка, забралі сілу і нервы бясконцыя (і хто іх толькі навыдумваў) нарады, семінары, камандзіроўкі па краіне і за мяжу.

Неяк раз, дужа стомлены працоўным днём, Сівалап паскардзіўся на дарэмна змарнаваны час, пашкадаваў, што мала рабіў на сябе, што доктарскі дыплом мог бы даўно спакойна ляжаць у кішэні. Але наперадзе не менш двух гадоў, і яны пойдуць на заканчэнне самой работы, на розныя афармленні, выпуск манаграфіі, абмеркаванні. Але гэта яшчэ не ўсё. Пасля ўсіх хваляванняў — зацвярджэнне доктарскай дысертацыі ў вышэйшай атэстацыйнай камісіі...

Ён гаварыў і тым самым спрабаваў супакоіць сябе. Ягоныя думкі здаліся жонцы дзіўнымі і нечаканымі, яшчэ ж некалькі дзён назад ён быў упэўнены ў сабе. Яна прызвычаілася бачыць яго менавіта гэткім у апошнія гады, калі ён нарэшце дасягнуў усяго, да чаго імкнуўся даволі доўга, пачынаючы з вучобы ў інстытуце. Удзячная мужу за спакойнае, утульнае жыццё, яна не заўважала яго кароткіх захапленняў, позніх вяртанняў дамоў. У яе было ўласнае жыццё (хоць і не такое, як у яго), ён аб ім нават не здагадваўся, невыпадкова ж кажуць, што жанчыны — асобы дужа вытанча-





Сівалап напружана чакаў, Гармаза, як звычайна, перш чым перайсці да галоўнага, важнічаў.

Нарэшце ён пасля кароткага маўчання (нібыта набраўшы дастаткова кіслароду ў лёгкія) сказаў:

— Мой чалавек днямі меў размову з намеснікам міністра Захарам Піліпавічам Печкуровым, размова ішла якраз пра абставіны... Тыя, што вас цікавяць. Печкуроў сказаў, што збіраецца рэкамендаваць на гэтую пасаду... Каго б вы думалі?

— Не ведаю! — з цяжкасцю выціснуў з сябе Сівалап.

— І ніколі не здагадаецеся. Андрэя Васільевіча Вяршылу.

Сівалап ад нечаканасці прыўзняўся ў крэсле.

— Нічога не разумею, нічога... Андрэя? — твар яго быў разгублены.— Не можа быць, жарт нейкі!

— Гэтаксама і я сказаў свайму чалавеку, але той яшчэ раз паўтарыў... Захар Піліпавіч упэўнены, у Вяршылы — сучаснае мысленне, ён чалавек творчы, выдатна праявіў сябе як кіраўнік. Ён упэўнены, што Вяршыла здольны цалкам перабудаваць работу Цэнтра. Іншага такога чалавека проста не існуе...

— Як вы думаеце, Іван Яфрэмавіч, Вяршыла сам ведае пра гэтую сітуацыю? — у голасе Сівалапа прагучала крыўда.

Гармаза заўважыў, што Мікалай Сяргеевіч дужа расхваляваўся, і супакоіў:

— Вы не хвалюйцеся, Мікалай Сяргеевіч, час яшчэ ёсць, да таго ж Печкуроў не апошняя ў гэтым пытанні інстанцыя. Ці мала што яму стукне ў галаву. Мы сёння павінны абмеркаваць галоўнае — якія шляхі скарыстаць вам...

Сівалап раздражнёна махнуў рукой:

— Ды я не пра гэта, Іван Яфрэмавіч, я пытаюся...

— Я высветлю і гэта. Не спецыяльна, вядома, высветлю. Печкуроў сам сказаў, што Вяршыла мае адзін недахоп, ён чалавек занадта сціплы, а кіраўніку такога рангу сціпласць пашкодзіць. Паводле слоў Печкурова, Вяршыла не ўзрадаваўся, як гэтага трэба было чакаць, а разгубіўся, сказаў, што гэта вельмі нечакана для яго.

— Яшчэ б, нечакана... Ну і артыст! Не ведаю, дзе ён прайшоў гэтую навуку: у нашым Аддзеле ці ў міністэрскіх кабінетах...

Сівалап выпаліў гэтую тыраду на адным дыханні. Сам жа падумаў, што Вяршыла, мусіць, размаўляў з Печкуровым да апошняй сустрэчы на корце. Ён быў усхваляваны, нібыта хворы, што адразу ж заўважыў Падмостка. Яраслаў яшчэ гаварыў, што, мабыць, падскочыў ціск...

Галіна Дзмітрыеўна зазірнула ў кабінет, сказала, што ўсё на стале. Заўважыўшы пачырванелы твар мужа, спытала, у чым справа.

— Нічога, нічога,— адказаў Сівалап. Крыва ўсміхнуўся: — Іван Яфрэмавіч прынёс адну вельмі важную навіну, вельмі цікавую! Ты пачакай, мы зараз...

Калі Галіна Дзмітрыеўна выйшла, Гармаза сказаў:

— Вы не павінны хвалявацца, Мікалай Сяргеевіч, і рабіць паспешлівыя вывады. Трэба дэталёва прадумаць стыль вашых паводзін у бліжэйшыя дні. І яшчэ... Вяршыла не павінен ведаць пра нашу размову, вы рабіце выгляд, што нічога не ведаеце, хоць, разумею, зрабіць гэта нялёгка.

Сівалап уздыхнуў:

— Ёсць мне яму што сказаць, ёсць!







Яны пайшлі снедаць. Сівалап маўчаў і амаль не еў. Гармаза зразумеў: яго місія выканана, і развітаўся.

— Ну што, што ён табе сказаў? — з нецярпеннем спытала Галя, калі за Гармазой зачыніліся дзверы.

— Што сказаў? Канкурэнт у мяне з'явіўся, ды такі, што ніхто і не чакаў.

— Хто?

Сівалап сеў у крэсла, пацёр скроні.

— Уявіць сабе не можаш... Андрэй Васільевіч Вяршыла, уласнай персонай.

— Вось так! Ты мяне ніколі не слухаеш. Ён мне ніколі не падабаўся,— Галіна Дзмітрыеўна замоўкла. Але толькі на імгненне. Яна пачала абвінавачваць Сівалапа ва ўсіх грахах: што не ўмее разбірацца ў людзях, набірае не тых, каго трэба, ды яшчэ дапускае іх у сябры, а яны толькі і чакаюць, каб паставіць яму падножку, а гэтаму Вяршылу, які ўсім абавязаны яму, Сівалапу, яна ніколі не верыла, ягонай жонцы-красуні таксама, бо ў вачах яе так і свеціцца хітрасць...

— Пачакай ты, дай сабрацца з думкамі,— з раздражненнем перапыніў яе Сівалап.

— Збірайся, і чым хутчэй, тым лепш... А хто сказаў Гармазе?

— Ёсць у яго свой чалавек у міністэрстве. З Вяршылам ужо была папярэдняя размова. Праўда, на ўзроўні намесніка міністра Печкурова. Не магу сказаць, каб гэты чалавек мяне любіў. Паважае, вядома, але да любові далёка. Глядзіць заўсёды з нейкім недаверам. Ну, а Вяршыла побач, пад яго прамым кіраўніцтвам... І можа спадабацца.

Ён пайшоў да сябе ў кабінет, узяў чысты аркуш паперы. Напісаў на ім лічбу 1. А побач — прозвішча Вадзіма Антонавіча. Трэба будзе заўтра тэрмінова пазваніць яму, ён можа ўсё высветліць у Адама Іванавіча. Той яшчэ ў Маскве. Лічба 2... Што спланаваць яшчэ? Нічога! Спяшацца не трэба.

Што здарылася? Яна нічога не разумела. Глеб сказаў, што пагаварыў з братам, той, паводле яго слоў, абяцаў дапамагчы, да таго ж добра адазваўся пра Сівалапа. І вось... Можа, Гармаза нешта пераблытаў, а можа, хоча ўстанавіць з Міколам яшчэ больш трывалыя адносіны, разлічвае апынуцца разам з ім у Цэнтры, вось і выдумляе рознае. Як праверыць яго інфармацыю?

У панядзелак Галіна Дзмітрыеўна, як толькі ўвайшла ў кабінет, адразу ж набрала Глебаў тэлефон. Ён, як ёй здалося, з радасцю адгукнуўся, пачаў расказваць пра апошнюю камандзіроўку, дзе яму ўдалося раздабыць некалькі цікавых кніжак, настолькі рэдкіх, што ён нават не асмельваецца называць іх па тэлефоне, яна можа зайсці і сама патрымаць іх у руках, узяць пачытаць. Яна выціснула з сябе нешта пра рабочыя клопаты, некаторыя хатнія справы. І тут ён радасна паведаміў, што адно з апавяданняў амаль што прынялі ў адным шаноўным тоўстым часопісе, ва ўсякім разе яно спадабалася рэдактару аддзела, той перакананы, што галоўнаму рэдактару яно таксама спадабаецца. Яна павіншавала яго, а сама ніяк не магла адважыцца перайсці да справы. І тут ён сам, быццам адчуў яе настрой, спытаў:

— Я днямі бачыў брата. Той сказаў, што зрабіў некаторыя захады ў адносінах майго сябра, збіральніка кніжак — вашага мужа. Сказаў, праблем няма.

— Дзякуй, Глеб, вялікі дзякуй. Гэта мае для мяне немалое значэнне, вам не трэба тлумачыць чаму. Я, дарэчы, размаўляла са сваімі суседзямі,

калегамі. Вам тэрмінова трэба перадрукаваць свае апавяданні і аддаць мне.

Ён падзякаваў, але адмовіўся — трэба пачакаць, пакуль не гатовы да сустрэчы з выдаўцамі. Задумак багата, хочацца іх здзейсніць, трэба перапрацаваць старое. Але не пазней чым праз паўгода кніжка будзе гатовая. Яна павесіла трубку ў яўнай разгубленасці. Можа, Сівалап і яна дарэмна панікуюць, усё абыдзецца. А калі не? Трэба прымаць нейкія пакуль што невядомыя для яе меры, каб кандыдатура Вяршылы знікла назаўсёды. Але як?

Раніцой (яшчэ не было дзевяці) Мікалай Сяргеевіч пачуў у трубцы радасны голас Вадзіма Антонавіча.

— Усё было выдатна! Мне ўпершыню за доўгі час удалося адарвацца ад цякучкі, ад бясконцых спраў. Але вы паехалі, і ўсё пачалося зноў... Дарэчы, прывітанне вашай Марыне. Калі ў Мінску яшчэ ёсць падобныя кабеты, то я ў бліжэйшы час буду ў вас. Дома ўсё нармальна?

— Мая жонка цудоўная жанчына... Яна хутка заводзіцца і гэтак жа хутка адыходзіць. Я прысвяціў ёй амаль два дні, а значыць, і два вечары. Яна не крыўдуе за тое, што я знік на некалькі вечароў... А як вашы справы?

Мікалай Сяргеевіч крыху памаўчаў.

— У цэлым без асаблівых здарэнняў, але з'явілася раптам адна праблема, нават не праблема, а...

Вадзім Антонавіч падагнаў яго:

— Вы гаварыце, гаварыце, не трэба саромецца. Мы адзін аднаго разумеем, я ў гэтым перакананы.

— Мне паведамілі, што з'явілася яшчэ адна кандыдатура.

Начальнік упраўлення рассмяяўся.

— Вы гэта кіньце, плётка, не больш. Я меў размову з вашым міністрам, ды і са сваім таксама. Для іх гэта вырашанае пытанне — генеральным дырэктарам Цэнтра бачаць толькі вас і болей нікога. Мой шэф проста ўлюбёны ў вас пасля выступлення на нарадзе... Так што наша размова пра Маскву, пастаяннае жыхарства ў ёй не была выпадковай, паверце мне. Працуйце і не слухайце, што вам гавораць, не ведаю хто, ворагі або яшчэ хтонебудзь...

Сівалап з палёгкай уздыхнуў. Добра ўсё ж мець такіх сяброў. Праўда, яны час ад часу здраджваюць. Як Вяршыла... Але не ўсе адразу.

Умомант праляцеў час да абеду, потым пазванілі з прыёмнай дырэктара Цэнтра.

Сакратарка сказала, што першы намеснік Уладзіслаў Людвікавіч Сяргейчык ніяк не можа набраць нумар Сівалапа. Чамусьці ўвесь час ідуць кароткія гудкі. Голас яе быў незвычайна ўстрывожаны, але Сівалап не стаў распытваць чаму.

— Добры дзень, Мікалай Сяргеевіч, з прыездам,— глуха прывітаўся Сяргейчык.— Толькі што пазванілі. Гаўрыла Іванавіч памёр. Чакаю вас у сябе. Шмат розных пытанняў. Жонка яго яшчэ не ведае. Зараз паеду да яе. Чакаю вас праз гадзіну.

Сівалап уявіў раптам бледны, разгублены твар Гаўрылы Іванавіча, яго словы: «Не хочацца кідацца ў гэтую бездань, адкуль няма шляху назад, хочацца жыць, гатовы аддаць дзеля жыцця ўсе апошнія сілы, але іх няма...»

Сівалап падышоў да акна, расчыніў яго, набраў поўныя лёгкія паветра. Унізе спяшаліся прахожыя, імкліва рухаўся паток машын. Нічога не здарылася! Нічога! Яшчэ адзін чалавек назаўсёды пакінуў жыццё.







Ён націснуў кнопку селектара.

— Святлана Максімаўна, выклічце, калі ласка, машыну праз мінут пяцьдзесят. Званіў Сяргейчык. Сёння памёр Гаўрыла Іванавіч.

Яна ўздыхнула:

— Божа мой...

Сівалап абнік у крэсле, паторгаў сябе за гальштук, які чамусьці моцна сціснуў шыю. Міжволі ён зрабіў рух да тэлефоннай трубкі, каб пазваніць жонцы, але перадумаў: ён скажа ёй пра гэта вечарам, няхай спакойна працуе. Сівалап адчуў у грудзях нейкую дрыготку, сэрца калацілася нягучна, дробна. Ён адчуў, што яму абавязкова трэба з кім-небудзь пагаварыць. Набраў Таццянін тэлефон, пачуў у трубцы яе голас:

— Увесь дзень чакаю твайго званка, сама не хацела турбаваць, разумею, што ў першы дзень многа спраў. Я ўсе гэтыя дні думала пра цябе, бачыла нейкія дзіўныя сны, але пра іх не па тэлефоне... Як ты з'ездзіў?

— Нармальна. Можна быць задаволеным.

— Але чаму такі засмучаны?

Сівалап расшчапіў засмяглыя вусны:

— Толькі што пазванілі. Памёр Гаўрыла Іванавіч.

Усхваляваная навіной, яна гаворыць, што ў іхняй арганізацыі ўвесь час, асабліва ў апошнія дні, гаварылі, што ён больш чым безнадзейны.

— Пастой, пастой... Што я павінна табе сказаць? Ага, у сувязі са станам здароўя твайго шэфа... Яшчэ гаварылі і пра магчымых прэтэндэнтаў. Дык вось побач з табой называлі яшчэ аднаго чалавека.

Сівалап адчуў, што трывога сціскае яго сэрца.

— Цікава, каго ж...

— Ты яго добра ведаеш. Мы сустракаліся на дні нараджэння ягонай жонкі.

— Вяршыла?

— Ён.

Маўчанне. Нейкая цяжкасць у кожнай клетачцы цела знерухомлівае Сівалапа.

— Не сядзі склаўшы рукі, ты павінен быць энергічным і мэтанакіраваным,— гаворыць яна.— Цябе чакае выдатная будучыня, я веру ў цябе, Мік. Мне хочацца дапамагчы табе, але не ведаю як. Буду думаць.

Яна адчула ў тэлефоннай трубцы яго дыханне.

— І яшчэ. Я хачу бачыць цябе.

— Я пазваню табе ў бліжэйшыя дні.

Святлана Максімаўна напамінае, што машына чакае яго. Сівалап глядзіць на гадзіннік і цяжка ўздымаецца з крэсла — трэба ехаць. Святлана Максімаўна заўважае, што ў яго бледны, без крывінкі, твар. Вядома ж, перажывае...

Яму карцела збегчы адсюль, і ён збег... Але як? Аўтобус... Імкліва бяжыць дарога, сонца настойліва прабіваецца праз шчыльныя шторы на вокнах, асвятляе твары людзей, што сядзяць каля труны. Усе стомленыя, зніякавелыя ад убачанага. Машыны ідуць наперадзе і ззаду, а людзі няведама чаму засталіся ў гэтым аўтобусе, каля труны. І ўражанне такое, быццам яны едуць на пахаванне. Труна будзе ўстаноўлена ў Цэнтры, заўтра людзі развітаюцца са сваім былым кіраўніком, успомняць, як паважалі яго. Як прынята, яны забудуць усё благое, будуць успамінаць адны прыемныя моманты сумеснай работы з ім.

Побач з Сівалапам сядзіць Вяршыла.

— Не верыцца мне, хоць забі, не верыцца, што яго няма,— гаворыць ён ціха.— Быццам гляджу нейкі фільм, усё адбываецца з кімсьці іншым, але толькі не з ім, не ў рэальнасці.

Сівалап нічога не адказвае. Ён закрывае вочы, няма ніякіх думак, у галаве пуста. Раптам яго вусны кранае блазенская ўсмешка, і Вяршыла са здзіўленнем глядзіць на сябра. Але той маўчыць, вочы яго закрытыя, і ўсмешка знікае з твару.

— Я вельмі кепска сябе адчуваю,— кажа Сівалап Уладзіславу Людвікавічу,— разумею, трэба быць тут, але не магу.

— Разумею, вам трэба адпачыць пасля Масквы, а тут такое,— адказвае Сяргейчык.— Можаце ехаць дамоў. Заўтра цяжкі дзень. Адам Іванавіч званіў з Масквы, сказаў, што вам трэба будзе выступіць на могілках ад супрацоўнікаў Цэнтра. Ён таксама будзе трымаць прамову. Прыязджае заўтра.

— Добра, я паеду дамоў,— гаворыць Сівалап.— А заўтра з самай раніцы буду тут.

Ён ледзьве дабіраецца да ложка і неўпрыцям правальваецца ў пустату.

— Ты не захварэў? — жонка запытальна глядзіць на яго.

— Не ведаю,— адказвае ён ціха.— Не ведаю, што са мной...

Яна ўскідвае бровы:

— Ты выглядаеш як нейкая дамачка са слабымі нервамі. Трэба ўзяць сябе ў рукі.

— Адыдзі, я прашу цябе. Пакінь мяне ў спакоі.

Сівалап прачынаецца ноччу — за вокнамі цёмна, ні агеньчыку. Ён ніяк не ўцяміць, што адбылося з ім. Нейкія сны ці бяссонне? Альбо — забыццё? Акуратна рукой Сівалап бярэ гадзіннік, націскае кнопку. Засвяцілася слабае святло — палова трэцяй. Ён устае з ложка, ідзе ў ванну і абмывае твар халоднай вадой. Дзесь у грудзях ціха паколвае. Можа, ён і сапраўды захварэў? Правярае пульс. Абсалютна нармальны, хоць у космас кіруй. Ён ідзе ў кабінет, садзіцца ў крэсла. Вось табе і на! Колькі разоў ён, як і любы чалавек у яго ўзросце, быў на пахаваннях, бачыў мёртвых, і ніколі падобнага з ім не здаралася. А сёння нешта зламалася ў ім. Пачуццё такое, быццам ён вінаваты ў гэтай смерці... Ён амаль што чакаў яе, ён міжволі падлічваў, колькі засталося Гаўрылу Іванавічу (хоць сам не прызнаваўся сабе ў гэтым), яму карцела ведаць... Ведаць, калі ён зойме ягонае месца. Таму так невыносна было глядзець на мармуровы шэфаў твар, таму неспакой на душы, хоць нічога недазволенага ён не зрабіў, так прынята ў наш хуткаплынны час, калі асабліва не кранаюць чужыя перажыванні, чужы боль, час прыспешвае — не спазніся, гані далей, не звяртаючы ўвагі на іншых. Дні бягуць не так, як раней, калі ў чалавека быў час, каб асэнсаваць свет і сябе, што дазваляла быць ягонай душы слабай, адкрытай для пачуццяў... Цяперашні марафон — на выжыванне. Той, хто марудзіць, застаецца далёка ззаду. Галоўнае — абагнаць... І тады ў цябе будзе ўсё!

Заснуць яму не ўдалося. І раніцой ён з'явіўся бледны, не падобны на сябе. Ля труны з целам Гаўрылы Іванавіча моўчкі стаялі ў ганаровай варце знаёмыя і незнаёмыя людзі. Ішлі тыя, хто не мог не развітацца з ім... Неслі і неслі вянкі.

Потым ён, зноў-такі як у дзіўным забыцці, адзначыў: працэсія працягваецца на голых (ніводнага дрэва) могілках. Нехта выступаў... Гучалі словы, нібыта з перадавога газетнага артыкула. Чужым голасам ён сам гаварыў прыкладна гэткія ж словы. Усё закончана. Труна засыпана зямлёй.

Цераз некалькі дзён (ён не мог выдзеліць з іх колькі-небудзь значных падзей) пазваніў міністр. Ён сказаў, што Мікалай Сяргеевіч патрэбны яму па неадкладнай справе.

Сівалап пераступіў парог кабінета міністра.

— У вас бледны твар, я нават на пахаванні заўважыў, як дрэнна вы выглядаеце.

— Стаміўся. Вельмі стаміўся апошнім часам,— адказаў Сівалап.

— Я магу вам паведаміць... Пытанне ўзгоднена з Масквой, з нашым ЦК. Вы прызначаецеся на пасаду генеральнага дырэктара Цэнтра. Заўтра гутарка ў ЦК, а цераз дзень вас чакаюць на субяседаванні ў Маскве.

Вось усё і адбылося, як усё проста, нават да крыўднага проста, і цікава, што ён успрымае гэтыя словы, як нешта належнае.

Са шчырай радасцю ён падзякаваў:

— Дзякуй, Адам Іванавіч. Разумею, мне будзе нялёгка, але абяцаю не падвесці.

Міністр сказаў, што ён у гэтым не сумняваецца, Сівалап праявіў сябе на самастойным Аддзеле як сапраўдны сучасны кіраўнік. Ёсць, праўда, і іншыя добрыя работнікі ў сістэме міністэрства, але асабіста ён падтрымаў Сівалапа.

— У мяне ёсць да вас адно пытанне, Мікалай Сяргеевіч,— вы ж добра ведаеце Андрэя Васільевіча Вяршылу?

Сівалап здзіўлена паглядзеў на Адама Іванавіча.

— Яшчэ б?! Ён у мяне пачынаў, дайшоў да галоўнага інжынера, потым вы забралі да сябе, чым, скажу шчыра, мяне моцна пакрыўдзілі.

Міністр не даў яму дагаварыць.

— Тут здарыўся непрыемны выпадак. Зразумейце, гэта паміж намі, ён сам нічога не ведае. Словам, пазванілі з камісіі партыйнага кантролю. На Вяршылу прыйшла ананімка. З'ява гэта не такая ўжо і рэдкая, але мне сказалі, што ў пісьме столькі бруду, розных фактаў і факцікаў, якія Вяршылу не ўпрыгожваюць...

Сівалап адкашляўся.

— Ды я ж ведаю Андрэя, як самога сябе, усё яго жыццё перада мной, як на далоні. Мы сябруем сем'ямі, часта бачымся, ён — крыштальны чалавек...

— Мяне пераконваць не трэба, я самай лепшай думкі пра Андрэя Васільевіча, самі ведаеце, у міністэрстве не многа такіх работнікаў, адзін-два, і ўсё... Але гэта нічога не значыць. Будзе камісія, будзе дэталёвая праверка, што, разумееце, не вельмі прыемна. Я прашу вас яшчэ раз — нічога Андрэю Васільевічу не гаварыце. Не варта яму раней часу псаваць нервы.

Хто, хто гэта мог зрабіць?! Неадчэпная пранізлівая думка няспынна пульсавала ў галаве Сівалапа.

«Навошта?! Навошта?!» — пытаў ён сам у сябе і не знаходзіў адказу.

...Старанна паголены, у новенькім англійскім касцюме, у машыне з іншым нумарам і іншай маркі ён ехаў у Цэнтр. Ён спакойны, вельмі спакойны. Усё выйшла так, як ён планаваў. І цяпер у машыне не ён, а іншы, абноўлены думкамі і планамі чалавек. А ў Вяршылы ўсё абыдзецца. Ён яму дапаможа.

**Мінск — Масква**
**1985—1987 гг.**

Мал. **А. Уланоўскай**



# *Таіса Мельчанка*



Дажынкі, браткі, рана святкаваць,
Бо ж слова наша толькі зарунела.
Патрэбна недаесці, недаспаць,
Пакуль той колас узрасце, даспее.

Патрэбна сіла новым караням
Зямлі тае, што нас узгадавала.
Сваю усю да кропелькі аддам,
Ды ведаю, наколькі гэта мала.

Давайма, браткі, чуйна працаваць,
Каб слова наша коласам дужэла.
Ніхто яго не ўладзен растаптаць,
Калі з-за кратаў птахам узляцела.

## ПАДЗЯКА

*«Мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая...»*

Мацей Бурачок

Дзякуй, дзядзька Мацею, за дудку,
За яе несмяротны матыў.
Ён стагоддзі вядзе перагудку
З беларусам, як з сэрцам тваім.

З нараджэння спявае праўдзіва —
Адчувае і стогн, і слязу.
З тваіх рук я прыму гэта дзіва,
Урачыста ў народ панясу.

І такое, такое зайграю,
Што абудзіцца кожны глухі.
Мовай «людскаю» заспяваю
З тваёй лёгкай, Мацейка, рукі:

«Ой, то будзе гранне,
Як на павітанне.
І як на вяселле,
Нядоўга тыкеле...»

Дзякуй, дзядзька Мацею, за слова.
Для нашчадкаў яго зберагу.
Будзе жыць наша родная мова,
Я ж без дудкі ужо не магу.

## ДЗЯДЫ

На могілках Усходніх
Скрушны мітынг.
Маўчаць зацята
Прадзеды й дзяды.
Нязгода іх
Аж прабівае пліты:
— Дарогу саступіце
Маладым.

Той памяці святой
Не кожны варты.
Не кожны
Мае права на любоў.
Прыслухайцеся!
Плачуць Курапаты
Па тых,
Што не вярнуліся дамоў.

Яны ўваскрэслі,
Як жывыя здані.
Збіраюцца ўрачыста
На Дзяды.
І вусны апякае
Слова — Сталін...
Крывавы напамінак
Маладым.



## СВЕЧКІ ПАМЯЦІ

### I

З досвітку тупае бабка Лукер'я,
Зноў узнялася з першанькім пеўнем.
Вячэру гатуе старэнькая маці,
Будзе сягоння сыноў прывячаці.

— Крупнік звару, як Іванка любіў,
А для Рамана — узвáру са сліў.
Ціха з сынамі гаворыць Лукер'я,
Верыць у сілу старогa павер'я.

— Пшонную кашу — сынку Міхасю,
Бульбачкі свежай Юраську стушу.
Будзе Андрэйку свежы тварог,
Меншаму, Кольку, з яблык пірог.

Трэба ў хаціне хоць трохі прыбраць:
Вымыць падлогу, абрус парасласць.
Свежы набожнік павешу яшчэ.
Клопат трывогаю душу пячэ.

### II

Прыцемкі ціха на сцены ляглі —
Спёкі чакання, вечнай тугі.
Стол урачыста Лукер'я накрыла,
Свечку дрыготкай рукой запаліла.

Выняла з куфра яшчэ па сарочцы —
Калісь насілі блазноты-сыночкі.
Ціха ўсе шэсць ля сябе разлажыла,
Кожную-кожненьку прыгаласіла.

Пад абразамі села ў куточку,
Здалося, вячэраюць разам сыночкі.
Жывенькія ўсе, маладыя, як калісь.
У сэрцы Лукер'і ні смутку, ні болю.

### III

У цэркаўку дыбае сёння Лукер'я
Сыноў памянуць па святому павер'ю:
Івана...
Рамана...
Міхайлу...
Андрэя...
Юрыя і Міколу,
Якія не прыйдуць
Ніколі.

Шэсць загарэлася свечак —
Дрыжаць у Лукер'і плечы.
Шэсць душ неспакойных, здаецца,
Зліліся з матуліным сэрцам.

Моліцца бабка Лукер'я
За душы, што не памерлі.
...Свечкамі журыцца памяць,
Ранамі, што крывяняць.





*Мікола Мінчанка*

## ДЗЯКУЙ, МАЛАДОСЦЬ!

Плывуць, плывуць удалеч караблі.
І маладосць таксама адплывае,
Ды за сабой, як дзіва, пакідае
Дзіцячы смех на радаснай зямлі.

Не жнеі ў полі жыта жнуць цяпер.
Ды на стале заўсёды хлеб, як сонца.
І каласіцца на зямлі бясконца
Жыццё, калі пасеяны давер.

Усходзіць ён, каб кожнага вітаць,
Хто хлебароба сэрцам разумее,
Хто ад паловы зернейка адвее,
Каб на палях хадзіла мірна раць.

Пакуль усё прымаем так, як ёсць,
Але надзея думкі акрыляе,
Што новы дзень нас мірна прывітае
І скажа старасць: «Дзякуй, маладосць!»

## СМАГА

Маці сына вяла да Дняпра,
Каб пабачыў сінечу дабра,
Каб з крыніцы вады мог напіцца,
Дзе адвечная сіла бруіцца.

Тры таполі каля крыніцы.
Тры таполі, як тры зарніцы.
Тры таполі. Пустая біклага
І жыццё ўсё астатняе — смага.

## ЗОРКІ ШЧАСЦЯ

Ад усмешкі людзі маладзеюць.
Сэрца перапоўнена дабром.
Нават і узімку над Дняпром
Зоркі шчасця ў нас не халадзеюць.

Людзі — птушкі. Птушаняты — дзеці.
Клопат наш заўсёды аб адным,
Каб усё найлепшае на свеце
Выпала на долю маладым.

## У СПАДЧЫНУ

У мілога конік —
Добранькі разбойнік:
Шчыпле канюшыну,
Мілы — па маліну.

Мне гаворыць маці,
Каб сядзела ў хаце.
Ды няма больш сілы —
Па каня йдзе мілы.

Ён не будзе доўга:
Забярэ гнядога.
Ападзе маліна.
Дацвіце дзяўчына.

Буду я ў садочку
Гараваць не ночку,
Покуль прыгалубіць,
Хто маліну любіць.



## ЗАЎЖДЫ Ў ДАРОЗЕ

Зведаў я любоў і зведаў здраду.
Далягляд то светлы, то імжыць.
Чуў нашэпты, добрую параду,—
Па-другому нецікава жыць.

І калі ў мяне спытаюць строга,
Што на свеце больш за ўсё цаню,
Хай адкажа родная дарога,
Што адкрые зноўку дзверы дню.



Зрабіўшы некаму дабро,
Навек забудзь пра тое.
На кожным з нас ляжыць таўро
Зусім не залатое.

Усё, што трэба на зямлі,
Стварадь нам шчодраю рукою.
Сваёю сілай маладою
Ацёсваць грубыя камлі.

На ўсё, на ўсё свая пара:
На дзень, як сон ружовы,
На успамін для сэрца новы
І на пагляд з суседняга двара.

## ЛІПАЦВЕТ

Дай зорам — цішыню.
І водам — вечны рух.
А людзям — чысціню:
Бальзам ад бед і скрух.

Навокал ліпацвет.
Дзень сонечны прыціх.
І гэты белы свет
З табой нам на дваіх.

Яго нам не дзяліць —
Нашчадкам перадаць,—
І зруб, і гэты дах,
А тое, што баліць,
Самім і загаіць.

І зоры назаўжды:
І шчасце, і любоў,
І промень маладзы —
Аснову светлых сноў.

Пяшчотай новы дзень,
Трывогай і журбой.
Вядзе мяне алень
Да вечнасці з табой.

## ЯК ЖЫТУ ВЕК РУНЕЦЬ

Усё адзначыць час,
Як восень
ліст зялёны:
Узнімуцца між нас
Вялікія імёны.

І будзе зелянець
Сапраўднае заўсёды.
Як жыту век рунець,
Так жыць майму народу.



*Васіль Гігевіч, Алег Чарноў*

# СТАЛІ ВОДЫ ГОРКІЯ

**Дакументальная аповесць**



**Раздзел шосты. На чацвёртым годзе Чарнобыля.**

У празаіка М. Стральцова ёсць невялічкае цудоўнае апавяданне з назваю «На чацвёртым годзе вайны». У гэтым апавяданні цераз слёзы галоднага хлопчыка, як скрозь магічны крышталь, высвецілася страшная трагедыя сусветнай вайны.

Пасля разваг пра перспектывы развіцця ядзернай энергетыкі, пасля таго, як мы азнаёміліся з многімі пастановамі, абяцанкамі, прынятымі рашэннямі на розных узроўнях, цяпер, больш чым праз чатыры гады пасля чарнобыльскай трагедыі, давайце яшчэ раз паслухаем людзей: як яны жывуць, на што спадзяюцца, чаму радуюцца?..

Краснаполле... Пражывае тут каля 20 тысяч чалавек. Населеных пунктаў — 173. Некалі тут быў адзін з самых экалагічна чыстых раёнаў на Беларусі.

У канцы лютага гэтага года мы пабывалі ў дырэктара Беларускага філіяла ўсесаюзнага аб'яднання «Ізатоп» Астапчука Васіля Платонавіча. Гэтае аб'яднанне апроч выпуску дазарэзу патрэбных нам дазіметраў складае карту радыеактыўнай забруджанасці зямлі. Бачылі мы карту забруджанасці Краснапольскага раёна. Калі забыцца, што перад табою ляжыць дакумент, на якім паказана радыеактыўнасць, то гэта — прыгожае відовішча: ёсць жоўтыя плямы, зеленаватыя і цёмна-сінія — там, дзе жыць зусім немагчыма... Мы гутарылі з Васілём Платонавічам пра недакладнасць замераў радыеактыўнасці, пра сярэднестатыстычныя паказчыкі, і неяк так сталася, што пад час спакойнай гаворкі пачалі забываць пра лёс тых людзей, якія штодзень жывуць на забруджанай зямлі.

Расказвае Леганькова Марыя Сямёнаўна, жывёлавод калгаса «Мір»:

— Якраз на другі ці на трэці дзень пасля паскі, а яна была ў 86 годзе прыпозненая, пасвіла я вясковых кароў, адразу ж за хатамі на выгане. Там недалёка старшыня выдзеліў травасей нашым каровам. Дзень быў красівы, сонечны, вясна ў сілу бралася. Недалёка ад мяне і калгасныя каровы скублі траву. Грамкоў Віцька іх глядзеў. Да пасляабеддзя і дзень прайшоў няўглядна. Прынесла мне мая меншая дачушка паесці, і Віцьку Вуля — гэта матка яго — тож торбачку з ядой прынесла. Мы селі радком перахапіць. Тое-сёе, гамонім, дзелімся між сабою смачнейшым, і тут як з-пад зямлі выскачыла бальшушчая хмара. Не было яе, неба чысценькае, а тут з вялікуюправялікую посцілку хмара на небе. Ды такая ж яна чорна-сіняя, што ніколі за ўсю жытку не бачыла. І нідзе ж на гразу не збіралася, я ж казала — сонца было яркае. Дык во, посцілка гэта над усёй вёскай плыла. Спачатку неяк паўз зямлі, паўз зямлі, а тады вышэй паднімалася, рыўкамі, як усё адно ўздзёргваў хто яе. І дайшла гэта хмара да нашай падстанцыі, адкуль свет у нашы хаты ідзе. І як толькі дайшла яна да падстанцыі, тут і пачалося: затрашчалі ўсе правады, клубкамі іскры пасыпаліся, і полымя як усё адно з печы шухнула. Страшна-страшна стала. Аж уваччу пацямнела. Перапуд нас нейкі ўзяў. О-ё-ёй, так не перакажаш, тое бачыць трэба было. Я крычу сваёй дзеўцы, Наташцы: «Валіся, любачка, на зямлю, дзяржыся за траву!» Сама з усіх сіл ляснулася пад лазовы куст. Вуля з Віцькам тож палеглі. Так бокам мы і ляжалі, уціскаючыся ў траву. Каровы ж нашы ўспудзіліся, раўсці пачалі, капытамі ды рагамі зямлю ўзбівалі. А Вуля і загаласіла. Усе людзі ў вёсцы бачылі гэту хмару-посцілку. Не магу сказаць ад чаго, але мне заняло ў грудзях, не хацелася дыхаць, як усё роўна ведала

---

Заканчэнне. Пачатак у №№ 4—6.

і дачцы крычала, каб ня дыхала. Патрашчала, паплявалася полымем гэтая сінюшчая хмара, ды панясло яе ветрам у бок пасёлка Зеляні, на Кармапайкі і далей, на Наваельню. Во цяперака ў нас такая бальшушчая радыяцыя, жыць няма як.

А яшчэ да гэтага, чуць не забылася сказаць... Перад паскай жа ўсё перамываецца. Так вядзецца з году ў год. У нас тут некалькі азярцоў ёсць, самаробных капанак. Дык во ў іх мы і мылі чарнейшае: палавікі там з падлогі, пасцельнае начынне, з вакон, ватоўкі ды пінжакі розныя. Збяромся так па некалькі баб, каб весялей было, ды ляскаем пранікамі. І што мы ўбачылі той вясной — уся вада была жоўценькая, асабліва ж каля берагоў. Судзілі-радзілі, адкуль ета, а ці наша веданне? Разгонім пранікамі жоўць і далей мыем. Цяпер кажуць — дужа небяспечная жаўцізна была тая. Во як яно. А нам жа і дзеці большыя памагалі. Наплёскаліся мы тады ў той рацы, наеліся яе па завязку. Аднаму Богу ведама, колькі ўвайшло ў нас гэтай заразы.

Помніцца, што гэтыя памытыя трапкі, як высыхалі, былі цяжкія і нейкія волкія, колькі іх ні сушылі, усё роўна сырасць мелася, нейкая жаўтаватасць. Перасушвалі іх па некалькі разоў, а ніякай карысці.

Пазней нам казалі, што ўзарвалася нейкая станцыя, у нейкім Чарнобылі. Ну ўзарвалася, і што? Усялякае бывае. Недагледзелі людзі. А тут і лета прыскочыла. У лесе, а ён у нас адразу ж за хатамі, суніцы спеюць, чарніцы на падыходзе, і лісічкі павырасталі, дзеці з лесу не вылазяць — носяць грыбы ды ягады. Варэнікі пячэм, варэнне на зіму варым. Як з году ў год вялося. Зіма ж усё падбярэ.

Паміж сабою на рабоце перагаворваліся, што нешта сёлета чарніцы нясмачныя — гарката ў іх, і горла сушыць, грыбы дык нешта не вылежваліся. Гэта ўжо пазней пачалі да нас прыязджаць машыны з нейкімі людзьмі, пакруцяцца ды і паедуць. Папаўзлі чуткі пра атам і радыяцыю. Во тады мы трохі і насцярожыліся. Толькі што тая насцярога? Каб жа гэта зараза вокам бачылася ці хоць смярдзела! Аж не — не чутна і не бачна яе. Пілі мы малако з-пад сваіх кароў, елі ўсё з агародаў. Мінула аж два гады, пакуль забаранілі. Ай, ды і цяпер усё ядзім і п'ём. У магазін не кожны дзень прывозяць, нацыркаеш і віп'еш сырадою. Дзеўцы я сваёй не даю, а сама п' ю. Праўда, ужо без асобай ахвоты. З гарода на сённяшні дзень усё на стол нясём: і бульбіну, і бурак, і капусціну з гуркам. Як жа без гэтага, дзе яго возьмеш? Па праўдзе скажу, пад'ясі во так, і адчуванне, быццам усярэдзіну нехта камення накідаў. Дзяцей шкада! Пазеленелі яны. Нам то, маткам ды бацькам, відно. Мая Наташка ноччу як старушка крэкча. Жаліцца — косці баляць, галава, вушы закладвае, кроў з носа бяжыць. А дзіцёнку ж дзесяты гадок. Якія ж з іх жыльцы будуць, людцы вы мае?! Урачы кажуць, каб вывозілі дзяцей. Толькі ж куды іх везці, дзе шукаць таго шчасця, і хто нас чакае? Ды і як кінуць усё сваё? Я ж пагляджу вакол і помню кожнае бервяно, што вывозіла на сваіх плячах, каб зладкаваць хату. Кожная часта-коліна сваімі рукамі аблашчана.

Нядаўна некалькі нашых двароў павязлі здаваць свініну ў Краснаполле. Там замералі радыяцыю і кажуць, што нельга спажываць яе. Нам грошы выплацілі, а мяса закапалі. А мы ж без усякай праверкі ядзім яго.

Людзі пачалі паміраць. Толькі і чуеш — то ў адной вёсцы, то ў другой хто-та знябожыўся. Сыплюцца людцы як гарох. Тыдзень назад памёрла Надзя Дабравольская з Каменкі. Пайшла падаіць карову і забурылася, быццам і не жыў чалавек. Хваробы адна за адной на ўсіх лезуць, няма ў людзей



цяпер радасці, ходзяць усе як абрачоныя. Наваліўся на баб і мужыкоў рак, пра якога раней і не чулі.

Мы ж думалі: год-два, і схлыне гэтая радыяцыя, а яна ўчапілася зубамі і не сходзіць.

Нам-то што? Мы трохі пажылі і дабра і зла пабачылі, а во як будзе жыцца нашым дзеткам?*

Гаворыць Ніна Пятроўна Казлова, загадчыца склада ў калгасе «Ленінскі шлях»:

— Чужое гора нікому не баліць. Не баліць, і ўсё тут. Як бы мяне ні пераконвалі ў адваротным. Ну і я ездзіла, шукала шчасця разам з мужам і чацвярма дзецьмі. Двое нашых старэйшых дзетак — школьнікі, а двое ў сад ходзяць.

Усё ў нас было: і работа, і кватэра ладная, а во чарнобыльская хмара з'ела нашу вёску Наваельня, дзе цэнтр сельсавета. Няма радасці ад жыцця. Перспектывы, як кажуць, не відна. Людзі п'юць гарэлку, галаву страціўшы: старыя і маладзейшыя, бабы і мужыкі. Выводзяць з сябе радыяцыю. А што рабіць? Дзень пражыў, і дзякуй Богу.

Мы сям'ёю, як і большасць нашых вяскоўцаў, жылі ў няведанні, а калі загаварылі пра радыяцыю, пра тое, што тут нельга жыць,— кінуліся шукаць ратунку ў другіх краях. Паехалі мы на Міншчыну. Спачатку патрапілі ў калгас імя Леніна Чэрвеньскага раёна. Здаецца, і добра было там, і работа ёсць, а хаты няма. Тады падаліся ў саўгас імя Мічурына. Ніколі, колькі жыць буду, не забудзецца, як зайшлі мы да дырэктара саўгаса. Зайшлі, як нішчыя, і стаім, а ён на нас нават і галавы не падняў. Пачалі мы казаць яму пра сваё гора, а ён толькі, як той бык, спадылба буркнуў: «Шукайце сабе месца ў другіх гаспадарках». З тым і паехалі. І чым больш ездзілі, тым ясней станавілася — наша бяда нікамусенькі не баліць (плача, выцірае слёзы).

Былі мы і на Віцебшчыне. Там лепш да нас аднесліся. У калгасе імя Чапаева ў вёсцы Башні сустрэлі цёпла, выслухалі нас. Добры тамака старшыня, чалавечны. Спадабалася нам. Мне прапаноўваў ён пайсці на ферму даяркаю, а мужу — брыгадзірам у паляводства. Сказалі, што спачатку дадуць пажыць у звычайным доме, а пазней выдзеляць кватэру з выгодамі. Там жа бальшое будаўніцтва жылля вядуць. Але пад канец сказалі, каб усё ж вясной прыязджалі. Харашо будзе, калі там не перадумаюць. Можа, нам і пашчасціць. Шкода ж дзяцей, хварэюць яны дужа.

Я яшчэ во скажу: хацелася б перасяляцца разам з наваельнянцамі. Мы ж столькі разам пражылі. Во б нас і ў адно месца ўсіх. Пра гэта мы казалі і нашым кіраўнікам-партыйцам. Казалі-казалі... Перапісвалі нас, пыталіся, хто куды хоча. Ой, гора наша горкае! Затрушваюць нам вочы, як пяском, каб нічога не бачылі. Нічога для нашай карысці не робіцца. Мы ж простыя людзі. Пахварэем ды памрэм. У каго за нас сэрца баліць? Цяпер во і спрабуем па аднаму-двух ездзіць, самі сабе шукаць збаўлення ад бяды. Паверце, не так для сябе, як для дзяцей. Колькі ж ждаць яшчэ? Толькі прыязджаюць нашы людзечкі назад дамоў. Чэрствасць і злосць цяпер паўсюль. Пагарджаюць намі, як карослівымі. А ці наша віна ў тым, што на нашы галовы, на нашы хаты і агароды сыпалася гэтая радыяцыйная пошасць?

Мае ж дзеткі не горшыя за іншых, за другіх дзетак. Ім жа жыць тожа

* Гэты запіс, як і астатнія запісы жыхароў Краснапольшчыны, зроблены ў лютым 1990 года.

хочацца, і жыць трэба. Смертнікамі яшчэ нас завуць. А як жа? — мы і ёсць смертнікі: і ядзім і п'ём усё з гэтай зямелькі. А кажуць жа нашы бабы, ад вучоных людзей чуткі ідуць, што наша яда свеціцца і самі мы ўжо свецімся ад чарнобыльскае заразы.

Малако ў магазіне ў чэргах чакаем. А мяса тое, што прывозяць,— хто яго браць будзе?

Што тут казаць: мы пасля вайны намучыліся, а нашым дзеткам страшней вайны вайна — ні пабегаць, ні пагуляць. Сядзяць як смертнікі яны. Вот так і жывём, такое яно, наша шчасце...

Галіна Мікалаеўна Яўсеенка, загадчыца аддзела радыёінфармацыі Краснапольскай райгазеты «Чырвоны сцяг»:

— Праз некалькі дзён пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС прыйшлі дзеці са школы і гавораць, што настаўнікі папярэдзілі, каб яны не выходзілі на вуліцу, больш знаходзіліся ў кватэры. Я і сама гэта ведала, старалася іх не пускаць на сонца. Толькі ж дзяцей доўга не ўтрымаеш. Хочацца ім пабегаць. А самая малая Ленка — ёй было чатыры гады — падыдзе да дзвярэй, прыадчыне іх, крыху паглядзіць у шчылінку і кажа мне: «Мамка, я паглядзела на вуліцу, няма там радыяцыі...» Гэтыя яе словы мне вельмі і вельмі запомніліся.

Ленка мая нарадзілася моцным дзіцём, здаравей за папярэдніх. Да году пачала хадзіць, а крышку пазней і гаварыць. А вось пасля радыяцыі пачала часта хварэць, хварэць увесь час. З мінулага года жаліцца на страўнік, ляжала ў бальніцы. Адкуль гэта? Яна ж у мяне добра харчуецца. Цяпер во ў сем гадкоў у яе ўжо павялічаны ціск, носам ледзь не кожны дзень ідзе кроў. Раённы педыятр нічога пэўнага не гаворыць.

Зусім нядаўна ў старэйшай дачкі Іны (15 гадоў) выявілася апушчэнне нырак. У Андрэя (14 гадоў) паніжаны ціск. Часам губляе прытомнасць. Некалькі разоў гэта здаралася ў школе. Вось такія справы, такія нашы сямейныя справы.

Хочацца яшчэ адзначыць вось што: на рабоце мне штодзённа прыходзіцца ездзіць па раёну. Скажу праўду — людзі да нас, журналістаў, адносяцца насцярожана, з недаверам. Не вераць яны і розным камісіям, вучоным. Людзі беззваротна згубілі ў нас веру. З асаблівай асцярогаю глядзяць краснапальчане і на раённае кіраўніцтва.

Усе бачаць — няма ніякай карысці, няма зацікаўленасці ў паляпшэнні іх жыцця. Наўкол толькі абяцанні і хлусня *.

17 студзеня 1990 года мы пабывалі ў Лунінецкім раёне Брэсцкай вобласці — былі як у Лунінцы, так і ў вёсцы Чырвоная Воля.

Вяртаючыся ў Мінск, адзін з нас пажартаваў — прапанаваў спаліць чорную «Волгу», на якой мы падарожнічалі па Палессі. Але наш вадзіцель, малады атлетычнага складу хлапец, устрывожыўся не на жарт, калі мы загаварылі пра тое, адкуль мы толькі што выехалі, якімі забруджанымі могуць быць колы машыны...

Калі верыць сведчанням людзей, якія жывуць у тых мясцінах, дзе мы толькі што пабывалі, мы ездзілі і хадзілі, лічы, па радыяцыйнаму попелу, у поўным сэнсе гэтага слова.

* Пад першачарговае адсяленне ў Краснапольскім раёне трапляе 3157 сем'яў. Рэальна на сённяшні дзень—на люты 1990 года—жылля для перасяленцаў выдзелена ў 10 разоў менш—каля 30 кватэр і дамоў сядзібнага тыпу. У раёне востры дэфіцыт кадраў, маюцца вакансіі 45 медработнікаў, каля 30 педагогаў, 127 спецыялістаў сельскай гаспадаркі, звыш 30 работнікаў гандлю і іншых спецыяльнасцей.





Мастакі Кожух У. У. і Цэдзік М. М. у «мёртвай» зоне.

Нам не верылася, пэўна, да канца ў тое. Не хацелася верыць...

Нам сказалі, што знешні гамафон тут складае каля аднаго мілірэнтгена ў гадзіну, дакладна — 0,846, месцамі болей — 0,977 мілірэнтгена ў гадзіну. Замеры праводзіліся прыборам ДРГ-01Т, такім, якім мы карысталіся пры паездцы ў Нараўлянскі раён. Але мы тады зафіксавалі ў зоне так званага жорсткага кантролю максімальны фон у 0,2 мілірэнтгена ў гадзіну. Напомнім, гэта ў адселенай вёсцы Грыдні.

А тут, у цэнтры раёна, які на працягу чатырох год пасля аварыі на ЧАЭС лічыўся зусім небяспечным, у вялікім пасёлку, цэнтральнай сядзібе калгаса «Чырвоны кастрычнік», пад вокнамі мясцовай школы-дзесяцігодкі, і раптам такое... Гэта ж больш чым у сорак разоў вышэй натуральнага фону!

Не, не верылася...

— Трывога паявілася ў нас,— расказвала дырэктар Чырванавольскай сярэдняй школы-дзесяцігодкі Кацярына Фёдараўна Чайгуцкая,— калі сталі заўважаць, што прыкметна пагоршыўся стан здароўя ў нашых дзяцей. Школьнікі, асабліва малодшых класаў, часта трацяць прытомнасць, у многіх носам ідзе кроў...

— У нас некалькі вучняў стаяць на ўліку,— зазначыла галоўны ўрач участковай бальніцы Валянціна Канстанцінаўна Кароль, якая прысутнічала пры нашай размове.

— Ды хіба ж яны кожны раз звяртаюцца да ўрача? — уздыхнула Кацярына Фёдараўна.— Кроў пайшла — бягуць пад кранік...

— Мы да 1988 года аналіз крыві ў школьнікаў не рабілі, цяпер робім,— адказала галоўны ўрач.— Робім глыбокі аналіз... Што можна сказаць? Яўнай анеміі ў дзяцей нібыта не выяўлена. Але назіраецца паніжэнне гемаглабіну ў крыві, у большасці дзяцей павялічана шчытавідка. У апошні час пачасціліся скаргі на болі ў суставах, павялічыліся сардэчныя хваробы...

— Вось тады ў мінулым годзе мы паклікалі ў школу нашага дазіметрыста — ёсць цяпер такая пасада ў калгасе,— працягвала расказ дырэктар школы.— Ён замераў радыяцыйны фон у класах, спартзале, ля школы — усюды была небяспека... Звярнуліся па інстанцыях, а нам у адказ: «Вы не валодаеце сітуацыяй!..» І маўчанне. Мы тады — у райком партыі, да першага сакратара Скорабагацькі. Той даў каманду праверыць. Вось тады, ужо ў снежні, прыехалі, замералі...

Кацярына Фёдараўна паказвае акт ад 18 снежня 1989 года, які падпісалі тэхнік-радыёлаг Лунінецкай СЭС А. П. Жуланаў і загадчык аддзела райвыканкома па пытаннях ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС І. М. Каратыш. Вось у гэтым дакуменце і пазначаны тыя лічбы, якія выклікалі наша, мякка кажучы, здзіўленне: 846 і 977 мікрарэнтген, гэта значыць каля аднаго мілірэнтгена ў гадзіну!

— Тады ж у снежні зямлю на прышкольным газоне зрэзалі бульдозерам і вывезлі за вёску. Абяцаюць заасфальтаваць...

На вуліцы, пад вокнамі школы — «марсіянскі» пейзаж: відно, усё рабілася ў спешцы, зямля была паверчана-парэзана, стоўчана ў гурбы. Па гэтых гурбах, як па снежных сумётах, бегалі дзеці, гулялі ў вайну...

— А тут жа ў нас быў такі цудоўны кветнік! — нібы ў апраўданне прамовіла дырэктар школы і зноў уздыхнула.

Пасля гэткай «дэзактывацыі» фон тут нібыта панізіўся ў тры разы... На жаль, мы не маглі праверыць. На гэты раз у нас не было з сабой прыбора, а калгаснага дазіметрыста мы ў той дзень не дачакаліся...

Сустрэліся з сакратаром парткома калгаса «Чырвоны кастрычнік» Сцяпанам Рыгоравічам Гараглядам і старшынёй прафкома Антонам Міхайлавічам Раковічам. Нічога суцяшальнага ад іх мы не пачулі. Да іх часта звяртаюцца сяльчане са сваімі пытаннямі-трывогамі, але нешта пэўнае адказаць ім кіраўнікі не могуць.

— Мала інфармацыі аб тым, у якіх умовах мы тут жывём і працуем, аб чарнобыльскай аварыі наогул,— зазначыў Сцяпан Рыгоравіч.— Знаем, што не ўсё ў нас тут добра, але ў жыцці нашым мала чаго змянілася, сур'ёзнай увагі няма. У калгасе ёсць карта забруджанасці сельскагаспадарчых угоддзяў. Радыяцыйны фон недзе 100—150, ёсць і болей...

Але што гэта такое і з чым гэта, як кажуць, ядуць, ці больш канкрэтна аб той пагрозе, што зыходзіць ад гэтай атручанай зямлі, яны маюць даволі слабае ўяўленне...

Канечне ж, мы гэтым самым ні пакрыўдзіць, ні абразіць ні ў якім разе таварышаў не хочам, бо... ці не ўсе мы ў аднолькавым становішчы?!

Але ўслухаемся ў сведчанні гэтых людзей.

«Землі нашы забруджаны, але мы іх як засявалі, так і засяваем. І сена косім, а як жа... Планаў з калгаса ніхто не здымае. А людзі ў нас працавітыя...»*.

«Малако нам ніколі не вярталі, а мяса — бывалі такія выпадкі. Бо дзе ж ты яго вырасціш чыстым на нашых пашах... Вяртаем жывёлу дахаты. Кажуць, стаўце на чыстыя кармы. А дзе іх узяць?»

«Калі ў 89-м годзе гэта «раскрылі», дык у наш магазін кінулі сёе-тое з прадуктаў. Нават было завезена харчаванне для дзяцей... А цяпер зноў нічога няма».

«Малако ад сваіх кароў ужываць у ежу забаронена. Яго мы здаём дзяржаве. А нам аднекуль прывозяць у флягах... Але, вядома ж, людзі прывыклі піць сваё. Ды і завозяць тое малако нерэгулярна. Так што ў многіх сем'ях п'юць сваё малако...»

Калі вярталіся з Чырвонай Волі, міжвольна ўспомнілі малюнкі першых дзён-месяцаў пасля аварыі на атамнай станцыі. Тады часта паяўляліся ў друку фотаздымкі, сюжэты па тэлебачанні, якія апавядалі пра тое, як наша доблесная супрацьрадыяцыйная раць не прапускае аніводную машыну з забруджанай зоны без таго, каб папярэдне не змыць з яе да апошняга нукліда, да якога б кола ён ні прычапіўся...

Думалася: гэта ж колькі развезлі той радыяцыі за чатыры гады пасля аварыі з той жа Чырвонай Волі, ды і з іншых месцаў?..

А можа, нам рашыць больш канкрэтную задачку? Зусім на школьную тэму. Скажам, падлічыць, колькі маглі набраць радыяцыі, тых злашчасных бэраў, школьнікі Чырванавольскай сярэдняй школы? Горкі, але, напэўна, павучальны ўрок.

Значыць, што мы маем? 0,846 ці 0,977 мілірэнтген у гадзіну. Возьмем для зручнасці 0,8. За суткі гэты паказчык узрасце да 19,2 мілірэнтгена (0,8 памнажаем на 24 гадзіны). За год — гэта складзе 7008 мілірэнтгенаў. Для пераліку мілірэнтгенаў у бэры выкарыстаем пераліковы каэфіцыент 0,93. Гэта значыць 7008 мР/год перамнажаем на 0,93 і атрымліваем 6517,44 мБэр/год, альбо прыкладна 6,5 бэра за год.

А за чатыры гады?

Правільна, нас могуць абвінаваціць у некарэктнасці разліку (асабліва,

* «Па выніках сацыялістычнага спаборніцтва гаспадарак раёна па павелічэнню вытворчасці і продажу прадукцыі земляробства ў 1989 годзе добрых вынікаў дабіліся калгасы «Зара», «Чырвоны Кастрычнік».
З раённай газеты «Ленінскі сцяг» за 4 студзеня 1990 года.

зазначым, прыхільнікі 35-бэрнай канцэпцыі): не цэлыя ж суткі знаходзяцца дзеці ў школе...

То праўда, не суткамі. Але праўда і тое, што і ва ўсім пасёлку радыяцыйныя абставіны крытычныя...

Праўда яшчэ ў тым, што мы падлічылі толькі знешняе абпраменьванне, якое можна атрымаць у Чырвонай Волі. А ўнутранае абпраменьванне за кошт ужывання брудных прадуктаў — малака, гародніны?

Дакладнасць патрабуе падвоіць лічбу...

— Усё правільна ў акце, памылкі ніякай няма,— пацвердзіла загадчыца санітарна-гігіенічнага аддзела Лунінецкай СЭС Таццяна Васільеўна Корчак.— На Чырвонай Волі ў нас сітуацыя складаная... Дарэчы, суседнюю вёсачку Добрую Волю ўжо прынята рашэнне адсяліць. Да восені збіраюцца адсяліць... Але што вы здзіўляецеся? У нас у Лунінцы значна павышаны фон. Нават ля нашага будынка ёсць месцы, дзе радыяцыйны фон складае 0,980 мілірэнтген у гадзіну *. Але нам больш як 2,5 кюры на квадратны кіламетр не даюць...

— Як гэта разумець? — запыталіся мы.

— А вось загляніце ў гэтую кнігу...— Таццяна Васільеўна паказала нам даведнік аб узроўнях радыяцыйнай забруджанасці населеных пунктаў у пацярпелых раёнах рэспублікі, складзены і зацверджаны Дзяржгідраметам СССР.

— Мы адбіраем пробы і пасылаем іх у Мінск. А ўжо адтуль, ці, дакладней, з Масквы, нам даюць канчатковы вынік...

І нібы схамянуўшыся, Таццяна Васільеўна запыталася ў нас: «А як вашы прозвішчы?» Хаця ў пачатку гаворкі мы, вядома, прадставіліся...

«Імя?.. Па бацьку?» — і акуратным роўным почыркам яна запісала нашы даныя ў сшытачак...

**Раздзел шосты. Радыефобія.**

У чалавека, як вядома, няма органаў, якія б сведчылі яму аб прысутнасці малых доз радыяцыі. У сувязі з гэтым на старонках нашай прэсы ў паслячарнобыльскі перыяд некаторыя ўрачы, ды і не толькі ўрачы, пачалі абвінавачваць людзей у спецыфічным захворванні, якое мае назву радыефобіі. Паявіліся ў апошні час нават цэлыя кнігі, дзе ў спецыяльных раздзелах разглядаецца гэта «хвароба». Паспрабуем жа і мы разабрацца ў гэтым захворванні.

Вось што, напрыклад, піша В. П. Антонаў у кнізе «Уроки Чернобыля: радиация, жизнь, здоровье»:

— Адсутнасць у шырокіх слаёў насельніцтва, якое пражывае ў раёнах, блізкіх да аб'ектаў атамнай энергетыкі, дастатковых ведаў пра радыяцыю і яе біялагічнае ўздзеянне абумовіла фармаванне псіхалагічнай напружанасці, а ў часткі насельніцтва — пачуццё боязні і нават жаху (радыефобія).

Антонаў прыводзіць шмат прыкладаў, якія паказваюць і даказваюць, што радыефобія — адна з канкрэтных праяў стрэса-псіхічнай траўмы, якую нанёс Чарнобыль. Сіла стрэсу і рэакцыя чалавека ў многім звязана з магчымасцю кантролю сітуацыі. Калі кантроль абмежаваны ці згублены, то стан чалавека адрозніваецца асабліва высокім узроўнем трывогі, жаху, бездапаможнасці і дэпрэсіі. У гэтым бачыцца прычына радыефобскіх рэакцый на радыяцыю, якую, паўторым, ні адчуць, ні замераць ступень яе рызыкоўнасці без спецыяльных прыбораў нельга.

* Пасля дадатковай праверкі якасці прадуктаў горад Лунінец уключаны ў спіс населеных пунктаў, жыхары якіх будуць атрымліваць належную даплату па выніках аварыі на ЧАЭС. У снежні 1989 года гэтыя льготы былі прызначаны пяцідзесяці населеным пунктам Лунінецкага раёна, у тым ліку і Чырвонай Волі.



Далей Антонаў піша пра тры стадыі развіцця стрэсавай рэакцыі:

— стадыя трывогі — разуменне сітуацыі і мабілізацыя ўсіх рэсурсаў арганізма для яе пераадолення;

— стадыя рэзістарнасці, альбо пастаянства, гэта значыць адаптацыя да ўмоў крытычнай сітуацыі;

— стадыя, на якой адбываецца дэкампенсацыя, гэта значыць пераход адаптацыйных механізмаў у паталагічныя (хваробу).

Радыефобія, як піша спецыяліст Антонаў, праяўляецца ў розных клінічных формах псіхапаталогіі: псіхастэніях, псіхапатыях, істэрыях, псіхагеніях, якія ўключаюць вострыя рэактыўныя псіхозы, неўрозы, ятрагеніі, настальгіі.

Такім чынам, многія захворванні і сапраўды можна «спісаць» не на ўплыў радыяцыі, а на клінічныя формы псіхапаталогіі, якія ў рэшце рэшт выльюцца ў іншыя захворванні. Разглядаючы і вывучаючы прычыны гэтых клінічных форм псіхапаталогіі, неяк патроху-памалу можна забыцца і пра канкрэтны радыяцыйны ўплыў малых доз.

Што можна сказаць у сувязі з гэтым? Мабыць, і сапраўды можа быць такая хвароба — радыефобія, балазе, як сцвярджае той жа Антонаў, у медыцынскай навуцы і ў псіхіятрычнай практыцы даўно вядомы фобіі (жахі), якія ўзнікаюць незалежна і насуперак жаданню пад уздзеяннем якога-небудзь фактару. Гэтых фактараў налічваецца каля двух дзесяткаў, некаторыя з іх настолькі моцныя, што чалавек часам страчвае крытычныя адносіны да іх. Напрыклад, ёсць гідрафобія — жах перад вадою, акрафобія — жах перад вышынёю, у тым ліку ў тых людзей, хто ніколі не тапіўся альбо не падаў з вышыні.

Адсюль ужо, ад радыефобіі, лёгка дабрацца і да іншых хвароб. Антонаў, напрыклад, спасылаецца на выказванне Г. А. Захар'іна: «Рак на глебе няшчасця сустракаецца гэтак жа часта, як сухоты на глебе сіфілісу».

Але ў сувязі з гэтымі ды і падобнымі разважаннямі аб радыефобіі ўзнікае шэраг пытанняў, якія чамусьці ў прэсе спецыялістамі не абмяркоўваюцца, а калі і абмяркоўваюцца, то неяк надта неабгрунтавана і павярхоўна.

Пытанне першае. Хто ж канкрэтна вінаваты ў радыефобіі? Калі меркаваць па некаторых публікацыях, то ў радыефобіі вінаваты самі пацярпелыя... Тут спрацоўвае вельмі «хітрая» лагічная сістэма: калі радыефобія — захворванне, то чалавек, гэтак мы ўжо прывучыліся думаць, які ім хварэе, вінаваты — не ўбярогся...

І другое пытанне. На сённяшнім стане развіцця медыцынскай дыягностыкі які вучоны можа ўзяць на сябе адказнасць за доказнасць сапраўднай прычыны захворвання пры ўплыве малых доз радыяцыі? Іншымі словамі, ці маюцца ў нас сёння методыкі, якія змаглі б урачу ясна сказаць ці даказаць, ад чаго ў хворага паявілася захворванне: ад радыефобіі ці ад уплыву радыяцыі?..

Паспрабуем разгледзець гэтыя пытанні крышку падрабязней.

Як можна меркаваць з матэрыялу вышэйназванай кнігі, ды і не толькі з гэтага матэрыялу, з самага пачатку насельніцтва не толькі «забруджаных» раёнаў, але ва ўсёй Беларусі не мела дакладнай інфармацыі на

шэраг прынцыповых пытанняў: што такое радыяцыйнае забруджанне, які ўплыў радыяцыі на арганізм у цэлым.

Давайце ўспомнім агульныя ружовыя клятвы-абяцанні вучоных, што наш «мірны» атам нас ніколі не зачэпіць, што ён поўнасцю бясшкодны, што атамныя станцыі можна ставіць амаль што на Чырвонай плошчы ў Маскве. Потым, калі на людскія галовы сыпаўся радыеактыўны попел, спецыялісты-медыкі сцвярджалі, што нічога жахлівага няма, што восеньскі ўраджай будзе чысты і, урэшце, ніякай усесаюзнай, а тым болей міжнароднай дапамогі нам не патрэбна, мужная Беларусь справіцца з бядою сваімі сіламі. І гэтак далей, і таму падобнае...

На першым часе наш народ паверыў нашым вучоным — медыкам, кіраўнікам высокага і нізкага рангу. Народ паверыў **Слову.**

Пазней, калі горкая праўда пачала даходзіць да народнай свядомасці, людзі зразумелі найперш адзінае: іх ашукалі, многія вучоныя, чыноўнікі свядома лгалі дзеля свайго дабрабыту, сваёй кар'еры, якой яны і дабіліся...

Мала таго, што рэальнасць аказалася жахлівай, але, мабыць, найбольш жахліва для людзей было тое, што хлусня працягвалася. У прэсе, па радыё і тэлебачанні пасыпаліся процілеглыя чуткі, меркаванні, праўда перамяшалася з домыслам. У краіне, як і ў рэспубліцы, так і не знайшлося **ніводнага** чалавека, які ў гэтай складанай сітуацыі мог бы даваць дакладную інфармацыю. Нагадаем, што ў Амерыцы пад час аварыі на атамнай станцыі пайшлі якраз па гэтым шляху: за дакладную інфармацыю адказваў адзін чалавек... Урэшце, мог бы быць адзіны інфармацыйны цэнтр. На жаль, на вялікі жаль, нічога падобнага не было. Больш таго, вакол чарнобыльскай аварыі і яе вынікаў невядома чаму сеялася атмасфера сакрэтнасці, пра дазіметры людзі гаварылі шэптам і азіраючыся. Карты, якія меліся на той час, былі сакрэтныя...

Другое пытанне, якое мы задалі вышэй, цесна пераплятаецца з першым. Праўда, дзе-хто сцвярджае, што наша навука аказалася зусім непадрыхтаваная да такой аварыі, таму і не было дакладных рэкамендацый.

Тут у нас узнікаюць сумненні ў гэтай «афіцыйна прызнанай» непадрыхтаванасці навукі. Чаму?

Нагадаем, што яшчэ недзе з пяцідзесятых гадоў пачалі весціся выпрабаванні ядзернай зброі як у паветры, так і на ядзерных палігонах. Дагэтуль у навукова-даследчых інстытутах, лабараторыях, на заводах, дзе вялося абагачэнне ўрану, дзе стваралася ядзерная зброя, увесь час людзі сутыкаліся з радыеактыўнасцю, так што не будзем наіўнымі, каб паверыць сцвярджэнням пра тое, што айчынныя вучоныя медыкі не праводзілі даследаванняў на ўплыў радыяцыі на жывыя арганізмы і папуляцыі. У якасці прыкладу можна спаслацца на многія працы, калі ўжо гаварыць шырэй, дык маецца цэлая навука — радыебіялогія.

У 1959 годзе пачаліся даследаванні ўтрымання цэзію-137 у харчовых прадуктах. Былі выяўлены такія асаблівасці. Існуюць вялікія зоны, дзе канцэнтрацыя гэтага радыенукліда ў прадуктах мясцовай вытворчасці ў сотні разоў перавышае сярэднія саюзныя значэнні.

Адна з такіх зон — Беларуска-Украінскае Палессе. У калектыўнай кнізе «Глобальные выпадения продуктов ядерных взрывов как фактор облучения человека» («Атомиздат», Москва, 1980 г.) змешчана так званая «малочна-цэзіевая» карта. Яна дае ўяўленне аб утрыманні цэзію-137 у малацэ, якое атрымліваюць на Палессі. Прадстаўлены Гомельская і Брэсцкая вобласці — акурат тыя раёны, якія найбольш пацярпелі і цяпер ад аварыі на ЧАЭС. Дык вось, заштрыхаваныя ў дробную клетку зоны вакол Лельчыц (да сама-



га Століна на захад), а таксама вакол Лунінца, Пінска, Маларыты сведчаць аб тым, што ўтрыманне цэзію-137 у малацэ тут складае звыш 1000 пКі/л. А ў раёне Хойнікаў, Чачэрска, Жыткавічаў — ад 501 да 1000 пКі/л. Для параўнання трэба сказаць, што сярэднія па СССР паказчыкі ўтрымання цэзію-137 у малацэ пад час правядзення даследаванняў у 1968—1969 гады складалі 30 і 20 пКі/л адпаведна.

Вынікі аналізаў у пэўнай меры адлюстроўваюць асаблівасці глеб розных раёнаў Беларуска-Украінскага Палесся ў адносінах ступені міграцыі з іх цэзію-137 не толькі ў малако, але і ў іншыя харчовыя прадукты мясцовай вытворчасці. Яны дазваляюць, такім чынам, скласці арыенціровачную параўнальную характарыстыку ўзроўняў забруджання тых ці іншых прадуктаў.

Напрыклад, утрыманне цэзію-137 у грыбах, якія выраслі на дзярнова-падзолістых пясчаных глебах, складае 5000 пКі/кг сырой вагі. У белых грыбах, сабраных на супясчаных глебах,— 1000, у лісічак — 600 пКі/кг сырой вагі...

У ялавічыне ўтрыманне цэзію-137 прыкладна ў чатыры разы вышэй, чым у малацэ. І такая дэталь. Утрыманне цэзію-137 у мышачнай тканцы драпежных рыб складае 1000—1540 пКі/кг, у раслінаядных — у тры-чатыры разы ніжэй.

Такім чынам, у зоне Палесся ў выніку своеасаблівасцей прыродных умоў адзначаецца павышанае ўтрыманне радыеактыўных рэчываў у прадуктах жывёльнага і расліннага паходжання. Паўтараем, гэтая выснова зроблена задоўга да аварыі на ЧАЭС, і, вядома, яна дае не толькі прычыну для роздуму, але і можа паслужыць пэўным арыенцірам для прыняцця таго ці іншага рашэння па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Скажам, пры вырашэнні пытання аб мэтазгоднасці прадаўжаць у гэтай зоне сельскагаспадарчую вытворчасць...

Таму, калі чуеш да месца і не да месца выказванні, што, маўляў, не было ніякіх «падказак» з боку навукі, практыкі, што ўсё звязана з радыеактыўным забруджаннем «упершыню», дык з гэтым дазвольце, шаноўныя апаненты, не пагадзіцца. Былі падказкі, былі, як помнім, рэкамендацыі. Было б жаданне і мужнасць прыслухацца да іх...

Да таго ж маецца і сусветны вопыт медыцыны ў той жа вобласці ўплыву малых доз радыяцыі на арганізм чалавека. Так што, як нам мяркуецца, нельга сцвярджаць, што вучоныя зусім нічога не ведалі пра ўплыў малых доз радыяцыі на чалавека. Іншая гаворка, што гэтыя веды аказаліся недастатковыя.

Больш таго — на гэтай мяжы паміж веданнем і няведаннем чалавека аб уплыве радыяцыі на арганізм чалавека пачалі рабіцца палітычныя і іншыя спекуляцыі. Канечне, сёння мы не можам гэтага сцвярджаць катэгарычна, але ўсё ж, сутыкаючыся з многімі канцэпцыямі, меркаваннямі вучоных, такая думка закрадваецца сама па сабе. І гэта — жахліва... Ці не тут і хаваюцца сапраўдныя прычыны радыефобіі, за якую, у рэшце рэшт, хтосьці ў грамадстве павінен адказваць?

Сёння надыходзіць час сплочваць даўгі кожнаму за сваю хлусню і крывадушша, можа, таму некаторыя медыкі занадта сарамліва і сціпла гавораць пра сваё няведанне аб уплыве малых доз радыяцыі, бо яны ж у тыя першыя пасрачарнобыльскія дні былі ўдзельнікамі дэзінфармацыі.

А сітуацыя, прызнаемся ўсё ж, няпростая. Занадта часта ў друку гаворыцца аб радыяцыйным уплыве на імунную сістэму чалавека, час ад часу ўпамінаецца пра радыяцыйны СНІД. Што гэта такое — многія не ведаюць,

але вось паслухаем меркаванне доктара медыцынскіх навук прафесара М. К. Нядзведзя:

— Медыцынскай навуцы добра вядома, што вострая форма прамянёвых паражэнняў выклікае рэзкае прыгнятанне касцявога мозгу, амаль да ягонага поўнага спусташэння, што прыводзіць да змяншэння колькасці клетак крыві, у тым ліку і лейкацытаў. У выніку арганізм хворага чалавека становіцца абяззброеным перад рознымі інфекцыйнымі агентамі (грыбы, мікробы, прасцейшыя, вірусы). Малыя дозы радыяцыі па меры акумуляцыі могуць аказваць уздзеянне на фізіялагічную рэгенерацыю клетак крыві, значна яе запавольваючы. Асабліва адчувальнай можа аказацца група спецыфічных Т-лімфацытаў. Не выключана, што пастаяннае радыяцыйнае ўздзеянне можа ў некаторых людзей выклікаць радыяцыйную мадэль СНІДа. Такім чынам можа адбыцца актывацыя бактэрыяльнай флоры, якая дагэтуль мірна ўжывалася ў арганізме чалавека (грыбы, вірусы і інш.). У звычайных умовах гэтыя мікраарганізмы прыносяць пэўную карысць. У выніку змены імунных сіл чалавека такая флора пачынае рабіць псіхагеннае ўздзеянне на розныя органы, а то і на ўвесь арганізм, што праявіцца рознымі цяжкімі захворваннямі.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Адкаснуцца ад штучнай радыеактыўнасці, ад той радыяцыі, якую не толькі вучоныя, а ўсё чалавецтва вось ужо каторае дзесяцігоддзе скарыстоўвае сабе на карысць ці на згубу,— пра гэта можна весці спрэчкі гадзінамі,— адкаснуцца ад усяго гэтага мы ўжо, мабыць, не зможам.

Як і адкрыццё электрычнасці, электрамагнітнага поля, так і адкрыццё радыеактыўнага распаду элементаў прывяло чалавецтва да пераходу ў новы, як некаторыя гаворадь, пасляатамны век. Што нас чакае ў гэтым веку?

Пакуль што давайце скажам, што нас сустрэла ў гэтым веку: ядзерная зброя, Хірасіма, прывідлівыя даброты ядзернай энергетыкі, Чарнобыль, «распаўзанне» радыеактыўнасці па зямным шары, ад чаго доля ўкладу штучнай радыеактыўнасці ў агульны радыяцыйны фон рэзка павялічваецца, прымяненне радыеактыўных элементаў для розных тэхналагічных патрэб, у дыягнастычнай апаратуры, у медыцыне...

Сёння, пасля Чарнобыля, калі мы бадай што ўпершыню адчулі і зразумелі, як цесна і непарыўна звязаны між сабою маральнасць чалавека і ягоная навуковая, тэхналагічная ўзброенасць, сёння, калі Чарнобыль, як і смерць роднага блізкага чалавека, прымусіў нас зазірнуць у неразгаданую бездань, калі Чарнобыль можа нас усіх альбо чамусьці навучыць, загартаваць духоўна, альбо напоўніць душы бязвер'ем і нігілізмам, калі мы яшчэ вастрэй адчулі, што Чалавек — неаддзельная часцінка Прыроды і загубіць чалавека можна не толькі жорсткім насіллем, голадам ці атрутаю, але і бязвер'ем, той жа самай безаблічнай радыефобіяй, у якой маюцца канкрэтныя віноўнікі, сёння, адчуўшы трагічнасць сітуацыі, нам нічога іншага не застаецца, як набрацца аптымізму і дзейнічаць.

Але як дзейнічаць? Ці варта дабаўляць болю і адчаю тым пацярпелым, каму і без таго баліць нясцерпна?..

Нам пазарэз не хапае канкрэтных ідэй і прапаноў, а тым болей рашучых дзеянняў па фармаванню ў народзе крытычнага погляду не толькі на штучную радыеактыўнасць, на ядзерную энергетыку, але ўвогуле на тэхналагічную ўзброенасць чалавека і ўсяго чалавецтва. Дагэтуль нам гадамі гаварылася толькі пра выгоды такой узброенасці, як гадамі нас супакойвалі дабротамі нашага «мірнага атама», але ж, мабыць, не менш гучна трэба гаварыць і пра тыя беды, якія можа прынесці і прыносіць навуковая і тэхналагічная ўзброенасць чалавека пры забыцці маральных крытэрыяў.



Заўважце адну заканамернасць: чым большую «ўладу» над прыродаю і тэхналогіяй бярэ ў свае рукі чалавек, тым больш маштабнымі і жахлівымі становяцца вынікі ягонага ўладарання. Забруджванне атмасферы, Сусветнага акіяна, атручванне грунтавых вод, зямель — усё гэта вынікі нашай дзейнасці. На вялікі жаль, сёння ядзерная зброя і ядзерная энергетыка ўпісваюцца ў гэты рад.

Таму сёння, пэўна, трэба было б усім нам задумацца над тым, хто мы? якія мы? да чаго імкнемся? Нарэшце, задумацца над тым, ці адпавядаюць нашы сённяшнія магчымасці — навуковыя, тэхналагічныя, эканамічныя і сацыяльныя, як і наша культура і мараль у цэлым,— таму ўзроўню, якога вымагае вырашэнне такіх буйнамаштабных праблем, як, скажам, тая ж ядзерная энергетыка?

На думку доктара фізіка-матэматычных навук, дырэктара НДІ ядзерных праблем У. Р. Барышэўскага, Чарнобыль — гэта вынік усяго нашага гаспадарання на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Тут трэба ўспомніць і нашу «эканомную эканоміку» з яе аўральнасцю, «выкананнем і перавыкананнем», калі можна валявым рашэннем ідэалагізаванага далдона-невука выдаваць з домны недавараны метал, не «заўважыць» падмены маркі цэменту; нашу навуку, тую яе частку, якая абслугоўвае ведамствы і дзейнічае па прынцыпу «чего изволите»; і нашых «духоўнікаў», якія не міргнуўшы вокам параяць супрацьпастаўляць радыяцыі... «сілу духу» і вопыт лясных мсціўцаў часоў Вялікай Айчыннай...

Як мы гаварылі вышэй, калі ў ЗША на АЭС «Трымайл-Айленд» здарылася аварыя, там, не высвятляючы на бясконцых паседжаннях і сімпозіумах яе маштабаў, таго, колькі і куды магло пранікнуць радыяцыі (у Швецыю ці ў Турцыю), адразу ж, у першыя гадзіны, эвакуіравалі ўсіх жыхароў з небяспечнай зоны. Не пабаяліся ні панікі, ні таго, што падумаюць-скажуць «за бугром»...

Эвакуіраваныя праз дзень былі вернуты на свае кватэры. Бо аварыя, хаця і вялікая,— па папярэдніх разліках, абыдзецца ЗША 130 мільярдаў долараў — не прычыніла шкоды здароўю людзей. Рэактар да таго ж схаваны пад бяспечным каўпаком. Толькі гэта ўжо тэхналогія...

Але ці толькі тэхналогія?

За гэтым і маральнасць заканадаўства, і клопат пра тое, каб не падарваць веру ў здаровы сэнс, ядзерную энергетыку.

У той жа Францыі, дзе, як вядома, вельмі развіта ядзерная энергетыка, існуе поўны давер дзяржаве і атамнаму ведамству. Можа, таму, што там ёсць той адзіны чалавек, які поўнасцю адказвае за яе бяспеку. Яго ведаюць усе. Гэта — міністр аховы здароўя рэспублікі. Дарэчы, без яго подпісу не будзе ажыццёўлены ніводзін праект АЭС. І ён жа ў любы час мае юрыдычнае права без прамаруджвання спыніць любы тэхналагічны працэс, калі было дапушчана парушэнне, якое можа прывесці да ўзнікнення аварыйнай сітуацыі...

У нас жа, як гэта ні балюча, **не знайшлося** таго чалавека ці той установы, органа, які прыняў бы аператыўна і дакладна належнае рашэнне пасля таго, як здарылася аварыя ў Чарнобылі. Рашэнне, якое паказала б, што не гонар мундзіра, не так званы «інтарэс дзяржавы», а перш за ўсё клопат пра чалавека як **найпершы інтарэс дзяржавы** павінен дыктаваць умовы.

Пра стан нашай культуры і маральнасці ў цэлым яскрава сведчаць фак-

ты ўсеагульнай безалабернасці, безадказнасці і марнатраўства, пра якія мы, на вялікі жаль, чуем амаль кожны дзень. Ці трэба тут успамінаць пра такія «дробязі», як «забытыя» ў нашых дварах радыяцыйныя капсулы, радыяцыя ў сценах кватэр *, пра неахайна збудаваныя могільнікі радыеактыўных адыходаў ці пра тое, як «змагаліся» з радыяцыяй на Гомельскім заводзе ліцця і нармаляў, дзе забруджаныя фільтры проста спалілі ў некалькіх метрах ад сталовай, а радыяцыйны попел нават не прысыпалі...**

А колькі ганебных прыкладаў можна прывесці з той жа практыкі ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі... Колькі прымаецца паспешлівых, некампетэнтных рашэнняў па будаўніцтву прамысловых, сацыяльных і жыллёвых аб'ектаў там, дзе іх нельга размяшчаць... Колькі марна патрачана сродкаў на дэзактывацыю ў зоне, адкуль усё роўна трэба высяляць людзей...

— Мы праводзім дэзактывацыю забруджанай радыенуклідамі мясцовасці, а радыяцыя распаўзаецца ўсё далей і далей,— нагадваюцца нам словы намесніка начальніка штаба грамадзянскай абароны БССР Анатоля Васільевіча Ліплянскага.— Чаму гэта адбываецца? Растлумачу. Вось вёску Чудзяны, дзе ўзровень забруджанасці складае 141 кюры на квадратны кіламетр, як вядома, выселілі, людзі там не жывуць. Але дарога праз гэты пункт засталася. Па ёй ходзяць машыны і... развозяць радыяцыю. Хутка ў суседніх пасёлках, куды перасялілі людзей, трэба будзе рабіць дэзактывацыю. Вось так і працуем...

Дык ці гатовы мы да выкарыстання ядзернай энергетыкі?

Такое пытанне паўстае перад намі сёння...

І яшчэ аб адным, да чаго міжволі прыходзіш у думках пра падзеі вакол чарнобыльскай аварыі. Калі хто хацеў бы наўмысна скампраметаваць ядзерную энергетыку ў нашай краіне, дык лепшага выканаўцу гэтай ролі нельга было б прыдумаць, як... само атамнае ведамства, з яго замшэлай, неабачлівай сакрэтнасцю, замоўчваннем праўды, ведамасным цынізмам і непавагай да людзей, усім тым, пра што мы расказалі.

І як жа няпроста цяпер будзе вынайсці тое адзіна правільнае дзяржаўнае рашэнне па гэтай праблеме, якое б задаволіла і энергетыкаў, і ўсіх нас, грамадскасць.

У апошніх радках нашай сумнай хронікі нам хочацца выказаць глыбокую ўдзячнасць вучоным, медыкам, журналістам, якія дапамаглі збіраць матэрыял. У прыватнасці, журналіст М. Стэльмак і малады празаік А. Казлоў зрабілі запісы маналогаў сваіх землякоў, многія вучоныя аказвалі нам кансультацыі.

Фота **В. Шкарубы**

---

* «Радиация с доставкой на дом», газета «Комсомольская правда» за 9 лютага 1990 г.

** «Веники против радиации», газета «Знамя юности» за 22 лістапада 1989 г.



# Публіцыстыка



*Экалогія і чалавек*

# ТАМ, ДЗЕ ЦЯЧЭ БЯРОЗА...



## Высокая вада

Паэт Андрэй Вазнясенскі напісаў некалі радок аб тым, што, шукаючы Індыю, можаш знайсці Амерыку. Здаецца, з тымі, хто шукае, такое адбываецца амаль штодня. Толькі мы гэта не заўсёды заўважаем.

Хто з нас мог уявіць, што на беразе Паліка, над яго люстраной паверхняй, на якой яшчэ пераліваліся апошнія промні вечаровага сонца, раптам з'явіцца маленькі, крыху на падпітку чалавек і пачне захапляюча расказваць, як гатуецца фасолевы суп па-японску пад назваю місу-сіру.

— Робіцца гэта так: трэба ўзяць дзвесце грамаў фасолі...

Але, перш чым расказваць пра цуд-суп і пра дасведчанага бадзягу, што хуценька вымаў з кішэняў то воцат, то недапітую бутэльку піва, мы мусім прызнацца, што ўся паездка наогул атрымалася крыху дзіўнаю, пачынаючы ад таго месца, дзе мы збочылі на лясныя дарогі, і канчаючы тым, як мы адтуль выбраліся.

Заданне сабраць матэрыял па экалогіі на Бярэзіне атрымалі ад рэдакцыі два пісьменнікі, адзін інжынер і аўтар гэтых радкоў. Мы пачалі з задумы праехаць на машыне да запаведнага Паліка, не маючы на гэта дазволу,— гэта значыць свядома парушыць тую ж экалогію. Але праўду кажуць, што ёсць на свеце вышэйшы суд. Бог парушальнікам не даруе. За некалькі метраў да мяжы Бярэзінскага запаведніка машына наша ўгразла на вузенькай лясной сцяжынцы, і колькі мы чаго пад яе ні падкладалі, яна асядала ўсё больш, і ўсе нашы намаганні былі марныя.

Да Паліка мы такі дабраліся, але пешшу, у паляўнічых ботах і толькі палюбаваліся на ягонае хараство і ўпэўніліся, што пасля дажджоў ён моцна разліўся. На першы погляд вада была чыстая, але наўрад ці абяцала быць рыбнаю. Якая ж рыбалка пры такой паводцы?

Час быў ратаваць машыну, думаць пра начлег. Тут на дапамогу прыйшоў жыццёвы вопыт пісьменнікаў. Адзін з іх, Васіль Сямёнавіч, вядомым толькі яму чынам знайшоў дзесьці «Кіравец», другі, Уладзімір Пятровіч, па радыётэлефоне, які быў у выпадкова спыненай машыне, выклікаў свайго даўняга сябра старшыню калгаса «Камінтэрн» Уладзіміра Паўлавіча Мядзела. Падумаць толькі, якія «сілы» сабраліся разам, каб даведацца, што на Паліку высокая вада! «Маладосць», «Чырвоная змена», старшыня калгаса «Камінтэрн» і ўдзельнік экспедыцыі інжынер МВАІДа Анатоль Жарыкаў, які сціпла прасіў называць яго проста Ільічом.

І вось калі мы аднагалосна згадзіліся наконт узроўню вады, аб яе чысціні нам расказаў старшыня Мядзел. Аказваецца, два гады таму па ўсёй рацэ, нібы белая шуга, пайшла ўверх жыватом рыба. Яна спрабавала ратавацца ад атруты ў старыцах, завадзях, уцякала ў пратокі... Марна. Вышэй запаведніка (не таго, што ў Мінскай вобласці, а таго, што ў Віцебскай) дзесьці ў раёне Бярэзіны вырашылі памыць у рэчцы посуд з-пад аміяку. Дарэчы, рабілі гэта не адзін раз, але з рознаю інтэнсіўнасцю. Кажуць, што пацішэньку працягваюць рабіць і цяпер, нягледзячы на тое, што быў суд, што вінаватыя атрымалі сваё...

Дазвольце спытаць: чаму мы так дрэнна інфармаваны? Дзе наш Дзяржкампрыроды, дзе былі тады супрацоўнікі запаведніка, што падпарадкоўваецца аж самой Маскве? Такія пытанні нам прыйшлося задаваць сабе не адзін раз. Сярод простага люду, які сядзіць на беразе з вудаю, існуе цвёрдая ўпэўненасць, што рыба загінула ад радыяцыі і што ўсю Беларусь, уключаючы Мінск, перасяляць хутка кудысьці за Палярны круг.

Цывілізаваны свет ведае, што экалогія патрабуе вялікіх сродкаў. Здаецца, наша начальства пакуль што траціцца на экалогію не вельмі спяшаецца, хаця б таму, што грошай не мае. Але каб і мела, дык, мусіць, не ведала б, куды іх укласці. А ці не пачаць справу са стварэння экалагічнага лікбезу? А сам лікбез адкрыць выдаваннем спецыяльнага інфармацыйнага лістка? Мы ўпэўнены, што чытачы закідалі б яго звесткамі аб становішчы нашых лясоў, палёў і рэк, а ахвотнікі зліваць аміяк ці тыя, хто іх пакрывае, паасцерагліся б, убачыўшы сваё імя на старонках бюлетэня.

Я быў на Прыпяці паміж Туравам і Петрыкавам праз чатыры дні пасля чарнобыльскага выбуху. Размаўляў з сялянамі ў Ляскавічах, Дарашэвічах, Галубіцы, Хваенску, быў у калгасе «Савецкая Беларусь». І паўсюль пытаўся, ці ведаюць яны што-небудзь пра тое, як трэба сябе паводзіць. У адказ яны толькі паціскалі плячыма. З баржы, якая пра-





ходзіла паўз наш катамаран, папярэдзілі, каб не пілі вады з рэчкі — вада радыеактыўная. Значыць, нават у той час, праз чатыры дні, існавала інфармацыя. Ды і спасылкі на тое, што прайшло ўсяго ж толькі чатыры дні,— несур'ёзныя. Нашы вучоныя дастаткова добра вывучылі і вопыт Хірасімы, і свае ўласныя выпрабаванні атамнай зброі, і вопыт Кыштыма. А людзі на Прыпяці, нават мясцовыя бакеншчыкі, адмахваліся і пілі ваду з рэчкі.

Вяртаючыся з тых чатырохгадовай даўнасці дзён на Палік, хачу сказаць наступнае: кожны наш начальнік, пачынаючы ад самага маленькага да больш вялікіх, не зацікаўлены ў распаўсюджванні інфармацыі. Бо нават калі ён і не нясе адказнасці, ён будзе вымушаны дзейнічаць, а дзейнічаць не можа, альбо не ўмее, альбо не мае на гэта распараджэння зверху. Акрамя таго, відаць, усе гэтыя начальнікі «павязаны» паміж сабою — ты не выдаеш мяне, я — цябе. Вось і плыве па Бярэзіне рыбная шуга, а ніхто нібыта не ведае, адкуль яна ўзялася.

Вядома, шмат што залежыць ад асобы кіраўніка, ад яго адданасці справе і, не па-



баімся гэтага слова, гаспадарчага таленту. Была да нядаўняй пары такая «парода» старшынь, якіх несумленнае раённае кіраўніцтва наўмысна прывозіла «на калгас», трымала там з год-два, карысталася тою гаспадаркаю, нібы сваім прыгонным фальваркам, а потым перакідвала «хозяйственного руководителя» ў іншае месца. Бывала такое акурат у рыбных ды паляўнічых угоддзях.

Уладзімір Паўлавіч Мядзел кіруе «Камінтэрнам» чатыры гады. Чалавек ён яшчэ малады, але ў сельскай гаспадарцы, як кажуць, і нарадзіўся і ўзрос. Чатыры гады таму калгас і ў літаральным і ў пераносным сэнсе пагружаўся ў багну, нібы наша машына перад Палікам. Цяжкасцей у Мядзела і сёння хапае, але ён з хітраватаю сціпласцю адзначыў усё ж свае трыццаць цэнтнераў на круг, а потым зноў працягваў «скардзіцца» на жыццё, і зноў нібы між іншым уставіў, што толькі за год пабудавалі дзесяць дамоў. Але ж вось парадокс нашай сённяшняй глыбіннай вёскі — працаваць няма каму, а чарга на жыллё ёсць і не змяншаецца.

Пачуўшы пра мэту нашага падарожжа, Уладзімір Паўлавіч выказаў наступную думку:

— Наколькі я разумею, экалагічная культура можа існаваць у цывілізаваным грамадстве. А цывілізацыя патрабуе велізарнай папярэдняй працы, інфраструктуры... А мы амаль да гэтай пары ўсё працягваем разбураць стары свет... І пабудавалі ўсяго толькі незлічонае войска дармаедаў тыпу аграпрама і гэтак далей. На Захадзе фермера абслугоўвае густая сетка арганізацый, якія не атрымаюць прыбытку, калі гэтага аратага не будзе. Яны вязуць яму ўгнаенні, даюць парады, рамантуюць тэхніку, робяць, калі трэба, разлікі — толькі ары, толькі давай збожжа, малако, мяса... І плаці, вядома, грошы за аказаныя паслугі.

А ў нас? Вырашылі, што добра было б і нам мець сваіх кааператараў ды арандатараў. І кінулі іх амаль у чыстым полі, што тое немаўля ў ваду. Скажаце, вось ты, старшыня, і павінен ім дапамагаць. Ды я і сам на сённяшні дзень кожную цаглiну, кожны кілаграм фарбы выбіваю, кожную тону цэменту з бою бяру... Якая ўжо тут экалогія...

Акурат у гэты момант каля нашых лавак, што стаялі над каналам, вынырнуў з цемнаты маленькі чалавечак, знаўца японскай кухні, дрыжачымі рукамі прыняў ад Васіля Сямёнавіча кілішак.

— Калі будзеце есці варыць, пазавіце мяне,— сказаў ён.— Я навучу вас смажыць рыбу. Блюда завецца камабока.

Мы ўсе дружна, нібы ад камара, адмахнуліся ад яго, а Уладзімір Паўлавіч яшчэ і дадаў:

— Нам такія працаўнікі і дарма не патрэбны. У нас не наркалагічны кабінет.

Старшыня калгаса надоўга задумаўся, маўчалі і мы, гледзячы, як таўчэцца машкара ў ліхтарным святле. Было цёпла, спаць ніхто не збіраўся, здавалася нам, што менавіта ў гэтую першую ноч мы і збяром большую частку таго экалагічнага матэрыялу, дзеля якога прыехалі.

— Кажуць, ён і сапраўды быў добры кухар,— працягваў старшыня.— Аб'ездзіў ледзь не ўсю краіну. Там крыху папрацуе, у другім месцы зап'е, у трэцім выганюць... Краіна наша неабсяжная. Ці не ад вялікага багацця мы такія бедныя?..

Раніцою мы меліся пачаць збіраць катамаран, але адклалі працу, не пачынаючы. Канал у Бярэзіну канчаўся нізкімі масткамі, а падыход да іх быў так заліты вадою, што не абысці, не абнесці, не пралезці пад нізам...

Цяпер пра катамаран. Яго мы зрабілі і ўдасканалілі шмат гадоў назад па малюнках з часопіса «Техника молодежи». З той пары турысты-воднікі не раз мацалі і высока ацэньвалі яго на Ясельдзе, Прыпяці, Гарыні, Нёмане, на той жа Бярэзіне. А стары бакеншчык дзядзька Адам, які шмат нагледзеўся на ўсялякія аўтамабільныя камеры з прывязанымі да іх гнілымі вяроўкамі дзвюма-трыма дошкамі, вельмі станоўча адазваўся аб канструкцыі катамарана і расказаў, як яму аднойчы давялося ратаваць пад вокнамі сваёй рыбацкай хаты небаракаў з «Вячэрняга Мінска». Ледзь, бедалагі, не патапіліся.

Усе ўдзельнікі экспедыцыі чытаюць часопіс «Катера и яхты». Там часам з'яўляюцца звесткі аб неблагіх суднах, бываюць абяцанкі запусціць сёе-тое ў серыю, але нідзе на нашых рэках мы нічога цікавага не бачылі. Зрэдку прагойдаецца плыт СНП, ды ганяюць узад і ўперад старыя «Казанкі» і крыху навейшыя «Прагрэсы». Наша прамысловасць такімі драбязамі, як турысцкія сродкі, не цікавіцца. Гэта ж вам не доменныя печы і не турбіны. На турысцкіх сродках багата не заробіш.

Дарэчы, і часопіс «Катера и яхты», які калісьці інфармаваў аб тым, чаго не было,— аб таварах масавага попыту,— цяпер усё больш піша аб алімпійскіх рэгатах ды аб Руанскіх і Брыстольскіх гонках. Там сапраўды ёсць на што паглядзець...

Пасля кароткай нарады мы вырашылі далей ад клопату перабрацца ў Весялова і ўжо адтуль прадоўжыць наша падарожжа па вадзе...

Калі мы сабраліся і машына кранулася, з кустоўя раптам выбраўся знаёмы нам кухар і, махаючы рукамі, пабег, закрычаўшы штосьці. Ільіч з кузава развёў рукамі: маўляў, няма чым пачаставаць.

— Прыходзьце ў наступны раз. Будзе юшка па-французску. Да яе абавязкова падаецца белае віно.

Дарогі да Весялова было ўсяго якой паўгадзіны.

## Берагі трывог нашых

Ад Карсакавіч да Весялова, праз утульны Зембін, усяго якой паўгадзіны язды.

Што можа быць больш прыемным, чым бесклапотны рух па гладкай, нібы шкло, дарозе, калі бачыш сінія лясы, якія вабяць баравікамі і суніцамі, калі можаш любавацца чыстымі рэкамі, у якіх плёскае цяжкая рыба... На жаль, калі бліжэй знаёмішся з гэтым цудам, больш змрачнееш.

Мы выгрузіліся на сухім беразе, дзе з аднаго боку нас агароджвала металічная сетка трансфарматарнай падстанцыі, а з другога — рэшткі былога яблыневага саду, у якім хутка не застанецца нават галля на дрэвах, не тое што яблыкаў. Філасофскія роздумы наконт сэнсу жыцця і экалогіі ў ім да нашага недастаткова цывілізаванага суайчынніка прыйшлі крыху пазней, а пакуль што мы адправілі дадому машыну і ўзяліся ўрэшце збіраць свой плыт.

Тут мы, як гэта бывала заўсёды, сутыкнуліся, як кажуць, з чалавекам з вуліцы. Набегла шмат цікаўных старых і маладых. Старыя — гэта людзі выключна мужчынскага полу ва ўзросце ад трыццаці і да самых летных гадоў. Малыя — розны «пузаты» ды шчарбаты народ гадоў да дзесяці-адзінаццаці. Ён нецярпліва перамінаецца побач, гатовы да любых паслуг. Калі першая катэгорыя звычайна скептычна пасміхаецца, маўляў, усё ведаем, і абавязкова прадракае нам немінучае патапленне, дык другая, яшчэ не сапсаваная памылковым пачуццём гонару і ўсялякімі іншымі глупствамі, кідаецца выконваць нашы загады. Старанна дзьме ў дзіцячыя мячыкі, на якіх трымаецца наш катамаран, цягне дошкі і трубы, падносіць рэчы. Сваімі белымі ды рыжымі галоўкамі яны нагадваюць цвёрдзенькія маслячкі, што толькі вылупіліся з зямлі. Іх яшчэ не паспеў крануць ні чарвяк сумнення, ні цяжкі бот жыццёвых акалічнасцей. Звычайна мы ім дзячым, чым можам, напрыклад, здымкамі на памяць.

І нарэшце надыходзіць момант, калі пісьменнікі, якія едуць з намі першы раз і ўжо засумняваліся, ці атрымаецца з гэтай авантуры хоць што-небудзь, першыя з апаскаю ўзлазяць на дошкі. Гэта менавіта той момант, і ён расцягваецца на ўсё падарожжа, калі мы становімся часткаю жывой прыроды, часткаю плыні, сутыкаемся з ёю так блізка, што можна апусціць нават твар у ваду. Ні з якога пляжа, ні з берага так зліцца з асяроддзем немагчыма.

Ужо некалькі гадоў мы ходзім без матора, працуем на вёслах і не шкадуем аб гэтым. Першы наш рухавічок магутнасцю пяць конскіх сіл называўся «Прыбой». Гэта быў нядрэнны маторчык, яго асабліваcцю было тое, што, колькі б на яго ні нагрузілі, хоць бы сабе і тону, ён аднолькава старанна, што той ішачок, цягнуў, не псаваўся, не чыхаў і амаль не патрабаваў рамонту. На жаль, яго знялі з вытворчасці на пачатку сямідзесятых гадоў. Матор «Масква-М» — крыху больш магутны, таксама стары і таксама зняты з вытворчасці — быў больш капрызны. А ўсялякія «Віхры» ды «Нептуны» нас ніколі не цікавілі. І наогул маторы айчыннай вытворчасці дрэнныя ўсе без выключэння. Расход бензіну ў іх фантастычны. Маторы — першыя ворагі нашай вадзяной экалогіі, і няма неабходнасці карыстацца імі, асабліва на такіх рэках, як Бярэзіна.

Гадоў з дзесяць ужо, як на Мінскім моры і на Свіслачы ў наваколлі Мінска хадзіць на маторах забаронена. Ад высокай хвалі перасталі размывацца берагі, не гіне рыбная моладзь, не забруджваецца бензінам і маслам вада. Спытайцеся ў рыбакоў — яны вам скажуць, што на Мінскім моры адразу ж з'явілася рыба. Забаронена хадзіць на мато-

рах і на ўсіх закрытых вадаёмах Беларусі — азёрах, сажалках... Адзіная істота, якая будзе катэгарычна супраць такой забароны,— браканьер. Простаю вудаю ён грэбуе, яму падавай сетку, электравуду і нават дынаміт. Ды яшчэ яму сродак перамяшчэння патрэбны, бо на вёслах далёка не ўцячэш...

Ад Весялова мы спадзяваліся прайсці гадзіну-другую і стаць дзе-небудзь на сухім месцы. Але забалочанасць берагоў ды разліў вады тут былі такія, што ісці мы вымушаны былі амаль пяць гадзін. Вёскі стаяць далёка за поймаю, да лясоў не падысці, яны толькі вабяць сваёю прыгажосцю. Нягуста стаяць стажкі сена. Як тут было не ўспомніць Уладзіміра Паўлавіча і ягоную скаргу на тое, што ўзяў ён у гэтым годзе з-за дажджоў і высокай вады ўсяго толькі адзін укос. Але нягледзячы на гэта, ён усё ж надойвае за год больш трох тысяч кілаграмаў малака ад каровы.

Адыходзячы ад Весялова, мы яшчэ звярнулі ўвагу на мясцовую нафтабазу, чые серабрыстыя бакі ёмка ўладкаваліся на самым беразе. Мы запамяталі гэты аб'ект.

І вось нарэшце мы сталі ў вельмі прыгожым месцы, у Студзёнцы. Менавіта там, дзе Напалеон «на Бярозе рукавіцы і шапку пакінуў»... Калісьці, яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы, тут быў пастаўлены невялічкі помнік, хутчэй памятны знак у гонар разгрому французаў. Быў пасаджаны мемарыяльны гай, прысада парасла ядлоўцам. Побач з дарэвалюцыйным помнікам узведзены наш, у чатыры разы большы, пафарбаваны брудна-чорнаю фарбаю, помнік-куб. Ну што ж, гэтае антымастацтва можна было б зразумець, усё ж праяўленне хоць якой павагі да нашых продкаў і воінаў — вызваліцеляў ад фашызму.

Але ж, таварышы! Такога вар'яцтва, такога пераўтварэння мемарыяльнага лесу ў сметнік я яшчэ не бачыў! Свежассечаныя дрэвы, плёнка, горы адыходаў, шкло, кансервавыя бляшанкі... І кастрышчы, быццам стаяла тут Мамаева конніца, быццам нельга карыстацца адным-двума месцамі. Дазволю сабе некалькі думак наконт гэтага.

Такія знявечаныя куткі нашай прыроды часцей за ўсё сустракаюцца там, дзе спалучаюцца вада, лес і прыгожы краявід. Усе такія месцы добра вядомы нашым прыродаахоўнікам. Але што гэта за ахоўнікі? Вось што расказаў нам стары ляснік, які, убачыўшы нашы фотаапараты, на веласіпедзе прыехаў аднекуль і з трывогаю спытаўся, што гэта мы здымаем.

— А што я магу адзін зрабіць? — ледзь не заплакаў ён.— Я стары, мяне ніхто не баіцца. А буду лезці, дык паб'юць яшчэ гэтыя п'яніцы!.. Дый за восемдзесят рублёў?

Мусіць, ён мае рацыю. Прызвычаіліся мы не зважаць, прыкідваемся, што нешта такое робім, што нібыта працуем, нібыта вучымся, нібыта ахоўваем прыроду...

А вось як гэта робіцца за мяжою, хоць бы ў той жа Галандыі. Там кожны, выязджаючы на прыроду, плоціць невялікія, чыста сімвалічныя грошы. Яму адводзяць участак і запісваюць у кнігу. Калі ён на гэтым кавалку зямлі нашкодзіць, дык і дадому штраф прыйдзе. Існуе ў іх спецыяльная экалагічная паліцыя, і ў дадатак да ўсяго месцы масавага скаплення людзей аблётвае верталёт.

Усё гэта там, у іх. У нас, відаць, будзе вельмі не хутка, хоць я і спадзяюся, што будзе абавязкова. Праўда, да таго часу могуць павысякаць усе дрэвы, але гэта не страшна, бо насадзяць новыя. Могуць атруціць усю рыбу, але і гэта дробязь — развядуць другую, як выказвалася адна адказная асоба, яшчэ больш лепшую. Могуць забрудзіць усё нафтаю, але ж прагрэс! Кажуць, ужо вынайшлі машыны, што тую плёнку хутка збіраюць, нібы яе і не было. За мяжою яны ўжо ёсць.

І яшчэ адно пажаданне: трэба зрабіць так, каб парадак у месцах агульнага карыстання наводзіў хто-небудзь адзін. Бо калі гэта будзе і лясніцтва, і сельсавет, і Вярхоўны Савет, і яшчэ шмат іншых, дык атрымаецца славутае «тащить и не пущать» з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі.

Напаследак мы падышлі да вялікай зялёнай палаткі, каля якой весялілася кампанія маладых і не зусім маладых людзей. Адзін з іх, з чырвонымі шчочкамі і выразным носам, злазіў у палатку і выкараскаўся адтуль з чаркаю гарэлкі і агурком.

— От, пачастуйцеся,— сказаў ён.— Солі, праўда, у магазіне не было, а хлеб мы даўно з'елі...

Мы яму ветліва падзякавалі і спыталіся, чаму ён і ягоныя сябрукі так насмецілі вакол палаткі.

— Адною банкаю больш, адною менш — нічога не зменіцца,— адказаў нам гэты чалавек.— Не з нас трэба пачынаць.

Вось такая логіка. І наогул, ён нам кагосьці нагадваў... Вельмі распаўсюджаны тып,





 

асабліва ў месцах, дзе збіраецца многа мужчын. Напрыклад, каля вінных магазінаў. Там таксама своеасаблівая экалогія.

Чалавек — істота складаная. Дагэтуль вучоныя спрачаюцца, чаго ў ім больш — добрага ці дрэннага, чорнага ці белага. І, мусіць, яшчэ шмат вады сплыве, пакуль яны прыйдуць да канчатковай высновы і змогуць узважыць усё, што мае ў сабе гэты «вянец прыроды». Мы, вядома, не збіраемся аспрэчваць класічны выраз «Человек — это звучит гордо!», але дазвольце зрабіць маленькі дадатак: не кожны чалавек.

Дарэчы, брудзяць вакол сябе не толькі п'яніцы, але і цвярозыя, халастыя і сямейныя, будаўнікі і вытворцы арганічных угнаенняў, дырэктары прадпрыемстваў і іхнія сакратаркі. Робяць яны гэта таму, што нічога не баяцца і нават не здагадваюцца, што трэба чагосьці баяцца.

Але ж хутка, хутка ўсё зменіцца, хацелася думаць. У Маскве ж створаны Дзяржкамітэт па экалогіі, ужо ён пакажа! Дайце яму толькі агледзецца ды разабрацца, што да чаго... Але мінуў час, ніякіх змен...

Перш чым адплыць далей па прыгажуні Бярэзіне, мы яшчэ раз наведаліся да светлага граніту помніка і раптам заўважылі, што раней ён складаўся не з аднаго толькі сціплага кубіка. Нешта на ім было яшчэ — можа, двухгаловы арол? Бо на самай сярэдзіне зверху аказалася дзюрка, старанна замазаная цэментам. Аказваецца, псуюць не толькі лясы і рэкі, а наогул усё, што трапіць пад руку, што мае хоць якую-небудзь каштоўнасць.

Мы просім усіх, каму вядома, як выглядаў гэты помнік раней, паведаміць нам аб гэтым. Месца апошняга разгрому Напалеона на нашай зямлі з'яўляецца гістарычным і заслугоўвае большай увагі і пашаны.

Праплываючы ўсё далей па рэчцы, пачынаеш інакш разумець і яе праблемы і яе прыгажосць. Гэтага нельга ўявіць сабе, выходзячы на бераг у асобных месцах, якімі б цікавымі яны ні былі. На суднаходных магістралях, такіх, як Прыпяць, ёсць людзі, што жывуць на рацэ і на ёй працуюць — бакеншчыкі, баржавікі, тыя, хто абслугоўвае пасажырскія «Ракеты». На Бярэзіне знакі навігацыі стаяць ад Барысава, але ні арганізаванага руху, ні службоўцаў, што павінны назіраць за рэчкаю, за тыдзень падарожжа мы не сустрэлі. А шкада, бо ў другіх, больш дагледжаных месцах Беларускае таварыства аховы рыбалоўства (БТАР) крыху ўсё ж ганяе нягоднікаў — у каго сетку адбярэ, у каго іншую прыладу...

У адным месцы прама пад нашы пантоны зваліўся раптам рыбак, які заснуў. Калі мы яго вылавілі, ён аказаўся такі п'яны, што толькі і змог вымавіць:

— Эх, нічога не ловіцца... Хіба на жыўца паспрабаваць...— І зноў заснуў, на гэты раз на сухім месцы.

Уладзімір Пятровіч выразна паглядзеў у бок кухоннага блока.

— Як завецца той японскі супчык? — спытаўся ён.— Хто памятае?

Васіль Сямёнавіч толькі адкрыў рот, каб адказаць яму, як яго апярэдзіла мармытанне з-пад куста:

— Калгасна-вытрыманы — дзесяць літраў з пуда,— адазваўся няўдалы рыбак.

Плыт наш мякка плёскаўся ля пясчанага берага. Пройдзены быў яшчэ адзін кавалак маршруту.

## Дым і гром

Аб чым гамоняць у дарозе? Ды аб чым хочаце — аб палітыцы, аб літаратуры, аб розных выпадках з жыцця — аб усім на свеце, толькі не аб ежы. Спачатку гэта нікому не прыходзіць у галаву, а потым не да размоў: трэба хутчэй паставіць палатку, развесці вогнішча і гатаваць, гатаваць гэтую самую ежу. Уладзімір Пятровіч, патрымаўшы некаторы час у вадзе сваю вуду, усё часцей падыходзіць да Ільіча і заглядае цераз яго плячо ў кацялок, прагна ўцягвае носам паветра. Якія словы тут яшчэ патрэбны?..

І вось калі мы селі нарэшце вакол цэлафанавай падсцілкі, што была нам замест стала, гарачы кулеш з кансервамі ледзь не стаў кожнаму з нас упоперак горла.

Непатапляльны рыбак, што мірна спаў да гэтага, падсыхаючы на яшчэ пякучым сонейку, раптам сеў і прабубнеў пакрыўджана з-пад калматай галавы:





 

— А вы далей не пройдзеце... Далей стаяць праз рэчку вайсковыя пантоны.

Мы не паспелі запрасіць яго да агню, бо ён, сказаўшы гэта, выцягнуў з кустоўя веласіпед і пакаціў сваёю дарогаю.

Раніцою мы ўбачылі спачатку стаўбуны дыму за паваротам рэчкі, а ў хуткім часе і тое, што нам накаркаў няўдалы аб'ект барацьбы з п'янствам і алкагалізмам,— рэчка была ад берага да берага перакрыта аж трыма мастамі, якія ляжалі на вадзе, а вакол спрытна сноўдалі салдаты ў пляміста-зялёнай вопратцы. Ішлі чарговыя вучэнні, і ніякага выхаду, як перанесці ўсё наша дабро на руках, у нас не было.

Здараюцца ў жыцці выпадкі, калі трэба тэрмінова правесці нараду і агледзець тэатр ваенных дзеянняў (у спецыяльнай літаратуры — ТВД). Хоць мы і нейтралы ў гэтай вайне сініх і зялёных, але, дзе знаходзішся, разабрацца трэба, прынамсі дзеля таго, каб хоць ведаць, куды своечасова ўцякаць. «Дымавой завэса дэлаим»,— сказаў нам кучаравы каўказец і задам падагнаў амаль да самай вады складанае збудаванне на аўтамабільным хаду. Міма прабягалі другія салдаты і неслі ў руках нейкія пляскатыя талеркі. Усе, акрамя нас, былі заняты справаю.

Вецер дзьмуў нам у спіну, і ніякіх прадчуванняў, акрамя прадчування, што давядзецца пераносіць цяжкі катамаран з рэчамі, у нас не было. Няхай сабе нясе вецер дым у бок мастоў, няхай сабе маскіруе, няхай дарослыя дзядзькі з вялікімі зоркамі на пагонах гуляюць у вайну. Нас гэта не тычыцца, іхняя задача дыміць, наша — назіраць за экалогіяй.

Каб усё было так проста! Не паспелі мы агледзецца, як раптам зараўлі маторы, моцна засмярдзела і, на наша здзіўленне, жоўта-шэры дым насунуўся на нас ззаду. Удушлівая коўдра агарнула нас так шчыльна, што нічога не стала бачна нават за паўметра. Аказалася, што салдаты паставілі ў нас за спіною дымавыя шашкі, якія мы па сваёй вайсковай неадукаванасці прынялі было за нешта іншае. У дадатак, даволі нізка пачалі лётаць звышгукавыя самалёты. Кажуць, калі яны праносяцца на брыючым палёце, дык ад іхняга грому можа нават скура злезці з жывога чалавека. З нас не злезла, але валасы на галаве варушыліся... Ну і страху ж мы нацярпеліся. Дыхаць давялося праз мокрую хусцінку, кашлялі потым да канца плавання... Добра яшчэ, што дым быў без усялякіх атручваючых рэчываў. Без «чаромхі», напрыклад.

Працяг гэтых ваяўнічых дзеянняў мы ўбачылі ўжо ў Барысаве. Далёка ўздоўж рэчкі, управа і ўлева ад яе, усюдыісныя хлапчукі пускалі дымы з украдзеных, а можа, і проста падараваных салдатамі пляскатых шашак. На вайне як на вайне.

Стары Барысаў з таго боку, адкуль мы ў яго ўвайшлі, заслугоўвае пэндзля выдатнага імпрэсіяніста. Так маляўніча выглядаюць ягоныя шматкаляровыя дамкі, так караскаюцца яны на высокі левы бераг і глядзяцца адтуль у нерухомае люстэрка вады. Ці то вялікая вёска, ці то ўскраіна невялічкага гарадка, дзе на зялёнай мураве пасвяцца белыя гусі...

Я нарадзіўся і пражыў паўжыцця на такой жа ўскраіне, дзе калісьці была чыгуначная слабада і дзе вуліцы праз паўстагоддзя пасля Кастрычніка ўсё яшчэ называліся Тыфліская і Самарская... Цяпер увесь гэты велізарны некалі раён драўлянай забудовы амаль цалкам знесены. Але наведваючы аднойчы сваю былую радзіму, я сустрэў сярод рэдкіх шпакоўняў асенізацыйную машыну і спытаўся ў вадзіцеля, які адначасова з'яўляецца і апаратарам пэўных акрэсленых аперацый: «А ці даводзяць вам план і ў якіх адзінках? Можа, у кавалка-кіламетрах?» Вадзіцель-апаратар высакамерна на мяне паглядзеў і адказаў:

— У чым трэба, у тым і даводзяць... Ідзі адсюль, а то і цябе зараз зааперырую ў бочку!

Што праўда, то праўда, у Барысаве я такіх бачкароў не сустракаў, але і шпакоўняў, што стаялі на беразе і спускалі б сваё змесціва ў ваду, таксама ніводнага не было. На працягу ўсяго горада Бярэзіна чыстая, ні труб, ні сцёкаў нідзе не бачна, да той пары...

...Да той пары, пакуль мы не мінулі аўтамабільны мост і не наблізіліся да буйных прадпрыемстваў.

Нават сонца, што дагэтуль неміласэрна смаліла нас, раптам зайшло за хмару. Рэчка зрабілася змрочная і няўтульная і нават колер набыла нейкі непрыемны. Калі вы хочаце ведаць, дзе такое непрыемнае месца знаходзіцца, дык адрас мы можам даць вельмі дакладны: паміж аўтамабільным і чыгуначным мостам, там, дзе фанерна-запалкавы камбінат і папяровая фабрыка зрабілі з яе свой задні двор. Смецце, бярвенне, друз, і над усім гэтым пабудовы ледзь не канца мінулага стагоддзя.

На жаль, ідучы далей па рацэ, мы ўвесь час адчувалі ўздзеянне гэтых «прамысловых» фактараў. Мы ўзялі гэтае слова ў двукоссе, таму што лічым, сапраўдная высокатэхналагічная вытворчасць павінна быць чыстая ва ўсіх сваіх звеннях. Апраўданнем не можа быць спасылка на тое, што, маўляў, у другіх месцах яшчэ горш. Мы размаўлялі аднойчы з адным рыбаахоўнікам, які скардзіўся на тое, што ў волжскай вадзе змяшчаецца такая колькасць ртуці, што рыбу небяспечна ўжо есці, а хутка і зусім будзе нельга і немагчыма.

— Але ўвайдзіце і ў іх становішча,— уздыхнуў наш субяседнік,— галоўнымі спажыўцамі гэтай ртуці з'яўляюцца содавыя заводы, а яны ў сваю чаргу забяспечваюць сыравінаю вытворчасць мыла і гэтак далей. Што ж вы хочаце, каб мыла было яшчэ менш? Цывілізацыя ж, прагрэс...

Не ведаем, ці ён сапраўды не разумеў, ці прыкідваўся, што не разумее розніцы паміж сапраўднаю цывілізацыяй, заснаванай на няспыннай змене тэхналогій і іх удасканаленні, і такім вось убогім таптаннем на месцы. Але нам не так ужо і рэдка трапляюцца падобныя «ахоўнікі» лясоў, нетраў і вады. Яны плачуць, што не могуць добра рабіць сваю працу таму, што плацяць ім мізэр, але чамусьці ад гэтага мізэру не адмаўляюцца. Лічу і маю шмат таму прыкладаў, што, калі ім будуць плаціць і дзвесце рублёў, і больш, працаваць яны будуць таксама дрэнна, калі не горш.

Мы ўвесь час спяшаемся. У сваёй сацыялістычнай краіне мы ледзь не з першых дзён яе заснавання спрабуем ажыццяўляць прынцып камуністычнага падзелу агульнага пірага. Калі не, дык чаму тады перакладчык з замежных моў атрымлівае столькі, колькі звычайны дворнік? Мы дапамагаем будаваць сацыялізм у краінах, дзе не сфарміравалася яшчэ нават адзіная нацыя, дзе засталіся нашчадкі рабаўладання, мы не падмацоўваем ідэалогію эканамічнаю базаю, а потым дзівімся, што якое-небудзь Малі ці Самалі раптам выпадае з агульнасацыялістычнага працэсу...

Некалькі гадоў таму старшыня Савета ветэранаў партыі аднаго з раёнаў горада Мінска, камуніст з 1917 года, горача даказваў, што сацыялізм трэба лічыць пабудаваным на наступны дзень пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Дзеля чаго ўвесь гэты пасаж? Пакуль свядомасць усіх працоўных не будзе аднолькаваю і не дасягне камуністычнага ўзроўню, да той пары нельга чакаць станоўчага эфекту ад ураўнілаўкі. А сёння мы маем мільёны прыкладаў, калі не толькі несвядомая, але і некваліфікаваная праца скрозь ацэньваецца вышэй...

У адной са сваіх прац У. І. Ленін пісаў, што ад Савецкай улады страчвае не толькі інтэлігент, але і высокакваліфікаваны рабочы. Але затое ад яе выйграе велізарная, раней цёмная і забітая маса. Але ж цяпер, калі прайшло амаль сто гадоў, ні цёмных, ні забітых, ні прыгнечаных няма. Савецкая ўлада ўсіх вывела ў людзі, усіх вывучыла, усім дала роўныя правы... Дык хто ў каго выйграе? Выйграе ад ураўнілаўкі толькі прыстасаванец, гультай і злодзей, а інтэлігент і высокакваліфікаваны рабочы не рэалізуюць свае магчымасці, і ад гэтага прайграе ўсё наша грамадства, уся краіна, увесь сацыялістычны лад. А геніяльная думка Леніна аб прызначэнні Савецкай улады, прыбітая дагматыкамі, нібы бот цвікамі, прыносіць у іхніх руках толькі шкоду, а не карысць.

Труізм, вядома, але трэба перабудоўваць жыццё так, каб кожны бачыў перспектыву наперад і назад. Бачыў не толькі павелічэнне заробку і магчымасць зрабіць кар'еру, але і перспектыву трапіць у рэзерв рабочай сілы, калі будзеш дрэнна рабіць. Не толькі пернікам, але і рэальнаю пугаю трэба выхоўваць таго, хто яе заслугоўвае. Інакш ніякага ачышчэння, ніякага экалагічнага паляпшэння нам не дачакацца.

Яшчэ здалёк, ад аўтамабільнага моста, мы заўважылі белы трохкутнік ветразя. Ён варочаўся ўправа-ўлева, маленькі караблік круціўся на месцы, і мы спачатку падумалі, што гэта які-небудзь спартсмен адпрацоўвае свае фор- і бейдэвінды. Мінуўшы яго, мы ўбачылі другі такі ж. Гаспадары, хлопец і дзяўчына, стаялі на краі гарадскога пляжа і з горыччу разводзілі рукамі — не ідзе карабель супраць ветру, хоць плач. Тут раптам вярнуўся старэйшы яхтсмен, і аказалася, што гэта бацька, ягоны зяць і дачка едуць на свята самадзейнай песні на Брылёўскае поле такім вось арыгінальным манерам, ды яшчэ супраць ветру і супраць плыні.

— Галсамі трэба ісці, галсамі,— параіў ім Жарыкаў, але і на ягоным твары мы не прачыталі нічога, акрамя сумнення, бо занадта ж вялікаю трэба валодаць упартасцю, каб перахітрыць усе сілы прыроды. Мы выказалі думку, што ў добрай згодзе можна

карыстацца нейкаю яе часткаю, а пакарыць, падкамечыць прыроду пад сябе?.. Але нашы выпадковыя сустрэчныя, пэўна, мелі іншую думку. Ды і не варочацца ж ім было назад...

За Барысавам рэчка, можна сказаць, цячэ ўжо магутным струменем. Амаль не трэба грабці, паспявай толькі накіроўваць катамаран вёсламі па гэтай плыні, ад правага берага на левы, ад чырвонага слупа на белы. Берагі пайшлі значна вышэйшыя і сухія, але і заселенасць тут значна большая — вось зноў вялікі мост, увесь старанна пакрэмзаны надпісамі тыпу «тут быў Вася». Вось кранаючыя душу вясковыя могілкі. А вось і доўгачаканая база гаруча-змазачных матэрыялаў. Як яны ўсе любяць мясціцца менавіта каля рэчкі! Успомніце Весялоўскую нафтабазу...

Недалёка ад Юшкевічаў Жарыкаў зазірнуў у рукзак і сказаў:

— Эх, шкада, што мы не маем макаронаў сірытакі. Я б вам такі клас паказаў, што нават той японскі кухар пазайздросціў бы.

Дзівак, ён не ведаў, што ў гэтым ва ўсіх адносінах незвычайным падарожжы нас чакае яшчэ адна неспадзяваная сустрэча.

## Блуканні не канчаюцца

Калісьці ў нашых кінатэатрах ішлі замежныя фільмы, дзе дубляжу не было, а толькі ўнізе літарамі пісалася, хто што сказаў. Больш за ўсё было англійскіх ды амерыканскіх стужак пра маракоў і іхнія прыгоды. Шкада, што цяпер такія фільмы не паказваюць. Карысць ад іх была вялікая. Дзеці чытаць вучыліся хутка, і замежная мова была на слыху. Я б сам першы пайшоў глядзець «Мяцежны карабель».

Фільмы тыя нам нагадаліся, калі Уладзімір Пятровіч, што стаяў на носе і напружана ўглядаўся наперад, раптам прарэзліва закрычаў:

— Глядзіце! Глядзіце!..

Так рулявы стогарматнага брыга «Кінг Джордж», які шмат месяцаў гойдаўся на акіянскай хвалі, закрычаў бы: «Зямля! Зямля!» Але Уладзімір Пятровіч убачыў не зямлю,— яе хапала і па баках, і ззаду, і спераду,— ён убачыў, як на беразе прытанцоўваў ад радасці наш стары знаёмы, той, каго мы між сабою называлі «японскі кухар».

Як заўсёды п'яны, як заўсёды незасмучаны, ён быў акружаны цікаўнымі хлапчукамі і вырабляў нам рукамі іерогліфы, якія не маглі азначаць нічога іншага, як загад тэрмінова прыставаць да берага. Чаму ён тут апынуўся, мы зразумелі пазней — ён тут жыў, ён быў у сваім рэгіёне, ад Паліка да Юшкевіч было якіх сорак кіламетраў. Спачатку здзівіла другое: няўжо ён дзень і ноч сядзіць на беразе і глядзіць, хто, калі і куды пройдзе па рацэ?

— Чаму ж ноччу,—пакрыўдзіўся наш знаёмы.—Уначы я сплю, як усе людзі. І ўдзень я таксама сяджу не ўвесь час, а толькі калі цёпла і сонца свеціць, калі дажджу няма... Які ж дурань пад дажджом сядзець будзе?..

Быў, праўда, момант, калі хтосьці спытаўся пра ягоны асноўны занятак, ці працуе ён наогул і калі. Але «японскі кухар» перавёў гаворку на іншае:

— От каб вы былі больш удалымі рыбакамі, я б вам зрабіў зараз японскія бутэрброды, што называюцца сукіякі...

Ён пачухаў сваю даўно не мытую галаву і ў апошні раз здзівіў нас эрудыцыяй:

— Такіх, як я, шмат. Няма чаму дзівіцца. Адных толькі бомжаў сто семдзесят тысяч. А ў мяне ёсць месца жыхарства і прапіска. Усё як мае быць.

Ён і сам, мусіць, адчуў, што зрабіў памылку, бо мы, як толькі даведаліся аб такіх фактах біяграфіі вясковага п'яніцы, перасталі ім цікавіцца. Ён, праўда, быў вельмі гаваркі, і час ад часу да нас даходзілі звесткі аб тым, што ён спачатку быў «хороший», а потым паехаў у Томскую вобласць, а ўжо адтуль перакачаваў на Далёкі Усход і гэтак далей. Але ўсё адно наша ўвага пераключылася ўжо на гарадскіх вучняў сёмага і восьмага класаў, якія, далей ад смуроду, карміліся ў час канікулаў у сваіх бабуль ды дзядуль.

— Чаму ж у піянерскі лагер не паехаў? — спыталіся мы ў аднаго, даволі нехударлявага хлапчука.

— Маці кажа, што там дрэнна кормяць. А ў бабулі малачко з-пад кароўкі...





Другі таксама думаў няшмат часу і паведаміў, што ён можа ў лагеры «падпасці» пад дрэннае ўздзеянне і потым будзе цяжка выправіць перакос. Трэці ж наогул прамаўчаў і сарамліва адвярнуўся. Інтэлігентныя нам трапілі субяседнікі.

На пытанне, ці дапамагаюць яны сваім бабулям і дзядулям, усе трое сціпла паціснулі плячыма, і на гэтым наша размова амаль што і скончылася.

Успомніў я тут нядаўна прачытаную кніжку іспанскага філосафа Артэга-і-Гасэта «Паўстанне мас». Напісана яна была ў 1936 годзе, а ў нас невыпадкова надрукавана была толькі цяпер. Аўтар — дваранін, арыстакрат, і погляды ягоныя адпавядаюць паходжанню, чужыя і далёкія масам. Але нібыта стоячы ўбаку, ён заўважае шмат рэальнага, і думкі яго скіраваны больш уперад, чым у мінулае, часам здзіўляюць сваёю мудрасцю.

Ён, напрыклад, сцвярджае, што, чым больш чалавек вызваляецца навукова-тэхнічнымі рэвалюцыямі ад цяжкой, чорнай працы, тым больш ён прагне матэрыяльных даброт, у тым ліку і палітычнай улады. Вядома, размова ідзе аб капіталістычным грамадстве. І адваротная прапорцыя — чым больш ён мае гэтага дабрабыту, тым менш ён стараецца працаваць.

І калі нашы мяшчане яшчэ да такога становішча не дайшлі, бо і да сапраўднага дабрабыту ім далёка, усё ж многія дзетак сваіх ад працы адгароджваюць, нібы ад чагосьці вельмі страшнага.

А дарэмна. У Амерыцы, напрыклад, нават вельмі заможныя бацькі дзе толькі могуць прыстасоўваюць сваіх малалетак да працы. Яны разносяць пісьмы і газеты, служаць пасыльнымі, мыюць машыны, робяць усё, што ім пад сілу. Потым на зробленыя грошы купляюць сабе магнітафоны, пласцінкі і гэтак далей.

Наша ж працоўная экалогія такой эксплуатацыі дзіцячай працы дапусціць не можа. От калі ў калгасе задарма поле трэба прапалоць — гэта калі ласка. Калі на забруджаных хіміяй палях трэба бавоўну збіраць — паспрабуй адкруціцца... Студэнтам, замест таго, каб вучыцца, бульбу выбіраць — сардэчна запрашаем... А хлапчуку 14—15 гадоў у час канікулаў прыстроіцца дзе вучнем слесара ці рознарабочым можна толькі па вялікаму блату. А ніякай другой работы проста няма, і ніхто не шукае.

Прычын тут шмат: і абмежаванні па тэхніцы бяспекі, і заканадаўства, што не дазваляе рабіць тое і гэта, а галоўнае — незацікаўленасць кіраўніка, які не мае ніякай карысці і не хоча браць адказнасць на сваю галаву.

Дык чаму здзіўляцца, што амерыканскі хлапчук, якому адзінаццаць гадоў, абляцеў на самалёце зямлю?

А наш дарослы субяседнік усё працягваў гаварыць. Ён расказаў нам, што ў мінулым годзе была ў гэтых месцах моцная бура, што на базе гаруча-змазачных матэрыялаў, якую мы праязджалі, пазрывала і пазакідвала ў рэчку шмат пустых і поўных бочак з саляркаю і што мы павінны былі сабе ўявіць, якая пасля гэтага зрабілася наша Бярэзіна. Расказаўшы такое сваё чарговае назіранне за акружаючым яго асяроддзем, наш «японскі кухар» лёг пад куст і моцна захроп.

Паплылі і мы далей па прыгажуні рэчцы, што рабілася ўсё большаю і магутнаю, але, як нам здавалася, усё менш цікаваю. Чаму? Адным словам гэтага не скажаш...

Бацькі маёй маці жылі на хутары пад Слуцкам да канца саракавых гадоў. Рэчка Случ тут толькі пачынаецца; была яна маленькая і зарослая, але вакол блішчэла мноства невялікіх азерцаў, затокаў, прытокаў, у якіх кішэла ад жывога. Жабы, трытоны, невядомыя павучкі... А на лясных дарогах стаялі цёплыя лужыны, поўныя чорных галавасцікаў. Тут іх чамусьці звалі апалонікамі. Мы, малыя тады дзеці, кідаліся з берага ў ваду, і калі на хвіліну сціхаў пляск і крыкі, паветра ўсё адно гуло музычным ґудам ад птушак, чмялёў і аваднёў, якія нам вельмі дасаджалі.

У 1975 годзе на Ясельдзе дарогу нашаму катамарану спакойна перасякаў тоўсты бабёр. Ён быў паважны і надзьмуты і не звяртаў на нас ніякай увагі. Плыў сабе па сваіх справах. Для мяне памяць аб тым хутары, аб крумканні жаб цёплым вечарам, аб той жывёліне, што так лёгка можа быць знішчана, застаецца сімвалам хоць і закранутай ужо, але яшчэ не да канца парушанай прыроды.

Быў я і ў Бярэзінскім запаведніку ў 1979 годзе. І тут адбылася з намі прыгода, на якую забыцца нельга. Здарылася гэта каля вёскі Броды, на нашай апошняй стаянцы, дзе правялі мы ўсяго адну ноч. Яшчэ праз сон я чуў, як нехта, нібы салдат ботамі, тупаў па дошках плыта. Усякае бывала з намі. Часцей прыходзілі людзі цікаўныя, агля-

далі пабудову, гаспадароў не турбавалі, шкоды не рабілі. Але бывалі і злодзеі, здаралася, кралі. Хто б там ні быў, а сілы прачнуцца ў мяне не хапіла.

Раніцою я ўбачыў, што нехта ўчыніў на плыце сапраўдны разгром. Парваны быў папяровы мех з мукою, раскіданы кавалкі хлеба, сала, кілбасы... І я разгублена паскардзіўся камусьці з мясцовых жыхароў: «Вось людзі, не могуць без шкоды...»

— Гэта не людзі,— засмяяўся той чалавек.— Гэта вы сталі каля ямы, дзе выдра жыве. Вось яна і паласавалася вашым пачастункам.





Доўга ўглядаліся мы ў чорную ваду, і часам здавалася, што бачым вусатую, наетую нашым салам, дзёрзкую морду, якой так добра было жыць ва ўлюбёнай яме.

А праз дзесяць гадоў ніжэй Барысава нас наваг камары не вельмі грызлі. Можа, таму, што быў ужо канец жніўня, а можа, таму, што канец другога тысячагоддзя ад нараджэння Хрыстова.

На зямлі цяпер жыве аж пяць мільярдаў разумных істот, і яны стварылі вакол такую сістэму, якую ні бабры, ні выдры, ні нават бліжэйшыя нашы сваякі малпы стварыць



 

не могуць. Выдатны вучоны акадэмік Вярнадскі прадказваў, што з часам гэтая сістэма ператворыцца ў наасферу — гэта значыць у сферу розуму, дзе чалавек створыць неабходныя ўмовы для захавання ўсяго жывога — і лася, і птушкі, і рыбы, і кветкі,— а разам і самога сябе. І такі час надыходзіць. У многіх краінах хуткімі тэмпамі ствараюцца нацыянальныя паркі, запаведнікі, выдаткоўваюцца фантастычныя сродкі на ахову прыроды...

На жаль, мы і тут цягнемся дзесьці ззаду. У нас ёсць больш за сто гарадоў, дзе загазаванасць паветра ледзь не ўдвая перавышае дапушчальную. Планаваўся некалі нацыянальны парк і на Ясельдзе. Але раз я ехаў па новай дарозе, што зрабілі ў гэтых месцах, і бачыў, як спрамілі рэчку. Канал, і нічога больш. Наўрад ці сустрэў бы я сёння не толькі бабра, а і што больш простае.

Мінвадгас старанна выконвае свае сацыялістычныя абавязацельствы, а то інакш як жа ён зваюе пераходны чырвоны сцяг і прэмію пад яго, як атрымае буйныя грошы пад далейшую абвалоўку Прыпяці, перакрыццё малых рэк да яе?.. Ды ці ж мала яшчэ шкоды можна навыдумляць, каб толькі стварыць бачнасць працы, каб толькі не разагналі дармаедаў?.. Можа, яму даручыць заснаванне нацыянальнага парку? Ён створыць, чакайце! Цераз асушальную канаву...

— А цікава было б паглядзець, як жывуць людзі ў іншых месцах,— сказаў неяк Жарыкаў.

І паколькі падарожжа наша падыходзіла ўжо да канца, пачалося тое, што заўсёды бывае перад заканчэннем кожнага падарожжа,— гарачае абмеркаванне і планаванне наступнага. Мы абгаварылі ледзь не ўсе бліжэйшыя рэкі і не знайшлі цікавага нідзе. Цікавага ў сэнсе той працы, якая праводзіцца па ахове вады і прыроды наогул. Ну што можна зрабіць на Дняпры, калі ён брудны ўжо ад Смаленска? Быў я і на Дзвіне, ад Суража і ніжэй. Асабліва цяжка глядзець на рэчку пасля Наваполацка. Плавалі мы і па Нёмане, па тым самым, што быў калісьці Бацькам-Нёманам. Пасля таго, як меліяратары высушылі верхавыя балоты на радзіме Якуба Коласа, у Беражным трактар «Беларусь» пераязджае рэчку ў паўкола. А на любімай нашай Прыпяці, у Мазыры, сёння не ходзяць нават «Ракеты». Усе нашы буйныя рэкі раптам зрабіліся малымі.

— Ага! Ёсць ідэя! — раптам стукнуў сябе па лбе Уладзімір Пятровіч.

І паколькі ўдар быў дастаткова моцным, дык і ідэя паказалася ўсім вельмі вялікай.

— Калі ўсе рэчкі малыя, дык трэба пашукаць вялікую.

І адразу ж высветлілася, што такая рэчка ёсць у суседняй Пскоўскай вобласці, і менавіта так яна і завецца — Вялікая. А вось ці чыстая яна і наогул што там робіцца, мы пастараемся высветліць у наступны раз.

— Э-э,— сказаў інжынер Жарыкаў, які прасіў называць яго Ільічом,— э-э, ці паедзем мы, ці не — гэта яшчэ па вадзе віламі пісана. Кожную паездку трэба спачатку ўзгадніць з маім начальствам, потым з вашым, потым з усімі разам... І наогул, калі вы будзеце лавіць рыбу так, як у гэты раз, я не змагу зрабіць вам нават найпрацейшай сасімі...

Далей мы не слухалі. Падарожжа наша скончылася, перад намі было вялікае сяло Глівін.

**Ігар ВАЛАСЕВІЧ**

Фота **В. Ждановіча**

*Даляглядны перабудовы*



К. Ярмоленка (злева) і М. Васькоў.

# НЕ ВОРАГІ, А ПАРТНЁРЫ

Перабудову цяпер нярэдка называюць рэвалюцыяй. Рэвалюцыяй у тым сэнсе, што яна зноў кінула ў масы бальшавіцкія лозунгі Кастрычніка 1917 года: «Улада — народу», «Зямля — сялянам», «Фабрыкі — рабочым»! Розныя сілы, выкліканыя да жыцця абнаўленнем, якое пачалося, па-свойму бачаць выйсце краіны з тупіка, куды завяла яе камандна-адміністрацыйная сістэма. Асабліва ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасці, дзе сабралася вельмі многа праблем. У цэнтры іх — недахоп прадуктаў харчавання. «Гарантуем, што ў рэспубліцы іх праз час будзе дастаткова» — так сцвярджаюць прыхільнікі новага грамадска-палітычнага фармі-



 

равання — Сялянскага саюза БССР. Узначаліў фарміраванне маладаы вучоны-эканаміст, супрацоўнік БелНДІ эканомікі АПК Канстанцін Ярмоленка. З ім гутарыць журналіст Мікалай Васькоў.

**— Канстанцін, скажыце, што прымусіла Вас і Вашых прыхільнікаў заняцца стварэннем, скажам так, фермерскага саюза?**

— Ва ўсякім разе, не жаданне праславіцца. Карані нашага ўчынку ляжаць глыбей. Калі мы хочам быць да канца чэснымі перад людзьмі, дык давайце адкрыта прызнаем: наша сельская гаспадарка, а разам з ёй і вёска, усё сялянства перажываюць глыбокі крызіс, які бязмерна зацягнуўся. Ці не ганьба для земляроба ў такой краіне, як наша, ці не ганьба для краіны — шматмільярдныя закупкі хлеба, бульбы, садавіны, гародніны, мяса за мяжой... З другога боку — ці сяляне ў гэтым вінаваты? У АПК укладваюцца проста касмічныя сродкі. Дзе ж аддача? Яе фактычна няма. Грошы — як вада ў пясок, і гэта не перабольшанне.

Возьмем нашу рэспубліку, дзе сельская гаспадарка, увогуле, развіваецца нядрэнна. З дзвюх з паловай тысяч калгасаў і саўгасаў тысяча сто без даплат за нізкарэнтабельнасць і стратнасць проста не маглі б існаваць, а дзвесце пяцьдзесят нават з даплатамі сёння не здольны весці справу. Вось вам канкрэтны «пясок», куды знікаюць сродкі. Вядома, сякі-такі эфект ёсць. Але наўрад ці атрыманымі харчовымі «кроплямі» можна вымяраць маральныя страты, якія наносіць бюракратычнае растранжыраванне капукладанняў. Пра што можна гаварыць у маральным і сацыяльным плане, пра якую справядлівасць, калі аказваецца, што за дрэнную працу можна атрымаць больш, чым за добрую? Можна здзіўляцца таму, што я кажу, аднак атрымліваецца менавіта так: у «ляжачых» гаспадарках цяпер людзі не вельмі стараюцца рабіць. Ведаюць, усё роўна заплоцяць па вышэйшай стаўцы, галоўнае, каб у поле ці на ферму згадзіўся пайсці.

Адзначу, што тут якраз і тоіцца адна з галоўных недакладнасцей у адносінах між дзяржавай і сялянствам.

**— І так, Вы песіміст. Але ж існуюць аптымістычныя прагнозы магутнага рыўка пры нашай традыцыйнай сістэме, якая даволі моцна склалася. Нагадаю, што на адным з апошніх пленумаў ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў адзначыў, што ўжо ў бліжэйшыя гады спажыванне мясапрадуктаў ў рэспубліцы дасягне навукова абгрунтаваных норм.** (Для даведкі: у нас яна — 74, у ЗША — 120 кілаграмаў.) **У такое верыцца з цяжкасцю. Хаця б таму, што, як сведчыць аналіз афіцыйных статыстычных дадзеных, за апошнія 18 гадоў спажыванне мяса на чалавека павялічылася ўсяго на 23 кілаграмы, г. зн. прырост склаў крыху больш 1000 грамаў у год. Адсюль пытанне: колькі ж тады будзе патрэбна яшчэ гадоў, каб дасягнуць навукова абгрунтаваных норм?**

**Мабыць, Вы хочаце сказаць...**

— Што традыцыйныя меры развіцця сельскай гаспадаркі на сучасным этапе ўжо малаэфектыўныя. Вядома, і ў будучым патрэбны капукладанні, і будаўніцтва вёсак, і іншыя мерапрыемствы. Але адначасова трэба шукаць і нешта іншае.

Калі мы ўжо амаль аднадушна прызнаём наяўнасць найцяжэйшых памылак у перыяд масавай калектывізацыі, то трэба знайсці ў сабе мужнасць выправіць іх. А каб выправіць, нельга ісці толькі адным шляхам, які часта прыводзіць у тупік. Ёсць жа розныя шляхі, ёсць, нарэшце, еўрапейскі, сусветны вопыт. Вось чаму аграрыяў-практыкаў так прываблілі плюралізмам законы аб арэндзе, зямлі, уласнасці. Там закладзены пастулат аб шматграннасці форм гаспадарання, аб развіцці здаровай канкурэнцыі між усімі відамі ўласнасці — дзяржаўнай, кааператыўна-калгаснай, індывідуальна-працоўнай...

**— Відаць, канкурэнтнасць — вось тая ідэя, якая і падштурхнула да думкі стварэння Сялянскага саюза?**

— Так, яна — рухавік эканамічнага прагрэсу. Вядома, мы не лічым канкурэнцыю панацэяй ад усіх сацыяльных бед, эканамічных пралікаў. Аднак не звяртаць на яе ўвагі нельга. Успомніце, колькі мільярдаў краіна «выкідвала» на ажыццяўленне «праектаў стагоддзя», павароту паўночных рэк або асушэння Беларускага Палесся. Несумненна, у нас ёсць нейкая аддача, але ёсць і другое. Хто падлічыў, якую шкоду, напрыклад, у Беларусі нанеслі чалавеку, прыродзе? На Палессі, дзе некалі былі лішкі вады, цяпер яе не хапае. Пыльныя буры зносяць верхні слой зямлі, знішчаюць пасевы. Па майму глыбокаму перакананню, толькі шматукладная эканоміка, шырокае выкарыстанне альтэрнатыўных форм гаспадарання могуць вярнуць селяніна на зямлю. Таго селяніна, які хоча і ўмее працаваць, які будзе беражлівa да зямлі адносіцца.



**— Скажыце, а што сёння ўяўляе сабой Сялянскі саюз?**

— Гэта рэспубліканская асацыяцыя сялянскіх гаспадарак, сельгаскааператываў і арганізацый арандатараў. Мэта саюза — аказанне практычнай дапамогі фермерам, абарона іх законных правоў і інтарэсаў. Цяпер у рэспубліцы каля 300 такіх гаспадарак. Як правіла, яны маюць рахунак у банку, атрымліваюць крэдыты, набываюць або арэндуюць неабходную тэхніку.

Калі фермерства стане больш моцным, плануецца стварыць абласныя і раённыя асацыяцыі. Аналагічныя асацыяцыі і саюзы створаны, як вядома, у рэспубліках Прыбалтыкі, РСФСР, некаторых абласцях Украіны.

**— Вы сказалі, што Сялянскі саюз ставіць мэтай абарону правоў і інтарэсаў фермераў. Ці не з'яўляецца ён у сувязі з гэтым палітычным рухам, зачаткам палітычнай партыі?**

— Думаю, сёння не варта прагназаваць падзеі на бліжэйшыя 3—5 гадоў, сцвярджаць: будзе ў нас сялянская партыя або не. Напэўна, будзе. Бо інтарэсы фермераў прыйдзецца абараняць не толькі эканамічнымі шляхамі, але і палітычнымі. Скажам, праз сваіх прадстаўнікоў у парламенце рэгуляваць заканадаўчыя акты.

Пакуль жа пагаворым аб іншым. Напрыклад, селянін хоча ўзяць зямлю, але яму яе не даюць... Ці, скажам, зямлю чалавеку далі, але патрабуюць па 500 рублёў арэнднай платы з гектара... Або прадалі селяніну трактар удвая даражэй, чым калгасу... І яшчэ: прымушаюць, каб селянін здаваў прадукцыю дзяржаве ў два разы дзешавей, чым калгас...

Можа такое быць? Можа... Няпроста ўсё гэта. Але такая пастаноўка справы, такія адносіны да селяніна, несумненна, выклічуць у вёсцы адпаведныя грамадскія настроі. Каб пазбегнуць непаразуменняў, трэба як мага хутчэй абазначыць аднолькавыя стартавыя ўмовы для калгасаў, саўгасаў і фермераў... Для палітыкі, можаце гэта палічыць за жарт, не застанецца ні месца ні часу. Неабходна будзе ў першую чаргу працаваць.

Што датычыць фермерскага саюза ў заходніх краінах, то, наколькі мне вядома, яны не займаюцца вялікай палітыкай.

**— Скажыце, а як сустрэлі ідэю канкурэнтнасці ў рэспубліцы?**

— Як бы гэта мякчэй сказаць? Урэшце, навошта мякчэй? У нас жа галоснасць. Некаторыя высокія чыноўнікі пачалі з таго, што паспрабавалі скажаць сутнасць нашых прапаноў: маўляў, яны патрабуюць распусціць калгасы і саўгасы. Другія папракаюць нас у тым, што мы хочам капіталізацыі любым чынам, не тлумачачы, што фермерства фактычна азначае для краіны, для народа. Іх меншасць. Ёсць і такія, хто нас разумее.

**— Можа быць, на самой справе фермеры пагражаюць калгасам і саўгасам?**

— Павінен сказаць, што фермеры калгасам і саўгасам не пагражаюць. Не думаю, што калгасна-саўгасная сістэма настолькі слабая, што сам факт з'яўлення фермерства прывядзе да яе распаду. Дарэчы, у Латвіі на дзень нашай гутаркі створана больш чатырох тысяч сялянскіх гаспадарак. І ні адзін калгас або саўгас не перастаў існаваць.

Калі ўжо так, то трэба вызначыць, якая мэта гуманнага і дэмакратычнага сацыялізму. У непадзельным panaванні ў аграпрамысловым комплексе калгасаў і саўгасаў або ў поўным забеспячэнні народа высакаякаснымі прадуктамі харчавання.

Перакананы, фермерскія гаспадаркі, кааператывы незамянімыя. І асабліва ў гародніннаводстве, садаводстве, пчалярстве, рыбаводстве. У гэтых галінах сельскай гаспадаркі істотных выгод буйная грамадская вытворчасць не дае. Затое тут вельмі важная асабістая ініцыятыва, прадпрымальнасць. Невыпадкова, напэўна, гэтыя галіны знаходзяцца ў вельмі занядбаным стане.

У свой час атрымаўся парадокс. Савецкая ўлада спачатку дала зямлю сялянам, а потым адабрала яе. Скажыце, ці лёгка верыць такой уладзе сёння, нават пасля таго, як яна прыняла цудоўны закон аб формах уласнасці?

Наш саюз — гэта тая сіла, якая павінна ўсяліць хлебаробу веру: ідэалагічнага ўздзеяння на селяніна не павінна быць.

На жаль, нам пакуль вельмі цяжка. Шмат хто ў рэспубліцы не разумее нас ды і не хоча разумець. У нас шмат ворагаў, а павінны быць не ворагі — партнёры. Напрыклад, варта мне было папрасіць у старшыні АПК БССР Ю. Хусаінава невялікі пакой пад праўленне арганізацыі, як ён адказаў: «Мы вам нічым не абавязаны».

І ўсё-такі, нягледзячы на цяжкасці, фермерскі рух у Беларусі шырыцца. Вынікі сацыялагічных даследаванняў сведчаць, што сёння ў рэспубліцы гатовы стварыць самастойныя гаспадаркі каля 7 тысяч чалавек. Вы спытаеце, хто яны? На

мой погляд, асноўны кантынгент будучых фермераў — гэта людзі, якія некалі пакінулі вёску і сёння працуюць у горадзе (тыя з іх, хто марыць вярнуцца). Фермерамі хочуць стаць і многія спецыялісты сельскай гаспадаркі. Сярод іх нямала тых, хто мае глыбокія спецыяльныя веды, хто любіць зямлю і ўмее на ёй працаваць.

А вы ведаеце, колькі сёння ўпраўленцаў у калгасах і саўгасах? Амаль столькі, колькі механізатараў у грамадскай вытворчасці (больш 100 тысяч). Хіба можна гэта лічыць нармальным? Нарэшце, будучыя фермеры — гэта сённяшнія радавыя калгаснікі і рабочыя саўгасаў, не ўсе, вядома.

**— Канстанцін, я чуў і не раз, нібы ў рэспубліцы няма ўмоў для развіцця фермерства. Спасылаюцца на вельмі высокую канцэнтрацыю вытворчасці...**

— Гэта няпраўда. Напрыклад, у адным толькі Іўеўскім раёне сёння налічваецца каля 800 хутароў, на якіх жывуць людзі. Вядома, не ўсе яны жадаюць паспрабаваць сябе ў фермерстве, але — многія. Апасенні выкліканы прапагандысцкім тлумам, людзей пужаюць усё той жа «капіталізацыяй» вёскі. Паўтаруся, не ворага трэба бачыць у фермеру, а памочніка. А пужаць, калі ў магазінах пустыя паліцы, мне здаецца, сорамна. Трэба нарэшце накарміць людзей. А для гэтага, зноў паўтаруся, трэба даць прастору ініцыятыве, канкурэнцыі ідэй і спраў, метадаў і форм. Час пакажа, хто мае рацыю.

**— У народзе кажуць: ламаць — не будаваць. Ці не лепш для павелічэння вытворчасці прадуктаў харчавання перш за ўсё павялічыць колькасць капіталаўкладанняў у матэрыяльна-тэхнічную базу гаспадарак? Узнімем узровень аснашчанасці сярэдніх гаспадарак, тады павялічацца, адпаведна, і вынікі работы.**

— Капітальныя ўкладанні, як я ўжо адзначаў, аграпрамысловаму комплексу неабходны. Аднак нельга разглядаць іх механічны рост як адзінае выйсце са становішча. Прывяду такі факт: фонданасычанасць калгаса «Чырвоная змена» Любанскага раёна склала ў 1978 годзе каля 160 тысяч рублёў на 100 гектараў сельгасугоддзяў. Тады ў калгасе атрымалі 42 цэнтнеры збожжавых з гектара, 325 — бульбы, 420 — цукровых буракоў. У сярэднім ад каровы за год надаілі 3300 кілаграмаў малака, сярэднясутачная прывага маладняку буйной рагатай жывёлы склала 750 грамаў.

Прайшло 11 гадоў. Фонданасычанасць усіх калгасаў і саўгасаў рэспублікі ўзнялася ў сярэднім да адзнакі ў 160 тысяч рублёў на 100 гектараў сельгасугоддзяў.

Але і сёння большасць калгасаў і саўгасаў рэспублікі можа толькі марыць пра такі поспех, які мела «Чырвоная змена» 11 гадоў назад.

Значыць, пытанне не ў тым, колькі матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў будзе накіравана ў сельскую гаспадарку. Справа ў тым, у якія рукі гэтыя рэсурсы трапяць.

Без карэннай перабудовы вытворчых адносін на вёсцы разлічваць на зрухі не прыходзіцца. Гэты вывад быў зроблены на сакавіцкім (1989 г.) Пленуме ЦК КПСС, XXVIII з'ездзе партыі.

**— Які, на Ваш погляд, павінен быць аптымальны памер фермерскай гаспадаркі?**

— Калі размова ідзе аб ферме мясамалочнага накірунку, то тут мэтазгодны наступны падыход. У краінах Заходняй Еўропы лічыцца, што ў XXI стагоддзе пяройдуць сямейныя фермы, якія маюць не менш 100 гектараў зямлі. Калі мы збіраемся інтэгрыравацца ў сусветную сістэму эканомікі, то трэба гэтыя параметры ўлічваць. Але стварэць гаспадаркі з зямлёю ў 100 гектараў, вядома, можна толькі пры ўмове, калі будзе адпаведная тэхніка, калі фермер будзе мець вопыт і грунтоўныя веды.

Нам трэба пачынаць сёння са стварэння фермерскіх гаспадарак, якія мелі б 25—35 гектараў зямлі, маючы на ўвазе, што ў перспектыве іх неабходна будзе пашыраць.

**— Канстанцін, ці дапускаеце Вы, што з часам фермерскія гаспадаркі пачнуць каапераваца?**

— Не сумняваюся ў гэтым. Сёння ў свеце без кааперацыі, падзелу працы існаваць немагчыма. Вобраз селяніна-аднаасобніка адышоў у мінулае беззваротна.

Разам з тым хачу падкрэсліць, што пра гэта сведчыць вопыт іншых краін, інтэгравацца фермы будуць не ў калгас, г. зн. не ў вытворчы калектыў. Будзе развівацца кааперацыя работнікаў вытворчасці, пры якой кожны яе ўдзельнік захавае сваю юрыдычную і гаспадарчую самастойнасць. Кааперацыя стане развівацца ў забеспячэнні, збыце, перапрацоўцы прадукцыі, рамонце тэхнікі і г. д. Гэта значыць будзе тая кааперацыя, аб якой пісаў у свой час А. Чаянаў.

Павінен заўважыць, што ў ЗША сёння кааператываў у сферы АПК больш, чым у нас калгасаў. Іх больш 40 тысяч.

**— І Вы лічыце, што фермер накорміць краіну?**

— Для таго, каб весці глыбокую размову аб магчымасцях фермерства, трэба, у крайнім выпадку, каб гэты сектар займаў хаця б 20—30 працэнтаў усіх сельгасугоддзяў. Сёння ж яго доля, у тым ліку ў нашай рэспубліцы, вельмі нязначная. Часта гавораць, што ў нашай краіне ўзялі курс на раўнапраўнае развіццё ўсіх форм гаспадарання на вёсцы.

Але перш чым нешта развіваць, трэба яго спачатку стварыць. Аднаго жадання «нізоў» пайсці ў фермеры — мала. Неабходна канкрэтная арганізатарская работа «зверху».

Што датычыць вялізных магчымасцей фермера, дык я ў іх веру. Свабодны чалавек на свабоднай зямлі здольны на многае.

**— Калі падсумаваць нашу гутарку, дык у мяне склалася думка: за асобнымі праціўнікамі ідэі, якую Вы прапагандуеце,— сістэма, адміністрацыйна-камандны апарат, які баіцца застацца на ўзбочыне гісторыі, які чапляецца літаральна за ўсё, каб застацца.**

— І яе, сістэму, зразумець можна. Са з'яўленнем вялікай колькасці фермерскіх гаспадарак стане зразумелым, што вялізная піраміда, якая ўпіраецца ў спіну селяніна, наогул не патрэбна! Селянін-гаспадар зацікаўлены, каб між ім і спажыўцом было як мага менш непатрэбных службаў, начальнікаў. Веру, што перабудова дапаможа хлебаробу выйсці на правільны шлях. Выйграе ён — выйграе грамадства.

Мікалай ВАСЬКОЎ

Фота **А. Басава**

# МЫ Ў НЯБЁСАХ ЛЯТАЛІ АДНЫХ...

**Неяк я атрымаў ліст ад вядомага лётчыка часоў вайны падпалкоўніка ў адстаўцы Платона Андрэевіча Мяшкова з горада Бярозы, што на Брэстчыне. Гэта мой былы сябра-аднапалчанін. Пісьмо вельмі ўсхвалявала мяне, бо атрымалася так, што больш як сорак гадоў я не сустракаўся з франтавымі таварышамі. Мяне вельмі ўзрадавала паведамленне, што ветэраны нашай 218-й бамбардзіровачнай авіяцыйнай Яскай Чырванасцяжнай дывізіі з 50-х гадоў штогод сустракаюцца ў Дзень Перамогі. І я зноў у памяці вярнуўся ў далёкія гады...**



**Малодшы лейтэнант Р. Булацкі ў гады вайны.**



## Тэлеграма Сталіна

Восенню 1939 года мяне прызвалі ў Чырвоную Армію з Міхалёва, што недалёка ад Бабруйска, дзе я працаваў настаўнікам пачатковых класаў і піянерважатым. Служыў я ў Днепрапятроўску курсантам у асобным батальёне сувязі. Тут вучыліся на малодшых камандзіраў, спецыялістаў сувязі. Вучыцца было цяжка, ішла вайна з белафінамі, і мы рыхтаваліся на фронт. А ў маі 1940 года, калі мы здалі частку экзаменаў, мяне і яшчэ некалькі курсантаў накіравалі ў ваенна-авіяцыйнае вучылішча штурманаў. Вучыліся мы па паскоранай праграме.

Калі пачалася вайна, усе мы, курсанты, ірваліся на фронт, але мяне і некаторых маіх сяброў, тады для нас невядома чаму, накіравалі на Далёкі Усход.

У 1942 годзе я быў залічаны ў авіяцыйны полк цяжкой бамбардзіровачнай авіяцыі, які размяшчаўся між Хабараўскам і Камсамольскам-на-Амуры. Трапіў я ў першую эскадрылью, якой камандаваў капітан Клінаў. Гэта быў выдатны лётчык. Ён лятаў днём і ноччу, у любых метэаралагічных умовах.

Клінаў накіраваў мяне ў экіпаж лейтэнанта Васіля Ульянава, тэхнікам нашага самалёта ТБ-3ф быў старшы тэхнік-лейтэнант Аляксей Пятроў, стралком-радыстам старшы сяржант Андрэй Басарыгін.

Становішча ў той час на Далёкім Усходзе было вельмі складанае. Японскія мілітарысты гатовы былі ў любы момант напасці на нашу краіну, таму нам даводзілася дзяжурыць у самалётах пры гатоўнасці нумар адзін, з падвешанымі бомбамі.

Тым не менш, кожны дзень, чуючы зводкі з фронту, мы рваліся туды, дзе цяпер вырашаўся лёс Радзімы, але нас не адпускалі. Мы некалькі разоў падавалі рапарты, але дарэмна.

У той час многія людзі, што былі не на акупаванай тэрыторыі, пералічвалі сродкі Чырвонай Арміі, на свае зберажэнні куплялі тэхніку для воінаў, і вось гэта падштурхнула нас...

Наш экіпаж, Васіль Ульянаў, Аляксей Пятроў і я, на свае зберажэнні вырашылі купіць самалёт і такім чынам трапіць на фронт. Паколькі камандаванне часці адмовіла нам у рапарце аб накіраванні ў раёны баявых дзеянняў, мы накіравалі ліст Вярхоўнаму Галоўнакамандуючаму таварышу Сталіну, у якім прасілі дазволу за свае грошы купіць самалёт, а таксама каб нас накіравалі ўрэшце на фронт.

Але грошай у нас не хапіла, і мы вымушаны былі прадаць усе асабістыя рэчы. Я нават, як ні ўгаворвалі таварышы не прадаваць, прадаў свой баян, пад які мы ў вольныя кароткія хвіліны спявалі.

Адказу чакалі з нецярпеннем. Вельмі добра памятаю той дзень, калі нас выклікалі ў штаб дывізіі. Мы думалі, што атрымаем чарговае заданне, але камандзір дывізіі палкоўнік Абраменка паказаў тэлеграму і тут жа прачытаў: «Лейтэнанту Ульянаву, малодшаму лейтэнанту Булацкаму і старшаму тэхніку Пятрову. Дзякую за клопаты аб Ваенна-паветраных сілах Чырвонай Арміі. Ваша жаданне будзе выканана. Вярхоўны Галоўнакамандуючы Маршал Савецкага Саюза І. Сталін».

Ці верылі мы тады Сталіну як праваднгу? Вядома, верылі. Мы верылі ў будучыню, верылі ў справу партыі, многае, вельмі многае нам было невядома, і ў гады вайны ў нас у сэрцах было адно — змагацца за Радзіму.

Ужо ў запасным авіяцыйным палку ў Кіравабадзе нам урачыста ўручылі самалёт з надпісам: «Набыты на асабістыя зберажэнні В. Ульянава, Р. Булацкага, А. Пятрова». Захоўваецца ў мяне наступнае пасведчанне: «Выдана экіпажу ў складзе: лейтэнанта Ульянава, штурмана малодшага лейтэнанта Булацкага, авіятэхніка старшага тэхніка-лейтэнанта Пятрова А. Н. у тым, што ім уручаны самалёт «БОСТАН» А-20-Ж № 321609, набыты на сродкі экіпажа. Камандзір 11-га запаснога авіяпалка падпалкоўнік Іваноў».

Хай чытач не палічыць, што хвалюся, але па нашым прыкладзе многія лётчыкі-далёкаўсходнікі таксама набывалі самалёты і ляцелі на іх на фронт.

## На фронт

І вось мы на сваім самалёце ляцім на фронт. Нарэшце збылася наша мара. Мы будзем вызваляць Украіну, ляцім у 5-ю паветраную армію.

Як родных, прынялі нас у палку. Наш экіпаж накіравалі ў 3-ю эскадрыллю, камандзірам якой быў ужо вядомы ў той час лётчык капітан Павел Жаліба.

Хочацца нагадаць адзін з эпізодаў з яго ваеннага жыцця.

У 1943 годзе тады яшчэ старшы лейтэнант Павел Жаліба ваяваў на Каўказе. Баі там ішлі цяжкія. У горнай мясцовасці не хапала аэрадромаў, што абмяжоўвала манеўр і прымяненне авіяцыі, а яна была вельмі патрэбна знясіленым у баях войскам. Самалёты дастаўлялі боепрыпасы, самалётамі вывозілі параненых.

Асабліва цяжка было часцям, якія абаранялі Марухскі перавал. Самалёты прабіваліся да яго ў складаных метэаўмовах і на парашутах скідвалі правіянт і зброю.

Экіпаж Жалібы рабіў за дзень па 10—12 вылетаў да перавала. Без перабольшання, гэта было на мяжы чалавечых магчымасцей.

Але вось пехацінцы падрыхтавалі пасадачную пляцоўку ў гарах. З надзеяй і трывогай чакалі яны першыя самалёты. Разумелі, што пляцоўка тая вельмі малая. Першыя два самалёты, якія спрабавалі сесці, разбіліся. Камандаванне забараніла садзіцца на гэтую пляцоўку. Становішча яшчэ больш пагоршылася. Вораг насядаў, боепрыпасы канчаліся, былі сотні параненых, якім патрэбна была неадкладная медыцынская дапамога. Як быць?

І старшы лейтэнант Жаліба накіраваўся да камандзіра часці.

— Дазвольце мне пасадку...

— Табе што, жыць надакучыла? — камандзір быў суровы.

— Ніяк не. З паветра я добра вывучыў мясцовасць. Упэўнены, сяду.

— Думаеш, тыя, што да цябе лячталі, не былі пераканаaны?

— Але ж няма іншага выйсця...

І Жаліба сеў на той пляцоўцы. Мала таго, ён навучыў гэтаму і іншых лётчыкаў.

Дык вось у чыю эскадрыллю мы трапілі.

## Першыя баявыя вылеты

Ён запомніўся мне на ўсё жыццё. Раніцой каля чатырох гадзін мы ўзляцелі звеннямі і нанеслі сакрушальны ўдар па адной чыгуначнай станцыі, дзе было скапленне жывой сілы і тэхнікі ворага.

Удар быў нечаканы, зенітная артылерыя адкрыла агонь позна. Наш экіпаж вельмі радаваўся поспеху.

Потым былі другі, трэці, чацвёрты... баявыя вылеты.

Капітан Жаліба радаваўся, што наш экіпаж так хутка ўвайшоў у справу. Ён ганарыўся, што ў эскадрыллі, якой камандаваў, былі рускія, украінцы, беларусы, латышы, казахі, узбекі. Лічыў — мы адна сям'я.

Пазней ужо, з іншага аэрадрома, мы вылятаклі, каб наносіць масіраваныя ўдары па скапленню войск і тэхнікі праціўніка. Толькі за красавік 1944 года наш полк здзейсніў 36 баявых вылетаў.

У маі было не лягчэй. Першамайскае свята было адзначана вылетам трох дзесятак нашага палка. Трэцюю эскадрыллю вёў капітан Жаліба.

Адразу ж за лініяй фронту, на падыходзе да цэлі, нас атакавалі «месершміты». Атаку мы адбілі, але над цэллю сустрэлі моцны загараджальны агонь ворага. Снарады разрываліся побач з самалётам... Жаліба пачынае супрацьзенітны манеўр, астатнія экіпажы паўтараюць яго. Усе нашы самалёты ў страі. Бо бомбы мы паспяхова скінулі, заданне выканалі.

Вярнуўшыся на аэрадром, мы налічылі ў нашым самалёце больш дзесяці прабоін, гэта значыць былі на валаску ад гібелі.

21 ліпеня 1944 года. Наш экіпаж у складзе камандзіра лейтэнанта В. Ульянава, мяне — штурмана, стралка-радыста М. Ялуфер'ева і стралка А. Сотнікава павінен быў разведаць становішча на дарозе Тыргул — Фрумос — Коман — Бокэчу — Факш-





М. СЕЛЯШЧУК. Трывогі падарожнікаў (алей, 1989).



**Ф. ЯНУШКЕВІЧ. Вечар на Дзяды** (алей, 1989).

**У. ТОУСЦІК. Апостал Пётр. З трыпціха «Спадчына»** (алей, 1989).



В. АЛЬШЭЎСКІ. Цёплы вечар (алей, 1989).

таны — Цекучы — Віслуй — Ясы і адначасова бамбіць. У раёне Віслуя мы скінулі на ворага бомбы. Вораг сустрэў нас моцным зенітным агнём, паранілі стралка-радыста Ялуфер'ева.

Мы выйшлі з-пад агню, але нас адразу ж атакавалі два «месершміты». Стралок-радыст, нягледзячы на тое, што быў паранены, вёў агонь па варожых самалётах. Адбілі дзве атакі. Але быў паранены і стралок Сотнікаў... А варожыя самалёты нападаюць, вось-вось і канец.

І тут Ульянаў заўважыў воблакі, ён рэзка набраў вышыню, і мы аказаліся за імі. Фашысты нас згубілі.

Уваходзіць у воблакі, калі няма магчымасці змагацца з ворагам, нас вучыў Жаліба...

Добра памятаю пачатак Яска-Кішынёўскай аперацыі. 20 жніўня 1944 года сярод лётчыкаў палка панавала ажыўленне. Усе абмяркоўвалі будучыя баявыя дзеянні. Раніцой гэтага ж дня на старт вынеслі сцяг палка. Кожны ўсвядоміў важнасць вылету.

Узляталі звеннямі, полк у прызначаны час заняў месца ў агульнай дывізіённай калоне. Удар па апорным пункце горада Ясы наносілі самалётамі ўсёй 218-й бамбардзіровачнай дывізіі.

Вышыня — 300 метраў. Час удару — 7 гадзін 40 мінут.

Трэцяя эскадрылля ішла ўсярэдзіне дывізійнай калоны, гэта перашкаджала рабіць супрацьзенітны манеўр. Калі мы ўбачылі, што зенітк і моцна абстрэльваюць першыя эскадрыллі, мы пачалі асцярожна мяняць курс і вышыню.

Набліжалася цэль. Эскадрылля пад камандаваннем капітана Жалібы легла на баявы курс. Штурманы пачалі прыцэльвацца па чыгуначным вузле, лётчыкі ўстанавілі зададзены рэжым. Прыцэльвацца было вельмі цяжка, бо выбухі бомбаў эскадрылляў, якія ішлі паперадзе, дымам завалаклі станцыю.

Вораг адкрыў наогул нябачны дасюль зенітны агонь. Але асабіста мне не было калі назіраць за разрывамі зенітных снарадаў, трэба было прыцэльвацца так, каб бомбы траплялі ў цэль. Па галасах Ульянава і Ялуфер'ева я адчуваў, што з задачай спраўляемся. Наогул, заданне полк выканаў паспяхова. Былі і страты — чатыры самалёты не вярнуліся на аэрадром, прамымі пападаннямі зенітных снарадаў яны былі збіты на чыгуначнай станцыі Ясы. Камандзір першай эскадрыллі капітан Аляксей Цароў (пасля Герой Савецкага Саюза) вымушаны быў сесці на аэрадром, дзе базіраваліся нашы знішчальнікі.

Як успамінае Міхаіл Аляксандравіч Герасіменка, тады штурман эскадрыллі, цяпер палкоўнік у адстаўцы: «Як толькі з'явілася цэль на вугал прыцэльвання, я націснуў на кнопку скідвання, і адразу ж адбыўся моцны выбух злева. Наш самалёт пачаў падаць. Я бачыў выбухі сваіх бомбаў, якія леглі дакладна на цэлі, але думаў пра іншае: чаму камандзір нічога не робіць, каб выраўняць машыну? Я зрабіў намаганне, каб дацягнуцца да перагаворнага прыстасавання, каб паведаміць камандзіру, што зямля ўжо блізка, як ён на вышыні метраў ста выраўняў машыну». Далей Міхаіл Аляксандравіч расказваў мне, што хутка ён заўважыў, што левы матор не працуе, яны прызямліліся на адным маторы. Як потым высветлілася, снарад трапіў прама ў суседні самалёт, які ішоў злева, і ад узрыву самалёта, які яшчэ не ўсе бомбы скінуў, самалёт справа атрымаў моцнае пашкоджанне, яго амаль перавярнула ўзрыўной хваляй. Камандзір з вялікімі намаганнямі справіўся з машынай у такіх складаных умовах.

Праз некаторы час яны плаўна развярнуліся і ўзялі курс на сваю тэрыторыю. Капітан Цароў загадаў камандзіру звяна лейтэнанту Спірыдонаву весці эскадрыллю на свой аэрадром і адначасова папрасіў штурмана Герасіменку навесці самы кароткі курс на бліжэйшы аэрадром нашых знішчальнікаў, бо адзін цэлы матор стаў хутка перагравацца і было ясна, што да свайго аэрадрома не дацягнуць.

Штурман хутка з'арыентаваўся і задаў курс. Хутка паказаўся аэрадром знішчальнікаў. Адразу сталі заходзіць на пасадку. На палявым аэрадроме знішчальнікаў была адна паласа для ўзлёту і пасадкі. Цароў скіраваў машыну на пасадку, але на паласе аказалася чатыры знішчальнікі і чатыры вырульвалі на яе, каб узляцець.

З зямлі сігналілі чырвонымі ракетамі, патрабуючы, каб самалёт Царова ішоў на другі круг. Але гэта ўжо было немагчыма, бо матор працаваў пры крытычнай тэмпературы. Усё ж Царову ўдалося пераляцець знішчальнікі і прызямліцца на

другой палове паласы. Яна была кароткая, самалёт выкаціўся за яе, а наперадзе былі пабудовы. Герасіменка паспеў крыкнуць камандзіру: «Адпусці тармазы, наперадзе траншэя! І адразу ж пярэднія шасі надламаліся, нос самалёта разам са штурманскай кабінай стукнуўся аб зямлю, разбілася шкло і ніжняя абшыўка. Герасіменка інтуітыўна падняў ногі, і гэта яго выратавала. Усе засталіся жывыя. Калі агледзелі самалёт, то налічылі больш 150 прабоін. Заўважу: тым не менш праз тыдзень машыну адрамантавалі.

## Тургенеўскія мае дзяўчаты...

Расказваючы пра франтавых таварышаў, нельга не ўспомніць аб дзяўчатах, якія пайшлі на вайну добраахвотна. Пра іх пісала Юлія Друніна ў адным са сваіх вершаў, пра дзяўчат, якія ішлі са школы, з інстытутаў, з камсамола на вайну, назвала іх сваімі тургенеўскімі дзяўчатамі.

Былі яны і ў нашым палку. Люба Гаджый, Зінаіда Чарапанава, Ліза Мезіна, Еўдакія Вераб'ёва, Валянціна Малышкіна, Вера Сухава...

Люба Гаджый і Зіна Чарапанава ўцяклі з бацькоўскага дому, каб трапіць на фронт. Дзяўчаты шчыра казалі, як ні цяжка было развітвацца з дарагім бацькоўскім домам, але даражэй для іх была Айчына.

Усе дзяўчаты, перад тым як трапіць у полк, скончылі школы малодшых спецыялістаў. У дзяўчат былі розныя армейскія спецыяльнасці, але ўсе яны займаліся забеспячэннем нашых палётаў, кожная на сваім участку. Напрыклад, Люба Гаджый адказвала за работу прыбораў самалётаў нашага звяна, працавала вельмі многа, добра. Не было выпадкаў, каб прыборы самалётаў нашага звяна хоць раз адказалі ў рабоце.

У нашым палку Люба сустрэла сваё каханне, свой лёс. Яна выйшла замуж за адважнага лётчыка лейтэнанта Сароку. Цяпер Любоў Фёдараўна Гаджый-Сарока жыве ў Душанбе, на жаль, некалькі гадоў назад яе муж, а наш баявы таварыш памёр.

Зіна Чарапанава была матарысткай, абслугоўвала матары самалётаў. Ёй і другім дзяўчатам-матарысткам прыходзілася нялёгка. Працавалі і днём і ноччу, у холад і спякоту. Ніхто на цяжкасці не скардзіўся.

Стройная і вельмі прыгожая была Ася Пашчанка. Яна лятала стралком-радыстам. Ася ўмела адбівала атакі нямецкіх знішчальнікаў, лётчыкі прывыклі чуць у паветры яе голас.

25 красавіка 1945 года была цёплая раніца. Самалёты нашай эскадрыллі хутка адзін за другім узляцелі ў паветра. Кіраваў палётам капітан Анатоль Іванавіч Спірыдонаў. Цэль — чыгуначны вузел станцыі Брно, дзе было вялікае скапленне жывой сілы і тэхнікі ворага.

Над цэллю нас моцна абстралялі зеніткі і атакавалі знішчальнікі. Але тым не менш цэль мы паразілі, скінулі 10 800 кілаграмаў бомбаў. На жаль, мы страцілі адзін самалёт. І гэта быў самалёт, на якім лятала Ася Пашчанка. Убачыўшы, што іх машына ахоплена полымем, я хутка перайшоў на знешнюю сувязь, адно, што пачуў, дык Асін голас: «Дарагія мае, пра...» Яна не паспела даказаць... А як Ася марыла дажыць да Перамогі, як марыла, што цудоўнае ў нас будзе жыццё. Загінула наша баявая сяброўка над зямлёй Чэхаславакіі.

Нашы баявыя сяброўкі... Заўсёды мы ўспамінаем пра іх з цеплынёй. Нараджаныя даваць жыццё, многія з іх гінулі на вайне, так і не стаўшы мацяркамі, так і не здзейсніўшы таго, што павінны былі здзейсніць. Яны гінулі, абараняючы Радзіму, абараняючы жыццё іншых людзей, і памятаць іх — наш вечны абавязак.

## Раненне. Мой перакладчык Вася

Быў чарговы палёт палка. Ляцелі бамбіць чыгуначную станцыю Естэргам. Задачу сваю выканалі, але наш самалёт падбілі і мы вымушаны былі пайсці на пасадку на мясцовасць, на якой было многа пагоркаў.







Мяне кантузіла, параніла ў пазваночнік. Быў непрытомны, калі мяне прывезлі ў шпіталь у горад Дэрбецэн. Мяне вёз селянін-мадзьяр разам з маім сябрам Васілём Ульянавым. Шпіталь быў мадзьярскі, спачатку мяне лячылі венгерскія ўрачы. Яны чулліва адносіліся да мяне, наклалі гіпс, зрабілі ўсё неабходнае, і на трэція суткі я апрытомнеў. Вакол былі незнаёмыя людзі, чужая гаворка, і спачатку я падумаў, што знаходжуся ў нямецкім палоне. Але раптам з'явіўся хлопчык гадоў дванаццаці і спытаў па-руску, як адчувае сябе дзядзя лётчык.

Я адказаў: «Моцна баліць пазваночнік».

Хлопчык сказаў:

— Мае дзядзі ўрачы вельмі добрыя, і яны зробяць усё, каб не балела.

— Дзе я? — спытаў.

— У шпіталі горада Дэрбецэна,— адказаў хлопчык і потым: — Я прынясу вам паесці.

Хутка ён прынёс ежу і пачаў мяне карміць, бо я не мог падняцца. Падсілкаваўшыся, я спытаў, як яго завуць.

— Вася,— адказаў ён.

— А мяне дзядзя Рыгор,— адказаў я.

— Дзядзя Рыгор,— сказаў Вася,— я буду вас даглядаць. Буду вашым перакладчыкам, бо ведаю мадзьярскую мову.

Мяне цікавіла, як Вася трапіў сюды, чаму ведае добра мадзьярскую мову, адкуль ён.

Аказалася, хлопчык быў родам з Заходняй Украіны, там жыў у вёсцы, дзе багата было мадзьяр, таму і ведаў іх мову. Але прыйшлі немцы. Васеў дзядуля быў камуністам, немцы павесілі яго і бацькоў. Хлопчык са старэйшай сястрой уцяклі ад фашыстаў і апынуліся ў Венгрыі. У адну з бамбёжак Васева сястра загінула, ён застаўся адзін, прыстаў да гэтага шпіталя, дапамагаў даглядаць параненых і хворых.

Аднойчы я прапанаваў Васю стаць сынам палка, ён пацалаваў мяне, быў ўдзячны.

Настаў час майго ад'езду. Я павінен быў лячыцца далей у шпіталі 5-й паветранай арміі, які знаходзіўся ў горадзе Секешфехервар.

З Васем мы вырашылі, што, як толькі я дамоўлюся, каб яго перавялі ў гэты шпіталь, адразу ж напішу яму.

З вялікімі цяжкасцямі мне ўдалося дабіцца дазволу перавесці Васіля ў шпіталь, дзе я цяпер лячыўся.

Адразу ж напісаў яму, але адказу так і не атрымаў. Я пісаў яму шмат, пісаў і на імя начальніка тамашняга шпіталя, але безвынікова. Сам жа я не мог паехаць туды, адшукаць Васю. Я не ведаю, што сталася з маім юным сябрам, які столькі многа зрабіў для мяне.

У красавіку 1945 года мяне выпісалі са шпіталя. Медкамісія прызнала мяне нягодным да лётнай службы. З гэтым я не мог пагадзіцца. Я пачаў настойліва трэніравацца, праз час зноў пайшоў на камісію, і мне пашанцавала. У той час наш полк стаяў у горадзе Серваш (Чэхаславакія). І вось 19 красавіка я зноў сеў з таварышамі ў самалёт, і мы паляцелі на баявое заданне — бамбіць чыгуначную станцыю горада Брно. Амаль кожны дзень мы выляталі на баявыя заданні.

7 мая 1945 года мы ў складзе ўсёй дывізіі зрабілі тры налёты на скапленне войск і тэхнікі ў раёне Мор, Крушлова і Гаспіцідаўса. У выніку бамбёжкі былі створаны завалы, пробкі для адступлення войск і тэхнікі ворага.

На наступны дзень мы бамбілі варожыя эшалоны, раскідвалі лістоўкі, у якіх заклікалі нямецкіх салдат і афіцэраў спыніць ваенныя дзеянні, скласці зброю і здацца ў палон. Аднак ні генерал-фельдмаршал Ф. Шорнер, які камандаваў групай армій «Цэнтр», ні генерал-палкоўнік Л. Рэндуліч, камандуючы групай «Аўстрыя», гэтага не зрабілі. Яны спадзяваліся хутчэй адвесці свае войскі на Захад, здацца амерыканцам.

Аднак надзеі фашысцкіх генералаў не спраўдзіліся. Працягваючы наступленне, савецкія войскі імкнуліся замкнуць кальцо вакол фашысцкіх груповак, якія дзейнічалі ў Чэхаславакіі, прымусіць іх капітуляваць.

З 9 на 10 мая каля трох гадзін ночы ўсчалася неверагодная страляніна. Мы жылі ў школе, паўскоквалі з ложкаў, мяркуючы, што высадзіўся варожы дэсант.

Хутка апрануліся, схапілі зброю і выскачылі на вуліцу. І тут пачулі галасы дзяўчат, якія стаялі на варце: «Дарагія нашы воіны, канец вайне!»

Аднак 10 і 11 мая наш полк удзельнічаў у аперацыі па захопу нямецкіх груповак, якія не капітулявалі раней.

## Саюзнікі

Я ўжо казаў, што наш экіпаж на свае сродкі набыў самалёт «Бостан». Гэта машына амерыканскай вытворчасці.

Неяк я прачытаў у «Правде» артыкул аб гісторыі самалёта «Бостан», які падараваў амерыканскі акцёр Рэд Скельтан савецкім лётчыкам, і ўспомніў нашы сумесныя дзеянні ў канцы вайны з паветранымі сіламі ЗША, тое моцнае сяброўства, якое нас яднала. Тады мы разам з нашымі саюзнікамі-амерыканцамі грамілі ворага, вызваляючы Еўропу ад фашызму.

У тыя цяжкія веснавыя дні 1945 года наш полк знаходзіўся на адным з палявых аэрадромаў на тэрыторыі Венгрыі. Пасля аднаго баявога вылету мы адразу ж пачалі рыхтавацца да наступнага. Раптам удалечыні пачуўся гул матораў, па якому мы адразу вызначылі, што гэта «Ліберэйцэр». Хутка асколак ад зенітнага снарада сапсаваў адзін матор.

Мы цёпла сустрэлі амерыканцаў. Мы стаялі побач: высокія, падцягнутыя, у скураных куртках амерыканцы, і плячыстыя, таксама высокія, у рэгланах мы, рускія.

Моцна, па-сяброўску паціскаем рукі, частуем цыгарэтамі, курым, смяёмся. Потым ідзём у сталоўку, запрашаем сяброў да святочнага стала. Вечарам — у клуб на канцэрт самадзейных артыстаў. Госці цёпла рэагуюць на выступленні нашых лётчыкаў-спевакоў, танцораў, дэкламатараў, акрабатаў.

На наступны дзень у нас было многа работы. У неба ўзнімаліся раз за разам. Амерыканцы захапляліся роўнай лініяй паветранага строю нашых бамбардзіроўшчыкаў. Яны здзіўляліся таксама майстэрству малодшага лейтэнанта Саядана, які зрабіў выдатную пасадку на адным маторы, бо другі быў разбіты.

Нашы лётчыкі разам са старшым тэхнікам-лейтэнантам дапамагалі амерыканцам рамантаваць іх машыну. Амерыканскія лётчыкі Буцэ і Файфа былі вопытнымі авіятарамі. У Аляксея Пятрова быў корцік. Файфу ён вельмі падабаўся, але ён пра гэта маўчаў. Надышоў дзень, калі амерыканскія лётчыкі павінны былі ляцець да сваіх. Яны запрашалі нас пасля вайны да сябе ў Амерыку ў госці, мы — да сябе, у нашу краіну. Узаемныя падзякі. Пагляд Файфа спыняецца на корціку. Гэта заўважыў Пятроў. Аляксей зняў корцік і падараваў яго Файфу. Той жа, у сваю чаргу, зняў наручны гадзіннік і падараваў Аляксею. На развітанне мы моцна абняліся, як сапраўдныя баявыя сябры.

Экіпаж лейтэнанта Буцэ паляцеў. Але каля нашых самалётаў стаяць яшчэ чатыры «Ліберэйцэры». Учора іх было тры. Сёння прыляцеў чацвёрты, ён ішоў на двух маторах, але калі прызямліўся, мы ўбачылі наступнае. Амерыканцы, выйшаўшы з машыны, пачалі цалаваць зямлю.

Яны расказалі нам, што гадзіну назад, калі былі над цэллю, у іх загарэліся два маторы. Лётчыкам усё ж удалося прарвацца праз заслону зенітнага агню. Здавалася, канец... Але мужнасць не пакінула іх. І вось яны сярод нас, сваіх савецкіх сяброў, мы абдымаем іх, цалуем.

Тады, у суровыя часы выпрабаванняў, мы былі сапраўднымі баявымі сябрамі, простыя савецкія людзі і простыя амерыканцы.

Думаю, што ва ўсе пасляваенныя часы складаных адносін між нашымі дзвюма дзяржавамі тыя амерыканцы, з якімі мы разам змагаліся з ворагам, як і мы, жылі надзеяй на дабро і ўзаемаразуменне, бо, аднойчы спазнаўшы другога, чалавек не можа ставіцца да яго варожа...

Не ўсе мае баявыя таварышы вярнуліся з вайны. Многія загінулі, вызваляючы ад ворага родную зямлю, многія засталіся на чужых землях.

**Рыгор БУЛАЦКІ,**
**былы авіяцыйны штурман, доктар гістарычных навук.**



# «МІЛОСНІК НАВУКІ І МУДРАСЦІ»



*Нямала народаў з крыніц яго піла*
*І брала ад мудрасці вечны агонь,*
*У літарах першых знаходзячы сілу...*

П. Броўка. «Беларусь»

Гэтыя словы былі сказаны пра нашага слыннага земляка, выдатнага асветніка XVI ст. палачаніна Францыска Скарыну. У іх паэт даў сціслую і разам з тым ёмістую ацэнку культурна-асветніцкай дзейнасці нашага першадрукара, які запаліў і высока ўзняў паходню Адраджэння не толькі на Беларусі, але і ва ўсім усходнеславянскім свеце. Сваімі наватарскімі адносінамі да мовы рэлігійнай пісьменнасці ён прадвызначыў лёс і асноўныя кірункі эвалюцыі царкоўнаславянскай мовы на Беларусі, садзейнічаў пераўтварэнню яе ў асобны беларускі тып. Моватворчасць Ф. Скарыны аказала выключнае ўздзеянне на беларускіх кніжнікаў XVI і наступных стагоддзяў, а таксама абумовіла развіццё філалагічнай думкі ва ўсходніх славян. Без перабольшання можна сказаць, што выказванні Ф. Скарыны аб мове, яго адносіны да яе — гэта парастак, з якога вырасла магутнае дрэва сярэдневяковай адукаванасці і мовазнаўства на Беларусі. Крыштальныя словы навукі, шчодра

ЦАРЬСТВЪ ⁝ РДІ ⁝

Царь Саломон ставит храм Господу богу в Ерусалиме:





РЕТИИ КНИГИ ЦАРЬСТВЪ ПОЧИНАЮТЬ СЯ • ЗУПОЛНЕ ВЫЛОЖЕНЫ НА РУСЬ

рассыпаныя Ф. Скарынай на роднай ніве, далі дружныя ўсходы кнігадрукавання, развіцця навукі і буйна закаласілі ў дзейнасці яго паслядоўнікаў С. Буднага, В. Цяпінскага, Л. Зізанія, М. Смятрыцкага, І. Фёдарава, С. Собаля і інш.

За апошнія гады нямала зроблена ў вывучэнні духоўнай, культурна-асветніцкай і моватворчай спадчыны нашага першадрукара. Скарыназнаўцы-моваведы аддавалі перавагу перш за ўсё вывучэнню моўных асаблівасцей выданняў Ф. Скарыны, узаемаадносін іх норм з нормамі твораў рэлігійнай пісьменнасці. Аднак па-за ўвагай даследчыкаў застаецца праблема пераемнасці скарынаўскіх традыцый у сярэдневяковай лінгвістычнай літаратуры і іх роля ў агульнай перспектыве развіцця тагачаснага мовазнаўства. Вырашэнне гэтага пытання дапаможа больш поўна і ўсебакова асэнсаваць феномен Скарыны, высветліць яшчэ адзін бок яго багатай творчай спадчыны.

Значнай заслугай Ф. Скарыны як філолага было тое, што, паставіўшы перад сабой мэту зрабіць кнігу даступнай «людем посполітым рускаго языка», ён падаваў на палях тлумачэнне незразумелых слоў сродкамі беларускай мовы. Тут праявілася бліскучае майстэрства і тонкая назіральнасць Скарыны-лексікографа, уменне абагуліць і творча выкарыстаць вопыт вядомых у старажытнасці гласарыяў — невялікіх слоўнікаў, прыкладзеных да кніг. Зрабіўшы першы крок да самастойнага збірання, шырокага тлумачэння і перакладу незразумелых слоў, Ф. Скарына заклаў падмурак беларускай лексікаграфіі, абудзіў цікавасць да слоўнікавай работы, якая знайшла працяг у дзейнасці беларускіх кніжнікаў XVI—XVIII стст. Асабліва плённа скарынаўскія набыткі ў гэтай галіне мовазнаўства засвоілі С. Будны, В. Цяпінскі, Л. Зізаній, П. Бярында і іншыя аўтары. Па прыкладу Скарыны яны ў сваіх творах шырока карысталіся прыёмамі тлумачэння ўстарэлых і запазычаных слоў сродкамі старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы, але рабілі гэта больш шырока і паслядоўна. Так, С. Будны ўжываў глосы не на палях, а ўнутры тэкстаў, напрыклад: Катихисисъ слово есть гречаского языка, сказует же ся на словенскую речь оглашение или гласомъ ученіе; естество или прироженіе; обрусъ или скатерть; совесть или сумненье. Што датычыць глос у «Евангеллі» В. Цяпінскага, то яны ўяўлялі пераход ад першых спроб слоўнікавага апісання пісьмовых тэкстаў да спецыяльнай лексікаграфічнай апрацоўкі моўных адзінак. Ён не толькі забяспечваў слова тлумачэннем, але і дадаваў этымалагічную і тэксталагічную спасылку, напрыклад: до ада снидеши — тое слово адъ еврейское, и тое ж в греческом, значит пекло; статиръ, так некоторую монету звали греческую; а в апракасе положил дебре, то есть долине. Глосы В. Цяпінскага сведчаць пра тое, што ён не толькі засвоіў вопыт Ф. Скарыны ў гэтай галіне мовазнаўства, але і сам меў высокі ўзровень філалагічнай падрыхтоўкі. В. Цяпінскі ўслед за Скарынай зразумеў эстэтычную каштоўнасць роднай мовы, ён адным з першых у прадмове да «Евангелля» з болем у сэрцы гаварыў пра зняважлівыя, пагардлівыя адносіны да беларускай мовы вышэйшых колаў. У яго выклікала абурэнне і жаль, што без усялякай патрэбы чыніцца гвалт над нашай мовай, што па прыкладу вялікіх княжат, паноў знатных «так много деток невинных, мужов з жонами в таком зацном руском (годным беларускім.— Д. П.), а злаща перед тым довстипном учоном народе» адбываецца «езыка своего славного занедбанье». На жаль, гэты заклік выдатнага асветніка-патрыёта не зрабіў істотнага ўплыву на лёс старабеларускай літаратурнай мовы, не змяніў адносін да яе з боку афіцыйных колаў. Ці не адсюль бяруць свой пачатак нігілістычныя адносіны да беларускай мовы як нейкай другараднай, недасканалай, якая не мае сваёй гісторыі? Ці не з тых часоў беларуса прывучвалі да гэтай думкі? Таму і зараз вельмі надзённа гучаць словы В. Цяпінскага пра «нявінных дзяцей годнага беларускага, дасціпнага і вучонага народа», якіх вучылі з пагардай ставіцца да роднай мовы.

Лексікаграфічны вопыт Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага стаў трывалым падмуркам для стварэння першых слоўнікаў: «Лексисъ с толкованіемъ словенскихъ мовъ просто» (1581 г.), «Лексисъ сиречь реченія вькратце събранны и из словенскаго языка на просты рускій дыялект истолкованы» (Вильно, 1596), аўтарам якога быў Лаўрэнцій Зізаній. «Лексіс» Л. Зізанія стаў першым друкаваным царкоўнаславянска-беларускім слоўнікам, вяршыняй лексікаграфічнай работы ў XVI ст. Хаця Л. Зізаній нічога не гаварыў аб крыніцах свайго слоўніка, даследчыкі знаходзяць, што ён выкарыстоўваў і скарынаўскія матэрыялы.

У 1627 г. у Кіеве выйшаў вядомы «Лексикон славеноросский» Памвы Бярынды (2-е выд. Куцеін, 1653), у прадмове да якога аўтар указаў, што асновай для стварэння слоўніка сталі разнастайныя кнігі і працы, тлумачэнні Максіма Святагорца (Грэка), Мануіла Рытара, а таксама «произволники на траех тамо оставленыя» (тлумачальныя запі-

ЦАРЬСТВЪ :~ РПГ :~

Навхоносор Царь Вавилѡнскии добывае Ерусалима:



Книги четвертыи царствъ починають ся. Зуполне выложены на рус-

кии языкъ докторомъ

сы на палях кніг, глосы.— Д. П.). Гэты запіс ускосна сведчыць пра тое, што сярод іншых крыніц «Лексікона» былі і кнігі Ф. Скарыны. Сказанае падмацоўваецца і тым, што паасобныя скарынаўскія глосы П. Бярында цалкам ці з нязначнымі дапаўненнямі ўключыў у «Лексікон», параўн.: Скарына: вретище — власяница; коноб — горнец; хляби — продухи водные; юг — ветр полденный; Бярында: вретище — власяница; коноб — горнец медяный; хляби — прадухи водные, воде упуть, ворота, гвалтовная вода; юг — полудный ветр; полуденная сторона, или полудне. Скарынаўскія тлумачэнні П. Бярында выкарыстаў і пры перакладзе назваў літар стараяўрэйскага алфавіта.

Л. Зізаній і П. Бярында творча выкарысталі і распрацавалі асноўныя сродкі раскрыцця значэнняў слоў, характэрныя для лексікаграфічнай практыкі Скарыны,— сінанімічны пераклад, этымалагічны экскурс, энцыклапедычную і спасылачную даведку. Усё гэта паказвае, наколькі плённым быў вопыт Скарыны ў галіне лексікаграфіі.

Скарынаўскія ідэі дабратворна ўздзейнічалі на развіццё граматычнай думкі Беларусі ў XVI—XVII стст., буйнейшымі прадстаўнікамі якой былі Л. Зізаній і М. Сматрыцкі. Вядома, што галоўную ролю ў вывучэнні «сямі вызваленых навук» Ф. Скарына адводзіў граматыцы. Развіваючы гэты тэзіс нашага асветніка, Л. Зізаній у прадмове да граматыкі і эпіграме на яе сцвярджаў, што граматыка з'яўляецца ключом, «отворяючим всем ум в преправый разум», параўноўваў яе з лесвіцай, па прыступках якой кожны, «если хочет всех наук дойдет». Затым Л. Зізаній недвухсэнсоўна выказаўся ў падтрымку скарынаўскага меркавання аб вядучай ролі граматыкі сярод іншых «вызваленых навук», падкрэсліўшы, што праз граматыку «риторика, и словесница, вкупе чесной философии, и чрез естественнои богословии оказуется союз, без которого порядне жадной речи не справит».

Імкнучыся сумясціць свецкую і рэлігійную асвету, беларускі першадрукар сцвярджаў, што ў Біблії заключаецца «научение седми наук вызволеных достаточное», канкрэтызуючы гэту думку, ён удакладніў, што граматыку з поспехам можна вывучаць па Псалтыру, логіку — па кнігах святога Іовы і Пасланнях святога апостала Паўла, рыторыку — па кнігах Саламона і г. д. Такім чынам, асноўным падручнікам для вывучэння граматыкі, на думку Ф. Скарыны, быў Псалтыр, што поўнасцю адпавядала патрабаванням тагачаснай адукацыі. Паглыбляючы змест гэтага выказвання Ф. Скарыны, М. Сматрыцкі ў прадмове да сваёй «Грамматики славенския...» пісаў: «По Часослова зась и Псалтыри, которыи опусканы быти не мають, выученю ся овая Граматика з выкладом, то есть з показованьем и уживаньем еи пожитков наступит». Поўнасцю падтрымаўшы скарынаўскую ідэю вывучэння граматыкі па кнігах свяшчэннага пісання, М. Сматрыцкі рэкамендаваў карыстацца для гэтых мэт перакладамі на «рускую мову» (беларускую) «з Притчій Соломоновых, альбо з Премудрости его, любо Сихаровы». Ці не Скарынавы пераклады меў тут на ўвазе вядомы вучоны, бо вельмі блізка яго думка пераклікаецца тут са скарынаўскім прызначэннем кніг Біблії. Несумненна, што Л. Зізаній і М. Сматрыцкі былі не толькі знаёмы з кнігадрукамі Ф. Скарыны, яго асветніцкімі выказваннямі наконт ролі граматыкі, але плённа распрацоўвалі і паглыблялі іх у адпаведнасці з патрабаваннямі часу. У граматыках Л. Зізанія і М. Сматрыцкага выразна прасочваецца Скарынава думка пра неабходнасць тлумачэння незразумелых слоў сродкамі «простай рускай мовы». Напрыклад, у граматыцы Л. Зізанія: Колико есть частій грамматики; чотыри: орфографія, просодія, этимологія и синтаксис. Толкованіе. Колько есть частій грамматики; чотыри: правописаніе, припело, истиннословіе и сьчиненіе (захоўваецца пунктуацыя арыгінала); у граматыцы М. Сматрыцкага: по, сказуемое росски после; прежде даже и прежде неже росски сказуему первей поки, первей неж; Скоро предвари даже не поработимся, росски: Рихло упереди, поки не будем зневолени. Аўтары названых граматычных трактатаў часта выкарыстоўвалі апісальны прынцып тлумачэння асобных лінгвістычных тэрмінаў, параўн.: Сего ради двогласная писмена нарицаются, понеже две писме гласных съвокупльшися, съставляют едино писмо (Зізаній); Количество есть слога мера краткая или долгая по времени, еже сокращеніе или протяженіе гласнаго, либо слова (Сматрыцкі).

Ф. Скарына сцвярджаў, што граматыка — гэта, «по рускы говорячы, грамота, еже добре чести и мовити учить», а Л. Зізаній бачыў у ёй «певное веданье, же быс мы добре мовили и писали»; М. Сматрыцкі ж падкрэсліваў, што гэта — «известное художество», якое «научит и читати по славенску, и писати розделне, и чтомое вырозумевати яацно». Наколькі можна меркаваць з прыведзеных выказванняў, погляды ўсіх трох асветнікаў на граматыку вызначаюцца адзінствам і адначасова характарызуюцца сярэдневяковым сінкрэтызмам: граматы-

ка — гэта адзін з відаў мастацтва і дапаможнік для навучання правільнаму чытанню, пісьму і маўленню. Ф. Скарына, Л. Зізаній, М. Сматрыцкі правільна ўлавілі адрознасць граматыкі ад іншых відаў мастацтва і ўсведамлялі яе выключную ролю для іх вывучэння.

Аўтараў названых граматык збліжае са Скарынай і тое, што ў сваіх работах яны прызнавалі існаванне на Беларусі дзвюх пісьмовых моў: старабеларускай і царкоўнаславянскай (па іх тэрміналогіі славянскай і простай рускай) — і дакладна размяжоўвалі іх.

У XVI—XVII стст. у некаторых помніках рэлігійнай пісьменнасці Беларусі склаўся своеасаблівы беларускі тып царкоўнаславянскай мовы, які меў месца і ў выданнях Ф. Скарыны. Адметнасць гэтага тыпу заключалася ва ўзаемадзеянні царкоўнаславянскіх і мясцовых, беларускіх, моўных асаблівасцей, што прыводзіла да замены незразумелых архаічных рыс сродкамі жывой мовы, дэмакратызавала творы канфесіянальнай літаратуры, рабіла іх больш зразумелымі. Менавіта нормы такой сінкрэтычнай царкоўнаславянскай мовы былі кадыфікаваны ў граматыках Л. Зізанія і М. Сматрыцкага. Гэтыя нормы атаясамліваліся з нормамі рэлігійных твораў і ў першую чаргу найбольш аўтарытэтных, кананічных, якімі на той час былі, несумненна, друкаваныя скарынаўскія Біблія, Псалтыр і Апостал.

З усяго сказанага можна зрабіць наступную выснову: гуманістычная культурна-асветніцкая дзейнасць славутага беларускага першадрукара, выказаныя ім у прадмовах да кніг, ідэі, лінгвістычны вопыт падрыхтавалі метадалагічныя і пазнавальныя перадумовы для стварэння першых усходнеславянскіх слоўнікаў і граматык. Гэтага вымагала таксама і распачатая Скарынай кнігавыдавецкая справа, якая патрабавала ўнармаванай мовы, агульнаабавязковых правілаў правапісу, марфалогіі і сінтаксісу, стабільных лексічных сродкаў.

Складаныя сацыяльна-палітычныя і рэлігійныя абставіны, у якіх апынуўся беларускі народ пасля ўключэння зямель Вялікага княства Літоўскага ў склад Рэчы Паспалітай, не толькі абвастрылі барацьбу паміж праваслаўем і каталіцызмам і уніяцтвам, але і садзейнічалі абуджэнню нацыянальна-патрыятычнай тэндэнцыі ўсведамлення эстэтычнай каштоўнасці роднай мовы, якая мела месца ў творах Скарыны, пазней Цяпінскага, у XVII ст. найбольш поўна праявілася ў дзейнасці Івана Ужэвіча, студэнта тэалагічнага факультэта Парыжскага універсітэта — Сарбоны. Ён пакінуў нам два рукапісныя варыянты сваёй «Грамматыки словенской» 1643 і 1645 гг. У адрозненне ад Зізанія і Сматрыцкага Ужэвіч абраў прадметам свайго даследавання беларускую пісьмовую мову канца XVI — пачатку XVII ст. Напісаная на лацінскай мове граматыка, верагодна, прызначалася для заходнееўрапейцаў, якія жадалі вывучаць беларускую мову. Аўтар імкнуўся паказаць моўнае багацце апошняй, даць поўнае апісанне арфаграфічных і граматычных асаблівасцей, разгледзець адметнасці словаўтварэння, выкарыстаўшы для гэтага багаты ілюстрацыйны матэрыял. Значэнне граматыкі Ужэвіча заключаецца ў тым, што яна была напісана тады, калі старабеларуская мова амаль згубіла свае пазіцыі ў Рэчы Паспалітай і прыходзіла ў заняпад. Па сутнасці, гэта была першая спроба вярнуць беларускаму народу духоўны запавет Скарыны, які гаварыў, што выконваў сваю працу «наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил». Менавіта пра гэта пісаў Ужэвіч у эпіграме на кнігу, змешчанай у парыжскім аўтографе:

У роднай краіне, о кніга,
такою ніколі не знана,
Мову славянскую месціш
ты ў сховах сваіх.

І ўжо зусім па-скарынаўску гучаць заключныя радкі эпіграмы:

Дык ты не вельмі, о кніга,
шануй мяне, творцу свайго,
А як найбольш паважай маці—
падпору тваю.

Тут аўтар вельмі выразна падкрэслівае значэнне мовы, называючы яе маці-падпора.

На жаль, Ужэвічу не ўдалося да канца здзейсніць сваю задуму: граматыка так і засталася на доўгі час ненадрукаванай і невядомай шырокаму колу даследчыкаў і чытачоў. Яна ўбачыла свет толькі ў 1970 годзе, дзякуючы намаганням украінскіх мовазнаўцаў І. К. Беладзеда і Я. М. Кудрыцкага.

Падсумоўваючы сказанае, адзначым, што ідэі Ф. Скарыны адыгралі значную ролю ў развіцці і станаўленні лексікаграфічнай справы і мовазнаўства на Беларусі ў XVI—XVII стст., барацьбе за каштоўнасці роднай мовы, падняцці яе прэстыжу і пашырэнні магчымасцей. У гэтым сэнсе ён з'яўляецца сапраўдным мілоснікам «наукы и мудрости, иже болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою». Нездарма яго імя свята ўшаноўвае беларускі народ, усё прагрэсіўнае чалавецтва.

Дзмітрый ПАЎЛАВЕЦ



*Старонкі гісторыі*

# Дзве Соф'і і Януш...

Па-рознаму складваюцца чалавечыя лёсы. Пра адных людзей нацыянальная памяць захоўвае нават самыя маленькія драбніцы, упрыгожваючы іх, дапаўняючы неверагоднымі падрабязнасцямі са свету народнай фантазіі. За гэтым фантастычным часам губляецца рэальная выснова дзейнасці таго ці іншага чалавека, ствараецца ідэальны вобраз, хутчэй не вобраз, а сімвал з большым ці меншым наборам дабрачыннасцей, уласцівых асобным прадстаўнікам грамадства пэўнай эпохі. Памяць пра другіх людзей губляецца ў кругаверці гістарычных наслаенняў, і толькі





Януш Радзівіл і Соф'я Брандэнбургская. Медальёны работы Хануша Трыльнера. 1617 г.

зрэдку ўдзячны нашчадак ажыўляе далёкае: з-пад кісці мастака, пяра пісьменніка, паэта, гісторыка ўзнікаюць постаці, якія сваім благавесцем будучага вяртаюць нас у свет вечнаснага.

Я трымаю ў руках невялікую рэч, ад якой, упэўнены, не адмовіўся б ніводзін гістарычны музей. «Помнік медальернага мастацтва Вялікага княства Літоўскага работы Хануша Трыльнера. Вільня, 1617. «Эльжбета Соф'я Брандэнбургская і Януш Радзівіл». Прыкладна такі подпіс музейнага плана мог быць пад медальёнам, выбітым, відаць, у гонар шлюбнага саюзу Януша IV Радзівіла і Эльжбеты Соф'і, дачкі Яна, электара брандэнбургскага. Аднак для нас уяўляе цікавасць не толькі майстар, не толькі медальён сам па сабе, але і тыя людзі, у гонар якіх ён адбіты.

Драматызмам, трагічнымі паваротамі лёсу адзначаны жыццёвы шлях Януша. Старэйшы сын Крыштофа Радзівіла, ваяводы віленскага, гетмана Вялікага княства Літоўскага, і Кацярыны Астрожскай, ён нарадзіўся ў Вільні 2 ліпеня 1579 г. Вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі, потым у вышэйшых навучальных установах Германіі. Да 1599 г. Януш Радзівіл падарожнічаў па Еўропе і нават прыняў удзел у барацьбе аўстрыйскіх і венгерскіх герцагскіх і княжацкіх дынастый. У сваім жыцці ён не займаў значных пасад у Вялікім княстве Літоўскім і практычна заўсёды знаходзіўся ў апазіцыі да караля. Праўда, яшчэ пад час побыту за мяжой Януш быў прызначаны Жыгімонтам III канюшым Вялікага княства Літоўскага. Пасля смерці Крыштофа Радзівіла кароль пачаў раздаваць важнейшыя пасады ў княстве каталікам, і Януш як пратэстант застаўся па-за справамі. Але ў 1606 г. выбухнуў антыкаралеўскі рокаш Жабрыдоўскага, да якога прымкнуў і Януш. Ракашанамі ён быў абраны маршалкам рыцарскага кола і прыняў самы чынны ўдзел у апазіцыі Жыгімонту III. 15 ліпеня 1607 г. адбылася вядомая бітва каралеўскіх войск з ракашанамі пад Гузавам. Лёс распарадзіўся так, што правым крылом войскаў ракашан камандаваў Януш Радзівіл, а левым каралеўскіх войскаў — Ян Караль Хадкевіч. Бітву выйгралі каралеўскія войскі, але на першых парах конніца Януша перамагла Хадкевіча і стварыла небяспеку ў стане караля, якога абаранялі гусары.

Пасля паражэння Януш Радзівіл накіроўваецца ў княства, а Хадкевічу было даручана ўціхамірыць няскоранага ракашанскага маршалка. У Вялікім княстве Літоўскім Радзівіл пачаў збіраць войска, але яно, так і не сфарміраванае, было разбіта Хадкевічам, які стаяў каля Брэста. Шукаючы прымірэння з домам Радзівілаў, Жыгмонт III у 1617 г., пасля смерці Ераніма Хадкевіча, прызначае Януша віленскім кашталянам. Аднак горды і самалюбівы Радзівіл адмовіўся ад гэтай пасады і ў лісце да караля дакараў апошняга, што той «не ўмее раздаваць месцы ў сенаце».

І тут міжволі на памяць прыходзіць не Эльжбета Соф'я Брандэнбургская, а Соф'я Алелькавіч, першая жонка Януша Радзівіла, і звязаная з ёю беларуская «траянска-ахейская» эпапея пачатку XVII ст., якая распалілася паміж дамамі Радзівілаў і Хадкевічаў.

Юрый III Алелькавіч, апошні з мужчын некалі даволі знакамітага беларускага магнацкага роду, пакінуў пасля сябе (памёр у 1594 г.) адзінага нашчадка — васьмігадовую Соф'ю (нар. 1586 г.). Апекуном Соф'і быў прызначаны самы блізкі сваяк Алелькавічаў, дзядзька Соф'і, жмудскі староста Юрый Хадкевіч, які быў таксама ў сваяцкіх сувязях — праз сваю жонку — з Радзівіламі. Багацці слуцкай князёўны прывабілі вока віленскага ваяводы Крыштофа Радзівіла, які пачаў дамагацца рукі Соф'і для свайго сына Януша. Хадкевічы і Радзівілы заключылі паміж сабою своеасаблівы дагавор, у якім гаварылася пра тое, што пры дасягненні Соф'яй паўналецця, калі на тое будзе яе згода, яе аддадуць за Януша Радзівіла. Пры гэтым Януш сам павінен быў дабівацца схільнасці да яго слуцкай князёўны. Праз год Юрый Хадкевіч памёр, і апекуном становіцца яго брат — Еранім. Неўзабаве быў складзены новы дагавор, больш канкрэтнага характару, у якім гаварылася: калі князёўна добраахвотна, без прымусу, пажадае выйсці замуж, то будзе выдадзена замуж за князя Януша Радзівіла 6 лютага 1600 г. у Вільні ў доме Хадкевічаў. Калі ж адзін з бакоў будзе парушкаджаць жаніцьбе, то павінен будзе заплаціць нястачу ў 100 000 коп літоўскіх грошай. Аднак незадоўга да прызначанага тэрміну пачалася судовая спрэчка паміж Радзівіламі і Хадкевічамі за мястэчка Копысь, якое Радзівілы заклалі Хадкевічам. У выніку несправядлівага суда (прэзідэнтам трыбунала быў сваяк Крыштофа — Юрый Радзівіл) Хадкевічу прысудзілі выплаціць вялікую суму, а калі не заплаціць, то прыгаварыць да баніцыі (выгнання).

Такая сітуацыя, зразумела, не зусім спрыяла наладжванню блізкіх адносін паміж маладымі людзьмі. Князь Януш, які спачатку часта наведваў дом Хадкевічаў, пачаў карыстацца карэспандэнцыяй, але і гэта ў хуткім часе яму было забаронена.

Па просьбе Крыштофа Радзівіла дванаццаць сенатараў Вялікага княства Літоўскага спрабавалі ўгаварыць Ераніма, каб той дазволіў Янушу бываць у яго доме, але Хадкевіч з пачуццём уласнай годнасці адказаў паслам, што «сам добра ведае свае абавязкі, а час і месца пакажуць, хто і як павінен выконваць іх». Больш таго, родавы клан Хадкевічаў «абвінаваціў» Ераніма Хадкевіча і Крыштофа Радзівіла ў тым, што яны супраць кананічнага устава хочуць абвянчаць сваякоў па крыві. Справа ў тым, што маці Януша Радзівіла была дачкою ўкраінскага магната Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, а Канстанцін Астрожскі, у сваю чаргу, быў сынам Аляксандры Алелькавіч.

Напярэдадні 6 лютага Вільня стала сапраўднаю Трояю. Хадкевічы і Радзівілы яшчэ з 1599 г. пачалі рыхтавацца да «вайны» за слуцкую князёўну. Хадкевічы, якіх падтрымлівалі ў большасці сваёй каталікі, сабралі каля 1600 конных і каля 600 пешых воінаў. Акрамя гэтага ў цытадэль Хадкевіча былі патаемна ўвезены 24 гарматы. Да гэтага трэба дадаць, што ўзначальваў гэтае своеасаблівае сядзенне ў «крэпасці» будучы герой шматлікіх бітваў Рэчы Паспалітай Ян-Караль Хадкевіч. Гэта ён праславіўся ў Лівонскіх баталіях 1603 г., у 1605 г. бліскучаю перамогаю пад Кірхольмам, гэта ён удзельнічаў у аблозе Смаленска і вызваленні асаджанага ў Маскве гарнізона каралеўскіх войскаў Жыгімонта III пад час маскоўскай «смуты». Гэта ён пакрыў сябе неўвядальнаю славаю ў бітве пад Хоцімам з туркамі ў 1621 г., дзе і памёр ад ран у Хоцімскім замку.

Дапамога Радзівілам была больш значная. Як пратэстанта, Крыштофа Радзівіла падтрымлівалі не толькі кальвіністы, але і праваслаўныя, якія бачылі ў ім абаронцу ад уніятаў і ведалі яго як аднаго з ініцыятараў канфедэрацыі праваслаўных і рэфарматараў 1599 г. Гэтым і іншымі палітычнымі і рэлігійнымі акалічнасцямі, відаць, тлумачыцца тое, што дапамогу Радзівілам прыслалі Астрожскія, смаленскі ваявода Абрамовіч, кашталян Жмудзі Нарушэвіч, канцлер і гетман каронны Замойскі, канцлер Вялікага княства Літоўскага Сапега і іншыя. Усяго Радзівілы сабралі каля 4000 конных і да 2000 чалавек пяхоты.

Даведаўшыся пра віленскае супрацьстаянне, кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III ад свайго імя накіраваў чатырох сенатараў з каралеўскімі лістамі, у якіх заклікаў ваяцеляў да прымірэння. На чале гэтага незвычайнага пасольства стаяў біскуп жмудскі Мельхіор Гедройц, з сенатараў адправіліся маршалак Вялікага княства Літоўскага Крыштоф Дарагастайскі, ваявода мсціслаўскі Ян Завіша, а таксама падскарбій Вялікага княства Літоўскага Андрэй Завіша. Доўга цягнуліся гэтыя перагаворы, шмат зняважальных і непрымальных умоў паставілі змагары за Соф'ю, і адзінае станоўчае, да чаго прывялі перагаворы,— гэта тое, што перашкодзілі пачатку ваенных дзеянняў.

Нагадаем, што гэты гістарычны эпізод лёг у аснову сюжэта гістарычнай драмы на польскай мове Уладзіслава Сыракомлі «Магнаты і сірата (ці Соф'я, князёўна Слуцкая)», 1588 г., напісанай спецыяльна для Галены Маеўскай (жонкі Кіркора), апошняга рамантычнага і разам з тым трагічнага кахання паэта. Праўда, у гэтай драме У. Сыракомля па праву паэта адыходзіць ад факта. У барацьбе за руку беларускай Алены ўступаюць Януш Радзівіл і Ян-Караль Хадкевіч, і толькі выпадак, паводле драмы, не дазволіў ім у адзінаборстве (успомнім Парыса і Менелая з «Іліяды» Гамера) вырашаць лёс слуцкай князёўны. У драме Сыракомлі Соф'я Алелькавіч саступае Радзівілам і згаджаецца на шлюб з Янушам толькі дзеля таго, каб выратаваць народ ад крывавай сутычкі магнатаў. (Як вядома з гісторыі, жыхары Вільні пачалі накідаць горад напярэдадні бітвы.)

Справа пра вяселле Соф'і і Януша была вырашана толькі 8 чэрвеня на трыбунале і спецыяльным дазволам рымскага папы (Януш на той час быў каталікам, Соф'я — праваслаўнай). 1 кастрычніка таго ж года вельмі сціпла і даволі ціха адбылося само вяселле ў Брэсце. З Соф'яй у дом Радзівілаў перайшлі багатыя Слуцкае і Капыльскае княствы з сямю гарадамі і абарончымі замкамі, а таксама 32 фальваркі. Дзеці Януша і Соф'і памерлі малалеткамі: сын Мікалай XII у 1604 г., дачка Кацярына — у 1608 г. Сама Соф'я ненадоўга перажыла сваіх дзяцей. Памерла ад родаў 9 сакавіка 1612 г. ва ўзросце 25 гадоў. Спачатку яна была пахавана ў Слуцку ў сямейнай усыпальні Алелькавічаў у Спасавай царкве, цяпер яе мошчы знаходзяцца ў кафедральным саборы ў Мінску.

Праваслаўнай царквой Соф'я Алелькавіч-Радзівіл далучана да ліку блажэнных.

Праз год, 27 чэрвеня 1613 г., Януш Радзівіл ажаніўся другі раз у Берліне. Доўгі час Януш жыў у Прусіі і нават меў намер выехаць на жыхарства ў Еўропу. Аднак у канцы 10-х гадоў XVII ст. ён знаходзіўся ў Вільні, дзе, магчыма, у 1617 г. і быў заказаны вядомаму медальеру Ханушу Трыльнеру гэты медальён. З Эльжбетай Соф'яй Брандэнбургскай у Януша былі дзве дачкі — Эльжбета і Соф'я, якія памерлі немаўлятамі, і два сыны — Ян XII, які таксама памёр у малым узросце, і Багуслаў — герой вядомай гістарычнай эпапеі Генрыка Сянкевіча. Праўда, гэта ўжо іншая цікавая старонка нашай гісторыі. Памёр Януш (па іншых звестках яго забіў уласны гайдук) 3 снежня 1620 г. у Чарліне, недалёка ад Гданьска, а праз год, 16 лютага 1621 г., пахаваны ў Дубінках (зараз г. Дубянгай у Літве). Пасля смерці Януша Эльжбета Соф'я выйшла замуж за Генрыка, князя Саксон-Лагенбургскага, ад якога ў 1628 г. нарадзіла сына Францішка Эрдмана. Памерла Соф'я ў Франкфурце на Одэры 24 снежня 1629 г.

Хто ведае, дзе, калі і чые рукі трымалі і данеслі гэты медальён да нашых часоў? Пра што ён раскажа нашым нашчадкам? І ці то заканамернасць, ці шчаслівы выпадак, што яго цяперашняя ўладальніца, паэтэса Галіна Каржанеўская, таксама нарадзілася на Случчыне...

**Уладзімір КАРОТКІ,**
**кандыдат філалагічных навук, дацэнт**

# ПАСЛЯ ВЕРНІСАЖУ

**2 : 0 на карысць шасцёркі мастакоў.**
**Трэці раунд.**

**Удзельнічаюць: Віктар АЛЬШЭЎСКІ, Уладзімір САВІЧ, Мікола СЕЛЯШЧУК, Валерый СЛАВУК, Уладзімір ТОЎСЦІК, Фелікс ЯНУШКЕВІЧ — ад мастакоў. Людміла ШЧАСНАЯ, псіхолаг, і яшчэ некалькі ўважлівых аматараў мастацтва — ад гледачоў.**

...На варшаўскім Старым месцы па выхадных і святах можна пачуць гучныя аб'явы. Кавярня «У Міхала» запрашае на сустрэчу з вядомым журналістам X, пісьменнікам У, мастаком Z... У кавярні «Чорны кот» вас чакаюць... Мы кепска ведаем сваю культуру, не кажучы ўжо пра культуру нашых суседзяў, так што не буду эпаціраваць публіку мілагучнымі польскімі прозвішчамі. Будзе час, і мы, як рупліўцы-варшавяне, адновім сваё Старое месца — Верхні горад, і кааператыўныя кавярні навучацца ладзіць працу па-еўрапейску — не толькі з матэрыяльным, але і духоўным прыбыткам. Нам будзе дзе сустрэцца з тымі, хто ўжо сёння стаў нашым летапісцам, тымі, хто сваімі творамі фарміруе погляды, пачуцці, густы сучаснікаў. І шасцёра мастакоў, якія ў 1988 годзе наладзілі на праспекце Машэрава сваю другую сумесную выстаўку «Жывапіс. Графіка» (у 1985 годзе да іх далучаўся сёмы — Алесь Ксяндзоў), пэўна, не адмовяцца выпіць па кубачку кавы ці гарбаты з такою абаяльнаю інтэлігентнаю жанчынай, як Людміла Шчасная. Яна па адукацыі псіхолаг. У наш стрэсавы час проста неабходны ўсім творчым людзям чалавек. На жаль, такіх высокакваліфікаваных спецыялістаў адзінкі. Псіхалогія, і асабліва псіхалогія творчасці, разам з кібернетыкай доўгі час карысталася рэпутацыяй асобы «па-за законам».



М. Селяшчук. Ілюстрацыя да кнігі паэзіі Я. Янішчыц «Пара любові і жалю», 1983 г.

Шаноўны Віктар Альшэўскі, Уладзімір Савіч, Мікола Селяшчук, Валерый Славук, Уладзімір Тоўсцік і Фелікс Янушкевіч! Мы, вашыя сучаснікі, вашыя гледачы, прызначаем вам сустрэчу. Пакуль што ва ўяўнай кавярні дзе-небудзь у Траецкім прадмесці. Мы задаём вам пытанні і спрабуем разам асэнсаваць некаторыя жыццёвыя, мастацкія з'явы. Можа, гэта дапаможа і вам разабрацца ў сабе і нам лепш вас разумець...

**Пытанне ад гледачоў.** Вы, як усе папулярныя асобы, заўжды знаходзіцеся навідавоку. У вас ёсць прыхільнікі і зайздроснікі. А ці мае кожны з вас кола сяброў, тых, сярод каго вы адчуваеце сябе самім сабою?

**Фелікс Янушкевіч.** Мне здаецца, я скрозь застаюся самім сабою.

**Віктар Альшэўскі.** Я таксама. Іншая справа — выказваць усё ці не выказваць.

**Уладзімір Тоўсцік.** Кожны чалавек, як кветка, убірае ў сябе ўсе пахі, колеры, рэфлексы. Ён робіцца прыгажэй. Але сам па сабе на Алімп не скочыш. Каб сцвердзіць сябе як асобу, варта мець кола сяброў, якім можаш давяраць. У мяне яно склалася ў першыя гады самастойнай працы.

**Уладзімір Савіч.** Сябры... Калі па вялікаму кошту — гэта літаральна пара чалавек... Апошнім часам я шмат у чым і кім расчараваўся...

**Валерый Славук.** Самыя блізкія сябры, бадай, тыя, з кім вучыўся. Новых практычна не заводжу. Я люблю зносіны з людзьмі, але не часта. Перакананы, што ўсё сур'ёзнае варта рабіць сам-насам з сабою.

**Мікола Селяшчук.** Увогуле я заўжды імкнуся паводзіць сябе, як кажуць, без комплексаў. І з тымі, з кім працую, адчуваю сябе даволі камфортна. Але ўсё ж самы натуральны для мяне стан — адзінота. Чалавек, асоба не можа, не павінен быць абсалютна адкрытым. Варта зберагаць хоць нейкую ахоўную абалонку...

**Ад гледачоў.** Але адзінота, не столькі фізічная, колькі духоўная, множыць жыццёвы дыскамфорт. Герман Гесэ, якога, наколькі ведаем, вы, Мікола, любіце перачытваць, прызнаваўся, што яму ніяк не пазбыцца тугі па жыццю, сапраўднаму, інтэнсіўнаму, ненармаванаму, немеханізаванаму, індывідуальнаму... «Я стаў мастаком, але чалавекам я не стаў...»

**Селяшчук.** Вельмі знаёмае пачуццё. У кожнага чалавека ёсць памкненні, якім, можа, ніколі не здзейсніцца... Жывеш, а душою адчуваеш, што самае цікавае, пэўна, наперадзе. Ведаю, нават сярод маіх калег-мастакоў ёсць людзі, якім — паеў, папіў, зарабіў грошай — і шчаслівыя... У мяне так не атрымліваецца. Я заўжды адчуваю жыццёвы дыскамфорт...

**Людміла Шчасная.** Гэта натуральна. Як бы мастак ні быў адораны ад прыроды, ён калі-небудзь рэалізуе свае задумы. Тады пачынаецца пераацэнка каштоўнасцей, крызіс. І вось тут нічога няма страшней за адзіноту. Наколькі лягчэй пераадолець крызіс, калі побач ёсць сябры, раўназначныя табе асобы! Без такога, гаворачы тэхнічнаю моваю, акумулятара самы моцны творчы патэнцыял можа не рэалізавацца і напалову. Раней мастакі з'язджаліся ў Парыж, Рым, асоба шліфавала асобу. Згадайце імпрэсіяністаў. За адным столікам у кавярні сядзелі Дэга, Русо, Заля...

**Селяшчук.** Я не раз перачытваў ягоны выдатны раман «Творчасць». Падобныя кнігі варта даваць чалавеку, як толькі ён вырашае быць мастаком, як толькі бярэ пэндзаль...

**Шчасная.** Настальгія па мастакоўскай еднасці... І па шчырасці. Памятаю, з якою насалодай мы ў свой час хадзілі на фільм «Манпарнас, 19» пра Мадэльяні...

**Селяшчук.** А мы з аднакурснікамі па мастацкім вучылішчы нават спрабавалі быць падобнымі на вялікага майстра. Хадзілі ў кавярні і малявалі на сурвэтках партрэты...

**Ад гледачоў.** Тэма раз'яднання асоб, чалавека і прыроды, свету матэрыяльнага і духоўнага зрабілася ці не адной з асноўных у вашай творчасці. Дастаткова згадаць «Прыналежнасць» (1978), «Хроніку аднаго вечара» (1980), «Матылькі тут не жывуць» (1981), «Трывогі мірнага дня» (1986). Нават у партрэтах («Анжэла» (1982), «Партрэт актрысы Святланы Сухавей» (1983—1984), «Канец сезона туманаў» (1985) ёсць гэтая непераходная мяжа адзіноты. Увасабляючы ў творчасці дысанансы, пэўна, трэба мець нейкі моцны камертон гармоніі...

**Селяшчук.** У мяне пункт апоры пастаянна мяняецца. Гэта можа быць чароўны свет казкі, нейкі ўспамін з дзяцінства ці нават выпадковая сустрэча. Таму, што яшчэ ўчора цябе моцна трымала, мусіць прыйсці канец. І ты пачнеш шукаць новы пункт апоры, камертон...

**Шчасная.** Але выпадковыя, хай сабе і вельмі яркія, уражлівыя сустрэчы ніколі не заменяць трывалых, шчырых адносін. З жанчынаю, мужчынам, тымі, да каго ў цяжкую хвіліну імкне душа. Чалавек — істота сацыялагізаваная. Ён мае патрэбу не столькі ў інфармацыйным, колькі ў эмацыянальным абмене. Вядома, інтэлігентнаму чалавеку і з самім сабою не бывае сумна. Яму бывае самотна. Ой як самотна... І яшчэ. У жыццёвай, творчай адзіноце мастак можа зрабіцца для самога сябе і занадта строгім пракурорам, і занадта добрым адвакатам. Як тут утрымацца ад канфармізму? Каб быць шчырым у мастацтве, проста неабходна мець у сабе, ці лепш у блізкім чалавеку, моцны маральны стрыжань, мець сябра, які б зрабіўся тваім сумленнем. Толькі шчырасць здольная сёння ўратаваць нашае мастацтва. Адмыслова напісаныя Глазуновым партрэты Эйнштэйна, Мікалая ІІ ці Салжаніцына — камуфляж у параўнанні з якім-небудзь простым, шчырым краявідам. Не варта рабіць выгляд, што твая карціна — толькі верхняя частка айсберга, калі ніякага айсберга ў ёй няма. У асабістым жыцці можна быць шчырым, можна не быць. У мастацтве трэба быць шчырым заўжды...

**Ад гледачоў.** XX стагоддзе пачалося катаклізмамі, распадзеннем гармоніі. У мастацтве найбольш выразна гэта выявілася ў абстракцыянізме, авангардызме. І ўсё ж філосаф Бярдзяеў сцвярджаў, што «Пікасо — не новая творчасць. Яна — канец старой». Давайце паспрабуем крыху пафіласофстваваць. Якім вам уяўляецца XXI стагоддзе і ягонае мастацтва?

**Славук.** У мяне і сёння ёсць прадчуванне, што ўсё ідзе да распаду. Кожнае ж ускладненне ў рэшце рэшт — разбурэнне. Вобразны свет парушаецца інфармацыяй, якая накапілася літаральна з усіх бакоў. Гіне прырода, гіне культура... І паратунак... Паратунак павінен прыйсці аднекуль збоку. Нядаўна прачытаў у часопісе «Искусство кино» жахлівы кінасцэнарый — антыутопію пра тое, што будзе пасля перабудовы. Пасля дэмакратыі — зноў дыктатура...

**Янушкевіч.** Асноўнае дасягненне канца XX стагоддзя — разуменне небяспечнасці таго шляху, на які чалавецтва дазволіла сябе штурхнуць. Мастацтва таксама, лічу, нямала страціла. І авангард, і сацхалтура — гэта сімптомы дэградацыі еўрапейскай цывілізацыі. Сёння мы павінны стварыць мастацтва, якое б было годна нашых славянскіх народаў.

**Альшэўскі.** Узяць той жа партрэт. Хіба ў абстрактным мастацтве зроблена штонебудзь, па глыбіні хоць блізка падобнае да лепшых, псіхалагічна дакладных, характарных рэалістычных партрэтаў? Мне здаецца, рэалізм — гэта аптымальнае спалучэнне канкрэтнага, фігуратыўнага і фармальнага. І за ім будучыня...

**Селяшчук.** Рабіць прагнозы немагчыма. Калі б Шышкіну 100 гадоў назад задалі такое пытанне, ён пры ўсёй сваёй геніяльнасці не прадказаў бы, што мастацтвам будуць называць нават насыпаную сярод залы гурбачку пяску... Усё развіваецца па спіралі. Адзінае, яе віткі з кожным годам будуць бегчы ўсё шпарчэй і шпарчэй. Надакучылі калажы — з'явіўся гіперрэалізм, дзе ўсё вымалявана да драбніц. Апошнім часам жывапіс, графіка робяцца ўсё больш экспрэсіўнымі...

**Савіч.** На сённяшні дзень ідзе змаганне духоўнага пачатку з бездухоўнымі, безаблічнымі «ізмамі»...

**Селяшчук.** Мастак, калі далучаецца да пэўнай плыні, заўжды павінен памятаць, што застанецца мастаком, толькі калі здолее зберагчы сваю самабытнасць.

**Тоўсцік.** У мастацтве галоўнае — асоба. З'явіўся Далі — з'явілася новае мастацтва. З'явіцца ў мастацтве новая раўназначная яму асоба, зменіцца мастацтва...

**Ад гледачоў.** Адна з апошніх Вашых прац — нізка «У суценні і на святле». У ёй вельмі выразна, вобразна выяўлена супрацьстаянне народнай, зямной філасофіі стварэння і палітыкі разбурэння... Што, на Ваш погляд, на сёння важней — бязлітасна выкрываць злачынствы ці шукаць, сцвярджаць новы, хай сабе добра забыты стары ідэал?

**Тоўсцік.** У кожным чалавеку, як і ў грамадстве, ёсць і анёльскі, і д'ябальскі пачатак. Жыццё складаецца з супярэчнасцей. Варта сумленна гэта выяўляць. Чаму партрэтыст Рэпін не такі вялікі, як партрэтыст Веласкес? Пратадзьякан Рэпіна — п'яніца, і ўсё... А ў Веласкеса і карлік, і кароль, хай сабе знешне непрывабныя, але яны людзі... З душою, пачуццямі. І выносячы штодня прысуды Сталіну, мы павінны

памятаць, што ён чалавек, слабы чалавек. Ён не ад сілы, ад слабасці зрабіўся злачынцам. А калі мы ператворым жывых людзей у сімвалы зла ці дабра, калі будзем толькі плявацъ ці маліцца на іх, то развучымся ў сваіх сучасніках бачыць добрае і благое. Ізноў благое можа ўзяць верх. Не варта забываць, што апошнім часам мы раструшчылі ўсе ідэалы, якія надавалі нам моцы і натхнення ў юнацтве...

**Шчасная.** І можа, менавіта адсюль пачуццё распаду, крызісу, пра якія кажа Валерый Славук. Мы страцілі саміх сябе. Замест ідэалаў — пустыні. Мастацтва павінна вярнуцца да чалавека, дапамагчы яму набыць самога сябе. Чалавек — гэта не дакладна збудаваная абстрактная схема, чалавек — гэта найперш душа... Каб зразумець нас, нашыя нашчадкі будуць углядацца ў напісаныя вамі карціны, услухоўвацца ў нашы любімыя мелодыі...

**Славук.** На жаль, наконт музыкі я «стратны». Спецыяльнай адукацыі не атрымаў. І моцнага, глабальнага значэння музыка для мяне не мае. Значна больш даюць мне непасрэдныя зносіны з прыродай. Люблю ездзіць у вёску, да маці, якая жыве цяпер у Смалявіцкім раёне...

**Селяшчук.** Залежна ад настрою слухаю традыцыйную савецкую эстраду, якую сёння ніхто, бадай, не слухае. Хіба што ў перадачы «Гэта было... было...». І рок, і класіку, і народныя песні...

**Янушкевіч.** А мне заўжды хочацца слухаць тое, што чуў у маленстве. Тое, што спявала маці, аднавяскоўцы, спявалі, перажываючы кожны радок, інтанацыю, слова... Для мяне з кожнай такой песняй звязаны канкрэтныя асацыяцыі... Можа, той, хто з маленства слухае рок, калі не аглухне і не здзічэе, будзе любіць яго так, як я народныя песні... Не ведаю...

**Ад гледачоў.** Кажуць, асоба фарміруецца ў першыя 5—10 гадоў. Ці не таму і самыя вострыя ўспаміны, як правіла, звязаны з маленствам?

**Янушкевіч.** У мяне гэта хутчэй не ўспамін, а пачуццё, адчуванне пажару, адчуванне небяспекі, якая можа прыйсці, усчацца з нічога. Я тады быў у класе першым. У засушлівы год расклаў за хлявом вогнішча і ледзь не спаліў Ракаў... Каб не старэйшы брат, я мог бы ўвайсці ў гісторыю сваёй вёскі не мастаком, а Герастратам...

**Альшэўскі.** У дзяцінстве ўсе што-небудзь калекцыяніруюць. Мы з братам збіралі этыкеткі з карабкоў запалак. Яны ў свой час былі вельмі маляўнічымі. Розныя птушкі, грыбы, кветкі... А я ўжо захапляўся маляваннем. Брат кудысьці паехаў, а я тым часам узяў ды абмяняў усю калекцыю на алейныя фарбы... Ад брата тады добра мне перапала.

Яшчэ, памятаю, у суседзяў было вяселле. Нехта жартам напаіў каня гарэлкай... Сядзеў я пры браме, а ён проста перада мною на дыбы стаў... І спыніўся...

**Савіч.** З маленства люблю ціхія летнія надвячоркі... Вяртаешся натомлены дамоў. Пылок па сцежцы сцелецца... Сонца мяккае, непякучае. У траве конікі цвыркочуць...

**Селяшчук.** Я вырас на хутары. У нас там была такая атмасфера... Здавалася, не існуе на свеце ніякіх катаклізмаў. Калі чулі, што праехала машына, гэта было як прылёт іншапланецян. Я мог бегма бегчы колькі кіламетраў, каб толькі яе пабачыць... І пазней, калі бацька ездзіў працаваць у Брэст і мне даводзілася чакаць яго на вуліцы Маскоўскай, дык я садзіўся на камень і назіраў, як машыны ездзяць...

Яшчэ, памятаю, віселі ў нас два нацюрморты. Ружы... Цяпер пэўна ведаю: копіі з Жукава і Герасімава. Ну і вось вайсковец — мастак з клуба — угаварыў бацьку іх прадаць. А мне так шкода зрабілася. Раніцай нацягнуў палатно і вырашыў паўтарыць... А сам тады не ведаў нават, што такое алейныя фарбы... Маляваў, як мама вышывала... Потым, як свята, чакаў восені, калі пачыналіся заняткі ў Брэсцкай студыі выяўленчага мастацтва, дзе выкладаў Данелія, дзе ў свой час займаліся Свентахоўскі, Качаноўскі, Алімаў... Дзякуючы студыі, з трэцяга разу паступіў у мастацкае вучылішча...

**Тоўсцік.** Мастацкія здольнасці ў мяне, пэўна, ад бацькі. Ён да вайны нават быў паступіў у Харкаўскі мастацкі інстытут. І потым капіраваў карціны, і мне дазваляў пасядзець у кутку. Пазней я займаўся ў студыі ў Каткова, калі бацька служыў у Венгрыі, у венгерскай мастацкай школе. Вярнуліся — пайшоў у 75-ю спецыялізаваную... Па свайму светаўспрыманню я быў і застаюся гараджанінам. Маляваў і вялікія, і малыя гарадкі. І на краявідах абавязкова ўвасабляю хоць якое збудаванне,







**У. Савіч. Ілюстрацыі да рамана ў вершах Н. Гілевіча «Родныя дзеці», 1985 г.**

знак чалавечай прысутнасці... Хоць чалавечая прысутнасць можа быць рознай. Я вырас у Мінску, сярод няўтульнай, несуразмернай чалавеку сталінскай архітэктуры. Але што паробіш, менавіта з ёю звязана маё дзяцінства...

**Славук.** Самае моцнае ўражанне з дзяцінства — гэта кнігі, якія прыносіла з бібліятэкі маці. Вялікія, выдатна аформленыя, з шыкоўнымі ілюстрацыямі. Іх не тое што чытаць, разглядаць можна было гадзінамі. Мы жылі ў Вохне на Талачыншчыне. Там я самастойна вучыўся маляваць. Не хадзіў з эцюднікам, не пісаў краявіды. Сядаў за стол і рабіў ілюстрацыі да фантастыкі, да серыі «Свет прыгод». Да інстытута не меў ніякае спецыяльнай адукацыі. Калі паступаў — ішоў ва-банк. Калі чаго хочаш — сам сябе пераскочыш...

**Ад гледачоў.** Многія вашы творы, Валерый, у прыватнасці серыі графічных аркушаў «Ступені эвалюцыі» (1989), «Канфлікты» (1984) і іншыя, часам залічаюць да навуковай фантастыкі — пераважна інтэлектуальнай творчасці. Душа, інтэлект, майстэрства... Што, на ваш погляд, павінна быць дамінантай у творчасці?

**Славук.** Калі нечага бракуе, напрыклад, інтэлекту, уражанне ад твора слабне. Я, напрыклад, вельмі люблю чыста жывапісныя палотны. Але не ўсе іх можна падоўгу разглядаць. Калі няма ў іх нейкае невыказнае таямніцы, да іх ніколі не вернешся. З другога боку, і калі ўсё занадта закадзіравана, кепска. Аўтар жа можа папросту нахлусіць гледачу. Ва ўсіх творах павінна быць найперш натуральнасць. І яшчэ. Нельга замыкацца толькі на самім сабе. Недзе вычытаў: «Калі ўзважваешся толькі на сваіх вагах, застаешся пігмеем».

**Ад гледачоў.** Вашыя задумы ў працэсе творчасці трансфармуюцца?

**Славук.** Я, як правіла, працую без эскізаў. І таму многае нараджаецца непасрэдна ў працэсе творчасці. Цяпер у мяне цяжкі перыяд. Прыйшоў новы час, галоснасць, у мастацтве можна выказвацца непасрэдна, без шыфраў. А я, нічога не паробіш, прывык да алегорый. Вельмі складана вынайсці новы, можа, больш сучасны тон творчасці.

**Шчасная.** Алегорыя і просталінейнасць — розныя рэчы... Галоснасць — гэта якраз часцей неглыбокая просталінейнасць, тая самая, якая выяўляецца ў некаторых апошніх работах Селешчука. Вядома, кожнаму творцу цяжка ўтрымацца ад жадання падабацца публіцы, падсвядома падладжвацца пад кан'юнктуру, абіраць «дысертабельныя» тэмы і рухацца... да шэрасці. Зведаўшы на смак поспех, славу, мастак наўрад ці абярэ лёс генія, які пры жыцці можа ні разу не выставіцца, а пасля смерці будзе прызнаны ўсім чалавецтвам... Трэба мець вялікую сілу волі, каб застацца самім сабою. Не адысці ад сябе. Умець узважваць меру шчырасці сваіх карцін. Алегорыі былі і заўжды будуць у мастацтве. Іх стварэнне — вельмі тонкі, глыбокі працэс. Можа быць, Валерый проста вычарпаў пэўную тэму? А калі задумацца: колькі іх, тэмаў, у мастацтве, літаратуры?.. Яшчэ з часоў утварэння свету мастацтва апявае веру, надзею, любоў. Адсюль, вакол гэтага — прыстойнасць і непрыстойнасць, шчырасць, здольнасць да самаахвяравання, міласэрнасць... Гэта сапраўды жахліва, калі ў грамадстве пануе канфармізм. Жывапіс адыходзіць ад ідэалаў хрысціянскай душэўнай любові, ад вобразаў Бацічэлі, Босха, робіцца «рассудочным», разумовым. Нехта скажа: геніяльна, і ўсе бачаць: сапраўды, геній...

А можа, новае ў мастацтве народзіцца, калі аўтар адметна ўспрыме, эмацыянальна перапрацуе, самабытна, вобразна ўвасобіць старыя хрысціянскія ісціны, тыя самыя 10 запаведзяў: не загубі, не ўкрадзь, не пралюбадзейнічай... Музыка пачыналася з харалаў, жывапіс — з абразоў. А сёння мы зрабіліся такімі жорсткімі. Нам так не стае цярплівасці, дабрыні. І мастацтва павінна, яно можа вярнуць нас да іх. Бо інакш, нават калі ў нас, як у Амерыцы, будзе «изобилие», мы не зробімся сумленнымі і шчырымі. Да апошняга часу мы сцвярджалі, што стварылі «новага чалавека». Стварылі «новага чалавека», вытравіўшы з яго ўсё чалавечае. І вось гэты «новы чалавек» стварыў «новае мастацтва». На гэтым «новым мастацтве» выхавалася пакаленне пігмеяў, якое са сваімі пігмейскімі меркамі падышло і да класікі, і да сваіх сучаснікаў... Мы сказалі: душы няма. І людзі зрабіліся бяздушнымі.

**Янушкевіч.** Адмаўленне ад хрысціянства — адмаўленне ад нацыянальнай культуры. І творчасць Бітэля, Караткевіча мне блізкая не толькі таму, што яны адкрылі нашаму пакаленню гісторыю Бацькаўшчыны, а і таму, што ў іх творах вельмі моцны народны, чалавекалюбчы, а не срэбралюбчы кантэкст.

**Ад гледачоў.** Вы, Фелікс, не толькі мастак, але і вучоны. Тэма Вашай кандыдацкай дысертацыі, калі не памыляемся, звязана з развіццём ракаўска-івянецкай керамікі... Ці не шкодзіць навуковая праца творчасці? Ці не прытупляе душэўную інтуіцыю?

**Янушкевіч.** Навуковая інтуіцыя — таксама творчая. Навуковец акрэслівае яе словам, мастак — пэндзлем. Калі мастак кажа, што лагічнае мысленне яму шкодзіць, значыць, папросту яму гэта не дадзена. Увогуле, мне здаецца, асноўная роля чалавека — думаць. Чаму да апошняга часу людзі не хадзілі на выстаўкі? Ды там жа практычна нічога не было ні для душы, ні для розуму. А цяпер народ ірвануў на выстаўкі, дык пачалі шукаць на людзей, што яны не разумеюць сучаснага мастацтва.

**Ад гледачоў.** Вы належыце да старажытнага роду Янушкевічаў. Вашыя браты таксама шмат робяць для беларускай культуры. Адзін літаратуразнавец, другі





У. Славук. З серыі «Варыянт эвалюцыі» (афорт, 1987).

скульптар, трэці графік... Як вам здаецца, што галоўнае ў вашым, як цяпер прынята казаць, генетычным кодзе?

**Янушкевіч.** Галоўнае — комплекс справядлівасці. Што б там ні было, ніколі не ісці на спекуляцыю, казаць, што ёсць. Ну і яшчэ, бадай, жаданне дабрацца да зерня, якое захавана, як правіла, ой як далёка. Але ж зацямнёная сутнасць — тое ж, што і дрэнна намаляваная карціна...

**Ад гледачоў.** Вы неяк сказалі, што вам з юнацтва больш імпануе не Леанарда да Вінчы, а Брэйгель. Ваша серыя «Гульні дзяцей Беларусі» (1980—1986) здаецца нават нейкім чынам духоўна, стылістычна звязана з творчасцю выдатнага нідэрландскага мастака.

**Янушкевіч.** Творцы Адраджэння ставілі сябе над народам. У Леанарда да Вінчы выяўляецца элітарны пачатак мастацтва. А Брэйгель — гэта ўжо прадстаўнік сваёй нацыі. Галандская буржуазная рэвалюцыя грунтавалася на нацыянальных ідэалах. Яна акрэсліла каштоўнасці, асноўнай з якіх назвала народ. Калі паглядзець, кожны творца, прафесіянал нараджаецца як мастак не дзе-небудзь на Марсе, а ў канкрэтным народзе. І карыстаецца тымі ж формамі мыслення, што і ягоныя землякі... Нам, беларусам, увесь час прышпільвалі і яшчэ зараз прышпільваюць комплекс непаўна-

цэннасці. Мы — развітая нацыя. Толькі што многія яшчэ не расшыфравалі свае генетычныя коды. Дарэчы, вывучаючы ракаўска-івянецкую кераміку, прыйшоў да высновы, што, як і сусветна вядомая вытворчасць слуцкіх паясоў, беларуская народная кераміка мае прафесійныя асновы і была абагрэтая ўвагай мецэнатаў. Менавіта свядомыя мецэнаты спрыялі развіццю нацыянальнага мастацтва. Да прыкладу, Радзівілы ж маглі, каб захацелі, заказаць партрэты любым еўрапейскім майстрам. Але, паездзіўшы па свеце, яны здольны былі ацаніць перавагу нацыянальнай адметнасці над кампеляцыяй. Што падорыш французскаму каралю? Толькі сваё... Такім чынам, не толькі мілітарна, але найперш культурай сцвярджалася беларуская нацыя ў Еўропе...

**Ад гледачоў.** І вы, як мастак, пэўна, бачыце сваю задачу і ў аднаўленні нашай гістарычнай памяці. Дастаткова згадаць такія вашы карціны, як «Лёс Рагнеды, або Сцяна памяці» (1986), «Наступ інсургентаў» (1987), партрэты «Гарэцкія — Максім, Гаўрыіл, Радзім» (1987), «Шкаляр з Полацка — Францішак Скарына» (1987) і многія іншыя...

**Савіч.** Гэта вельмі важна ўсвядоміць, хто я такі, каму спяваю сваю песню...

**Ад гледачоў.** Калі Фелікс Янушкевіч адштурхоўваецца ў сваёй творчасці ад канкрэтных гістарычных фактаў, вы, Уладзімір, імкняцеся знайсці ёмістыя вобразы-сімвалы роднага краю, Бацькаўшчыны... Згадваеш Вашы шматлікія ілюстрацыі да твораў Н. Гілевіча, І. Чыгрынава, беларускіх народных казак, нізкі графічных аркушаў «Маці-Бацькаўшчына» (1983), «Палессе», «Па Міншчыне» (1983), асобныя творы «Аздамічы. Квітнеючая груша», «Жакі сушацца» (1987), «Памяць сівых курганоў», «Песня жаўрука», «Пчаляры» (1988) і адчуваеш, што ў іх, як і ў народных песнях, ёсць адметная нацыянальная мелодыка, мелодыка ліній, колераў, каларыту. Падобную ж задачу ставіць перад сабою ў творчасці мастак з Беласточчыны Лёнік Тарасевіч. У вас з ім ёсць нават сугучныя матывы. Напрыклад, ядлаўцы...

**Савіч.** Калі ўпершыню ўбачыў творы Тарасевіча, здаецца, у Вільні, яны мяне папраўдзе не ўразілі. А вось наведаўшы ягоную выставу ў Мінску, і асабліва прагледзеўшы слайды, паслухаўшы, як ён адказвае на пытанні, як разважае, адчуў, што гэта сапраўды моцны мастак, моцны духам сваім — зямным, жыццёвым. Бывае, шмат чаго бачыш, а сутнасці не заўважаеш. А ён, можа, чаго і не бачыў, а сутнасць заўважыў. У ягоных творах ёсць рух, жыццё, якое ён перакладае на сучасную пластычную мову. У нечым мы з ім сапраўды сугучныя. Тыя ж ядлаўцы, іхнія рухомыя цені памятаю з дзяцінства. Яны мне нагадваюць жаночыя постаці... А вось яшчэ адну дамінанту, якую я адкрыў у нашых абжытых чалавекам краявідах,— борці, у Тарасевіча не бачыў... Калі хочаш быць мастаком, трэба шмат вандраваць, вывучаць. Наведваць выстаўкі, глядзець альбомы. Гэта значна пашырае творчы дыяпазон. Але вось калі бяруся ілюстраваць што-небудзь, пакуль не з'явіцца ўласнай ідэі, стараюся не звяртацца да аформленых іншымі кніг. Каб каго-небудзь не паўтарыць...

**Ад гледачоў.** Вы аформілі выдатную серыю «Дзецям пра зверанят» у ФРГ. На жаль, у нас такіх шыкоўных кніг ні для дзяцей, ні для дарослых няма.

**Славук.** І справа не толькі ў страшэнна адсталай друкарскай тэхніцы. Справа перш за ўсё ў бюракратычным падыходзе да творчасці. У выдавецтве мастаку адразу задаюць памер, даюць мінімальны тэрмін. З-за гэтага ў мяне, лічу, якраз і не атрымаліся ілюстрацыі да казак Андэрсена. Цяпер я адмовіўся афармляць «Алісу ў краіне цудаў». Такія кнігі выпадае ілюстраваць раз на жыццё. І чаму мастак не мае права зрабіць яе такою, якою яна яму бачыцца? Мы дзівімся, чаму нашыя дзеці так неашчадна ставяцца да кніг, размалёўваюць, ірвуць іх. Што ж, сквапны плоціць двойчы. Па-мойму, кніга, асабліва дзіцячая, павінна быць вялікаю, прыгожаю, надрукаванаю на выдатнай паперы. Такія б перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

**Ад гледачоў.** Але ж вось выйшла цудоўнае мініяцюрнае выданне вершаў славацкага паэта Прэшарна з ілюстрацыямі Селешчука. Мікола, як вы лічыце, што важней для ілюстратара: самавыказванне ці дакладнае цытаванне аўтарскай думкі?

**Селяшчук.** Калі ілюструеш, заўжды дапаўняеш кнігу сваёй версіяй падзей. Пісьменнік не можа падказаць, змяніць мастакоўскі почырк. Але, калі ён сапраўдны талент, ён здольны перавярнуць маё мысленне. Задача мастака — не паўтарыць тэкст, а выказаць сваю філасофскую канцэпцыю. Каб чыталася не толькі кніга, але і ілюстрацыі.



**Ад гледачоў.** А хто б з вас, шаноўныя, паспрабаваў адказаць на пытанне, з чаго пачынаецца праца над творам: з ідэі, вобраза?

**Альшэўскі.** Мастак у гэтых адносінах не павінен быць прыгонным. Эстэтычная свабода фарміруе свабоду ўнутраную. Сфера мастацтва — гэта адзіная абетаваная зямля, дзе можна рэалізаваць прынцып свабоды. На жаль, доўгі час мастак у нашым грамадстве быў рабом палітычнага садызму. Ідэя твора ніякім чынам не можа навязвацца зверху, яна павінна быць прапушчана праз сэрца мастака. Пачынаеш думаць, што першаснае ў творчасці — ідэя ці вобраз?.. І распадаецца сутнасць. Я не магу дакладна сказаць, як, з чаго нарадзілася тая ці іншая карціна. Пэўна, сканцэнтравалася інфармацыя, абумоўленая спадчыннасцю гістарычная памяць. Ідэя, вядома, можа быць запраграмавана розумам, можна чыста матэматычна распрацаваць сюжэт. Але без эмацыянальнай нагрузкі твор не будзе ўздзейнічаць на гледача. Вобраз з'яўляецца, як сон, які можа набыць пэўную закончанасць і трансфармавацца ў ідэю. Я ў сваіх творах спрабую з'яднаць гістарычнае і сучаснае. «Ікар — лесвіца ўверх» (1989) — гэта не абавязкова пра бюракратычную лесвіцу. Гэта хутчэй пра таго, легендарнага Ікара, які імкнуўся ўверх, да неба, да сонца, да ідэі, да боскага пачатку...

**Ад гледачоў.** Вы, Віктар, шмат пішаце партрэтаў. Можна прыгадаць «Дзяўчыну з ландышамі» (1983), «Ірэна Ратомска» (1987), «Скульптар В. Янушкевіч» (1988).

Якім чынам Вы спасцігаеце характар мадэлі? Толькі праз знешнасць ці і праз гаворку, дзеі?

**Альшэўскі.** Найперш павінен быць духоўны кантакт, біялагічнае поле. Вельмі цяжка маляваць чалавека, які цябе не кранае. Ты ж не толькі павінен зрабіць яго падобным, ты павінен выказаць сваё ўражанне пра яго.

**Ад гледачоў.** І трошачкі рамантызаваць вобраз?

**Альшэўскі.** Адраджэнне рамантызму неабходна нашаму грамадству. Можа, ён дапаможа захаваць чалавеку сваю індывідуальнасць, усталяваць гармонію паміж рэальным і ідэальным. Такога разладу паміж тым, пра што марыш, і тым, што ёсць, здаецца, не было ніколі. Варта шукаць новыя формы для выказвання, сцвярджэння адвечных духоўных ідэалаў. Мастак, як філасаф, павінен асэнсаваць сучаснасць, гісторыю, трансфармаваць іх, стварыць востры, эмацыянальны вобраз эпохі. Ён павінен сам захапіцца і гледача захапіць разнастайнасцю чалавечых пачуццяў, глыбінёй нераскрытай яго душы. Ёсць жа, павінна быць нейкае выйсце з бездухоўнасці. Трэба глыбей спазнаваць гісторыю, культуру, ствараць сябе як асобу. Будзённасць вымагае ад нас рацыянальнасці, разліку, яна можа пераўтварыць нас у безасабовых марыянетак. І мы зробімся марыянеткамі, калі будзем сядзець і чакаць той час, калі прыйдзе да нас шчасце. Я асабіста захапляюся рамантыкамі. Рамантык — духоўна багаты чалавек. Ён сам шукае выйсце, творыць дабро, не чакае, шукае шчасця...

**Ад гледачоў.** Вам усім каля 40. Ці не баіцеся Вы канкурэнцыі маладых?

**Альшэўскі.** Не баюся. Таму што сам малады.

**Янушкевіч.** Пакуль сённяшнія выпускнікі знойдуць, дзе і чым маляваць, мы шмат яшчэ паробім. Ведаючы, што іх чакае, мне іх сапраўды па-чалавечаму шкада.

**Савіч.** Мне асабіста вельмі не хапае канкурэнцыі. А без канкурэнцыі няма магчымасці расці.

**Славук.** Канкурэнцыі я не баюся. Я сам адшукаў і заняў свой шлях. Раблю толькі тое, што магу зрабіць толькі я. Не думаю, каб хто-небудзь здолеў працаваць гэтаксама.

**Тоўсцік.** Калі глядзець на мастацтва, як на спаборніцтва, то, пэўна, трэба баяцца канкурэнцыі. Быў час, і я па-юнацку любіў спаборніцтва, канкурэнцыю. Цяпер прыйшло разуменне: не варта спаборнічаць. За канкурэнцыяй можна страціць сябе. Кожны мастак павінен вызначыць для сябе: ганяцца за модай ці паглыбляцца, спрабаваць пачуць, увасобіць рытмы сучаснасці... У гэтым канкурэнцыі быць не можа. Абганяць паводле правілаў дарожнага руху можна толькі злева.

**Селяшчук.** Увогуле, якая ў мастацтве можа быць канкурэнцыя? Гэта ж не спартыўныя спаборніцтвы: хто першы прыбяжыць, той і пераможца. Кожны мастак мае свайго гледача. Аднаму падабаецца Ісачоў, другому Альшэўскі. Для мастака галоўнае — знайсці свайго гледача.

**Ад гледачоў.** Мікола, многія з вашых аднагодкаў выкладаюць у інстытуце. Некаторых выпускнікоў нават папракаюць у занадта моцным уплыве настаўніка. Многія студэнты хацелі б павучыцца і ў вас. А вы хацелі б мець вучняў?

**Селяшчук.** Не хацеў бы. Нават адчування «быць настаўнікам» не маю. Увогуле, калі маладыя падобныя на мяне, працуюць у такім самым стылі, мне не цікава. Хоць, магчыма, кожны чалавек павінен прайсці праз перайманне. У вучылішчы мне таксама часам хацелася паспрабаваць зрабіць так, як хто-небудзь з вялікіх. Цяпер у карцінах мяне часцей уражвае не форма, а філасофія.

**Ад гледачоў.** А ў нас, на жаль, мала глыбокіх дыпломных прац. Вось і на ўсесаюзнай выстаўцы дыпломных работ мастацкіх ВНУ прыбалты, грузіны экспанавалі творы, на якіх увасоблены помнікі гісторыі і культуры, нават... музыка, а беларускія маладыя мастакі экспанавалі партрэты — у коле сваіх аднакурснікаў, родзічаў, кампазіцыі на тэму вайны...

**Тоўсцік.** У нас, нічога не паробіш, вельмі адчувальнае вучнёўства. Не першы год выкладаю ў інстытуце, бачу, як студэнты штудзіруюць прафесійную грамату, спасцігаюць, увасабляюць матэрыяльнасць. А матэрыя ж вельмі канкрэтная. Да таго ж агульнакультурнага, асабліва музычнага, выхавання практычна няма. І яшчэ. У прыбалтаў, грузінаў вельмі моцная нацыянальная аснова. Тое, чым якраз мацуецца, жывіцца сапраўдны талент...

**Шчасная.** А вы самі, як выкладчык, здольны разгледзець, ацаніць побач свежы талент, можа быць, зусім не падобную на вас індывідуальнасць? Падтрымаць, дапамагчы ёй застацца індывідуальнасцю? Ці не з'яўляецца жаданне падвесці таленавітага маладога мастака пад агульнапрыняты акадэмічны канон? І яшчэ. Мне здаецца, вашым студэнтам, ды, пэўна, і вам самім, выкладчыкам, не стае вандровак. Не толькі па краіне, але і за мяжу. Калі не пабачыў свет, не зразумееш ягонай маштабнасці. Або будзеш усё жыццё вынаходзіць веласіпед, каб потым перад смерцю дазнацца, што ён ужо 400 гадоў існуе... А колькі натхнення даюць сустрэчы з выдатнымі калекцыямі, музеямі, геніяльнымі творамі! Я дзіўлюся, многія вашы студэнты не ездзяць нават у Маскву, Ленінград. Пакаленне за пакаленнем выхоўваецца на рэпрадукцыях...

**Ад гледачоў.** Але, пэўна, вандроўкі абвастраюць і пачуццё Радзімы...

**Янушкевіч.** Заўсёды здзіўляе, што Еўропа — гэта практычна адзіная прырода. І Беларусь — яе неад'емная частка, яе краіна. У нас і ландшафт, і архітэктура еўрапейскія. Гэта вам не кідкая паўднёвая экзотыка: ад'едзеш, і паўднёвыя краявіды ператвараюцца ў аднастайныя каляровыя слайды, знікаюць з памяці.

**Альшэўскі.** Дзе б я ні быў, я адчуваю сябе, як у гасцях. Прыгожае захапляе, роднае — вабіць...

**Ад гледачоў.** Але вы ўсе, як правіла, прывозіце з вандровак цікавыя краявіды і нават карціны. Згадваецца, напрыклад, адна з апошніх работ, серыя «Цюрынгія» (1987) Селешчука.

**Селяшчук.** Калі я знаходжуся за мяжою, вядома, не параўноўваю тамтэйшыя краявіды з роднымі. Няма часу. А вяртаюся дамоў, і здаецца, што і зеляніна тут больш насычаная, і паветра іншае... І неба было за мяжою не такое, як у нас, бляклае, ці што...

**Ад гледачоў.** Як вам здаецца, які самы востры дэфіцыт нашага часу?

**Янушкевіч.** Дэфіцыт мыла і сораму. Мне, бадай, ніколі ў жыцці не было так няёмка, як тады, калі зайшоў у магазін і мне ўпершыню вось так, проста, адказваюць: «Няма...» Адказваюць без сораму...

**Альшэўскі.** Самы востры дэфіцыт — дэфіцыт духоўнасці. Масавая культура прывяла да таго, што чалавек разгубіўся. Ён не можа адчуць сябе асобай. Захапляецца сёння адным, заўтра другім... І не стае часу падумаць пра сябе, адчуць сябе асобай. Можа, таму і катаклізмы не абмінаюць нашую зямлю...

**Савіч.** Дэфіцыт веры. Ці гэта час такі, ці чалавек змяніўся... Не верыць ні ў што... А можа, ды гэта хутчэй за ўсё... Сістэма вінаватая... Калі мы хочам рухацца наперад, трэба найперш вярнуць веру... Трэба верыць у родную зямлю, верыць у чалавечы розум...

**Тоўсцік.** Нас прыгнятае дэфіцыт прафесіяналізму і кампетэнтнасці, глыбіні. Часам здаецца, што паўсюль пануе дылетантызм... Людзі спяшаюць ухапіць хоць вяршкі. Гэта і ў эканоміцы, і ў мастацтве. Адсюль і паспешлівасць высноў і рашэнняў, павярхоўнасць твораў...



**Селяшчук.** Кожны дзеяч мастацтва сёння скажа: самы востры дэфіцыт — гэта дэфіцыт культуры і духоўнасці. Усе астатнія дэфіцыты — гэта параджэнне дэфіцыту духоўнасці...

**Славук.** Сёння дэфіцытам робіцца літаральна ўсё. Нават свабода самавыказвання. І калі мы гаворым, што няма яркіх асоб, варта дадаваць: асобы знявечыла эпоха. Эпоха пад знакам дэфіцыту...

**Шчасная.** Мне здаецца, дэфіцыт самавыказвання існуе ў нашым грамадстве больш за пяць дзесяцігоддзяў. З тае пары, калі чалавека прымусілі крывадушнічаць, асуджаць ні ў чым не вінаватых людзей. Крывадушнікі выхавалі крывадушнікаў. І ў навуцы, і ў мастацтве знікла такое паняцце, як школа. Школа Вавілава, школа Паўлава, школа Філонава... на жаль, гэтыя мары ніколі не спраўдзяцца... І як бы мы ні ўслаўлялі сёння нашых геніяў, іх адкрыцці, кнігі, карціны, мы не вернем галоўнага — непасрэдных вучняў і паслядоўнікаў. Культурная традыцыя, тое, чым мацуецца кожная развітая нацыя, кожны, нават самы маленькі народ, перарвана, рассечана па жывому... Такія раны ніколі не загойваюцца...

**Ад гледачоў.** І нарэшце апошняе пытанне. У якую эпоху вы хацелі б нарадзіцца?

**Янушкевіч.** У сваю. Надзвычай цікавая эпоха. Нам пашанцавала ўбачыць распад гегемоніі ідыятызму. Калі мы падрасталі, то за фізіялагічным ростам да канца не адчувалі ўсіх хітраспляценняў навакольнага жыцця. А цяпер ёсць магчымасць многае супаставіць і яшчэ больш нешта істотнае ўбачыць наперадзе.

**Альшэўскі.** Паколькі я нарадзіўся сёння, значыць, так і трэба. Кожная эпоха па-свойму цікавая. З мінулым мы звязаны праз продкаў. Мінулае закладзена ў нас генетычна. Сённяшняе жыццё, як сон... А тое, што будзе, невядома... Можа, тыя, хто народзіцца ў XXI стагоддзі, будуць шкадаваць, што не нарадзіліся ў наш час...

**Савіч.** Хацеў бы нарадзіцца ў тую эпоху, калі б быў сапраўдны росквіт культуры, мовы нашай зямлі. Мы ж сёння не маем самага простага і неабходнага. Мы не можам па-людску жыць на сваёй зямлі...

**Тоўсцік.** Чалавек сам па сабе не выбірае эпоху, як і нацыянальнасць, бацькоў. І калі ён мастак, то «асуджаны» пісаць тых, хто яго акружае.

**Селяшчук.** Самае лепшае — нарадзіцца ў тую эпоху, у якую жывеш. Не, вядома, я б хацеў нарадзіцца пазней, паглядзець, як там, у будучыні. Але не раней. Ну, нарадзіўся б я сто гадоў назад. Не ведаў бы, што такое Чарнобыль, нітраты... Па інфарматыўнасці наш час самы багаты. Хоць, зрэшты, я не веру, што калі-небудзь нараджуся яшчэ раз. Ды і што яно, тое новае нараджэнне, калі ў ім не будзе маёй сённяшняй памяці.

**Славук.** Гэта ад мяне не залежыць. Каб хацець, трэба ведаць. А я ведаю толькі сваю эпоху. І то ледзь-ледзь... Каб жа хоць у межах сваёй эпохі паспець павандраваць па розных краінах... Але гэтай магчымасці мы, на жаль, не маем...

**Шчасная.** А я хацела б нарадзіцца раней. Не ў XX стагоддзі. Тады, калі было «Я встретил вас...». Мне здаецца, што нашае пакаленне асуджана часам на непадзельнае каханне... Я апошнім часам вельмі востра адчуваю ўсю глыбіню гэтай трагедыі. Грамадства не дало нам магчымасці рэалізавацца. Трэба мець мужнасць прызнаць: мы і цяпер ужо ніколі не здолеем поўнасцю сябе рэалізаваць. І яшчэ. Мы жывём вельмі бязрадасна, не маючы стрыжня, ідэала, веры, якія маглі б нас хоць трохі падтрымаць. Гэта няпраўда, што чалавек творыць шэдэўры толькі ў трагічнай сітуацыі. Хвіліны шчасця таксама дораць геніяльныя азарэнні. Любоў нараджае любоў. Нянавісць і адзінота — нянавісць і адзіноту... Давайце вучыцца любіць, сябраваць і радавацца жыццю.

**У кожнага з шасцёх у майстэрні чакаюць прэм'еры на чарговай, можа, рэспубліканскай, можа, сумеснай, можа, персанальнай выставе новыя творы. Хочацца верыць, што і трэці, і чацвёрты раунды шасцёрка мастакоў выйграе. І пасля вернісажу гледачам будзе цікава запрасіць сваіх летапісцаў на каву ці гарбату ў кавярню. Дзе-небудзь у Верхнім горадзе...**

**Галіна БАГДАНАВА**



# Клуб „Ён і Яна"

Праблема шчаслівай сям'і прыцягвае ўвагу сацыёлагаў, псіхолагаў, урачоў-сексапатолагаў. Але праблемы магчымыя толькі для адной катэгорыі людзей — для тых, хто сапраўды шчаслівы ў каханні, у шлюбе. А такімі яны сталі дзякуючы знаёмству — ці самі пазнаёміліся, ці знайшлі адно аднаго праз службу знаёмстваў. А паколькі шчаслівыя людзі ў сваёй большасці маўчаць пра тое, як ім гэтага ўдалося дасягнуць, то чуваць галасы нешчаслівых — і маладых, і нават людзей сталага ўзросту, якія не могуць па розных прычынах стварыць сям'ю. Менавіта для іх і існуе так званая служба знаёмстваў — шматлікія кааператывы і нават «прыватныя свацці», якія за пэўную плату бяруцца пазнаёміць кліентаў.

ЯНІНА. Адзінокія жанчыны, вядома, найбольш зацікаўленыя ў такой службе. Якая б смелая ні была любая з іх, яна не можа, напрыклад, проста падысці да таго мужчыны, які спадабаўся, і сказаць яму пра гэта, яе могуць зразумець зусім не так ці ўвогуле палічыць асобай лёгкіх паводзін альбо псіхапаткай. Але і служба знаёмстваў не гарантуе вам поспеху, бо чаго толькі не здараецца. Мяркуйце самі па пошце, якую мы атрымліваем.

Ларыса Д. з Оршы: **«...Я студэнтка, і аднойчы мне спадабаўся «лацін», які вучыўся ў нашым інстытуце. Я яму прама так і сказала, што ён мне падабаецца. Пака (так яго звалі) запрасіў мяне да сябе ў інтэрнат, дзе мы выпілі, а пасля апынуліся ў ложку. Я заходзіла да яго яшчэ, хаця як мужчына ён мне не вельмі спадабаўся, пакуль не адчула, што цяжарная. Калі ж я сказала пра тое Пака, ён засмяяўся і адказаў мне, што нічога не ведае і ведаць не хоча і ўвогуле невядома, ад каго я цяжарная, бо я паводзіла сябе, як прастытутка і сама да яго першая падышла. А калі я запэўніла яго, што была толькі з ім і што згодна стаць яго жонкай, ён проста ўцёк ад мяне. Я знайшла яго яшчэ раз і папрасіла даць хоць грошай на аборт, але ён не даў, пашкадаваў нават чырвонца. Я мусіла нарадзіць, і сын зараз гадуецца ў вёсцы ў маці, а там радыяцыя. Цяпер я ўсіх іншаземцаў ненавіджу. Калі я пазнаёмлюся з простым нашым хлопцам, то буду яму верная і спагадлівая, толькі б ён мяне кахаў і паважаў... Буду знаёміцца праз перапіску, у мяне ж дзіцё, а ёсць мужчыны, якія не супраць чужых дзяцей...»**

Ніна К. з Віцебска: **«...Дзень добры, Яніна! Пішу табе ў «Маладосць» з вялікай просьбай папярэдзіць усіх дзяўчат, якія карыстаюцца службай знаёмстваў. Я ім напісала сама ў тую службу, але мне нават не адказалі. А газеты і часопісы часта друкуюць менавіта такія аб'явы, на адну з якіх «клюнула» калісьці і я: аб'явы з месцаў зняволення.**

**Аднойчы я чытала ў газеце «Перапіску». Нейкі юнак пісаў з «зоны», што ён вельмі адзінокі, няшчасны і хоча пазнаёміцца з дзяўчынай, пісаў так жаласна, што я ўзяла дый у той жа дзень і напісала яму адказ. З таго і пачалося. Іван, як высветлілася потым, быў звычайны блатны, які злавіў на кручок «завочніцу» — значыць мяне. Але каб толькі гэта. Як потым я даведалася, ён прайграў мяне ў карты такому ж блатному, які павінен быў хутка вызваліцца, ці, як яны кажуць, «адкінуцца». Я для іх была вельмі каштоўная па адной прычыне — я жыла адна ў кватэры, бо маці мая памерла. Той блатны заявіўся да мяне дамоў і прадставіўся Іванам. У той жа вечар ён нешта падсыпаў мне ў шклянку (пра тое я здагадалася толькі раніцай), і я амаль страціла прытомнасць. Ачуняла ўжо ў ложку. А потым ён проста запалохаў мяне, казаў, што я навек яго «маруха», а калі што «цынкану» ментам ці «заціхару», то ён мяне растворыць у ванне ў кіслаце. Ён прыводзіў у кватэру сваіх «кентоў» і піў з імі. Гэты кашмар цягнуўся тры месяцы, а пасля яго пасадзілі зноў. Сам ён з-пад Саратава і, спадзяюся, туды і паедзе, калі «адкінецца», бо я хуценька памяняла кватэру і больш ніякіх такіх знаёмстваў ні за якія каштоўнасці не жадаю...»**

АЛЕСЬ. Так, гісторыі сапраўды павучальныя. І што, ад жанчын усе такія сумныя лісты?

ЯНІНА. Не, ёсць і наадварот, але больш такіх, дзе між радкоў, як бы мовіць, радасці мала. Вось Таццяна У. з Гомеля. «...Я пазнаёмілася праз «перапіску» за добрыя грошы з Віцем Л. Ён быў прыгожы, і я закахалася. Але, калі мы прызначылі час, каб ісці ў загс, ён не прыйшоў...»

Вольга К. з Мінска: «...Чалавек, з якім мне прапанавалі пазнаёміцца ў службе знаёмстваў, аказаўся проста шызафрэнікам. Ён такім чынам забаўляўся: знаёміўся з многімі, быццам выбіраў жонку, але адразу было бачна, што ён псіх, і ніхто яго не спыніў у той знакамітай службе...»

АЛЕСЬ. Усё, вядома, не проста. Але шчаслівыя не напішуць пра тое, што яны шчаслівыя, бо яны ж «часов не наблюдают», да таго ж не толькі мужчыны вінаватыя. Вось Уладзімір К. з Ліды піша, што «...пазнаёміўся праз службу знаёмстваў з Інай Д. з Мінска, але нездарма ў газеце «Двое» кажуць, што мінчанкі вельмі зласлівыя і пераборлівыя. Іна адразу пачала крычаць, што я не той чалавек, што яна прагне моцнага мужчыну, і што я з ёй не спраўлюся, і што ўвогуле я не мінчук, а ў яе толькі аднапакаёвая кватэра... Я плюнуў і больш у тую службу не звяртаюся...».

ЯНІНА. Калі па сакрэту, то мы з Алесем паступілі так. Зрабілі выгляд, што адзін аднаго не ведаем, і пайшлі ў знакамітую фірму «сервис-общение» кааператыва «Інфармбюро». Але няхай Алесь раскажа першы.

АЛЕСЬ. У той фірме да мяне падышоў нейкі мужчына і ветліва спытаў, што мне трэба. Потым уручыў мне анкеты, якія трэба было запоўніць, і сказаў, што ўсё знаёмства ў іх камп'ютэрызавана і каштуе 15 рублёў на год.

Я ўзяў тую анкету, якая называлася «Мои взгляды и представления о семейной жизни, о своей избраннице и о самом себе» і змусіў разабрацца. Там было каля ста дваццаці пытанняў, дыяграм, лічбаў і розных клетачак, якія трэба было запоўніць, а пасля дзесятага мне стала сумна і захацелася спаць, як ад снатворнага. Але асобныя пытанні былі вельмі смешныя, напрыклад: «хотите ли вы иметь много денег, дорогие вещи?», «допускаете ли вы, что ваша будущая жена будет употреблять спиртное?», «хотите ли вы познакомиться с работницей сельского хозяйства?» і г. д.

У канцы было надрукавана: «просьба давесці, колькі часу (у мінутах) спатрэбілася на запаўненне анкеты. І гэта замест таго, каб хутка даць табе магчымасць паглядзець фота сваёй будучай знаёмай ці хаця б даведацца яе тэлефон. Навошта тады камп'ютэр? Адмыслова з'явілася думка, што грошы ў іх патрабуюць адпаведнага зачмурэння галоў.

ЯНІНА. Менавіта такую ж анкету, толькі для жанчын, атрымала і я. Там таксама былі смешныя пытанні: «нравятся ли вам щеголеватые, красиво одетые мужчины?», «хотите ли познакомиться с работником сельского хозяйства?» і ў завяршэнне пра тыя ж мінуты. Таксама каля 120 пытанняў і розных лічбаў і клетачак. Каб усё гэта запаўняць, чакаць адказаў, трэба, пэўна, немалы тэрмін. А на гэта, бадай, і разлічваюць у кааператывах. Для іх жа час — грошы.

І сапраўды, што рабіць моладзі? Дзе і як ім лепш знаёміцца? Вось і ствараюць сабе маладыя ідалаў з розных салістаў рок-гуртоў ці кінаакцёраў, бывае, што апантана кахаюць іх, нават ніколі не пагаварыўшы, а побач ходзяць такія ж хлопцы ці дзяўчаты і пакутуюць ад адзіноты. Але ж якраз пра гэта ліст, які нам здаўся самым цікавым з нашай пошты. Напісала яго мінчанка дзесяцікласніца Людміла Я.



У самым пачатку Людміла папярэдзіла, каб ні ў якім выпадку не паведамілі яе прозвішча, бо яе тады наб'юць сяброўкі (!).

**«...Паразумнела я неяк адразу, але пачалося з таго, што я закахалася ў Андрэя Разіна з «Ласкавага мая». Пісала яму амаль кожны дзень, але ні на адзін ліст адказу не атрымала. А тут яшчэ даведалася, што ў суседняй школе з пятлі вынялі адну дзяўчыну, якая, пэўна, была яшчэ больш дурнейшая за мяне і ўвесь час пісала Юру Шатунову з той жа поп-групы, а калі, вядома, не дачакалася адказу, то налажыла на сябе рукі. Тут я сабе і сказала, што ты, малая, з глузду зусім з'ехала? Дый што такое ўвогуле той «Ласкавы май»? Нібы заслона з вачэй раптам упала. Пашляціна, прытворства, нудзіць ад іх пачынае. Некалькі музычных тактаў ведаюць ды енчаць пад іх дрэнна пастаўленымі галасамі. Якая лухта! А ў нас жа столькі сваіх выдатных рок-гуртоў, якія і спяваюць па-нашаму, па-беларуску. Тыя ж «Бонда», «Мроя», «Рэй», «Мясцовы час». Узяла я дый выдала ўсё гэта дзяўчатам з нашай тусоўкі. Тут яны на мяне і накінуліся, дурнічкі. Цяпер я з імі не хаджу. Пазнаёмілася з хлопцам з універсітэта, ён сур'ёзны, прыгожы, і мы з ім размаўляем па-нашаму, хоць мне і цяжка. Я яму ўсё расказала пра сябе і як таму Разіну пісала. Але ён не надта з мяне смяяўся — пашкадаваў, пэўна. І калі я вычытала ў друку, што ўвесь іхні паганенькі (пакіньце гэта слова, калі мо надрукуеце пісьмо) «Ласкавы май» хоча застацца ў Мінску і вучыцца тут і жыць, то я супраць. Так, супраць, бо не даю веры ў тым, што яны быццам апякуюцца над сіротамі, што яны нясуць моладзі культуру (?!), што яны шмат грошай пералічваюць у Дзіцячы фонд. Не даю веры, і ўсё. У іх усё фальшывае да блакітнасці. Хачу параіць дзяўчатам — знаёмцеся са сваімі хлопцамі, якія побач, не марнуйце дарэмна час, а то і жыццё...»**

Ну, а што скажа на гэта наш малады чытач?

Фота **В. Ждановіча**




**«РЫЦАР НАВУКІ З НЯНЬКАВА».** Аўтары кнігі С. Г. Галакціёнаў і Г. М. Яцкевіч апавядаюць пра таленавітага даследчыка прыроды Уладзіслава Дыбоўскага (1838—1910). Удзельнік паўстання 1863 года, ён надоўга быў пазбаўлены магчымасці займацца любімай работай. Пазней у маёнтку Нянькаў ён праводзіў даследаванні па заалогіі, батаніцы, якія прынеслі яму еўрапейскую вядомасць.

Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1989.

**«АДЫСЕЯ НАВАГРАДСКАЙ ЛЕКАРКІ».** У серыі «Нашы славутыя земляні» аўтар кнігі В. П. Грыцкевіч у займальнай форме расказвае пра беларускую лекарку XVIII стагоддзя Саламею Русецкую, якая працавала ў Турцыі, Аўстрыі, Расіі, Малдавіі і іншых краінах. Незвычайны лёс гэтай жанчыны, смелай і знаходлівай, нагадвае прыгодніцкі раман. Яна пакінула цікавыя ўспаміны пра жыццё і звычаі розных народаў, пра ўзровень медыцыны таго часу.

Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1989.

**«МАЛЕНЬКІ ПРЫНЦ».** Вялікую цікавасць для дзяцей уяўляе надрукаваная асобнай кнігай на беларускай мове казка вядомага французскага пісьменніка А. дэ Сент-Экзюперы—прадстаўніка так званага «светлага» напрамку ў экзістэнцыялізме. Гэта адзін з найбольш вытанчаных і цудоўных твораў у сусветнай дзіцячай літаратуры, які, аднак, уяўляе пэўную цікавасць і для дарослых.

Пераклад з французскай мовы Ніны Мацяш. Мастак І. Лобан.

Выдавецтва «Юнацтва», Мінск, 1989.

**«МАРФЕМНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ».** Выйшла другое выданне аднатомніка пад рэдакцыяй А. М. Бардовіча і Л. М. Шакуна. У слоўнік уключана каля 75 тысяч слоў, якія падзелены на структурныя значныя часткі—марфемы. Кніга прызначаецца студэнтам філалагічных факультэтаў ВНУ, навучэнцам педвучылішчаў, настаўнікам беларускай мовы.

Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1989.

**«КРОЎ НА СУМЁТАХ».** Так называецца зборнік паэзіі вядомага беларускага барда Сержука Сокалава-Воюша. Трывога за лёс Радзімы, крэўнасць з родным словам, слынная гісторыя народа—асноўныя тэмы твораў паэта.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989.

**«НАША НІВА».** Праводзіцца падпіска на факсімільнае выданне адной з першых беларускіх газет.

«Нараджэнне «Нашай нівы»,—лічыць пісьменнік Мікола Ермаловіч,—аднасіцца да ліку пераломных падзей у жыцці беларускага народа. Яно паклала пачатак новаму перыяду ў гісторыі Беларусі, перыяду, самаму багатаму па сваім нацыянальным змесце і па сваёй плённасці. І ён па праву павінен называцца нашаніўскім, бо «Наша ніва» з'яўлялася той галоўнай спружынай, якая рухала яго развіццё і была яго духоўным асяродкам, розумам і сэрцам».

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», Мінск, 1990.

**«ДАЖДЖЫ ЯРАВЫЯ».** Нялёгкі працоўны шлях Алеся Пісарыка цесна знітаваны з паэзіяй. Мазолістая спрацаваная рука пяшчотна трымае першую пралеску—сімвал працы і беражлівага шанавання прыроды... У вершах Алеся Пісарыка лейтматывам праходзяць тэмы любові да роднага кута, дзе—горкая і жорсткая памяць, вабныя краявіды і дзяўчаты-прыгажуні. «Дажджы яравыя»—другі зборнік паэта.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1990.

**«ШЛЯХАМ ВЕТРУ».** Аснову трэцяй кнігі Віктара Шніпа склалі вершы, у якіх адлюстравана жыццё нашага сучасніка з яго радасцямі і трывогамі.

Адзін з раздзелаў цалкам прысвечаны тэме горада. У зборніку нямала вершаў пра каханне і сяброўства.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1990.

**«А НА ПАЛЕССІ».** Жанравыя асаблівасці новай кнігі Дануты Бічэль-Загнетавай вызначаны лірычнымі вершамі і гістарычнымі баладамі. Паэтка з усёй уласцівай ёй эмацыянальнасцю і паэтычным імпэтам не проста даследуе, а літаральна жыве беларускай гісторыяй. Яе захапляюць выдатныя асобы мінуўшчыны—Ефрасіння Полацкая, Усяслаў Чарадзей, Кастусь Каліноўскі... У вершах шырока выкарыстана лексіка народных гаворак.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1990.

**«ЗАМЕЖНАЯ ФАНТАСТЫКА».** Пераклады твораў замежнай літаратуры звычайна ставяць такія мэты, як знаёмства чытача з творчасцю яшчэ не знаёмых нам пісьменнікаў, з жыццём іншых краін, стымуляванне творчых працэсаў у сваёй літаратуры, расстаноўка станоўчых акцэнтаў у культурных сувязях і г. д. Гэты зборнік не з'яўляецца выключэннем наконт мэт, але на першым плане, безумоўна,—стымуляванне развіцця беларускай навуковай фантастыкі. Пісьменнікі-фантасты ствараюць агульную карціну жыцця на Зямлі, прычым з разглядам магчымага лёсу будучыні. Адну такую мадэль будучыні прапануе нам французскі пісьменнік П'ер Буль у рамане «Планета малпаў».

З французскай, англійскай, італьянскай, японскай і польскай моў творы пераклалі А. Асташонак, Г. Шупенька, І. Дабрыян, Л. Каўрус, С. Міхальчук і М. Валошка.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1990.

**«СПОВЕДЗЬ ЛЮБОВІ».** Армейскім ваенным журналістам дайшоў Пятро Прыходзька да Берліна і Прагі і распісаўся на рэйхстагу.

Кніга выбранага Пятра Прыходзькі ўключае франтавыя вершы часоў Вялікай Айчыннай вайны, творы з многіх паэтычных зборнікаў, а таксама паэмы «Вішнёвы агонь», «Апошняе пісьмо з вайны», «Плацдарм», «Дарога Рудных гор» і іншыя, прысвечаныя подзвігам савецкіх людзей у гады ваеннага ліхалецця і ў мірны час.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1990.

**«ВАСИЛЬКИ НА БЕЛОМ ПОЛОТНЕ».** Тэма працы—галоўная ў творчасці паэта Браніслава Спрынчана, у мінулым майстра кавальскага цэха «Гомсельмаша». Лірычны герой кнігі—малады чалавек, які сцвярджае сябе ў жыцці. Яго погляды на акружаючы свет фарміруюцца ў горне рабочага дня, аднак кола яго інтарэсаў выходзіць далёка за межы вытворчых клопатаў. Гэта і гераічнае мінулае роднай зямлі, і багатая новымі здзяйсненнямі сучаснасць.

Выдавецтва «Юнацтва», Мінск, 1990.

# *Нашы аўтары*

**ЖАЛЕЗКА Юрась** нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску. Скончыў Мінскі інстытут замежных моў. Працаваў перакладчыкам у аддзеле інфармацыі па грамадскіх навуках у АН БССР. Зараз аспірант Інстытута сацыялогіі АН БССР.

**КАЦЮШЭНКА Міхась** нарадзіўся ў 1947 годзе ў Мінску. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», у ЦК ЛКСМБ, рэдактарам газеты «Знамя юности». Скончыў аспірантуру Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Працуе намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Крыніца».
Аўтар кніг прозы «Першая восень», «Трэці раунд», «Адзін дождж на ўсіх», «Дні, як усе іншыя», «Сустрэча пасля развітання», «Урок маўчання».

**МЕЛЬЧАНКА Таіса** нарадзілася ў 1947 годзе ў вёсцы Маркавічы Гомельскага раёна. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Выкладае родную літаратуру ў тэхнічным вучылішчы № 6 у Гомелі. Друкавалася ў калектыўным зборніку «Крыло». Аўтар кнігі «Бацькоўскі дом».

**МІНЧАНКА Мікола** нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Кавалёўка, што на Клімаўшчыне. Служыў у радах Савецкай Арміі. Скончыў Жытомірскі педінстытут. Працуе рэдактарам клімавіцкай раённай газеты «Новае жыццё». Выдаў зборнікі вершаў «Зялёны звон», «Давер».

**МЯТЛІЦКІ Мікола** нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва». Зараз—супрацоўнік выдавецтва «Мастацкая літаратура».
Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.
Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце», «Мой дзень зямны», «Ружа вятроў», «Горкі вырай».

**РУБІН Іван** нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Ячонка на Стаўбцоўшчыне. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў на Беларускім радыё, у школе, у шматтыражнай газеце. Зараз—спецкарэспандэнт газеты «Мінская праўда».
Аўтар кнігі паэзіі «Над вечнасцю гнязда».

**ФІЛІМОНАВА Любоў** нарадзілася ў 1948 годзе ў Мінску. Скончыла Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. Працавала на тэлебачанні ў Сібіры, у выдавецтве «Мастацкая літаратура» і ў часопісе «Нёман».
Аўтар зборнікаў паэзіі «Стазвоны» і «Гучныя фарбы», кнігі прозы «Пад шолах ветразяў».

**ШАУЦОУ Алесь** нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Пуцяціна Дубровенскага раёна. Вучыўся ў Мінскім тэхнічным вучылішчы № 77, пасля працаваў на заводзе імя Кірава. Служыў у Савецкай Арміі. Зараз—студэнт Мінскага інстытута культуры.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.



**В. СЛАВУК. Плаванне. З серыі «Падарожжа»** (афорт, 1987).

**«МОЛОДОСТЬ» № 7 (1—176), 1990 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар Казлоў.** Тэхнічны рэдактар **Валянціна Марынчанка.**
Карэктары **Валянціна Башак, Мая Вінаградава.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 18.05.90. Падпісана да друку 25.06.90. АТ 00116. Фармат 70×90¹/₁₆. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 16,54. Тыраж 10 108 экз. Зак. 758. Цана 60 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.